

# Брама

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ АЛЬМАНАХ
МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА АДДЗЯЛЕННЯ
ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
«САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ"

Заснаваны ў 2013 годзе
Выпуск 6



МІНСК "КНІГАЗБОР" 2018



# «БРАМА» — ПЛЯЦОЎКА ДЛЯ АДТОЧВАННЯ ТАЛЕНТАЎ

Вы трымаеце ў руках шосты выпуск альманаха «Брама». У старажытным Вавілоне лік 6 быў магічным. Што пасля шасці — тое ўжо было «многа». Нездарма ж і ў нашых прымаўках («было б нас сямёра, зрабілі б учора» ды інш.) сямёрка сімвалізуе панятак «многа».

Нас яшчэ не «многа». Але калі азірнуцца на той шлях, які магілёўская абласная пісьменніцкая арганізацыя прайшла за гэтыя шэсць гадоў, то варта адзначыць, што мы істотна пасталелі.

Савецкая літаратура Магілёўшчыны закончылася. Мабыць, апошнім выразным яе прадстаўніком быў Іван Аношкін. Магілёў паступова прывыкае да несавецкага жыцця. Адпаведна ствараецца новая культура: новы жывапіс, новы тэатр, новая эстрада. Пачынаецца і новая літаратура, літаратура больш свабодная і ў тэматыцы, і ў формах ці сродках яе раскрыцця. Яе акумулятарам стаў альманах «Брама».

Шэсць выпускаў — гэта больш за паўтары тысячы старонак. Там вы, нашы паважаныя чытачы, маглі пасмакаваць і сакавітую народную мову Таццяны Барысік, і яркую вобразнасць твораў Сяргея Украінкі, і напеўнасць радкоў Міколы Яцкова, і самотнасць лірыкі Тамары Аўсяннікавай, і глыбіннасць гістарычных росшукаў Віталя Еўмянькова, і філасафічнасць роздумаў Васіля Аўраменкі. На гэтых старонках з вамі размаўляюць і самы сталы наш сябра Фелікс Шкірманкоў, і самыя маладыя, якім ужо ёсць што сказаць. Вы знойдзеце і даследчыцкую ўедлівасць Уладзіміра Ліўшыца, і літаратуразнаўчую карпатлівасць Яраслава Клімуця, і жыццёвыя замалёўкі Валерыя Казакова, і пераклады лепшых вершаў і не толькі вершаў з нямецкай, з польскай і, найбольш, з расійскай мовы.

Ужо даводзілася чуць прыязныя водгукі пра наш альманах. Берасцейскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Яўген Бяласін адзначыў істотнае: «Брама» — адзіны альманах, які выдаецца выключна на беларускай мове, нават рускамоўныя тэксты, перш чым патрапіць на старонкі «Брамы», перакладаюцца. Ён вытлумачвае гэта тым, што Магілёўшчына мяжуе з Расіяй, адкуль ідзе агрэсіўны наступ рускай мовы, і таму мы, магілёўцы, змушаны абараняцца такім чынам. Але ж агрэсіўны наступ «русского мира» адчуваецца па ўсёй Беларусі, а не толькі на Магілёўшчыне. І калі б наша суполка выдавала альманах у Берасці ці Гародні, ён зноў жа быў бы цалкам беларускамоўным. Такая наша пазіцыя ад пачатку. Не навязваем яе нікому, але самі прытрымліваемся паслядоўна.

Можна памарыць аб тым, што некалі мы разбагацеем (як бы гэта?) і ў «Брамы» з'явяцца польскамоўны, рускамоўны і нават англамоўны дадаткі. Але пакуль нам хапае роднай мовы.

«Брама» — не адзіны сродак папулярызацыі літаратуры ў Магілёве. На гэта працуюць і штогадовы конкурс мастацкага чытання ўласных вершаў «Сакавіцкае рэха» (ідэя Т. Аўсяннікавай), і штомесячныя творчыя сустрэчы «Поруч з пісьменнікам» (ідэя В. Еўмянькова), ды іншыя праекты, пра якія вы прачытаеце і ў гэтым выпуску.

Жыве Беларусь — і жыве-развіваецца яе мастацтва, якое паступова прабівае сцежкі да розумаў і душ народа.

«Брама» чакае таленавітых творцаў, тут вы зможаце адтачыць свой талент. «Брама» чакае ўдумлівых, добразычлівых, таленавітых чытачоў, якія дапамогуць пісьменнікам удасканаліць сваю творчасць. «Брама» з прыязнасцю прыслухаецца да разумных, таленавітых крытыкаў.

Наша «Брама» адкрытая для ўсіх таленавітых. Заходзьце, калі ласка.

Міхась БУЛАВАЦКІ,
сябра Рэдакцыйнай рады



# ПРОЗА. ПАЭЗІЯ

## Сяргей Украінка

### Яльцы

Дастаў мяне цесць! Здаецца, так і даў бы ў вуха, каб глузды паправіліся ў дурной «Пенсіі». Як за дзевяноста пераваліла, такі ўжо крывы стаў: не так боршч дачка зварыла, не той нагой зяць на масніцу ступіў. Яшчэ нейкіх гадоў дваццаць таму за ім з касой не ўгнацца было — «дзявятку» цягаў, што твой «шасік» ротарную касілку, і на харч быў да таго ўжо неперабoрлівы — учарашнюю бульбу печаную мог без солі фунтамі наварочваць. Ведама, выпрацаваўся, пасечнікам усё жыццё робячы. У жніво, праўда, Макаравіч шчыраваў камбайнерам, пачынаў яшчэ на СК-4, потым круціў руля недапечанага «Коласа» і цягавітай «Нівы». Амаль у кожны сезон намалочваў больш за ўсіх у раёне. На сцяне вунь дагэтуль з-за дыпломаў шпалеры не прасвечваюцца. Аднойчы і я быў у яго за памочніка. Пракляў усё на свеце. Гэты баран у сваёй упартасці не саступіў бы крапівоўскаму: як унурыцца ў што — хоць ты даўбнёй выбівай. Помню, перад жнівом разабралі мы «Ніву», каб вычысціць нутро і праквэцаць салідольчыкам тое, што рухаецца ды круціцца. Дык вось, сабралі ўжо камбайн, завялі, нарэзалі круг вакол мехдвара. А потым я падабраў з



**Сяргей Украінка**

нарадзіўся 25 студзеня 1961 г. у в. Ніканавічы Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыў філфак БДУ, аспірантуру ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова. Працаваў настаўнікам, дырэктарам сярэдняй школы, выкладчыкам на кафедры беларускай літаратуры і журналістыкі ў МДУ імя А. А. Куляшова. Друкуецца з 1977 г. Аўтар шматлікіх публікацый вершаў у перыёдыцы і калектыўных зборніках. Аўтар кніг «Маё Купела» (2001), «Белый аист, чёрное перо» (пераклад на рускую мову Генадзя Пастухова, 2014, вершы і проза), «9 гранаў» (2015). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

травы запчасткі — паўвядра лішніх атрымалася — панёс у бокс, аж той чорт угледзеў: «Што ета ты там, Лёшка, валочаш?» Ёлкі-круцёлкі! Зноў давялося разбіраць гадскі «канструктар», навінчваць усе да адной гайкі, зацягваць усе балты на жатцы, зноўку рэгуляваць ланцугі… «Трэба, каб усё было як трэба!» — і сам стаіць рукі ў бакі, а ты, Лёшка, пэцкайся ў салідоле, бы свіння ў гразі. Убіраем жыта за Палудзінай, палегліцу, па ўсім полі прайшліся, толькі самае-самае, што за праход не падхапілі, засталося. «Ну, — кажу, — гайда на людскія ўчасткі». А Макаравіч: «Не, зяцёк, вунь там, там і там яшчэ праедземся». — «Куды тут ехаць? — крычу. — Сонца садзіцца, калымнуць не паспеем!» — «Не. Будзем падбіраць усе каласкі». Каб жа цябе чарцякі падабралі! У той год мы з ім па намалоту выдалі другі вынік у раёне, хаця і рабілі на ўшчэнт дабітай «Ніве». Жаў у асноўным я. Бо гарэлку не піў зусім — чарговы «код да вінчы». Затое цесцечка даваў копаці за двох і ўсё адно паспяваў як след прарэдзіць груду пляшак у кабіне. Што ты хочаш, толькі наша вёска мела тады каля сотні двароў, і пры кожным жаўцела паласа ячменю або жыта. Тры-чатыры-пяць участкаў — і наступны дзень у камбайнера за пуцём. А ты, памочнік, шчыруй за стырном ад сутоння да сутоння. Эх, былі часіны…

Пра пасечніка я не схлусіў. Васіль Макаравіч ад самай вайны і да скону гаспадарак даглядаў сто шэсцьдзясят калгасных і два дзясяткі сваіх вуллёў. Пра пчол ведаў, здаецца, усё. Я дык іх дагэтуль баюся, а той хадзіў каля домікаў у жоўтай кашулі, без маскі, і не тое што міралюбныя карпацкія — нават агрэсіўныя сярэднярускія чамусьці заўсёды яго абміналі.

Я тут дзеля чаго бадзягу развёў. Вось колькі з Галяй жыву, дваццаць сем ужо, здаецца? Дык от: дваццаць сем гадоў Макаравіч ездзіць мне па вушах гісторыяй пра тое, як яны з суседам Грышкам перад вайной злавілі ў рэчцы пяцьдзясят восем яльцоў. Да чаго памятушчы, гад! Трымае ў галаве, у які заброд каля каторых кустоў колькі штук патрапілася ў брэдзень, а колькі ў заставу. Рэчкі той ужо і няма — спраставалі пры Брэжневе — адно шнурярок струніцца па лузе да самага Сажа, а вось бач ты, чалавек яе праз усё жыццё пры сабе носіць. «От жа ж і смачнючыя рыбкі тыя, аніводная другая не дакажа яльчыку: ні шчупак, ні нават балаба. Ну, можа, судак пацягаецца троху ў смакаце, і то не факт. Яны такія тлусценькія, прасмажыстыя, бярэш у руку з патэльні, а з хваста кап, кап. Мяса белае-белае, і растае ў роце. Эх, каб яшчэ хоць разок на язык пакласці. Хоць перад смерцю…» Божа, як ён задзяўбаў гэтымі яльцамі! Было б там што сапраўды вартае, а то ж нейкая дробная касцістая недарэчнасць, а не рыба.

Сёлета ў пачатку ліпеня, калі мы з Галяй «адпачывалі» на градах у Макаравіча, ён мяне да таго дакалупаў сваімі «яльчыкамі», што я па-чорнаму псіхануў, кінуў-рынуў усё ў двары, шпурнуў у багажнік «Нівы» заплечнік, спальнік, жмут вудаў і пачмыхаў гравійкаю да Сажа. Было тое надвячоркам, сонца пачынала ўжо хавацца за вершалінамі блізкіх хвой. Падумалася яшчэ: прыеду, паспрабую конікаў на беразе панакрываць брылём — ён у мяне шырокі, лёгкі і дзюрысты. Скакунцы яшчэ толькі завяліся ў траве, але, мяркую,

нават на гэтых недарослікаў кляваць усё ж будзе лепей, чым на штучныя мушкі.

Шчыра скажу: не было ў мяне ані надзеі на тое, што ўдасца вывудзіць хаця які дзясятак шануемых Макаравічам яльцоў. Рэдкія цяпер яны ў нашых рэках. Нават у малых, тыпу Проні ды Басі, пераважаюць з верхаводаў галаўні і ўклейкі. Што ўжо казаць пра Сож! Там яшчэ цяжэй будзе вышукаць чародку пужлівых прагоністых рыбак — не рачулка-пераплюйка ўсё ж. Як быў малады, у час шабашак я павудзіў крыху *ляльнугаў* пад Хвойнікамі і *стоўбікаў* за Нароўляй. Гэта ўсё так прызываюцца яльцы, калі што. Вудзільна бамбукавае, асноўная лёска 0,16, павадок 0,12. Пра кручок і ўвогуле маўчу — праз фотапавелічальную лупу прывязваў, хоць на зрок тады не скардзіўся. Цяпер на верхаводных рыб палюю з вудай-бамбардай. Гэтак грозна абазвалі сваю сціплую вынаходку няўседлівыя італьянцы. Складанага ні грама: лёгкае графітавае вудзільна, па асноўнай лёсцы вольна слізгае падобны на вераценца празрысты паплавок. Далей — паўтараметровы павадок без грузка і штучная мушка. Усё. Але ж як цікава ёй вудзіць язёў ды галаўнёў! Закідваеш гэтак на цячэнне, потым падцягваеш плаўненька, падрыгваеш кончыкам вудзільна і — хоп!

Хвілін дваццаць ехаў па ўзбярэжнай дарозе, пакуль не ўгледзеў мясціну, ад якой толькі сілаю адляпіў вочы. Сож тут вывеў мудрагелістую пятлю, быццам танкашыі карыкатурны дзядзька ўторкнуўся вялізным носам у лес. Узгорак. Своеасаблівая такая грыўка з невысокай радкаватай травой. Яе, відаць, і за Саюзам не надта каб касілі, а цяпер, калі той гавяды засталося на парадак менш, увогуле пакінулі ў спакоі. «Ніву» сагнаў з накатанай каляіны, паставіў каля старога лазовага куста амаль што ў цэнтры грывы. Добрая мясціна: і суха, і ад вады далекавата. Як, не дай бог, набрыдуць «зялёныя», то ўжо хваробы прыдзяруцца. Разгрузіўся і пабрыў, шаркаючы сланцамі па траве, каб ацаніць, куды закінула на гэты раз няўрымслівая рыбацкая доля. На расу яшчэ не бралася, але з травы нічога не выпстрыквала. Рана пакуль для конікаў, жніўня чакаць трэба. То і хай сабе, мушак за зіму навязаў столькі, што на пяць сезонаў хопіць. Асабліва такіх, якія цяпер яны ў мяне: дамаседам стаў, ні ў Карэлію, ні на Волжскія ерыкі ўжо не ганяю, пра стронгу ды харыуса нават марыць перастаў. Ногі, ліха на іх, пачалі падводзіць, так што з любімай вудай-нахлыстоўкай доўга па вадзе не магу цягацца. Вось паціху і шпурляю з беражка бяскрыўдную бамбарду, наталяю пакрысе гэтым эрзацам сваю рыбальскую прагу.

Што ж, беражок нічогі, не багністы, падыход да плыні лёгкі. Адсюль заўтра і пачнём запускаць нашу бамбарду.

Ноч прамінула амаль непрыкметна. Аднойчы ўсяго прачнуўся ад шуму — ніжэй па рацэ штосьці глуха выдыхнула: «Г-гах-х…» Успросань не разабраўся, ды і, па шчырасці, не было як, бо салодкі сон не выпусціў з абдоймаў. Чысцюткае паветра, цёплы спальнік — куды ўжо больш радасці распешчанаму горадам целу? Дазвання раскатурхалі толькі промні, што прабіліся скрозь рэдкія лазовыя лісты і ўпалі на вейкі. Усміхнуўся: ото ж і рыбачк*і* пайшлі, не

блюдуць сутоння, калі самы клёў, а ўсё ніяк нахрапціся не могуць. Давярай такім адказныя «мерапрыемствы».

Нетаропка схрумстаў куплёны «бананавы» яблык, уздзеў заброднікі, пачапіў на пояс торбачку з паваdк*а*мі, малы рыбнік, узяў у рукі раскладзеную з вечара вуду. Нічога не забыў?..

Праз колькі хвілін падышоў да вады. Ох, якая забойная прыгажосць! Рака пераліваецца, зіхаціць нізенькімі частымі хвалямі. Цюкнула ў галаву: «орвісы» ў бардачку пакінуў, акуляры палярызацыйныя. Без іх праз гадзіну ўжо вочы пачнуць гнаць слязу і рыбалка ператворыцца ў пакуту. Прыхінуў вудзільна да галіны крывой вербалозіны, пашлыгаў да лагера. Не, гэтак мы хіба на Пятроўскія загавіны распачнём рыбаліць. Адчыніў дзверцы «Нівы», укінуў у нагрудную кішэню забродніkaў футарал з акулярамі. Раптам са спіны хтось патрабавальна зацяўкаў. Няголасна так, зусім не па-сабачаму. Выпраставаў тулава з салона, павярнуўся і ўбачыў у дзесяці кроках ад машыны ўсім вядомае рыжае стварэнне. Ліса так міла і дагодліва глядзела ў вочы, што я разрагатаўся: «Ну, кумка, ну, прыстасаванка! Гэта ж дадумацца — рыбакоў мімаходзь акучваць». Звер смешна схіліў набок галаву: «Ава-ваў!» — «Добра, добра, чакай, дастаю ўжо». Расхінуў на сядзенні пакет з харчам, распалавініў парэзанае за цесцевым яшчэ сталом сала, разламаў паўбохана хлеба, панёс лісе. Чакаць, пакуль яна з'есць «адступное» ад госця, не стаў, амаль подбегам пакіраваў да пакінутай вуды. Жаба крыху прыціснула: ведаю, што лісіца папросіць яшчэ, адмовіць не змагу, сам жа тады да вечара буду смактаць палец.

Найперш прапаноўваю рыбам «сухога» камарыка «эмеджар». Гэта мушка таму і «сухая», што трымаецца на паверхні, не патанае; «мокрых» я сёння ўвогуле не браў. Ёсць паклёўка! Позна. Не падсёк. Адпускаю лёску на дваццаць метраў. Удар! Вывуджваю і вымаю з вады стаграмовага пад'язка. «Не тое», — крыўлюся незадаволена, але ў садок кідаю без жалю. Іду ўніз па плыні, груба тапчу вадзяную траву — эладэю, шушняк, вадзяны казялец. З яе чубоў зрэдку вымятаюцца дробныя плотачкі, уклейкі, а вось яльцоў пакуль не бачна.

Праз чатыры гадзіны ў маім рыбніку «гулялі» шэсць невялікіх пад'язкаў і сем такіх жа незаважыстых галаўнёў. Пераменьваў павадкі з мушкамі, кідаў прынаду ледзьве не пад процілеглы бераг… Марна, марна, марна…

Страўнік не вытрымаў няўвагі да сябе, «заспяваў» немілагучную песню. Я пачуў яе. Калі ішоў да машыны, пільна азіраў наваколле: ці не прытаілася дзе гаспадыня грывы? Надта не хацелася зноў дзяліцца сціплай ссабойкай «з таварышам».

З асалодай сцягнуў з сябе заброднікі, зняў набрынялыя вільгаццю штаны. Змучаныя полівінілхларыдам ногі аж, здаецца, застагналі ад палёгкі, што прынеслі ім павевы цёплага ветрыку. Перакусіў салам-хлебам-цыбуляй і прыдрамаў у цяньку лазовага куста. Зноў на раку пайшоў, калі сонца перакулілася на захад. Што казаць, надзея ўцелясніць блакітную мару дарагога, іціць яго, Макаравіча спрахла амаль дарэшты. Заставалася толькі кволенькае спадзяванне на адно нагледжанае неаблоўленае месца, там, дзе самая лука.

Адразу за выгінам, за травой, — зацішак і побач — строма. Яльцы любяць стаяць каля стромы ды высочваць розных казюрак, якіх праносіць плынь. Калі ўжо і тут не гуляе чародка, тады не ведаю. Буду збіраць манаткі.

Спыніўся на рацэ ў неблагім месцы, на з**а**піску. Да аблюбаванай лукі адсюль метраў дваццаць пяць, самае тое, каб не разагнаць пужлівых рыбак. Прывязваю мушку «вусень», пускаю на строму. Кругі на вадзе! Няўжо *ён*? Падцягваю лёску і ўжо здаля бачу: так, ялец. Ладненькі, порсценькі, рукой ніяк не ўхапіць. На «вусеня» патрапілі яшчэ дзве рыбкі, і на тым удача перастала мне назаляць. Праз паўгадзіны не вытрымаў і прывязаў чарговую прынаду. Што ты думаеш? Рыбы выскоквалі з засады на строму і хапалі падманку, нібы ашалелыя. Дваццаць тры праводкі — дваццаць два яльцы. Мушка «адамс-парашут» руліць!

Перад ад'ездам з імправізаванай стаянкі я паклаў на траву каля куста пяць яшчэ жывых галаўнёў. Нам з Галяй до будзе і пазасталых, каб павячэраць, а рыжая кума няхай паласуецца, наўрад ці часта ёй гэта ўдаецца.

Увечары пах ад смажанай рыбы стаяў на ўсе Палудзічы. На ўсе чатыры жылыя двары. Галя звыкла завіхалася каля газавай пліты: качала ў муцэ злёгку пасоленыя рыбныя тушкі, пераварочвала на патэльні падсмажаныя, далівала алею. Макаравіч сядзеў за сталом і нецярпліва барабаніў пальцамі па стальніцы. Нарэшце дачка паставіла на стол патэльню з прыгатаванай рыбай: «Ну, каштуй сваіх печкуроў». — «Яльчыкаў», — дакорліва паправіў яе бацька. Дачакаўся, пакуль троху прачахнуць, акуратна ўзяў адну рыбку, падзяліў удоўж, злізнуў з хваста кропельку алею, паклаў адну палавінку на язык, прычмокнуў, закаціў вочы ў прадчуванні прызабытага смаку і…

І ўсё. Расціснуў, размякчыў дзяснамі, пашамкаў ротам, пераціраючы, праглынуў. Паглядзеў з недаверам на патэльню з залацістай рыбай, нерашуча паціснуў плячыма. Потым з цяжкасцю ўстаў з-за стала, уздыхнуў глыбока-глыбока і пабрыў на сваё сталае з нядаўняга часу месца. Жалезны ложак надрыўна зарыпеў спружынамі.

* * *

Я нарадзіўся,
а свет быў ужо старым.
Гэткім амаль, як суседка баба Казліха…

Мудры, што га́дзіна,
вечны, нібыта Рым,
шчодра ён сее на лёсах
шчасце ды ліха.

Парасткі гонкія ўмомант дзірваняць лёс,
хоць і скубе іх штодзень
няўедлівы статак:
ліха-траву —
хто з дзяцінства прывык да слёз,
шчасце-траву —
хто з маленства смокча дзвюх матак.

І часцяком ужо одум бярэ мяне,
як разбяруся з чарговай нейкай навалай:
свет наш дзяцініцца
ці ўжо даўно здурнеў —
розуму ж старасць нікому не дадавала?

У неспасціжную вечнасць жыццё плыве,
вера мая ў справядлівасць
сыплецца друзам.
Крыўдна: памру вось,
а мудры наш белы свет
гэтак жа, гад,
будзе ехаць некуды з глузду.

* * *

*Памяці сябра дзяцінства Крукава Пятра*

Мелодыя. Перапыніў гарнітурай
і чую пракураны твой барытон:
«Ну дзе цябе носіць дняпроўская бура?
Якога ражна не бярэш тэлефон?»

«Дык, гэта, — кажу, — мне хіба толькі жонка
ці з працы там хто набірае за дзень.

Навошта займаць лішняй цацкай кішонку,
калі й пасатыжы няма куды ўдзець».

«Тут нехта забыўся пра нашы азёры —
ні разу не быў ад вясновай вады!» —
твой голас падаўся задужа бадзёрым
(ды не, ён такім быў, здаецца, заўжды).

Ты мне расказаў, што наведваюць дочкі,
што ўнукі павыраслі з дзедзьку даўно,
што зрэдку чытаеш мае «смехаёчкі»,
але толькі тыя, што, гм, не лайно.

Я слухаў, а вочы глядзелі ў дзяцінства,
і ў ім быў Пятро, мой смяшлівы друган.
Затым прамільгнуў ужо ў форме танкіста
з чырвонаю зорачкай — за Афган.

Прашу: «Падграбай. Ты ж тут блізка начуеш?
Ёсць лёгкае, дзіўнага смаку віно».
І сэрца прыстала, як раптам пачуў я:
«У хоспісе мы, брат. Апошнюю ноч».

* * *

*Айцу Міхаілу (Укружаскаму)*

Шукаў свайго бога і я.
Не тое што ўпарта
ці апантана,
аднак і маю галаву
іншы раз забівала да краю
рознакаліберным
эзатэрычным хлудам.
Хлуд спарахнеў і асыпаўся пылам.
Ні Бог і ні нават Сварогавы дзеці
не паказалі аблічча.
Так і суцешыўся ўрэшце
канонамі дыямату…

Цяпер, безбаговец упарты,
шалёна зайздрошчу айцу Міхаілу:
ён мае ціхую радасць

як не штодня наталяцца
нятварным Фаворскім святлом…

## Даведка

Самай масавай узнагародай краіны —
больш за 9 мільёнаў уганараваных —
стаў, вядома, не ордэн Францыска Скарыны
і нават не значак «Выдатніку…»,
а ўплямбаваны наўпрост
у аддзел галаўнога мозгу
(адказны за генную памяць)
віртуальны медаль
«За ородновение языка».

## Versus

Бліз будыніны былой бібліятэкі
(там цяпер ТАА «Камп’ютарныя сеткі»)
гопнікі частуюць цыгарэткай
хілага прадстаўніка хай-тэку.

Крывіць пыску кволае стварэнне
ды старанна дыхае смуродам,
і — ніякага табе памкнення
штосьці «показать тупым уродам».

Тыя ж «выпрасілі» новую мабілу,
пашарпаны скураны бумажнік
і цярпіле праказалі важна:
«Радуйся, што лівер не адбілі».

І пайшлі сабе з бадзёранькім настроем,
а юнак на ганак сеў паныла…
Вось табе й сустрэліся ў двубоі:
інтэлект vs дурная сіла.

* * *

Убачыць Парыж і памерці.
*Ілья Эрэнбург*

Я сустрэў настаўніка. Жывы!
А старэйшы ж за маю матулю.
Ды жыві, Іванавіч, жыві
хоць яшчэ паўстолькі. Мне-то хулі.

Ты цягаеш непад'ёмны крыж,
выкляты калісь вучнёўскім плачам,
і дасюль не ўбачыў свой Парыж
і яшчэ, відаць, не сёння ўбачыш.

Хутка зноў зацягнуць журавы
ростані тужлівыя куплеты.
Ты жыві, Іванавіч, жыві,
многая табе, паскуда, лета.

Мне прыпамінаецца штогод,
як вучыў ты нас з айцоўскай ласкай:
«Не "шпачок", а "скворушка", урод!» —
і — указкай па плячах, указкай.

Колькі з дзетак выпіта крыві!
Хай табе за гэта Бог даруе.
Ты жыві, Іванавіч, жыві.
Ну, а здохнеш… Што ж, мы пагаруем.

## Кацярына Сазонава

### Сакавіцкі снег

Сакавіцкім ранкам
Выпаў снег дзівосны —
На зямлі пярына, зорная пасцель!
Расцвілі, здаецца,
Яблыні і сосны,
Вочы адбірае снегавая бель.

А на фоне неба,
Як карункі, дрэвы;
Снег на іх галінках — лебядзіны пух!
Трапіла я ў царства
Снежнай каралевы:
Чысціня і свежасць — аж займае дух!

Нібы ў сне, іду я
Белаю алеяй.
На снягі багата сёлета зіма!
«Будзе многа хлеба», —
Думаю з надзеяй.
І на вусны песня просіцца сама.

### Зіма канчаецца

Сетка белая, рухлівая,
Снег буйны, як матылькі, —
Над зямлёй, яшчэ санліваю,
Над далонькаю рукі…



**Кацярына Сазонава**

нарадзілася 10 кастрычніка 1943 г. у в. Лецягі Слаўгарадскага раёна Магілёўскай вобласці. Скончыла Магілёўскі дзяржаўны педінстытут, працавала настаўніцай у магілёўскіх школах і абласным ліцэі № 1. Настаўнік вышэйшай катэгорыі. Аўтар метадычнага дапаможніка «Радасць тварыць» (2000). Вершы змяшчаліся ў абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. У альманаху «Брама» друкуецца ўпершыню.

Снег над горадам, над плошчаю,
Па-над лесам ля шашы…
Бела. Чыста па-святочнаму.
Лёгка-лёгка на душы.

Белай коўдрай разаслалася —
Ні сцяжыначкі няма!
Шчодра з намі развіталася,
Адыходзячы, зіма.

## Бабіна лета

Дываны шапаткія пад клёнамі.
Кожны ліст любавацца заве:
І чырвоныя ёсць, і зялёныя,
Залатыя ляжаць на траве.

Шапацяць-шалясцяць пад нагамі
І святло сваё мяккае льюць.
Пахадзіце! Пабачыце самі,
Што лісты, як і кветкі, цвітуць!

А на клёнах лісты так праменяцца,
Проста сонейкамі гараць!
Абяцаю: настрой пераменіцца,
Калі выйдзеце вы пагуляць.

Яснатой іх зямля асвятляецца.
Прэч самотныя думкі гані!
Лета бабіна. Так называюцца
Залатыя асеннія дні.

## Кляновыя лісты

Кляновыя лісты на хмызняку
Уселіся, улегліся, павіслі.
А сонца ім працягвае руку
І усміхаецца з нябеснай высі.

Любуюся, разгадваю іх сны,
Ля кожнага спынюся на хвілінку.

І чую: ціха шэпчуцца яны,
Гайдаючыся лёгка на галінках:

«Мы хочам жыць, красою зіхацець,
На сонейку блішчэць-пераліваცца,
І хоць нам зноў на клёны не ўзляцець,
Ды з ветрам так прыемна абдымацца!»

Няхай жа пакрасуюцца, пакуль
Іх не агорне мёртвы сон, бясконцы:
Ніколі ўжо не вернуцца адтуль,
Дзе не бывае ветрыку і сонца.

А на зямлі кляновыя лісты
Гараць, нібыта зоры залатыя.
Вачэй не адарваць ад пекнаты:
Лісты яшчэ духмяныя, жывыя!

І сцелюцца яны, як дываны,
Пад ногі цёплай восенню на травы.
І казачна прыгожыя яны,
І шалясцяць так міла і ласкава!

## Нечаканасць

Наляцела раптам закаханасць…
Гэта тая хмельная атрута,
Калі ў думках — поўная адданасць,
А наяве — стрыманасць-пакута.

Роспач і надзея ўперамешку
Сэрца да краёў запаланілі:
Гэты цёплы позірк і усмешка
Цэлы свет сабою засланілі.

Так бы і глядзець у тыя вочы,
Піць душой уцеху маладую!..
Сэрца з хмелю вырвацца не хоча,
Ды аб гэтым я і не шкадую.

* * *

Без цябе мне ўсё чужое, нецікавае.
Нават сонейка, здаецца, не ласкавае,
А бліскуча-раўнадушнае, далёкае.
І ў душы адчай і сум ляжаць глыбокія.

А з табою ўсё чароўна так змяняецца:
Нават хмара мне, здаецца, усміхаецца,
Набліжаецца, зямлю цалуе дожджыкам,
Гром у сэрца салаўіным льецца пошчакам.

Ўсё прысутнасцю тваёй сагрэта мілаю.
Радасць птушкаю лунае легкакрылаю.
І душа мая сумненнямі не хмарыцца,
І аб шчасці зноў так чыста, светла марыцца.

## Шчасце

Шчасце — гэта радасць без прычыны:
Слоў пяшчотных просіцца мільён.
Мроіцца, нібыта ўсе мужчыны
Ходзяць і апрануты, як ён.

Нават яго голасам гавораць!
І такія добрыя усе,
І няма ні цяжкасцей, ні гора,
І зямля — у казачнай красе.

І ўсе мары здзейсніцца павінны,
І фартуна больш не прамаўчыць!..
Шчасце — калі голас твой, адзіны,
Ў сэрцы райскай музыкай гучыць.

**Таццяна Барысік**

## Свінства

«Добра, што збавіліся ад гэтага свінства!» — ледзь не штодня паўтарала бабуля тым летам, і было незразумела, чаго болей у яе словах: спробы канчаткова пераканаць самую сябе ці праўдзівай уцехі. Тое лета 96-га насамрэч было для нас адметным. Першае лета без парсюкоў, але пакуль што з паляндвічкамі ў кладоўцы. Адважыцца збавіцца ад свінства бабуля не асмельвалася гадоў пяць, нягледзячы на ўгаворы дзяцей і стан здароўя. «Нашто вам тыя свінні? Колькі вам з бацькам таго мяса трэба, у цябе ж ногі хворыя, ледзьве па хаце соваешся. Не так яно і выгадна цяпер стала, падаражэла ўсё: і хлеб, і крупы, і камбікорм не надта вязуць…» Бабуля слухала, пагаджалася-…А вясною зноўку два лычы рохкалі ў хлеўчуку. Яна была працавітай, практычнай, ашчаднай. Найперш усведамляла сябе дужай і спраўнай да любой працы гаспадыняй сядзібы і падворка, і толькі пасля — маці і настаўніцай. Галоўным было самой заўжды рабіць і сачыць, каб сям’я таксама не лайдачыла. Казала: «Скупы — не дурны. Запас бяды не чыніць. Чым дабру прападаць — дык няхай жывот лопне!..» Але пры гэтым, у які б час сутак ні завітаў дарагі госць, заўжды мела чым прыняць, бо «людзі глядзяць, што на стале, а не па вуглох». Калегі па працы і сябры, прыгадваючы яе, заўжды прыгадвалі таксама хатнія бяседы, вэнджаныя паляндвічкі ды каўбасы. Цяпер такіх ані на кірмашы, ані ў краме не знойдзеш. Таму бабуля не магла развітацца са «свінствам» нават тады, калі ўжо нават на ганак не выходзіла і ўсю работу рабіла седзячы.

Словы «свіння» і «свінства» для мяне ніколі не мелі агульнапрынятай негатыўнай афарбоўкі. Байка «Ганарысты парсюк», чытаная ў падручніку, нічога не змяніла. Памятнае з маленства: «Дзюдзі кажуць: “Рох-рох-рох, смачны параны гарох…”» — аказалася мацнейшым. Пабачыўшы ў школьныя гады артыкул у газеце пра тое, што свінню можна навучыць тым самым камандам, як і сабаку, але за больш кароткі тэрмін, я не здзівілася. Бо суседскі дурны сабака брахаў на мяне, нават калі бачыў мяне на нашым двары. А вось нашыя кабанчыкі, хаця і толькі зблізку, заўжды пазнавалі гаспадароў.



**Таццяна Барысік**

нарадзілася 18 жніўня 1977 г. у Магілёве. У 1999 годзе скончыла МДУ імя А. А. Куляшова, атрымаўшы спецыяльнасць «Сацыяльны педагог, метадыст дашкольнага выхавання». Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер працуе апаратчыкам на гарводаканале. Піша вершы і прозу. Аўтарка шэрагу публікацый у газетах «Наша Ніва», «Новы час», часопісе «ARCHE». Аўтар кніг «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» і «Жанчына і леапард». Лаўрэат прэміі Гедройца. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Як усе свінні на свеце створаныя зямлю рыць, а не лічыць зоркі на небе, яны не здольныя ўздымаць галовы ўгару. Падчас сваіх рэдкіх шпацыраў па двары, заўважыўшы здалёк любыя чалавечыя ногі ля брамкі, з віскатам і рохканнем наша свінства ляцела насустрач. Аднак наблізіўшыся і пабачыўшы малазнаёмую асобу без вядра ў руках, рэзка спынялася і, развярнуўшыся, з ранейшым імпэтам навыперадкі імчала прэч. Хаця параўнанні былі не на карысць суседскага сабакі, але дрэсіраваць парасятаў, ездзіць на іх, ганяць па двары не прыходзіла нам з сястрою ў галаву, бо разумелі: старэйшыя не пахваляць — нашыя свінні не для гэтага. Іх можна толькі пагладзіць, пачухаць за вухам і, канешне, карміць.

Бабуля карміла парасятаў мяшанкаю тройчы на дзень, апроч таго паміж асноўнымі прыёмамі ежы ім кідалі не менш за два кошыкі зелля і паданкі. Буйныя яблыкі трэба было рэзаць на кавалкі, бо «ў кабанчыка няма рукі ўзяць», з ігрушаў выразаць сярэдзіны і хвасты, каб не забіўся страўнік.

Варылася ў чыгуне і таўклася секачом бульба, падмешвалася мука, да першага падаражання купленая, рэзаны гарбузнік, бацвінне, ашпараная крапіва, у куце заўжды стаяў картапляны мех з крупамі-сечанкай, адмыслова для свіней у гародзе развялі, а пасля ніяк не маглі звесці земляную грушу, Пакуль было магчыма, крышылі хлеб, у 80-я гады ніхто з гаспадароў у краме менш за 8–10 боханаў не купляў. Усё, што не даелі людзі, апроч супу, на свіным булёне вараным («адзін аднаго есці будуць»), даядалі парасяты.

Летам да гадавання свінства далучаліся і мы з сястрою. Ужо гадоў у 8–9 рвалі зелле, збіралі паданкі шчэ раней. Спярша дзеля выхавання і прывучэння да працы, пасля ў нашай дапамозе з'явілася рэальная патрэба: бабуліна здароўе год ад году горшала, дзядуля таксама не маладзеў. Не скажу, што рваць зелле, ды яшчэ ў баразнах, а заадно і бульбу прапалваць у дзяцінстве і ранняй маладосці надта падабалася. Рэзаць паданкі, асабліва калі іх назбіралася тры кошыкі, — таксама. Іншая справа — гарбузнік! Трашчыць, смачна хрумкае пад нажом, аж сакавітыя пырскі ляцяць, да таго ж на ганку рэжаш, а не ў хаце, бачна, хто па вуліцы ідзе. Свінні жылі ў векавой будыніне з тоўстых бярвёнаў, пастаўленай яшчэ бабуліным дзедам і падзеленай на дзве паловіны: варыўню і свіран. У куце свірна, напамінкам пра ягоную былую веліч, стаялі жорны. У засеку насупраць ляжаў торфабрыкет, трохі далей злева за нізкаю брамкай месціўся загон для свіней памерам з ладную маласямейку, тут у любую пару панавалі прыцемкі і прахалода, праз маленечкае акенца бруілася святло, па вуглах туліліся драўляныя колы ад падводы, бабуля казала, гэта для таго, каб вуглы не гнілі, а людзі гаварылі, што яна «нешта знае». Свінням было зручна: рый колькі хочаш — нічога не звернеш; людзям — не вельмі. Пры ўваходзе — суцэльны змрок, за доўгія гады асела і земляная падлога, і сама будыніна. Адчыніць дубовыя дзверы, ступіць на паўметра ўніз з кошыкам зелля ці вядром мяшанкі і не ляснуцца галавою аб вушак удавалася не заўсёды.

Амерыканскую канюшыну з лебядою ды паданкі насілі ў свіран змалку, мяшанку — ужо як у сілу ўвабраліся, шкадуючы дзядулю. Карміць «свінства»

падабалася. У гэтых жывёлаў цудоўны апетыт, а погляд на жыццё самы пазітыўны! Ужо пачуўшы крокі знадворку, яны голасна вітаюць цябе рохканнем і адно перад адным лезуць да карыта так, што могуць і вядро з харчам перакуліць, таму кідаеш спярша шматок зелля, каб адцягнуць іхнюю ўвагу, ці адагнаць спрабуеш. Без толку! Усе лычы і галовы ў мяшанцы! Ядуць так, што ажно вушы варушацца. Умеюць гэтыя істоты, як ніхто іншы, цаніць найлепшыя моманты свайго існавання — сытны абед ды мяккую чыстую пасцелю. На свежай саломе качаюцца, куляюцца, віскочуць! Хадзіць па падсцёл, як трохі пасталела, таксама падабалася, асабліва жнівеньскай ночкай да калгасных сціртаў. Па-першае, якая-ніякая прыгода і рызыка, па-другое, ад аднойдзвюх ношак саломы ў бабулі настрой лепшаў, а значыць, не было ахвоты бурчаць з-за позніх нашых пагулянак.

Першая мая свежына надарылася ў дванаццаць гадоў. Была лютаўская адліга, на гравійцы стаяў увесь снег, бацька жартам прапанаваў заадно пасадзіць бульбу, каб два разы не ездзіць. Тады я толькі пазірала на тое, што і як робяць суседка з бабуляю, на скрутак кішак у ночвах, вантробы ў тазе ды крывавую конаўку. Другім разам прыехала ўжо памочніцаю, па бабуліным запрашэнні. Бабуля вырашыла, што так будзе лепш: не трэба паіць суседку, даваць ёй мяса, дый працуе яна неахайна.

«Колькі можна пісаць пра гэтыя смаленні вепрукоў ды дзяльбу кабанчыкаў?» — абураюцца некаторыя. Далёкім ад традыцыйнай культуры людзям сапраўды цяжка зразумець, чым гэтая тэма так вабіць. Для гарадскога вяскоўца свежына — адзіная пазбаўленая трагічных колераў экзістэнцыйная з'ява. Нагода для родзічаў, раскіданых па розных гарадах, зноў сабрацца ў адну сям'ю, незамыленым вокам, па-за будзённымі абставінамі паглядзець на ўласнае жыццё, на тых, хто побач з табою, і зрабіць высновы, часам нечаканыя, часам не надта прыемныя. Бадай усе літаратурныя творы, ад прафесійных апавяданняў да фальклорных показак, напісаны пра гэта. У кожнай беларускай сям'і знойдзецца сваяк, адзін ці некалькі, так ці інакш падобны да персанажа вядомага анекдота, які просіць вясковых родзічаў: «Калі будзеце кабана біць, дык пакіньце мне задні мост. Той ліст, у каторым вы прасілі памагчы капаць бульбу, я не атрымаў».

І неабавязкова чакаць хваробаў, хаўтураў ці надзвычайных здарэнняў, дастаткова і памінак белае свінкі, каб зразумець: падтрымкі ці ахвяры ад такога не дачакаешся, ён разумны толькі ў свой бок, ніколі сябе не абдзеліць.

Калі б у мяне была магчымасць абраць найлепшыя моманты дзяцінства і юнацтва, пражыць іх яшчэ раз, я б без сумневаў абрала паездкі на свежыну. Яны надараліся двойчы на год. Успаміны пра гэтую ўрачыстасць даўжынёю ў два-тры дні яскравыя і шматколерныя, здаецца — тое толькі ўчора было.

Больш як паўдня ў дарозе з некалькімі перасадкамі. Спярша едзем з Магілёва аўтобусам да Бабруйска праз Кіраўск ці дызелем да Асіповічаў, а далей як пашчасціць. Ужо цёмначы дабіраемся да Глушы, наперадзе чакае шлях даўжынёю ў сем кіламетраў па бязлюднай зімовай гравійцы, заснежаны лес, буйныя зоркі ў небе, гул старых соснаў і бацькава заўсёднае: «Мо заспява-

ем — няхай дома пачуюць!» Спеваком і музыкам ён не быў, але вось калоць і разбіраць свіней умеў добра.

Ягонае жаданне спяваць тлумачылася не столькі наведваннем вакзальных буфетаў, колькі прадчуваннем свайго заўтрашняга зорнага часу: «Я яго швайкаю толькі тах — ён захрыпеў і ўпаў!» Толькі аднойчы, не дачакаўшыся бацькавага прыезду, каб хутчэй было, бабуля папрасіла закалоць кабана Хохлю. Той Хохля зрабіў сваю справу і прыйшоў да стала магарыч піць. А бедны кабанчык узняўся на ногі са швайкаю ў грудзях і стаяў пасярод двара. Акурат у гэты момант прыбег з аўтобуса бацька і спыніў пакуты. Пра гэты выпадак ён заўжды памятае і пры кожнай нагодзе нагадвае пра яго іншым, каб таксама не забываліся і цанілі ягонае майстэрства: «Чалавек пайшоў ад свінні. У яе такія самыя органы. Я хірург!»

Заходзім у вёску, стукаемся ў хату.

— Хто там? — пытае дзядуля.

— Ішлі, з дарогі збіліся. Пусціце пераначаваць, — жартуе бацька.

— Заходзьце!

Вітаемся, абдымаемся са старымі і дзядзькам. Пасля вячэры мы з бабуляю сцелем ложкі, шукаем бацьку і дзядзьку адзёжу на заўтра. Бабуля сядзіць на зэдліку, па яе загадзе з шафаў, старых чамаданаў, клункаў на печы выцягваю вялікія і малыя штаны рознай якасці і афарбоўкі, з латкамі і без латак, плюшаўкі, кухвайкі, нейкія кабаты з драўлянымі гузікамі, белы шахцёрскі падшлёмнік, аблавух, суконны брыль з дзіркаю, шкарпэткі парныя і не. Усё мусіць быць зручнае, цёплае і па памеры. Экіпіроўка для свежыны падбіраецца надзвычай адказна, з павольным абмеркаваннем кожнай яе дэталі, нібы размова ідзе пра канцэртныя строі эстраднае зоркі.

Заўтрашнім ранкам ужо напалена печ, стаіць вада ў чыгунах, нетаропкая хада, узважаныя размовы. Мужчыны выходзяць.

Выводзіць кабана з катуха ў двор дзядуля. А пасля вяртаецца ў хату і плача. Ён, ветэран вайны, бачыў кроў і смерць неаднойчы ў ваенны і мірны час.

— Чаго ты? — хвалюецца бабуля.

— Карміў, карміў усё лета, а яны ўзялі і адразу павалаклі.

— Цьфу ты! Канешне, што ім той кабан — здараўцы такія! Знайшоў, па чым плакаць, я ўжо думала, пакалечыў каторага! — зусім нязлосна абураецца бабуля.

Усё-такі яе неспакой хаця і зрэдку, але меў падставы. Здараліся часам неспадзеўкі. Аднаго разу навязвалі кабана. Дзядуля падаў дзве вяроўкі, адна была трохі перацёртая, другая з вузлом, бацька забракаваў абедзве. Дзядуля знайшоў трэцюю, зусім новую, урэшце навязалі. Кабан тузануўся, вяроўка вытрымала, а плот не. Разам з калом, да якога быў прывязаны, кабан палящеў у смароднік. Смароднік, не меншы за тыповы дачны надзел, нагадваў у тыя часы калі не гушчар, дык хмызняк на балоце: разлапістыя старыя кусты смародзінаў і парэчак, ля плота — дзікія слівы, на мяжы — хмель, ад вуліцы шчэміцца ўсюдыісны бэз.

— Ты чаго кабана не лавіў? — папракаў пасля дзядзьку бацька.

— Я стаяў і баяўся, — абяззброіў той сваёй шчырасцю, уратаваўшыся ад далейшых абвінавачванняў. Выправіў сітуацыю, аказаўшыся героем дня, канешне, бацька.

— Я яго за лапу… Толькі швайкаю тах, ён захрыпеў — і ўсё.

Звычайна абыходзіліся ўсё ж без прыгодаў.

Чорны абсмалены газавай лямпай вялізны кабан ляжыць на шчыце з дошак. Побач вядро вады. Кіруе працэсам бацька. Каб адчуваць сябе зоркаю і пераможцам, яму не трэба сусветная вядомасць, дастаткова і чатырох сваякоў.

— Шкрабіце лепш… Ліні вады… Ды не пад ногі! Ваісціну сказана: услужлівы дурак апаснее врага!..

Кроў на снезе. Водар абсмаленай скуркі. Плойма вясковых катоў у чаканні спажывы. Дзіўна: гэтая заколатая істота зусім не атаясамліваецца з парасяткам, якому я ўлетку амерыканскую канюшыну цягала. Не плачацца. Настрой святочны. Пакуль не пачалі разбіраць і насіць вантробы ў хату, кручуся побач: то вады прынясу, то анучу, то конаўку. Нават паспяваю зляпіць са снегу свінячую галаву і паставіць яе высока на вароты. Атрымліваецца нешта накшталт помніка.

Бабуля пытае, на колькі пальцаў у кабана сала, і неўзабаве кліча сабе на падмогу.

Абіраем здор з сеткі. Пасля разводзім кішкі ў ночвах. Гэтая праца патрабуе спрактыкаванасці, пільнасці і добрых вачэй, каб не парваць кішку. Але час ад часу ўсё адно рвецца, тады бабуля загадвае то патрымаць, то завязаць, іначай усё заплыве і не будзе ніякіх каўбасаў.

Мужчыны спраўляюцца разабраць свінчо да таго, як звечарэе.

Збіраемся за стол на бяседу. Патэльня сала з мясам, патэльня падпечанае крыві, пячонкі і мазгоў.

Мяса смажыць заўжды бацька.

— Чорт цябе ведае, што ты з ім робіш, чаруеш, мусіць, так смачна выходзіць! — падхвальвае дзядзька.

Яно сапраўды смачнае, не калгаснае вадой з камбікормам кормленае, сала, што масла, само ў рот просіцца. Скрутак тоненькай, высмаленай скуркі ў шклянцы. «Толькі ж во па двары бегала!» — не можа стрымаць сваёй радасці бацька. Дзякуюць старым, што выкармілі, за сталом напачатку ўсе размовы круцяцца вакол свіней.

— Во ў нас тут колюць, а ў некаторых рэжуць.

— А ў Чавускім раёне ў вуха страляюць!

— Інцярэсна! Як на ахоце!

— Ага, ахота — на ўвесь двор адзін ты і кабан!

Дзядзька з бацькам на ўцеху іншым працягваюць нязлосна кпіць адзін з аднаго:

— Ты вурдалак! З кабана кроў піў.

Аднак бацька не крыўдуе за вурдалака, ягоны адказ гучыць ухвалаю кабану і гаспадарам:

— Была б кепская кроў, не піў бы.

Надыходзіць час традыцыйнай спрэчкі за лепшую самагонку. (У часы антыалкагольнага закону купонаў і цукровага дэфіцыту яе не гнаў хіба гультай.) Першым сваё пітво выцягвае дзядзька. У шкляной бутэльцы з-пад пепсі-колы тырчыць нейкая доўгая былінка.

— На зуброўцы настоена, — з гонарам абвяшчае дзядзька.

— Ты гэтую травіну пад плотам знайшоў! — пасміхаецца бацька і дастае сваю.

— Тваю самагонку лянівая цешча гнала, — падколвае ў адказ дзядзька.

Бабуля не п’е зусім, у яе ціск, яна суддзя ў гэтай спрэчцы. Бярэ на язык адзін і другі напой. Пасля загадвае мне:

— Ліні мне, унучка, на руку і падпалі.

— Табе ж балюча будзе!

— Не бойся!

Дзядзькава занімаецца адразу. Бацькава нешта не падхапілася. Хвалююся за бацьку. Лічу яго найлепшым самагоншчыкам у свеце. Ён з усяго ўмее гнаць: і з павідла, і з падушачак. Яшчэ раз чыркаю запалкай. Успыхвае сіні агеньчык. Ад радасці пляскаю ў ладкі: «Ура! Вы абодва добрыя самагоншчыкі». Бабуля хваліць брагу з кісялю ў пачках. Бацька просіць мяне запісаць рэцэпт. «На адну выварку вады чатыры пачкі кісялю…» — старанна выводжу літары на зялёнай вокладцы сшытка.

Заснежаныя слівы ў месяцавым святле пазіраюць на мяне з чорных вокнаў. «Колькі ў небе зор, цяжка палічыць…» — шырокай павольнай ракою разліваецца па хаце аксамітны бабулін голас. Я сяджу побач з ёю, апранутая ў яе падарунак — шарсцяны спартыўны касцюм — найлепшы строй для любой нагоды ў тагачасных падлеткаў, паспрабуй яшчэ купі! Злупіўшы патэльню мяса, адчуваю сябе шчаслівай, спяшаюся наталіцца цеплынёю гэтай халаднаватай хаты. Бо ўжо зараз у свае трынаццаць разумею: цяплей, як тут, мне больш нідзе не будзе. Дзядзька з бацькам ідуць адпачываць. А наша з бабуляй асноўная праца толькі пачынаецца. Трэба пачысціць, памыць і папарадчыць усю свінячую стрававальную сістэму. Рабіць гэта адной немагчыма. У школе ўжо вучым біялогію, бабуля таксама настаўніца біялогіі і хіміі. Яна падрабязна распавядае пра адсутнасць апендыксу ў свіней, паказвае сляпую кішку, інакш кутніцу, страўнік, тонкі і тоўсты кішэчнік, тлумачыць, для чаго гэта ўсё трэба свінні і што з гэтым усім зробіць пасля гаспадыня. Лью ваду зверху, кавалак кішкі выварочваецца, як панчоха.

Ранняю вясною падсушаныя каўбасы і салёныя паляндвічкі дзядуля будзе вэндзіць, пасля яны зоймуць сваё ганаровае месца на цвіках у кладоўцы пад самым дахам і захаваюцца да наступнай свежыны.

Апошняя свежына для нашай сям’і выдалася памятнай, ледзь не містычнай. Загадзя ведалі: яна насамрэч апошняя. Бабуля канчаткова вырашыла больш не гадаваць парсюкоў. Не мучыць сябе і дзядулю. Яму было ўжо добра за восемдзесят. Ёй самой патрабаваўся догляд: «Каб у бальніцу легла б, першую групу далі б, але хто мяне ў той бальніцы глядзець будзе!» Бульба

пагарэла ўся ў спёку. Старыя запасы сечанкі і мукі, зробленыя ў ранейшыя часы, скончыліся. Тады я ўжо вучылася на другім курсе. На каталіцкія каляды калолі адразу дзвюх свіней, таму прыехалі на свежыну і маці, і бацька. Як толькі мы выйшлі з Глушы, па ўсім наваколлі згасла святло. Запалілася толькі назаўтра ўвечары, калі заканчвалі мыць кішкі. Раніцою збіраліся ў Магілёў, шчэ цёмначы, выйшлі на глушанскую аўтастанцыю — не пашчасціла: ноччу адліга маразамі змянілася — страшэнная галалёдзіца, хоць на коньках едзь. Спознішся на аўтобус — да вечара ў Магілёў не дабярэшся. І мы дарогаю лаяліся між сабой, шукаючы вінаватага. А вінаватых не было. Нібы нейкая вышэйшая сіла зрабіла апошнюю свежыну знарок працяглай па часе, нібы заклікала нас пачакаць, затрымацца, запомніць да драбніц.

«Добра, што збавіліся ад гэтага свінства!» Ды не, не збавіліся, бабуля, не збавіліся. Снежаньскім адвячоркам, калі я сяджу ва ўніверсітэце на пары па методыцы прыродазнаўства, мне хочацца напісаць зусім не тое, што прынята чытаць на пасяджэннях нашага літаб'яднання. Пра зіму, па першым часе несапраўдную без свежыны, і бегонію клінападобную ў зялёным кутку кабінета, бо яе пухнатыя, з ружовымі пражылкамі лісты ўсё больш нагадваюць мне парасячыя вушы. Не забываецца. Ды й ці магчыма?

## Лідзія Андрэева

* * *

Ліпень. Спёка. Поўдзень. Ціха…
Ледзьве шэпча лісце дрэў,
Нібы чуе нервам ліха,
Што нясе сюды свой гнеў.

То жахліва страпянецца,
На хвіліну зноў замрэ.
Мітуслівa рвецца вецце
Да ствала — абняць імкне.

Гучна ў небе, пераборам
Трэск пачуўся на разрыў —
Востраю стралой… Расколам
Дрэва рухнула ў абрыў.

І дурэла бура люта,
І з гары спаўзаў патоп,
Аб’яднаўшы ў плыні мутнай
Боль і жах. І — расцяроб.

### Скарыне

Кажу: бярыце кнігу ў рукі чыстыя,
Кладзіце твор на чысценькі абрус:
Псалтыр любоўю хрышчаны вячыстаю,
Каб меў свой ранг у свеце беларус.



**Лідзія Мініч (Андрэева)**

нарадзілася 22 студзеня 1940 г. у в. Рэкта Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Сярэднюю адукацыю атрымала ў Клімавічах, затым навучалася на зоатэхнічным факультэце БСГА, скончыла аспірантуру. Кадыдат сельскагаспадарчых навук (1989), дацэнт. Першыя вершы з’явіліся ў 1999 г. у горацкай раённай газеце «Ленінскі шлях». Выдала 10 паэтычных зборнікаў, у тым ліку ў 2018 г. асобнай кніжкай выйшла паэма пра Горацкі край «Тут росы бялей…», прысвечаная Году малой радзімы і Дню вызвалення Горак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сын з Полацка прынёс нам славу вечную
І сам сягнуў за воблачную сінь.
Ён там не зліўся з паласою Млечнаю,
А свеціць Зоркаю радзіме — Сын.

Імя яго хай знаюць трохгадовыя:
Дасведчаны не скажа: «Гэта хто?»
Скарына ёсць асветы ўсёй аснова —
Ён нашае нязгаснае святло.

Пяцьсот гадоў хвалюючых, імглістых
Мы чуем слова дарагога звон.
І мы нясём яго праз лёс цярністы,
Аддаючы Скарыне свой паклон.

* * *

«Прагну роднага слова»:
Напэўна, твайго, беларуская мова.
На гэты зык — такая выснова.

Не забароненая мая мова.
Яна дзяржаўная, як сам народ.
Дык наталяйце прагу вусным словам —
Ніхто не закрывае сёння рот.

Даўным-даўно чакае мова гэтага:
Загамані на ёй ва ўсіх кутках,
Тым больш, калі ты лічышся паэтам,
Як чуў іх з першых слоў і гук, і пах —

Смак роднай мовы з вуснаў маці, зблізу..
Не «прагні» — на ёй проста размаўляй
І у сваіх імкненнях дзеля прызу
Яе ў мундзір чужы не адзявай.

Яна жыве з народам непахісна,
Адняць — няма сягоння кайданоў.
Адмовіцца няможна ненаўмысна,
Як прагне, каб гучаць аж пяць вякоў.

Там, дзе царыцай мова красавала,
Ляцелі іскаркі яе наўсцяж.
Яе зямля ліцвінаў шанавала —
На ёй Статут пісаў у першы раз

Народ мой, прашчур сённяшняй радзімы,
І незалежны сёння беларус.
На ўсёй планеце ёсць такі — адзіны,
І дзіўная краіна Беларусь.

Таму прашу: не спекулюйце мовай —
Яна жывая, як і чалавек,
Не кідайце жаданняў зычным словам,
Бо рэжа слых яно, нібыта здзек.

* * *

Хай быў няўдалы першы крок.
Не ўсё згадаецца да кропкі.
Каб толькі вынік убярог
Ад пахвальбы, парой таропкай.

Пабыўшы некалі — паміж —
У стане тым, дзе кожны — роўня,
Адчуеш: тут «Галгофы Крыж»,
Дзе кроў пральеш дзеля здароўя.

## Сяргей Целеш

### Гугуін

Дырэктар драматычнага тэатра Віктар Іванавіч, мужчына ўзросту далёка за пяцьдзясят, паважны і сур’ёзны, лічыў сябе чалавекам культурным і адукаваным. Касцюм на яго плотнай і шырокай постаці сядзеў мехавата, а пры расшпіленым пінжаку адкрываўся ладны жывоцік, на якім, плаўна паўтараючы рэльеф, ляжаў доўгі чырвоны гальштук. Мясісты твар і ўпэўнены, стальны позірк невялікіх вачэй выдавалі наравісты характар, гаварылі аб тым, што з дырэктарам лепей сябраваць. У адваротным выпадку ён мог быць проста небяспечным.

Але, калі яго не чаплялі, Віктар Іванавіч увогуле быў чалавек незласлівы, у рэжысёрскія і акцёрскія справы не лез і без важкай прычыны нікога не караў. Ужо за гэта калектыў дзякаваў дырэктару, стараючыся не раздражняць яго.

Адным вечарам, калі на сцэне ў чарговы раз давалі «Кремлёвские куранты» Пагодзіна, Віктар Іванавіч без ніякай справы, па-гаспадарску прагульваўся па калідорах і памяшканнях тэатра, мурлыкаючы пад нос песеньку:

Когда нас в бо-ой
Пошлёт товарищ Ста…

Адчыніўшы дзверы ў рэпетыцыйную залу і ўбачыўшы там народ, ён асёкся і скончыў імправізацыяй:

Старое не надо вспоминать!

Студэнты трэцяга курса тэатральнага факультэта Вільнюскай кансерваторыі — чатыры дзяўчыны і два хлопцы — праходзілі практыку, прымаючы ўдзел у масоўцы спектакля. У рэпетыцыйнай зале яны бавілі час між выхадамі на сцэну ў пачатку і напрыканцы пастаноўкі.

Віктар Іванавіч увайшоў у залу і паблажліва спытаў:

— Што, моладзь, лынды б’ём?



**Сяргей Целеш**

нарадзіўся ў верасні 1968 г. у Магілёве. Скончыў ПТВ, політэхнічны тэхнікум. Служыў у войску. Жыве ў Магілёве, працуе газарэзчыкам на заводзе. Друкаваўся ў альманаху «Брама».

— Не, нам нельга, — за ўсіх адказаў невысокі каржакаваты хлопец у будзёнаўцы і шынялі, што іграў курсанта. — У нас заўтра экзамен па выяўленчым мастацтве. Вось, рыхтуемся, карціны вывучаем.

Ён шырокім жэстам паказаў на раскладзеныя па ўсім памяшканні рэпрадукцыі. Яны ляжалі і на адзіным вялікім стале, і на крэслах, і на падлозе.

Віктар Іванавіч падышоў да стала, дзе цясніліся французскія імпрэсіяністы, і з выглядам знаўцы пачаў перабіраць рэпрадукцыі. На кожнай з іх імёны мастакоў і назвы карцін даваліся ўнізе на англійскай мове. Першай яму трапілася карціна Сезана[1].

— Бачу, бачу. Ведаю: Цэзэнн!..

— Так, канечне — Рэнаір! — абазваў ён аўтара другой карціны, Рэнуара[2]. Апошняму, каму перапала ад дырэктара, быў Поль Гаген[3]:

— О, Гугуін! Цудоўна!

Віктар Іванавіч узняў вочы на прыціхлых студэнтаў. Тыя стаялі, сціпла апусціўшы вочы долу, або, наадварот, уважліва разглядалі столь і сцены, каб толькі не разрагатацца. Іх душыў смех.

— Вельмі добра! Хвалю! Не буду перашкаджаць, займайцеся.

Дырэктар павярнуўся і задаволены пакрочыў да дзвярэй, ціха мурлыкаючы:

Гремя огнём,
Сверкая блеском ста…

Тут ён прыпыніўся, шматзначна ўзняў пухлы палец і, быццам некага павучаючы, даспяваў:

Старое опасно вспоминать!

Нечаканы ўласны каламбур да вядомай песні яму яўна спадабаўся. Віктар Іванавіч быў вельмі горды, што паказаў моладзі сваю адукаванасць.

## Лeнініяна

У ленінградскае ваеннае вучылішча Даніла па конкурсе не прайшоў. Мроі аб вайсковай службе развеяліся, ён быў шчаслівы вярнуцца дадому. У шматлюднай чарзе чыгуначнага вакзала юнак з цяжкасцю ўзяў зваротны білет на начны цягнік. Каб не губляць час дарма, ён выправіўся на шпацыр да Зімняга палаца.

Хударлявы цёмнавалосы хлопец з прыгараднай магілёўскай вёскі глядзеў на сустрэчную мясцовую моладзь у расклёшаных штанах, яркіх кашулях, на

[1] Cézanne.
[2] Renoir.
[3] Gauguin.

дзяўчат у міні-спадніцах, і ў сваім карычневым пінжаку з накладнымі кішэнямі адчуваў сябе нязграбным правінцыялам.

Неўскі праспект яго не ўразіў. Старажытныя трох- і пяціпавярховікі, што выстраіліся ў два роўныя доўгія шэрагі, здаліся Данілу аднатыпнымі. Шэрае неба без хмар навісала над іх дахамі.

На Дварцовую плошчу яго не пусцілі. Там здымалі кіно пра штурм Зімняга. Хлопец з цікавасцю здалёк паназіраў за рэвалюцыйнымі салдатамі і матросамі, што сноўдалі туды-сюды, рыхтаваліся «браць» палац. Па перыметры плошчы стаялі аўтавышкі са здымачнай апаратурай. На бліжэйшай з іх чалавек у белым капелюшы нешта крычаў у гучнагаварыцель і адчайна жэстыкуляваў, ледзь не выпадаючы з люлькі.

Даніла ўзгадаў, што ў наступным годзе мусіў адзначацца векавы юбілей з дня нараджэння Леніна. Усе лозунгі, транспаранты, плакаты краіны вяшчалі толькі аб гэтым.

Хлопец крыху затрымаўся каля кіношнікаў, потым пакрочыў у абход палаца да набярэжнай. Ён ужо напалову абмінуў шырокі тарэц будынка, як ледзь не спатыкнуўся ад нечаканасці.

Перад ім на прыступках вузкага ўвахода ў палац, каля правай калоны, што падтрымлівала высокую, да другога паверха, арку, уладкаваліся пяць аднолькавых, ружовенькіх, што тыя парсючкі, лысенькіх Ленінаў і азартна рэзаліся ў карты. Яны страшна мацюкаліся і ўсе як адзін не вымаўлялі гук «р»:

— Мухлюете, батенька, мать вашу! — дакараў адзін правадыр другога. — Мою даму девяткой лу́пите?

— Финдос вам под нос, Владимиг Ильич! — агрызаўся той, што адбіваўся. — Девятка пик — козыгная!

— Тогда получи, фашист, г’анату: вот Вам ещё две дамы с козыгной, а шестёгки в плечи на погоны. Тасуйте, батенька!

Відовішча было настолькі нерэальнае, што Даніла, каб праверыць, ці не здалося яму, падышоў бліжэй да гульцоў. Яго таксама заўважылі.

— Молодой человек интегесуется кагтами? — спытаў адзін з Ільічоў і зрабіў запрашальны жэст.

— Пгисоединяйтесь! У нас как газ не хватает иг’ока, газбиться на две тгойки. Только уговог — пегвые, кто пгоиг’ает пять газ, бегут за закуской и выпивкой. Полбутылки беленькой на бгата.

Рука Данілы міжволі прыціснула правую кішэнь пінжака, дзе ляжала апошняя дзесяцірублёўка з дробяззю. Ён быў не такі дурань, каб кідацца ў авантуру ў чужым горадзе.

— Я не п’ю. Мне на цягнік трэба, — блытана патлумачыў хлопец адмову.

— Иногогодний? — з хітраватым прыжмурам спытаў другі Ленін.

— Так. З-пад Магілёва. З Беларусі.

— То-то, я смот’ю, говогочек не местный!

— О! Зямляк! — усклікнуў трэці, які толькі што пакінуў свайго блізнюка ў «дурнях».

— Вы, товаищ, не волнуйтесь, все мы тут иногогодние. Из пяти киностудий собгались фильмы о Ленине снимать. А штугм Зимнего общий, один на всех. И массовка объединённая. Так, знаете ли, дешевше, экономически целесообгазней выходит. Как только восставшие овладеют двогцом, газойдёмся и мы по съёмочным г'уппам. А пока здесь пгохлаждаемся, в обгаз, так сказать, входим.

Ён прыўстаў з прыступкі, працягнуў руку і назваўся:

— Ленин. «Белагусьфильм».

Падобным чынам пачалі знаёміцца і астатнія правадыры:

— Владимиг Ильич. Свéгдловская киностудия.

— Ульянов. «Мосфильм». Очень пгиятно!

— Ульянов-Ленин. Одесская киностудия. Можно пгосто — Ильич.

Было бачна, што іх забаўляла знаходжанне ў вобразе. У позірку кожнага праскоквалі ледзь прыкметныя гарэзлівыя чорцікі, а ўсе іхнія спрэчкі і сваркі былі яўна дзеля смеху. Хлопец ледзь паспяваў рукацца і ўсхвалявана адказваць:

— Даніла. Данііл. Вельмі прыемна! Красовіч.

Яго падкупіла простае, без зазнайства стаўленне акцёраў да яго. На твары юнака ззяла шырокая, да вушэй, усмешка.

Апошні Ленін, пакуль астатнія знаёміліся, не губляючы часу, спрытнаператасаваў калоду і цяпер хуценька раздаваў карты па крузе.

— А вот лгать, товаищ Ульянов, — это как-то не по-нашенски, не поленински! — заўважыў ён беларускаму калегу. — Иногогодние тут все, да не все! Есть и местные экземплягы!

Ён звярнуўся да Данілы і таксама працягнуў руку:

— Владимиг Ильич Ленин, вождь мигового пголетагиата. «Ленфильм». Кстати, молодой человек, не хотите в массовке поучаствовать? Обмундигование, гужьишко дадут. Тги губля съёмочный день. Может, посодействовать?

— Не-е, мне дамоў, на цяг… на поезд надо, — лагодна адмовіўся Даніла.

Карты былі раздадзеныя, і ленфільмаўскі Ленін крыху бесцырымонна абарваў размову:

— На тягник так на тягник. Не смеем вас задегживать.

— Да-да! Кто не с нами, тот пготив нас! — нецярпліва ўставіў Ленін з Адэсы. Ім усім карцела хутчэй распачаць новы кон.

Пяць шырокіх лысін схіліліся над месцам гульні. Леніны засяроджана вывучалі кожны свае масці.

— Опять вы мне, батенька, одну шелупень всучили и ни козые́чка не подкинули! — абураўся правадыр са Свярдлоўскай кінастудыі. — Какой же вы после этого, к чегтям, Ильич? Вы шулег! Политическая пгоститутка!

— В таком случае, в следующий газ тасуйте сами, Владимиг Ильич! — з'едліва адказаў прадстаўнік «Ленфільма».

Пачалася новая гульня, зноў пасыпаліся мацюкі і сваркі. Пра Данілу ўсе забыліся. Хлопец ціхенька адступіў назад, павярнуўся і пайшоў сваёй дарогай. Крокаў праз дваццаць ён пачуў за спінай:

— До свидания, иногогодний белогус!

Нехта ўсё ж заўважыў яго знікненне. Даніла абярнуўся і памахаў рукой на развітанне. Апошняе, што ён пачуў з боку кампаніі, быў жаночы голас з рэпрадуктара:

— Свердловский Володя, пройдите на съёмочную площадку!

Перад вяртаннем на Віцебскі чыгуначны вакзал Даніла хацеў яшчэ пабачыць легендарную «Аўрору». Від на нос карабля адкрываўся за мысам Петраградскага вострава і зліваўся з вячэрняй шэрай смугой. Доўгія рэі на мачтах нагадалі хлопцу рэбры шкілета ў школьным кабінеце біялогіі.

Дзень мінаў. Белыя ночы скончыліся. Нява неспакойна несла халодныя срэбныя хвалі, вечны ленінградскі вецер варушыў непаслухмяныя валасы хлопца.

На зваротным шляху месца, дзе сядзелі незвычайныя карцёжнікі, Даніла знайшоў пустым — ленініяна дасягнула свайго апагея.

## Тамара Аўсяннікава

* * *

Ўва мне адзінота
Усіх адзінокіх:
Каханне і Боль,
Любоў і Святло.
Я — зорка ў Нябёсах,
Я — зерне Сусвету,
Я — ноль, я — нішто.

* * *

О матылёчак аксамітны!
Як трапіў ты ў пакой?
Якую вестку мне прынёс?

У дзень святочны ты з'явіўся,
Дык хай жа светлым будзе
Твой існы знак асенні!

Цябе на волю адпускаю:
Ляці, здзіўляй, красуйся,
Напоўні радасцю людскія сэрцы.



**Тамара Аўсяннікава**

нарадзілася 24 мая 1949 г. у в. Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1966 г. скончыла Малажынскую сярэднюю школу і паступіла ў БДУ на філалагічны факультэт. Пасля заканчэння працавала на Віцебшчыне настаўніцай рускай мовы і літаратуры. З 1973 г. жыве і працуе ў Магілёве. Кіраўнік гарадскога літаратурнага клуба «Святліца». Адзін з укладальнікаў чатырохтомнага выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі». Першы том выйшаў у 2016 г., другі — у 2017 г. у выдавецтве «Беларуская навука». Аўтар зборніка паэзіі «Скрыжалі», кнігі прозы «Любачка». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

* * *

Думкі адпрэчу скрушныя.
Думкі прывечу светлыя.
Пакладу я думкі-недругі
На воблака лёгкае.
Ты нясі іх, лёгка воблака,
Праз палі бяскрайнія,
Праз лясы дрымучыя
У глыбока мора сіняе.

* * *

Лятала варона, каркала,
весткі разносіла горкія.
І вось ляжыць варона
на халодным снезе —
ні гу-гу, ні кар-кар —
скончыўся яе каляндар.

* * *

*К. Башарымавай*

Я парушу закон Ньютана —
Хай любоў у доме паселіцца —
Растаплю халодныя сэрцы
І агрэсію сонечным промнем!
Мо асколкі жорсткага свету
Іх паранілі непрыкметна,
Бо не бачаць яны
Ні ў чым прасвету…

## Старасць

Старасці ўсё шкодзіць,
Старасці ўсё не так —
Хтосьці над галавою ходзіць…
Такі ж, магчыма, бядак.

А старасці справы якія
Да старасці да чужой?
Тут справіцца б са сваімі
Бяссонніцай і нудой.

Такі прывярэдлівы стан.

Перашкаджаюць гукі,
Перашкаджаюць пахі,
Не даюць спаць мукі —
Грахоў мінулага гмахі.

Старасць — такая зараза!
Джаліць бязбожна гадзюка.
Старасць — такая параза!
Наровіць памерці ў муках.

Старасць — такая брыдота,
Гляне ў люстэрка —
Пытаецца: «Хто там?»

* * *

Як на свеце пражыць, каб сумленне не мучыла,
Каб маўчала, калі ты не можаш нічога змяніць?

* * *

Жыццё мяне не шкадавала,
Бацькі любілі, як умелі:
Не песцілі, не абдымалі,
Да працы змалку прывучалі,
Каб знала смак і горыч хлеба.

## Ната Драздова

*** * ***

Я ніколі не ведаў, ці прыйдзе вясна,
ці зробяць мне падарунак,
каб перажыць халодную зіму.
Але заўсёды чакаў і баяўся:
а раптам калі-небудзь
не прачнуся пасля яе?

Кожны шукае месца, нейкую гурбу,
каб схаваць сваё сэрца,
хаця б яго маленькую частачку.
Мне шкада сваё сэрца.
Для мяне зіма — заўсёды ганьба маіх думак.
Гэць з маёй галавы! Гэць!

*** * ***

Мой адзіны абавязак —
быць чалавекам.
Калі сум агорне душу —
трэба ўсміхнуцца і крочыць далей.
Калі вецер надломіць крылы —
склеіць іх празрыстай стужкай,
каб ніхто не ўбачыў.
А калі ўбачыць — то скажа:
— Хто ж такі гэты чалавек
і з якога каменю ён зроблены?



**Ната Драздова**

нарадзілася 3 верасня 2003 г. Вучыцца ў 10-м класе ліцэя № 3 г. Магілёва. Сябра літаратурнага клуба «Святліца» ДУДА «Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі “Агат” г. Магілёва». Піша вершы на рускай і беларускай мовах. Яе нататкі друкаваліся ў газетах «Веснік Магілёва» і «Вечерний Могилёв».

* * *

Павольна рассейваецца цемра…
Дзень палымнее,
зырка прабіраецца
між пакручастых хваін.
Здаецца, так і паляцела б
куды-небудзь,
дзе ёсць толькі гіблы пясок.
І, мабыць, там
разам з днём
дагарэла б.

* * *

За марамі сочыць толькі маўчанне,
нібы насміхаецца.
Засынай, маё мілае вогнішча,
мы пакінем толькі попел, калі прачнёмся.
А пакуль — памаўчым,
бо хутка нас разбудзяць.

## Аляксей Карпенка

* * *

Лоб разбі соты раз аб сценку —
Свет крывавым туманам залі.
Помніш, доўгім і жаласным енкам
Аб збавенні нябёсы маліў?

Умаліў. Вось урок праўдзівы —
Мрояў замкі распусцяцца ў дым:
За чаканым хвілінным дзівам —
Змарнаванага часу гады.

Бой супраць мары сваёй
Пакідаюць хіба на шчыце.
І ты гэтага сам хацеў.

* * *

Час кружыць карагод, што ні рабі.
Дзень сённяшні з мінулым таньчыць танга.
Што выпусціў у свет і што згубіў —
Вяртаецца няўмольным бумерангам.

Вяртаецца і ў сэрца б’е як след
Прароненае ў злым запале слова.
Вяртаецца замоўчаны сусвет
Забытых моў, народжаных нанова.

Вяртаецца адрынуты кашмар,
Каб з нас ніхто не быў не пакараны.



**Аляксей Карпенка**

нарадзіўся 11 снежня 1991 г. Скончыў Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. А. Куляшова і магістратуру. Вершы друкаваліся ў газетах «Веснік Магілёва» і «Магілёўскія ведамасці», часопісе «Верасень», альманаху «Брама», калектыўных зборніках «Святло “Святліцы”».

Вяртаецца міраж дарэмных мар,
Мана эпох, натоўпаў і тыранаў.

Час-графаман, сабою п’яны ў дым,
Адно і тое ж год за годам піша…
І толькі ты не вернешся ў гады
Спакойнае размеранае цішы.

* * *

Не клічце доктара — запозна.
Час паміраე нетаропка.
У памароцы нецвярозай
Сусвет сябе сціскае ў кропку.

Ушчэнт змінаецца прастора,
Як пакамечаны канверцік.
Не плачце па сусвеце хворым —
Стары сваёй сыходзіць смерцю.

Ні злыдняў кодла, ні пачвары
Быццё ў маўклівы пыл не скрышаць.
Згасанне зорнага пажару.
Павольны скон. Калапс. І — ціша.

А мы сплывём у непазбежнасць,
Апошні тузін ціхіх сведкаў.
Рукою цемрадзі драпежнай
Нас прымятуць, нібы аб’едкі.

Ні страх, ні чэпкія абдоймы
Начнога жаху не трасуць нас.
Хай цемра паглыне спакойных.
Мы ў ёй прызналі свету сутнасць.

* * *

Дні, забраныя чужынай,
Між ваколіц незнаёмых
Пражывём, за спінай кінем —
І вяртаемся дадому.

Між гучання звыклай мовы
Ўсё шукаючы без стомы
Скарб забытых родных словаў —
Мы вяртаемся дадому.

Па імгненнях год за годам,
Пакідаючы былому.
Блізім дзень свайго сыходу —
І вяртаемся дадому.

## Абнадзейвае

Аднойчы
на дне самай
бяссоннай начы,
Самай
адчайнай
роспачы,
Самай
глыбокай
маршчыны,
Самых
вар’яцкіх
іскрынак
хворых вачэй
знойдзеш,
нарэшце, сябе.
Магчыма.

* * *

Не спяшайся ў дурной напрузе
На сустрэчу з апошнім нічым.
Хай быццё падаецца грузам
На худым аслабелым плячы.

Не стагні — не такія беды
Кожны цягне спрадвек на гарбе.
Кроч. Паўзі. Не сарвіся ў бездань,
Што спаткаеш, зірнуўшы ў сябе.

## Фелікс Шкірманкоў

### Незвычайны каляндар
*(Для дзяцей дашкольнага, малодшага школьнага ўзросту і іхніх бацькоў)*

Каб з маленства знал дзеткі,
Дзе грыбы растуць, дзе кветкі,
Што ў прыродзе адбываецца,
Калі месяцы змяняюцца,
Склаў я гэта каляндар.

Ён малятам дапаможа
Шмат цікавага спазнаць.
Зразумець, як час бяжыць
І як месяцы лічыць.

Студзень, люты, сакавік…
Чаму на снежні пералік
Месяцаў канчаецца?

Ну, канешне ж, — год прайшоў!
Пачынай лічыць ізноў:
Студзень, люты, сакавік,
А за імі красавік,
Травень, чэрвень, потым ліпень,
Жнівень, верасень, кастрычнік…

Тут патрэбна ставіць клічнік,
Бо лістапад зайцом праскочыць,
А за ім і снежань крочыць.

Ёсць аб кожным што сказаць,
Значыць, трэба пачынаць!



**Фелікс Шкірманкоў**

нарадзіўся 27 траўня 1926 г. у Прапойску (сённяшнім Слаўгарадзе) Магілёўскай вобласці. Пятнаццацігадовым падлеткам стаў у шэрагі абаронцаў Айчыны. Доўгі час працаваў геолагам на Далёкім Усходзе. Пасля вяртання ў Беларусь землякі абралі Ф. Шкірманкова старшынёй Слаўгарадскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. Выдаў кнігі «Існасць», «Папараць-кветка», «Захоўваць вечна», «Дажынкі», «Нацянькі» і інш. Аўтар афіцыйна зацверджанага гімна Слаўгарада (у сааўтарстве з М. Яцковым). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

**Студзень**

Маразы калядныя
Дзесьці затрымаліся
І толькі на Вадохрышча
У нас за справу ўзяліся.

З комінаў над стрэхамі
Ўецца зранку дым,
А на шыбах вокнаў
Казачны кілім.

На цёплыя печы
Загнаў мароз усіх:
Ад дробнае малечы
Да дзядоў старых.

Дзень крыху прыбаўляецца,
Робіцца даўжэй,
Каля ганка з курамі
Скача верабей.

Скокне, азірнецца:
— Чык-чырык! Я тут!
Схопіць дзюбкай зерне
І хутчэй у кут.

Як студзень ні злуецца,
А сонейка вышэй,
І адтуль смяецца,
І робіцца цяплей.

**Люты**

Месяц гэты — жартаўнік:
То усім лагодзіць,
То раптоўна, без прычын,
Пачынае шкодзіць.

Зробіць коўзанку мароз
За ноч каля ганку,
Добра шчыпле дзеткам нос
Ён з самага ранку.

А ўдзень некуды збяжыць,
І цяплом павее,
Снег пасыпле, закружыць,
А вечарам — завея.

І да ранку намяце,
Усе падворкі занясе
Снегам вышэй плота.

А ўначы марозка зноў
Па падворку ходзіць
І шукае, дзе яшчэ
Не паспеў нашкодзіць.

**Сакавік**

Завірухі адгулялі,
Адпусцілі маразы,
А са стрэх вісяць каралі,
З вострай дзюбай ледзяшы.

Аглядаюць сад сініцы,
Хеўрай скачуць вераб'і.
А у хаце, ля бажніцы,
Ачунялі павукі.

Зайка сонечны з'явіўся,
Па падлозе праскакаў,
На хвілінку прыпыніўся,
Потым некуды прапаў.

Нібы нехта нецвярозы,
Уначы пяюць каты.
Чырванеюць вербалозы
Па-над рэчкай ля вады.

**Красавік**

Дзень хутка прыбаўляецца,
А ноч ўсё карацей.
Першым прачынаецца
Ў падстрэшшы верабей.

Чырыкне ў захапленні,
Нябачны ля варот,
Прыціхне ў летуценні
Гатовы скокнуць кот.

З палеткаў снег сыходзіць,
Гракі праводзяць сход,
А певень кур выводзіць
Вітаць вясны прыход.

### Травень

Месяц травень — месяц май
Басаножыць ногі.
Дарагі нам надзвычай
Святам Перамогі.

Белай кіпенню садоў,
Лугавым кілімам
Уздоўж рэчак, ручаёў,
Вогнішчавым дымам.

На прагалінах ў бары,
На пясчаных ўзгорках,
Быццам з казкі ваяры,
Страчкі на пагорках.

З кожным днём ноч карацей,
Значыць, хутка лета.
І не дзіўна, што яго
Любім мы за гэта.

### Чэрвень

Птушкі ў гнёздах чакаюць
З дня на дзень птушанят.
Каласы зацвітаюць,
Што ўзняліся з зярнят.

Набіраюць чарніцы
Моц ў сасновых барах.
Чырванеюць суніцы
З кожным днём на вачах.

Сонца добра працуе,
Дзень даўжэйшы у годзе.
Пчолка плённа шчыруе —
Гэта зараз у модзе!

### Ліпень

Вяршыня лета надыходзіць,
Гараць купальскія агні,
І кветку-папараць знаходзіць
Ваяр на казачным кані.

Бадзёраць ліпеньскія росы
І водар спелай збажыны,

Ляжаць духмяныя пракосы,
Як прывітанне даўніны.

На золку з вудамі да рэчкі
Ахвотна рыбакі ідуць,
Прыкорм кідаюць ячнай сечкі,
Гаворку ціхую вядуць.

Але аматарская справа
Жыве не толькі ля ракі —
Ёсць лес, і там палююць жвава
Без стрэльбаў ціха грыбнікі.

Ды што казаць — вяршыня лета!
А значыць, лепей недаспаць,
Каб была выканана мэта —
Лясных прысмакаў назбіраць.

**Жнівень**

Апошні месяц лета,
Ён на календары.
Але не значыць гэта,
Што ўжо кажух бяры.

Пяюць на лузе конікі,
На беразе ракі
Стаяць з доўгімі вудамі
З надзеяй рыбакі.

На лугавых няўдобіцах,
Пакуль ляжыць раса,
Звініць ў руках рупліўцаў
Літовачка-каса.

У жніўні пакідаюць
Буслы свой родны кут,
У вырай адлятаюць,
Каб зноў з'явіцца тут.

Калі за спёкай з вечара
Там, дзе растуць дубы,
Пальюць раптоўны ліўні —
Збірайся у грыбы.

Лісічак будзе процьма,
Абабкаў і груздоў,

А пашанцуе — рыжыкаў
Ты прынясеш дамоў.

**Верасень**

Хоць бабіна, ды ўсё-ткі лета
Яшчэ пагрэе нас цяплом,
Але ўжо восені прыкмета
Гарыць рабінавым агнём.

Паўсюды срэбныя кілімы
Вісяць на травах, хмызняках,
І жураўліны крык шчымлівы,
І яблык позніх дзіўны пах.

Калі на вырубках апенькі
У рост пайшлі і льюць дажджы,
Калі кажух дзядок старэнькі
Узяў — пра лета не кажы.

**Кастрычнік**

Ноч удвая даўжэй за дзень.
Стаіць пахмурнае надвор'е.
Гучыць жартоўна «Добры дзень!»,
Калі ў вадзе усё падвор'е.

Рупліўцам гэта не бяда:
І збажына. і бульба ў хаце.
Ў каго буяла лебяда,
Пра тых няма чаго казаці.

А дзед Яўсей кароў пасе,
На луг іх кожны дзень ганяе
І ў прыдарожнай паласе
Паміж кустоў траву шукае.

І ўсе чакаюць маразы.
Вяскоўцы, тыя просяць Бога,
Каб змазаў снегам палазы,
Каб лёгкаю была дарога.

**Лістапад**

Змоўклі ў лесе галасы,
Сыпле дробны дожджык.
Пахаваліся вужы,
Спіць у схроне вожык.

Зрэдку дзяцел застучыць,
Змоўкне, скокне лоўка,
Шэры заяц прабяжыць,
Прамільгне палёўка.

Пракрычыць сваё крумкач
Клёкатам трывожным,
А яму ў адказ сякач
Рохкне гукам грозным.

Кулямётную чарту
Выпусціць сарока.
Гэта значыць, чалавек
Трапіў ёй на вока.

Як заўсёды, на кані
Ляснік у абходзе.
Лістападаўскія дні —
Восень на зыходзе.

**Снежань**

Вось і скончан пералік,
А час і не спыняецца.
Значыць гэта, што да нас
Новы год спяшаецца.

На развітанне Дзед Мароз
Нас з гэтым павіншуе,
Пашчыпле рукі, вушы, нос,
З кожным пажартуе.

Ўначы абыдзе ён усіх,
Не абміне нікога:
Старых, дарослых і малых, —
Ў яго работы многа.

Ёсць і памочніца ў яго —
Снягурачка-дзяўчынка.
Дзед ходзіць ў доўгім кажуху,
Памочніца — Сняжынка.

Ў іх падарункаў — поўны мех,
Усюды іх чакаюць.
Яны прыносяць жарты, смех,
Вясёлых свят жадаюць.

**А н а т о л ь  С а н а ц е н к а**

# Надзвычайныя прыгоды Вацлава Прынцыпа, або Бабруйск і яго жЫвёлы
*З постмадэрнісцкага рамана-трансформера-трэвела-комікса*

> Пры слове «Бабруйск» сход хваравіта застагнаў. Усе згаджаліся ехаць у Бабруйск хоць зараз. Бабруйск лічыўся выдатным, высакакультурным месцам.
> *Ільф і Пятроў «Залатое цяля».*

> Ты ездзіў у Бабруйск?
> *Уладзімір Сарокін «Дарожнае здарэнне».*

> У Бабруйск, жЫвёла!
> *Народнае*

> Усе жывёлы роўныя, але некаторыя раўнейшыя за іншых.
> *Джордж Оруэл «Жывёльны двор».*

### Замест анонса[1]

Яны сышліся — сілы дабра і зла. І поле бітвы — Бабруйск.

Сілы дабра вонкава падобныя на Арнольда Шварцэнэгера (гэта галоўны герой рамана — Вацлаў Прынцып, выдавец, рэдактар), унутрана — на прафесара Праабражэнскага (герой адной з аповесцяў М. Булгакава).

Сілы зла — зборны вобраз. Ён складаецца з: савецкіх візуальных сімвалаў (серп, молат, Ленін), вусоў (featured: рознае геаметрыі й стрыжкі); носіць балетную пачку (калі ніхто не бачыць). Верхняя форма адзення — камізэлька, якая цьмяна нагадвае сталінскі фрэнч. Са шматлікіх кішэняў камізэлькі тырчаць,

[1] Даецца ў аўтарскім перакладзе з рускай мовы.



**Анатоль Санаценка**

нарадзіўся 2 кастрычніка 1969 г. у Бабруйску. Вучыўся ў мастацкай вучэльні. Паэт, празаік, драматург. Галоўны рэдактар інтэрнэт-газеты «Бабруйскі кур'ер». Публікаваўся ў часопісе «Абажур» (цыклы вершаў), штотыднёвіку «Новы час» (дадатак «Літаратурная Беларусь»: п'еса-анекдот, апавяданні) і іншых перыядычных выданнях. Аўтар кніг вершаў «Пранізлівае быццё», «Праклятыя вершы», «Постскрыптум»,«Вяртанне на Радзіму», «Надзвычайныя прыгоды Вацлава Прынцыпа, або Бабруйск і яго жЫвёлы». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

высоўваюцца, выпаўзаюць візуальныя сімвалы даляра і еўра, зробленыя з металу жоўтага колеру, — сімвалічны чыноўніцкі хабар.

Асноўныя дзеянні разгортваюцца ў горадзе-брэндзе, па сумяшчальніцтве Шамбале ўсёй Беларусі — Бабруйску.

На працягу больш чым дзесяці гадоў усіх жывёл краін СНД пасылалі існаваць менавіта ў гэтым горадзе («Ф Бабруйск, жЫвёла!»). А хто-небудзь задумваўся, як ім там: ці добра, ці дрэнна?

Вось пра гэта і распавядаецца ў рамане «Надзвычайныя прыгоды Вацлава Прынцыпа, або Бабруйск і яго жЫвёлы».

**Месца пражывання — Бабруйск**

Бабруйск быў тады, калі нікога яшчэ не было.

Толькі Бабруйск і жывёлы.

Тыпу дыназаўраў.

З нагоды гэтага горада чамусьці менавіта так хочацца…

Так, на самай справе, — часам здаецца, што Бабруйск быў заўсёды… Як свяшчэнны горад-татэм.

І што варта было б яго выдумаць, калі б яго не існавала…

Між тым будучыя бабруйцы нагледзелі сабе гэтае месца, сапраўды, у надта ўжо старадаўнія часы.

Нестар і іншыя летапісцы з імі яшчэ не цягаліся, таму цяжка сказаць, калі дакладна.

Можа быць — у нашай эры, можа — не ў нашай… Але археолагі кажуць, што не ў нашай. Ну там, косткі мамантаў, каменныя прылады, крэмневыя нажы і іншыя скрабкі, само сабой, прыкладаюцца.

Усё было, усё маецца. Як у прыстойнай «гістарычнай» гісторыі. Бабруйскі музей, як грыцца, вам у дапамогу.

Спачатку мясцовыя жыхары — дрыгавічы — сяліліся ў тых месцах то там, то сям. Але ўсё бліжэй да ракі, да ракі… А менавіта — да Бабруйкі, прытоку Бярэзіны.

У канчатковым выніку Бабруйск, які мы ведаем, той самы міфічны Бабруйск, Шамбала ўсяе Беларусі, і быў закладзены на правым беразе Бярэзіны, — там, дзе ў яе ўпадае Бабруйка.

А трэба сказаць, што ў тых месцах баброў было нямерана. Дрыгавічы ставілі тамака свае хаткі, бабры — свае. Асабліва на Бабруйцы, к таму часу ўжо плыткай і вузкай рачулцы.

Баброўск, Бобруеўск, Бабруеск, Бабрусек… Як толькі не называўся гэты горад у старадаўнія часы! Але сутнасці гэта не змяняла: у пачатку быў бабёр, і бабёр быў у Бабруйцы, і імя горада стала Бабруйск.

А паколькі размяшчаўся ён на найважнейшай (далей няма куды) воднай артэрыі — Бярэзіне, гандлёвым шляху паміж Кіевам і балтамі (што прыносіла тамтэйшым жыхарам вялікую выгаду), развівацца гэты слаўны горад стаў вельмі «барзо», гэта значыць, па-сучаснаму, хутка.

Вось і назва галоўнай у гэтых краях рэчкі — Бярэзіны — адсюль, гэта значыць ад гэтага слова, цячы пайшло: Брзна, Брзая, то бок хуткая. Так называлі гэтую рэчку ў тыя часы на стараславянскай, старабеларускай.

Ну вось, пакуль сутнасць ды справа, сёе-тое ды тое-сёе, надыходзіць 1387 год — год першага пісьмовага згадвання пра Бабруйск у дагаворнай грамаце вялікага князя літоўскага і рускага Ягайлы і яго брата Скіргайлы.

Іншымі словамі, галоўны літоўскі, рускі і жамойцкі князь аддаваў Бабруйск «на княжанне» свайму брату.

«На табе, браце, што нам не наце», так бы мовіць.

Каб не бяшете вы, брат, недарэчна, што, маўляў, нічога не дасталося…

Дасталося, дасталося — мы сведкі.

Потым Бабруйск становіцца рэзідэнцыяй княжацкага намесніка. Гэта значыць старасты, які быў падпарадкаваны віленскаму ваяводзе. (А Вільня — так, на ўсялякі выпадак — у гэтых землях была сталіцай, прычым шмат стагоддзяў.)

Потым — крымскія і акерманскія татары, а таксама іх нізкарослыя коні трохі патапталіся ў гэтых краях, уключаючы Бабруйск. Аднак вялікакняжацкае войска іх выгнала. Назад у родныя ім масандры і кадылыкі.

Але ўсё ж не мінуў Бабруйск лёс вынішчэння. Тройчы ён быў спустошаны і спалены.

У 1508 годзе — войскам князя Глінскага, які зажадаў шчадротаў маскоўскіх і які падняў мяцеж у Вялікім Княстве Літоўскім.

У 1535 годзе — ваяводам маскоўскага князя Фёдарам Аўчынай, які з таварышамі «і пасады ў гарадоў палілі, і сёлы палілі, і людзі, і жывот (маёмасць), і жывёліну выімалі, і іншае выпалілі і выйшлі па-здарову» (не захапіўшы, праўда, самой бабруйскай крэпасці — іншай, яшчэ сярэднявечнай).

І — у 1655 годзе, у часы Крывавага патопу, калі атаман Залатарэнка, са сваім 20-тысячным войскам, па «замове» «найціхага» Аляксея Міхайлавіча, галоўнага «*глядзяшчага*» князя Маскоўскага, захапіў і цалкам знішчыў Бабруйск.

Пасля гэтых падзей Бабруйск на 100 гадоў перастаў быць горадам, праходзіў па разрадзе «мястэчак»…

І потым было — то яшчэ… Паўночная вайна, тры эпідэміі халеры… Войскі шныраць па гэтай зямлі туды-сюды. Прыносячы голад, разруху і мор. (Вось на халеру тое трэ было беларусам, то бок тады яшчэ ліцвінам?..)

Крыху пазней, праўда, здарылася часовае зацішша. У 1764 годзе Бабруйск, кажуць, нават атрымаў магдэбургскае права — для далейшага самастойнага развіцця.

Але неўзабаве зноў пачалося-панеслася: 1772, 1793 і 1795 гады — тры падзелы Рэчы Паспалітай, у якую Вялікае Княства Літоўскае ўваходзіла на правах канфедэрацыі.

Адбыліся гэтыя раздзелы-падзелы не папросту так, а па прычыне паслаблення Вялікага Княства Літоўскага і ў цэлым Рэчы Паспалітай. А паслаблен-

не гэта здарылася з-за не ўласцівай таму часу дэмакратыі, якая панавала ў Канфедэрацыі.

Кароль абіраўся на сейме, у парламенце; многія гарады мелі самакіраванне; дзейнічала першая ў Еўропе канстытуцыя — Статут…

А дзе дэмакратыя (хоць і такая, «асветніцкая») — там, як мы ведаем, некаторы «разброд і хістанне». Абмеркаванне, спрэчкі, доўгае прыняцце рашэнняў у Сейме, узважванне, прыцірка, улагоджванне інтарэсаў усіх бакоў…

Гэта не так, як у тагачасных (і цяперашніх) дэспатыях: «цар» раніцай сказаў — армія да вечара зрабіла. Ну, ці паспрабавала зрабіць, несучы значныя страты…

Вось і ў нашай гісторыі — з Бабруйскам і іншымі тутэйшымі землямі — непрыгожа атрымалася. Але — у адпаведнасці з норавамі тых часоў.

Расійская імператрыца Кацярына Другая, паклаўшы вока на паўночназаходнія ўгоддзі, сказала: «Маё!»

І спадар Суvotaраў — са сваёй арміяй — не змаглі адмовіць нямецкай дзяўчыне. Гэтыя землі адышлі Расійскай кароне.

У 1810 годзе Бабруйск быў разбураны ў чацвёрты раз — пры будаўніцтве «знакамітай» «крэпасці на Бярэзіне». Зруйнаваны!

Горад стаяў у тых межах не менш за пяцьсот гадоў, але па загадзе маскоўскага цара быў знесены. А яго жыхары — выселеныя на фарштаты.

План быў такі: пабудаваць найбуйнейшую ў Еўропе фартэцыю. Каб ніхто не мог паквапіцца на асновы расійскага самадзяржаўя — з гэтага боку.

Але — вось смешна! — менавіта тут, у гэтай фартэцыі, малададзекабрысты і падумвалі ў 1823 годзе здзейсніць замах на гэтую самую «аснову» — імператара Аляксандра Першага. Марачы выкрасці яго і ўтрымліваць у крэпасці аж да грамадскіх зменаў.

Але — перадумалі, паколькі не былі гатовыя. Увогуле — не зраслося.

І што нам да таго, што Бабруйскую крэпасць прылічылі потым да першакласных ваенных умацаванняў на тэрыторыі Расійскай імперыі, — ні свабоды, ні сапраўднай, «сваёй», гісторыі ў гэтых краях ужо не было.

І нават — прывітанне аб'ектыўнасці! — бабруйская «сапраўдная» гісторыя фактычна пачынаецца з часоў рускіх цароў. У афіцыйным, так бы мовіць, выкладзе.

Трэба прызнаць, што «пасля Напалеона» ў горадзе было досыць ціха. Горад рос, развіваўся, абзаводзіўся крамамі, усялякімі вытворчасцямі і заводамі.

Але было гэта для выгоды Расійскай кароны, для імперыі, а не мясцовых «літвінаў». Якім забаранілі ўсё: мець сваю мову, школы, тэатр, кнігі…

А далей — бегам, бегам — праз час саветаў, як скрозь строй… Хутчэй, хутчэй, пакуль вас не арыштавалі, запрыкмеціўшы сярод іншых гэтых, і не абвінавацілі ў тым, што, скажам, з'яўляючыся шпіёнам 250 краін, вы самааддана капалі падземны ход з Бабруйска ў Крэмль — каб здзейсніць вераломны напад на таварыша Сраліна[1]…

[1] Памылка друку, варта чытаць: Сталіна.

І праўда, што добрага можна сказаць пра час, дзе разня ёсць толькі дэталь адміністравання, дзе генацыд уласнага народа ўзведзены ў дзяржаўную палітыку? Не хваліцца ж нейкімі там будоўлямі, дамамі ў стылі «сталінскі вампір», калі ў «бюджэт» дзяржавы закладзена дзесяць адсоткаў грамадзян, якія падлягаюць знішчэнню…

Ну так — была адноўленая саветамі дарэвалюцыйная маслабойная, гарбарная, чыгуналіцейная, «лесапрамысловая» і г. д. вытворчасць.

Ну так, адкрылі потым шэраг прадпрыемстваў лёгкай і хімічнай прамысловасці (што дазволіла Бабруйску да пачатку 70-х гадоў XX стагоддзя заняць чацвёртае месца ў рэспубліцы па прамысловым патэнцыяле)…

Але ж рабілася гэта ўсё не для чалавека, не для індывіда, а для захавання, так бы мовіць, савецкай улады, для доказу, што гэтая ўлада таксама штосьці можа — напрыклад, займацца дзяржаўным капіталізмам…

Увогуле, у «вечнай» дылеме: дзяржава для чалавека ці чалавек для дзяржавы — мы, зразумела, выбіраем першае. Бо чалавек — галоўная каштоўнасць, галоўны элемент любога грамадства, што тут казаць… Няма чалавека — няма дзяржавы. І нельга яго — у гістарычную топку, у ахвяру будучага «смачнага», сытага жыцця…

Хаця многія тут да гэтага часу лічаць, што дэвіз «…і як адзін памром у барацьбе за гэта» (ці, хутчэй, папросім памерці іншых) — самы лепшы, самы гуманны, самы прагрэсіўны ў свеце…

Яшчэ вось можна ўспомніць: «лес сякуць — трэскі ляцяць», «няма чалавека — няма праблемы», «што нашым ворагам падабаецца, тое нам шкодна»…

Так, шмат чаго можна ўспомніць — але не трэба. Не будзем адцягвацца. Мы ж не Нюрнбергскі трыбунал, насамрэч…

Нашыя дні… І вось перад намі 220-тысячны сучасны горад, — 600-гадовы; не раз пакоцаны; чатыры разы разбураны і адноўлены; сёмы ў краіне па колькасці насельніцтва, чацвёрты (як было сказана) — па вытворчаму патэнцыялу; постсавецкі горад; горад, які не справіўся са сваёй гісторыяй; карупцыйны, задушлівы, рэпрэсіўны; зялёны, разгалісты, ціхі, утульны, ветлы, пяшчотны і, увогуле, нягледзячы ні на што, — любімы, любімы, любімы…

## Святы горад Юзерафф, або Бабруйск у інтэрнэце

Над небом голубым
Есть город золотой
С прозрачными воротами
И яркою звездой.

А в городе том сад,
Всё травы да цветы,
Гуляют там животные
Невиданной красы.

*Анри Волохонский*

Калі ўсё гэта пачалося — невядома.

Але — пачалося.

Бабруйск і не чакаў такога шчасця.

Але яно прыйшло.

Не хацеў такой вядомасці.

Але — прачнуўся знакамітым…

Зрэшты, прыблізныя часы і тэрміны вядомыя — пачатак 2000-х.

Менавіта тады па тэрыторыі былога СССР стала распаўсюджвацца, як нейкі галюцынагенны грыбок, субкультура «падонкафф».

Культура з прыстаўкай контр-.

Пачалася гэтая зараза з «олбанскага йезыга», то бок мовы.

Ну, памятайце, па-руску кажучы: аффтар жжот, криатифф, пешы ещщо, ацкки сотона, перевед, медвед…

Але мала хто ведае, што словы, якія цалкам сабе ўвайшлі ва ўжытак: гатычна, гламурна, ржунимагу, фтему, фтопку, — таксама адтуль, з албанскай мовы крэатыффных падонкафф.

І як апафеоз — «У Бабруйск, жЫвёла!».

Туды, туды! І — неадкладна.

Каго толькі не пасылалі ў гэты святы горад!..

Не ўсе, праўда, даехалі.

Апошнія, хто дабраўся, слалі «сваім» тэлеграмы і эсэмэскі: «Бабруйск перапоўнены. Вяртаюся. Твая жЫвёла».

І ўсё ж — адкуль гэта «шчасце»? Чаму, прашу прабачэння, не Прапойск, не Жабінка, не Жлобін, не Урупінск які-небудзь, а менавіта — Бабруйск?

У чым сакрэт?

Быць можа, гэта:

«— Знайшлі дурняў! — віскліва крычаў Панікоўскі. — Вы мне дайце Сярэдня-Рускае ўзвышша, тады я падпішу канвенцыю.

— Як? Усё ўзвышша? — заявіў Балаганаў. — А ці не даць табе яшчэ Мелітопаль у прыдачу? Або Бабруйск?

Пры слове «Бабруйск» сход хваравіта застагнаў. Усе згаджаліся ехаць у Бабруйск хоць зараз. Бабруйск лічыўся выдатным, высокакультурным месцам» (Ільф і Пятроў. «Залатое цяля»).

Добрая спроба. Вельмі блізка.

Цёпла, цёпла. Але — не горача.

Дзе тут жЫвёлы, пытаемся?! Іх не згадваюць!

Ні Панікоўскі, ні Балаганаў, ні ўсе астатнія «дзеці лейтэнанта Шміта», будучы «сумленнымі прайдзісветамі», на гэтае «званне» ніяк не падыходзяць. Каб пасылаць іх туды ў гэтай якасці.

Мары трапіць у Бабруйск — марамі, але справядлівасць усё ж па раскладзе.

А мы людзі справядлівыя.

Увогуле, ідзем далей.

І вось нам трапляецца на раздарожжы — не волат-малайчына, — на кані і з кап'ём, які пакутліва думае: «туды аль сюды», — а просты савецка-рускі пісьменнік Уладзімір Сарокін.

І што ж мы чытаем у яго гістарычна-старажытным, у 1984 годзе напісаным апавяданні «Дарожнае здарэнне»?

А тое самае!

Патрэбнае нам!

«Чалавек, які нарадзіўся і вырас у Расіі, не любіць сваёй прыроды? Не разумее яе прыгажосці? Яе заліўных лугоў? Ранішняга лесу? Бязмежных палёў? Начных пошчакаў салаўя? Восеньскага лістападу? Першай парошы? Ліпеньскага сенакосу? Стэпавых прастораў? Рускай песні? Рускага характару? Бо ты ж рускі? Ты нарадзіўся ў Расеі? Ты хадзіў у сярэднюю школу? Ты служыў у войску? Ты вучыўся ў тэхнікуме? Ты працаваў на заводзе? Ты ездзіў у Бабруйск? Ездзіў у Бабруйск? У Бабруйск ездзіў? Ездзіў, га? Ты ў Бабруйск ездзіў, га? Ездзіў? Чаго маўчыш? У Бабруйск ездзіў? Га? Чаго косіш? Га? Заела, так?»

І гэтак далей, ужо менш цэнзурна.

Што можна сказаць… Ну, наконт «Бабруйска ў Расеі» Уладзімір наш свет Сарокін відавочна пагарачыўся. Але — добра: спішам гэта на непаліткарэктныя 80-я гады…

Увогуле, зачапіўся тады гэты «пейсатель» языком за Бабруйск.

Фройд яго разбярэ чаму.

З іншага боку, ну зачапіўся і зачапіўся — што тут такога? Чаго толькі з рускімі пісьменнікамі не здараецца…

Села вось калісьці сямейства Пушкіных абедаць — то Аляксандр Сяргеевіч з крэсла ўпадзе, то Наталля Мікалаеўна. Таксама драма, калі падумаць…

Ці яшчэ гісторыя… Ішоў аднойчы Пушкін па Неўскім праспекце і раптам спатыкнуўся аб Гогаля, што там ляжаў…

Як той казаў: хтосьці б распавёў — не паверыў бы…

Але гэтая літаратурная фантазія таварыша Сарокіна, гэтае «Дарожнае здарэнне» мела для Бабруйска, як казалі раней на партыйных сходах, далёка ідучыя наступствы.

Паколькі ў выніку хвацкія аффтары, што шастаюць з падробленымі нікамі-аватарамі ў святым, жыватворчым ЖЖ («у свеце» — Жывым Часопісе), натхніліся гэтай слоўнай перверсіяй расійскага пісьменніка.

Таксама — у свой час — спатыкнуліся аб яе, прыгледзеліся — аб што, уяўленне разгулялася і — панеслася з усіх бакоў:«У Бабруйск, жЫвёла!»

## Раёны Бабруйска

Назва бабруйскіх раёнаў — гэта адмысловая песня! Аўтэнтычная!

У іх, гэтых назвах, гісторыя горада за некалькі стагоддзяў — з позняга сярэднявечча да нашых дзён.

Фарштат, Порт-Артур, Скрыпачка, Лагерная Слабада (ну вельмі актуальна!), Рускае Поле, Авіягарадок, Таварыства Сляпых, Даманскі, Заходні, Чарапічны (Чарапкі), ДОК, Паўночны, Пяты, Шосты, Сёмы, Крывы Крук, Назараўка, Курляндчыкі, Дзеднава, Кісялевічы, Лукі, Яловікі, Цітаўка…

Цяпер ужо не зусім зразумела, чаму і калі нешта паўстала…

Шмат чаго не захавалася. Толькі ўрыўкава… фрагментарна…

Зразумела, існавалі «народныя» найменні і ў XIV–XVIII стагоддзях. Але на пергаменце гісторыі яны не захаваліся. Бо, напрыклад, у XVII стагоддзі Бабруйск быў практычна цалкам разбураны маскоўскімі войскамі падчас 13-гадовай вайны. Гарадскія легенды і міфы былі знішчаныя, мясцовыя мянушкі загінулі разам з жыхарамі…

У канцы XVIII стагоддзя горад перайшоў пад кіраванне Расійскай імперыі (другі падзел Рэчы Паспалітай) і потым быў цалкам знесены (з перасяленнем яго жыхароў на Фарштат). У 1811 годзе на месцы Бабруйска пабудавалі крэпасць… Яшчэ адно знішчэнне мясцовых паданняў і традыцый…

Таму гарадскія назвы раёнаў — гэта ўжо XX стагоддзе. У лепшым выпадку — XIX. А вось прыгарадныя — як былі, так і засталіся «гістарычнымі»…

Такім чынам, пачнем…

Порт-Артур. Народная гаворка кажа: 1904 год, ішла руска-японская вайна, а ў раёне гарадскога рынку пабудавалі вялікі прыбытковы дом. У «пецярбургскім» стылю. Замкнёны прастакутнік, з падваротняй, аркамі, з унутраным панадворкам-калодзежам, з парадным і чорным уваходамі-выхадамі…

Гэта месца ў выніку так і сталі зваць Порт-Артур. Размешчаны ён у раёне Старога рынку.

Фарштат. Раней іх было чатыры: Мінскі, Слуцкі, Парыцкі, Бярэзінскі.

Вось на іх і быў выселены ўвесь сумлены народ, усе карэнныя бабруйчане, якія пражывалі да таго часу на тэрыторыі старога, «сярэднявечнага» горада.

Выселілі — таму што новым уладам прыспічыла пачаць — у тых межах — будаўніцтва абарончай крэпасці. З прычыны «міжнароднай абстаноўкі», так бы мовіць. Ну там, Банапарт і іншае якабінства. І не для таго, маўляў, мы гэтыя землі пятнаццаць гадоў таму захоплівалі, каб цяпер аддаваць…

Увогуле, у тамтэйшых людзей экспрапрыявалі «для ваенных патрэб» усе пабудовы, далі з дзяржаўнай казны кропельку грашанят — мэтавыя крэдыты па-нашаму — на новае жыллё і — гэць на Фарштаты, з вачэй нашых расійскіх…

З часам «паасобныя» назвы Фарштатаў зніклі, засталося агульнае: «Дзе жывяце?» — «На Фарштаце!»

Авіягарадок. Названы так па факце: у тым месцы размяшчаўся штаб 22-й цяжкай (вельмі цяжкай, далей ужо няма куды!) імперскай бамбардзіровачнай дывізіі, а таксама — адзін з трох авіяпалкоў.

Там жа жылі і лётчыкі з тэхперсаналам. Не, то бок — хто з кім там жыў, гэта дасюль незразумела. Вядома толькі адно: усе яны знаходзіліся ў адным месцы, у авіягарадку. Каб ледзь што — адразу на каня… гэта значыць — у самалёт. І — бамбіць, бамбіць, бамбіць…

Гэты раён размешчаны там жа, побач з Фарштатам.

Скрыпачка (раней — Лагерная Слабада). Кажуць, назвалі так гэты раён таму, што на карце ён вельмі падобны на музычным інструмент аднайменнага выгляду…

Па іншай версіі, там жыў сляпы скрыпач (аслеплены, вядома, памешчыкам-злыднем — кім жа яшчэ?), які, ужо будучы чалавекам з абмежаванымі магчымасцямі, выдатна іграў па вечарах на сваёй скрыпачцы… (Мабыць, «выклікаў» сусветную рэвалюцыю — «на гора ўсім буржуям».)

А Лагернай Слабадой той раён нібыта называўся раней таму, што там здаўна — распавядае пагалоска — жылі рускія, якія свае мястэчкі называлі слабодамі (магчыма, гэта былі стараверы, якія зрабілі ўцёкі ад патрыярха Нікана — іншых «расейцаў» у тых месцах тады не вадзіліся). Ну, так расказваюць… Нам што з таго…

Па больш сучаснай, так бы мовіць, «мадэрнісцкае» версіі, на тых землях у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя быў летні лагер трох рускіх палкоў — вах-Абхазскага, Імярэцінскага і Гурэйскага. І вось нібыта на базе таго лагера і з'явіўся пасёлак Лагерная Слабада (як праванобраз будучага СССР — лагернай слабады ўсесаюзнага маштабу, турмы народаў)…

Размешчана Скрыпачка правей ад Авіягарадка — гэта калі пяхотай ісці з цэнтра Бабруйска.

Таварыства Сляпых. Раён, так бы мовіць, кампактнага пражывання інвалідаў па зроку. Чатыры шматкватэрныя дамы, інтэрнат, крама, пошта, дзіцячы садок, школа… Прадпрыемства (прызначанае для іх жа) — «Кантакт-Бабруйск»…

Размешчана на вуліцы Карла нашага Маркса — калі ісці кірункам да Дзеднава.

Рускае Поле. Першы (з сямі цяперашніх) жылых мікрараёнаў пачаў забудоўвацца, па сутнасці, у чыстым полі — адсюль, распавядаюць, і назва.

Размешчаны за Мінскімі могілкамі.

Даманскі («нумарныя» мікрараёны 1–4). З'яўляецца «кітайскай спадчынай» Бабруйска. Хай і не «фамільным» і не «срэбрам».

Будавалі гэты жылы панэльны раён якраз у той час, калі кітайцы і палезлі. У сэнсе — на востраў Даманскі. У 1969 годзе. Каб захапіць і «прыхватызаваць» яго ў сваю кітайскую камуністычную ўласнасць.

Узводзіўся раён Даманскі на тагачаснай ускраіне Бабруйска. У тым месцы бабруйчане яшчэ ў 60-х гадах лісічкі і іншыя масляты збіралі.

Мабыць, у масавай бабруйскай свядомасці «Даманскі» азначала «на краі свету». Увогуле, атрымалася амаль як «наш адказ Порт-Артуру».

Размяшчэнне — за Мінскімі могілкамі (старадаўнім гарадскім пагостам).

ДОК. Гэта не тое, што вы падумалі. Не, і не гэта. І нават — не скарочаны зварот (як на Захадзе) да дактароў. Усё больш сумна і «запушчана»… ДОК — гэта дрэваапрацоўчы камбінат. Цяпер яго ўжо няма. А назва засталася.

Размяшчэнне — адразу за Даманскім.

Заходні. Спальны раён Бабруйска, адпаведна, глядзіць на захад. Але «дысідэнцкім» яго ніяк не назавеш, толькі калі па геаграфіі знаходжання… Размешчаны злева ад Даманскага, калі ехаць у бок Мінска.

Чарапічны (Чарапкі). Як абвяшчае гісторыя, у 1852 годзе ў гэтым раёне быў пабудаваны цагельны завод прамыслоўца Пружыніна, для якога ў кар'еры, што побач, і ў іншых месцах у Бабруйску здабывалі гліну.

Для даведкі: у пачатку 70-х гадоў XIX стагоддзя на ўскраіне Бабруйска сталі будаваць Лібава-Роменскую чыгунку (бабруйскі ўчастак). Для падсыпкі чыгуначных шляхоў — каб цягнікі ішлі роўна, не зігзагамі — выкарыстоўвалі пясок і жвір, якія здабывалі ў мясцовым кар'еры.

З першых будынкаў у гэтым раёне згадваецца будка і барак, у якім пражывалі дарожныя абходчыкі. Па абодва бакі чыгункі, на шмат кіламетраў у глыб лесу, распасціралася балота (як яшчэ адзін цалкам сабе сімвалічны вобраз Расейскай імперыі).

А вось пасля Кастрычніцкага м-м-м… перавароту гарадскія ўлады «для павелічэння аб'ёмаў жыллёвага і прамысловага будаўніцтва» ўзвялі ў гэтым раёне чарапічны завод. Гліну для яго бралі ўсё ў тым жа кар'еры. Падчас Другой сусветнай, як распавядаюць знаўцы, ён быў разбураны. А пасля — зноў запрацаваў. Выпускаючы чарапічную чарапіцу (вельмі такую чарапічную), а таксама керамічныя трубы (дрэнажныя) для вельмі сельскай гаспадаркі… Завод, а дакладней — від выпускаемай ім прадукцыі, і даў назву рабочаму пасёлку. «Разваліўся» ён разам з Саюзам, у 1991-м. Яго пераемнікам стаў сілікатны завод на Фарштаце.

Паўночны. Самая паўночная кропка горада. Прывязка да мясцовасці: цяплічны камбінат, вуліца Энергетыкаў. Побач — «месцы не вельмі аддаленыя»: калонія УЖ-15/2 (цяпер — ВК-2).

Пяты, Шосты, Сёмы мікрараёны — надзвычай спальныя раёны горада: панэльныя скрынкі з людзьмі і — прастора паміж імі…

Размяшчэнне — направа ад мікрараёна Паўночны.

Дзеднава, Кісялевічы, Яловікі, Крывы Крук, Назараўка, Лукі, Цітаўка — назвы вёсак і пасёлкаў, якія ў розны час сталі часткай Бабруйска…

Добраахвотна, заўважым, сталі. Не дырэктыўна, адміністрацыйна, дэкларатыўна, дэкаратыўна… А — рэальна. Па жыцці. Увайшлі — і сталі. Часткай горада-брэнда. Пашанцавала ім, увогуле…

Размешчаны паўкругам па ўскраіне горада.

У іх, як можна меркаваць, самыя «старажытныя» назвы — з усіх, што ёсць у Бабруйску.

І паўсталі гэтыя самыя назвы — па імені, мянушцы людзей, якія там калісьці жылі. Ці па характэрных «тапаграфічных» асаблівасцях.

Дзеднава — дзед, дзяды; Кісялевічы — Кісель (напэўна, «кісельныя берагі»); Яловікі — ельнік на шмат кіламетраў (аблюбаваны потым АДПУ-НКУС для расправаў над савецкімі грамадзянамі); Крывы Крук — раён, што размешчаны каля ракі Бярэзіны, — у тым месцы, дзе Бярэзіна робіць крывы крук, то бок выгінаецца; Назараўка — Назар; Курляндчыкі — там жылі стараверы, якія ў старадаўнія часы прыехалі з Курляндыі; Лукі — Лука (не, не той, што вы зараз падумалі, а яшчэ раней; настолькі раней, што адсюль не відаць); Цітаўка — Ціт.

Вось так — калі не навукова, але папулярна. Паколькі «навукова» вам цяпер ніхто і не скажа, — справы даўно мінулых, як той казаў… Бо шмат якім з гэтых назваў па 500 і больш гадоў…

#### Вуліцы Бабруйска

Вуліцы Бабруйска — гэта яшчэ адна песня.

Савецкая такая песня — з прыпевам, з шаманскімі камланнямі, з ідэалагічным прытанцоўваннем…

Ну, чаго-чаго, а камуністычнай сімволікі ў назвах бабруйскіх вуліц было «прыкапана» нямерана. І — не «адкапана».

Вацлаў Сігізмундавіч Прынцып, галоўны рэдактар «Перадапошніх навінаў», не пераставаў здзіўляцца гэтаму факту з тых часоў, як прыехаў у Бабруйск.

Увесь свет даўно ўжо ведаў: мы гаворым Гітлер — разумеем Сталін, мы гаворым Сталін — разумеем Гітлер…

А тут — цэлая кагорта, шайка-лейка паплечнікаў Іосіфа Вісарыёнавіча, а таксама яго «папярэдніка» — нямецкага платнага агента Ульянава-Леніна…

Усе яны былі «ўвекакалечаны» ў назвах бабруйскіх вуліц, — і гэта пасля развязанага масавага тэрору, знішчэння «колеру нацыі» (і не адной нацыі — многіх!), пасля злачынстваў супраць чалавечнасці!..

Што ж тычыцца «ганаровага нямецкага шпіёна» — грамадзяніна Ульянава па мянушцы Ленін, — ён таксама не пазбег «увекавечвання». Хоць гэта менавіта Ульянаў-Ленін — першапачаткова — планаваў вынішчэнне дзесяці адсоткаў тых народаў, якія насяляюць Расію і навакольныя «губерні». Гэта значыць — генацыд па класава-ідэалагічным прынцыпе.

Ульянаў-Ленін не толькі стаяў балванам на плошчы свайго імя і ў іншых надта грамадскіх «общественных» месцах Бабруйска. Ён быў яшчэ «зафіксаваны» ў назвах дзвюх вуліц і завулка. А каб мала не здалося!

Каго толькі не было там, у назвах бабруйскіх вуліц! Якіх любата-камуністаў! Прасцей было б пералічыць тых, хто «адсутнічаў», чым тых, хто «існаваў у асартыменце».

Ф. Дзяржынскі, У. Ульянаў-Ленін, Я. Свярдлоў, А. Мяснікоў (Мяснікян), С. Кіраў, Н. Крупская, В. Валадарскі, В. Мянжынскі, М. Калінін, Г. Арджанікідзэ, В. Куйбышаў, К. Варашылаў, М. Фрунзэ, М. Тухачэўскі, П. Войкаў, М. Урыцкі…

Як жартавалі з гэтай нагоды карэнныя бабруйчане: «Выходзіш на вуліцу — а там палітбюро “засядае”!» — «Такі так, — адказвалі ім іншыя, такія ж карэнныя. — Тыя, хто засядзеліся…»

Потым ішоў менш ранжыраваны «баявы атрад»: Р. Катоўскі, С. Лазо, М. Астроўскі, М. Шчорс, Д. Фурманаў, В. Чапаеў.

Але акрамя імёнаў, былі ў назвах вуліц яшчэ і паняцці. Так бы мовіць, другасныя ідэалагічныя прыкметы…

Вуліца Камуністычная, Пралетарская, Савецкая, Сацыялістычная, Кастрычніцкая, Камсамольская, Піянерская, Інтэрнацыянальная, Першамайская, Осаавіяхімаўская, Чангарская, Чырванасцяжная, Чырвонаармейская, 40 год Кастрычніка, 50 год Кастрычніка, 50 гадоў ВЛКСМ, 50 год БССР, 1 Траўня, X З’езду Саветаў, Парыжскай Камуны, завулак Рэвалюцыйны…

Але і гэтага мала! Як у рэдкага «вырадка», прысутнічалі ў назвах мясцовых вуліц і «трынітарныя прыкметы» — замежныя: вуліцы К. Маркса, Ф. Энгельса, Р. Люксембург, К. Лібкнехта, Г. Дзімітрава, Э. Тэльмана, анархістаў Н. Сака, Б. Ванцэці…

Туды ж і «абрэвіятурныя шэдэўры»: КІМ (якое нагадвае паўночнакарэйскую камуністычную дынастыю, але на самай справе — Камуністычны інтэрнацыянал моладзі), МОПР (назва, што вельмі паходзіць на пароду сабак, і ўсё ж такі — Міжнародная арганізацыя дапамогі рэвалюцыянерам, то бок арганізацыя для раздзімання «сусветнага пажару»…)

Вацлаву Сігізмундавічу, як чалавеку новаму, у горадзе «ідэалагічных пачвараў» усё было цікава.

Вацлаў Сігізмундавіч нават падумваў адкрыць на гэтай глебе бізнес: арганізоўваць, скажам, платныя экскурсіі па бабруйскім «ідэалагічным запаведніку». Па месцах, так бы мовіць, пражывання «святых ідэалагічных жывёл».

Тым больш што вярталіся цалкам сабе маразматычныя («міязматычныя», як ён казаў) часы, і такі вось «постмадэрнізм» быў вельмі дарэчны.

Але, вядомая справа, з такім бізнесам у Вацлава Сігізмундавіча не зраслося.

І то — хто ж яму дазволіць здзекавацца з татэмных «бабруйскіх жЫвёл»?! Яны ж — святыя! недатыкальныя! «Слуп і падмурак» бабруйскага запаведніка!.. Во як! Ні больш ні менш.

**Васіль Аўраменка**

## 3D-мадальнае

Першая друкарка была задоўга да Скарыны і Гутэнберга,
ды была яна не плоска-літаральная,
а адразу — тры-дэ-мадальная.
Многія лічаць: працавала яна на прынцыпах сакральных,
нібыта звышнатуральных,
а я так мяркую (а часам і чую),
што па законах неідэальных, простых ды непрадказальных.
Невыпадкова Вынаходнік Першадрукар не запатэнтаваў
свой тры-дэ-прынцып,
а схемы-чарцяжы,
згубіўшыся ў лабірынтах дабіблейных лабараторый,
ператварыліся ў міражы.
І вось тыя відзяжы
гуляюць па старонках літарацкіх,
у копіях пірацкіх
ды анекдотах дурацкіх…
Але што ні скажы — гэта ўсё муляжы.
Бо створанае Першадрукаром мела не толькі аб’ём, але й душы.
Хоць нехта скажа, што гэта быў дух.
А я скажу: дзе болей за двух, там ё й трэці.
А дзе тры, там прэ й чатыры, й пяць,
а потым іх не злічыць, не спаймаць!
А як звалі іхнюю прынтара-маць? Хто можа знаць?
Мы ведаем толькі Бацьку, і таму ўжо не байструкі,
хоць і друкаваны тры-дэ-прынтарам, а не роблены ад рукі.
Бо, ў прынцыпе, тры-дэ-прынтар ёсць у кожнага мужыка,
толькі працуе ён ва ўлонні жаночага «капшука».
І працаваў бы спраўна да самых апошніх дзён,
калі б не парушылі людзі невідавочны закон:



**Васіль Аўраменка**

нарадзіўся 10 чэрвеня 1958 г. у Мазыры Гомельскай вобласці. Скончыў Віцебскі медыцынскі інстытут, па прафесіі ўрач-неўролаг. Працуе па спецыяльнасці ў шпіталі хуткай медыцынскай дапамогі. З пачатку 1990-х гадоў публікаваўся ў газетах «Свабода», «Літаратура і мастацтва», «Наша Ніва», часопісе «ARCHE». Лаўрэат штотыднёвіка «ЛіМ» у намінацыі «Публіцыстыка» за 1995 г. Аўтар кнігі «Нябачнае і ява» (2013). Жыве ў Магілёве.

не рабі рукамі тое, што не зроблена сэрцам, з душой,
давярай болей маці-прыродзе, а не бацьку з хмяльной галавой.
Бацька наробіць і кіне — вар’яцкіх ідэй і дзяцей,
  а матчын «дэ-прынтар» гадуе,
    церпіць, лечыць, ратуе,
    аднойчы пакуль не пачуе: бывай ды жыві без надзей…
Бывай! Што ж, расстанне законна, як вечны сыноў эгаізм,
Бо толькі ў адрыве ад дому чакае іх драйв альбо дрызг.
Бо толькі за родным парогам узяць яны могуць разгон
Ды ўліпнуць ў гісторыю раптам альбо паляцець пад адхон.
  Шчаслівых чакае ўдача, няўдалых пільнуе бяда.
  Слязлівыя трохі паплачуць, вясёлым як з гуся вада.
І я не суровы, не камень, бывае, праб’е на слязу
ці ў голаву песня ўваб’ецца і там расчыняе бузу.
  Не ўсё ў жыцці раскладзецца на простыя X-Y-Z.
  Паміж ардынат і абсцысаў прачнецца аднойчы паэт,
якому не ўсё паралельна дый цесны трохмерны абсяг.
Ён слова да слова прылепіць і зладзіць свой мройлівы шлях.
  Ён будзе крывы ці крывавы, шурпаты ці гладкі, як шкло,
  ён можа ўтапіцца ў кроплі ці мкнуцца ўвысь на святло,
  ён можа прайсці праз стагоддзі, мінаючы зло і дабро,
  а можа застацца на месцы, дзе мудрасць пануе і тло.
Дэ-тры, дэ-чатыры… дэ-дзесяць! Дзе словы — бязмерны прасцяг!
Яны, нібы малыя дзеці,
не ведаюць межаў і смерці,
    а мы іх кідаем на вецер
    ці сеем штодня ў інтэрнэце,
бо верым — што жыць будзем словам,
    а словам — радзімае мовы,
    яна — наш дэ-прынтар адвечны,
      яна — наш ратунак і сцяг…

## Рыбаслоўнае

Рыба — дзіўная эксклюзіўная
Дзіва — воднае ды нязводнае…

Вершы на вадзе жывуць нядоўга
Менш, чым на пяску ці ў галаве
Слова упадзе — кругі разгоніць
Рыфма — хваляй воду скалыне

Разбягуцца і аціхнуць разам
Кроплі літар, струмянёў радкі…
Ціш і гладзь… Ды толькі вочы рыбаў
З глыбіні спытаюць: хто такі?

Верш заціхне паміж рыбаў сонных
Як паэт, набраўшы ў рот вады
І прыляжа ў немаце прыдоннай
Сярод твані, глею і нуды

Але водзіцца там рыбка залатая
Што не можа без прыгодаў доўга жыць
Сярод шыцікаў і ракавак шукае
Што б такое эксклюзіўнае спажыць

І наеўшысь паэтычных рэшткаў
Ямбаў, тропаў, розна-дзіўных слоў
Стане тая рыбка гаваркая
І захоча славы рыфмароў

Знойдзецца там і рыбак-няўдаха
Што закіне рваны нерат свой
І падыме з дна не толькі рака
Але й рыбку з тонкаю душой

Ледзь пабачыўшы жывога чалавека
То бок першага ў кар'еры слухача
Рот раскрые юная паэтка
І прамовіць: «Слухай мя, старча…»

Мо рыбак не ведаў рыбнай мовы
Ці то проста быў зусім глухі
Да паэзіі і літарацкай долі
— кінуў яе ў кошык да платвы

Так бывае у жыцці бядацкім
Ці ў тых, хто казак не чытаў
    рыба-слоўнае змялела мора
    рыба-слаўная збяднела доля
    хоць такога не было ніколі
Ды ніхто на тое не зважаў

І ў апошні шлях яна паплыла
У каструлі з юшкай, як і ўсе
Не паспеўшы нават песню скласці
Аб падводнай, чыстае красе

Ды злавіў яе ў талерцы хлопчык
Мо на шчасце, можа — на бяду
І бадай пасля таго абеду
Стаў ён несці розную лухту

То пачуе ў ціхім пляску хваляў
Музыку падводных весляроў
То на небе ўгледзіць птушку-мару
Між няісных воблачных муроў

Незямныя думкі і ландшафты
Вабілі яго як, дзіўны сон
Кінуў вуды, снасці, нерат бацькаў
Ды пайшоў сваей дарогай ён

Шмат хадзіў па свеце, ездзіў, плаваў
І сядзеў не раз ён на мялі
Ды ў душы жыла вярэда-мара
Аб няведама якім краі

Каб аднойчы зранку па вяртанні
Ад чужых далёкіх берагоў
Сярод родных плёсаў і затокаў
Напісаў ён колькі простых слоў:

«…вершы на вадзе жывуць нядоўга,
так як і ў паветры ці ў агні
але корань іх заўсёды будзе
у дзяцінстве
памяці
зямлі…»

## Фатальнае

Фата нявесты — сымбаль забытае чадры.
Хустка жонкі — рэінкарнацыя паранджы.
Фата Маргана не хата, а прыгожы фантом.
І хата-рагата хоча — стаць элегантным дамом.

Фота з натуры: Свата сфоткалі з гарбузом,
Фат атрымаў ад Хвата па галаве калом.
І Фаталіст павёўся ў лёсу на голы кручок —
накінуў пятлю на шыю і зачапіў за сучок.

А што ўрэшце з таго выйшла? Каго ж пераехаў лёс?
Хто апынуўся пад колам, а каго ўзняло да нябёс?

Каго зачапіла, таго й панясло
фартуны бязрукай тугое ласо —
за ногу, за вуха, кагось за крысо,
кагосьці жывога, кагось і таго…
Бядак і нябога — шанцуе не ім,
ды хопіць прыгодаў і тым, і другім —
шляхоў да Бога шчэ многа…
Дык вось,
пакуль не зламілась сусветная вось,
прагрэс не адолеў любоў і мілосць,
так сёння (і ўчора) у нас павялось:
Якая чадра?! Туфта і фата!
Ледзь стала нявеста нявесткай —
то й кінула мужыка-
лайдака, іграка, пітака…
А хусткі? — Змянілі на шляпкі!
Бо мода на тыя хіджабкі да нас пакуль не дайшла.
То, можа, прагрэсу выдаткі,
а мо фемінізм — анігадкі? —
што нашы жанчыны пазбаўлены права
схаваць ўсе маршчыны і ўзросту заганы
за покрывам тканым, напэўна ж нятанным,
ці то таямнічым, ці проста падманным…
А як дадалося б паэтам работы,
разгону фантазіям — словам свабоды
аб тым, што хавае жанчынаў вабноты…

Ды, пэўна, не лёс нам загадкі гадаць,
хутчэй распранай, ўсё да рэшты скідай,
адкрыцці мы любім, як голыя рай
ці лазню з парыльняй — адкрытасці край.
А там на палку ім шчэ й пары паддай,
вось дзе дэмакратыя — роўнасць і рай!
Наш фатум і кон — і не трэба ікон —
паўсюль завязе выпадковасці конь…

А хата-рагата рагоча — бо зноў
пан Морган буд-марыць паветраны дом…
Але не знаходзіць ахвочых купіць
свой новы, стылёвы,
эфірны, фірмовы,
але ж безнадзейна ідэйны — фантом.

І яму падзялом.
А будуй як усе — парэальней, прасцей:
з камянёў — камянней,
з бервяння — бервянней,
з жаляззя — жалязней,
і пяску не шкадуй ды цэмент не жалей,
тады й бізнес твой пойдзе куды як жывей…

Але Морган, упарты, канкрэтны дзівак,
укладацца ў падмуркі не хоча ніяк.
Будаваць на пяску? — Гэта ўчорашні дзень.
Прадаваць трэба мрою ці прышласці цень.
Віртуальнасць — тавар, што даўно у цане.
…Вунь прыгожы фантом — загарніце і мне!
— Нэрэальная хата! Жылы касмадром!
Хто мальцом не хацеў стаць яе жыхаром?

Ды юнацтва прайшло, дзівакоў стала менш:
хто пайшоў ў прымакі, хто з жыцця сышоў прэч,
хто зайшоў ў віртуал, а хто проста ў запой…
Каляіна адна — лёс у кожнага свой.

Вось і Сват з гарбуза доўга кашу варыў,
ну а семкі з яго і за год не спажыў.
Памудрэў і наш Фат пасля тога кала,
стаў таксама сватом і чакаў гарбуза.
Фаталісту ж фармальна ізноў не вязло:
сук трухлявы зламаўся нібыта на зло.
Грымнуў долу фатальна нябога-бядак
ды звіхнуў сабе крыж выпадкова, няўзнак,
стогне, плача, якоча ды гвалту крычыць —
ці то мо ён рагоча, бо зноў хоча жыць?

Хай і так. Лепей думаць, што кон не міне
ні таго шанц-аванца, ні цябе, ні мяне.
То й амінь!
Косьці кінь
і спакойна спачынь!

## Ь-ь-Ь-ь-Ь
*(Мяккaзнакавае)*

Ён быў такі мяккі, што нават не меў сіл супраціўляцца,
калі яго выразалі, сьціралі, ліквідавалі, прыбіралі
з мовы, з кніжак, сшыткаў ды з нашых галоваў.
Але ён застаўся на языку.
Бо быў ліпкі, цягучы і амаль бязгучны, як рэха падвоеных зычных,
а сьлізкі ды марудны, як безабаронны ранішні сьлімак на роснай траве.
Не ва ўсіх атрымалася яго выплюнуць
разам са сьлінаю, сьлязьмі і настальгіяй па беларушчыне.
А Ён, мякка і няўзнак, распусьціўся ў тутэйшай смузе і сьнезе,
у лугавым разнаквецьці ды лясным рознагалосьсі,
затаіўся ў паднябеньні і надгартаньні,
штодня спажываўся зраньня на сьняданьне
і з прыемнасьцю ў сьвяточным застольлі.
А па зьмярканьні блукаў як здань у вечаровым сутоньні…
Хоць і быў ён слабы ды лагодны, аднак не зусім бяскрыўдны,
бо моцна крыўдаваў на яго суседскі «Ъ» (цьвёрды знак),
які пнуўся стаць «старэйшым братам».
Ды яму не знайшлося тут месца, і прамянялі яго
(што было асабліва крыўдна)
на коску-трансвестытку, якая, памяняўшы «пол на столь»,
стала горда звацца амаль апосталам (‘).
А паколькі «мяккі брат» па-партызанску схаваўся ледзь не ў кожным трэцім слове
і ціха ганарыўся сваёй выключнасьцю, то «старэйшы»-цьвёрды яму помсьціў:
Яго выключылі, як ВКЛ, і выцiралі, як соплі,
прыбіралі, як непатрэбны атавізм,
і ліквідавалі, як небясьпечнага злачынцу.
Але Ён выжыў.
Таму што, відаць, сапраўды быў вельмі мякЬкі…

## Віталь Еўмяньkoў

# Anno domini 1611

### Колькі слоў ад перакладчыка

*Гэты рукапіс патрапіў да мяне выпадкова. Гады тры назад давялося чытаць даклад па літаратуры Рэчы Паспалітай у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Зараз ужо не памятаю, што гэта была за канферэнцыя. Ды і наўрад ці гэта істотна. Пасля секцыйнага пасяджэння да мяне падышоў мой калега з Гародні і запытаўся, ці ведаю я пра ўспаміны аршанскага шляхціца Яцка Завішы. Я пакруціў у галаве гэта імя і мусіў паціснуць плячыма. На той час я ведаў некалькі рукапісаў, складзеных у розныя часы прынамсі двума Завішамі — Янам і Крыштофам. Пра тое, што ёсць рукапіс яшчэ і Яцка Завішы, для мяне было неспадзеўкай. Цікаўнасць мая павялічылася куды больш, калі я даведаўся пра тое, што рукапіс гэты захоўваецца ў аддзеле рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі. «Ляжыць сабе ў адной скрыні з лістамі Сыракомлі. І ніхто на яго не звяртае ўвагі!» — заўважыў гарадзенец і, пажадаўшы мне плёну, з'ехаў сабе на бераг Нёмана. Мне ж заставалася колькі гадзін да магілёўскага цягніка, таму замест фуршэта, куды мяне ласкава запрасілі мінчукі, паехаў я ў бібліятэку, на росшукі загадкавых для мяне ўспамінаў.*

*Усё было так, як і казаў гарадзенец. Сапраўды, у фондзе рэдкіх выданняў на адной з паліц ляжала невялічкая драўляная скрыня, у якой пыліліся два лісты Сыракомлі да Манюшкі, а таксама яго карэспандэнцыя ў «Газэту Варшаўскую». Лісты гэтыя былі вядомыя і перакладзеныя на беларускую мову яшчэ спадаром Мархелем. А вось пасярэдзіне скрыні ляжала скураная тэчка з жоўтай паперай. Я папрасіў бібліятэкарку тую тэчку пагартаць, узяў яе ў рукі — і ледзь не выпусціў. На чырвонай скуранай вокладцы было адціснута: Pamętniki pana J. Zawiszy. Як раней гэта тэчка не патрапілася нікому на вока? Проста неверагодная гісторыя, якая лішні раз сведчыць пра тое, што ў нас пад носам ляжаць без патрэбы ўнікальныя рэчы!*

*На жаль, успаміны Яцка Завішы захаваліся толькі часткова. Пачынаюцца яны падзеямі 1611 года, калі ў маскоўскім Крамлі чакалі каралевіча Уладзіслава польскія і літоўскія жаўнеры. Пан Завіша быў сярод сведак трагічных абставінаў гібелі гар-*




**Віталь Еўмяньkoў**

нарадзіўся 5 чэрвеня 1977 г. у Магілёве. Вучыўся ў школе № 13, скончыў абласны ліцэй № 1, МДУ імя А. А. Куляшова, дзе і выкладае. Аўтар больш чым 100 навуковых артыкулаў. Выйшлі з друку яго манаграфія, прысвечаная беларускай іпастасі паэта Адама Міцкевіча, і аповесць «Пялёсткі белай ружы». Перакладае з польскай мовы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

*нізона. Пра тое, як яму самому ўдалося выжыць і вярнуцца на радзіму, пэўна сказаць не магу — гэтая частка мемуараў не захавалася. Вядома толькі тое, што шляхціц патрапіў у непрыемную сітуацыю падчас пад'езду і, хутчэй за ўсё, апынуўся ў палоне. Наступная частка распавядае пра сямейныя справы Завішы, а таксама пра яго ўдзел у рокашы і ў абароне рускіх ваяводстваў (Кіеўскае і Брацлаўскае) ад наездаў крымскіх татар. Першую частку я паспеў перакласці на беларускую мову і з задавальненнем прапаную пераклад шаноўнаму чытачу «Брамы».*

**29 сакавіка.** Пасля Кветнай нядзелі па Кітай-горадзе перуновай бліскавіцай праляцела дзіўная і страшная пагалоска. Казалі, што над Хадынкай бачылі нібыта постаць Багародзіцы. Уся абадраная, абшарпаная, апранутая ў лахманы, яна жаласліва ўкленчвала, прасіла абараніць яе ад лютай крыўды і не чуванай раней знявагі. Паказвала яна дрыжачай ад гневу рукой на стралу, якая балюча ўпілася ў яе сэрца і па якой тонкай істужкай збягала чырвоная, быццам царкоўнае віно, кроў. «Дзеткі мае, саколікі, — ледзь чутна шаптала Багародзіца, — баліць мне, ды не ад раны гэтай падступнай, а ад вашай абыякавасці да веры святой, да апосталаў, да евангельскай праўды, якая адно толькі ў малітвах і казаннях царкоўных хаваецца».

Заўважылі Багародзіцу акурат у нядзелю пасля вячэрняй службы. Людзі выходзілі з царквы і з жахам назіралі за тым, як жаночая мара, быццам бы на нябачнай лодцы, выплывае з-за муроў Крамля і сунецца па паветры наўпрост да натоўпу. Па цэрквах і па кляштарах загаманілі, забалбаталі, залямантавалі званы. Маскавіты не на жарт спужаліся, пападалі на калені і білі Багародзіцы чалом. На кірмашах казалі, нібыта гэты прывід — пэўнае прадвесце вялікага і акрутнага[1] няшчасця. Не пакінула ў спакоі гэтае аб'яўленне і нас, таварышаў панцырнай харугвы. Памяталі мы добра, якое нечуванае здзерства ўчынілі, якую крыўду зрабілі ўсёй веры святой хрысціянскай. І Масква тады, прыцiснуўшы вушы, маўчала, маўчалі баяры, дваране, святары… І толькі юродзівыя нешта мармыталі сабе пад нос ды з пагрозаю трэслі кулаком у бок Сапегавых харугваў.

Прычынай жа ўсяго таго няшчасця, усяго таго паскудства, даруй Божухна, было п'янае зухвальства ды шаленства аднаго толькі вырадка, пана Блінскага, таварыша аршанскай харугвы. Прыйшоў ён у горад разам з вялікім гетманам[2] і адразу пачаў біць гаршкі ды шукаць таго, хто меў бы яму на хвост солі насыпаць. Адбылося ж наступнае: недзе праз тыдзень пасля таго, як яснавяльможны пан Станіслаў Жалкеўскі разам з кароннымі харугвамі сышоў, а лепей сказаць уцёк, з места, той Бліньскі неяк уначы вартаваў браму. Добра ж ён, сабака, назюзюкаўся, ледзь на нагах трымаўся, але ў намаляваную высока на сцяне Найсвятую Дзеву з лука патрапіць здолеў. Блюзнерства, вядома, нечуванае, грэх пякельны для ўсіх хрысціян. Быў жа

---

[1] Акрутнага (старапол.) — тут у значэнні «жахлівага».
[2] Маецца на ўвазе вялікі каронны гетман Станіслаў Жалкеўскі.

той Бліньскі кальвіністам, недаверкам і паскуднага нораву чалавекам. Таму ніхто яго асабліва не шкадаваў.

На рыцарскім коле вырашылі рукі яму адцяць, а пасля ўзвесці на стос і спаліць. Так з тым непачцівай маткі сынам і зрабілі… Але на тым быў яшчэ не «амэн». Як любіць паўтараць кракаўскі канонік, вялебны айцец Андрэй, «тое, што адзін ёлупень разбярэ, сямёра мудрых не сабяруць». Так здарылася і тут… Пан Збароўскі цягаўся да тутэйшых паноў, каб перапрасіць іх за той выпадак, а вяльможны пан Сакальніцкі 1000 залатых маскалям ахвяраваў, каб толькі яны ваду не каламуцілі. Усё дарма!

Спачатку, праўда, было ціха… Мы сабе жылі, маскалі сабе… Хоць і сціснуўшы зубы, адзін аднаго цярпелі. Але дзе ціха — там і ліха! За два дні да Кветнай нядзелі яшчэ адзін боўдзіла, stultus magnum[1], нехта Ксаверы Заблоцкі забраў гвалтам дачку баярына, які разам з ёй і з жонкай вяртаўся з лазні… Быў той Заблоцкі з лісоўчыкаў[2], вырвівока і не тое каб пан, а так — адзін раз сядзеў побач з панам, падпанак. Здаецца, са Смаленскага ваяводства. Не варта было б яго тут і згадваць, калі б не прыкры для нас працяг… Баярын гэтак блізка ўзяў да сэрца тое сваё няшчасце, што загадаў дворні вастрыць сякеры і мячы. Зразумела, на чыю шкуру рыхтавалася паляванне. У Вялікі аўторак усе званы, якія былі ў тым паганым месце, пачалі гаркатаць і скавытаць, склікаючы маскавітаў на помсту. Магчыма, усё б неяк супакоілася… Калі б не той кляты баярын. Выхапіў ён шаблю і разам з пахолкамі падскочыў да некалькіх нашых жаўнераў. Тыя спрабавалі бараніцца, ды дзе там… Сілы ж надта няроўныя! Выцялі жаўнерыкаў упень, ляжалі яны ў брудзе і крыві, пакуль маскалі не супакоіліся.

Тут трэба заўважыць тое, што маскавіты — людзі надта жорсткія і па сутнасці сваёй варварскія. Веру яны ўзялі сабе грэчаскую, надта падбітую ўсялякімі ерасямі і забабонамі. Цара свайго лічаць Богам, а абразы святыя трымаюць дома, нібы язычніцкіх ідалаў. Пан Маскевіч[3], мой даўні сябра і добрага розуму чалавек, распавядаў, як адзін маскавіт штодня прыносіў пад абраз ежу — яблыкі, хлеб, малако. За ўсё тое прасіў ён апостала Паўла, каб карова яго шчасліва ацялілася. Як на грэх, цяля з’явілася на свет нягеглым і хутка сканала. Раззлаваўся той чалавек ды і выкінуў абраз на сметнік. Пан Самуэль бажыўся, што нічога не выдумаў.

Але вернемся ut fons[4]… Тое, што адбывалася ў Кітай-горадзе, апісаць словамі я не ўмею. Колькі ні вучылі мяне красамоўству полацкія езуіты — усё дарма: нарадзіўся цяжкасловам, так і застануся ім да самай смерці. Пасля першай крыві маскавіты палявалі на нашых, нібы на ваўкоў. Паміралі ляхі і літвіны самай лютай, самай ганебнай смерцю. Згадаю тут пана Барэцкага, ротмістра мсціслаўскай харугвы. Вяртаўся ён з вячэры, якую ладзіў пан

---

[1] Вялікі дурань (лац.).
[2] Лісоўчыкі — лёгкая кавалерыя, якая часта набіралася з авантурыстаў і бандытаў.
[3] Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе Самуэль Маскевіч, аўтар вядомага дыярыуша.
[4] Да пачатку (лац.).

рэферэнт літоўскі, і ўжо быў каля Іванавай вежы, як заўважылі яго раз'юшаныя гультаі.

Калі б не выпіў пан Барэцкі на той вячэры дзве лішнія кварты пякучай аквавітаўкі, пэўная рэч, што ад тых маскалёў ён бы ўцёк. Да нашых муроў было ўсяго каля трыццаці крокаў. Зрабі ён хаця дзесяць з іх — і быў бы пад аховай нашых рушніц. Але пану Барэцкаму бракавала і хуткасці, і глузду. Пабег ён да вежы, але на паўдарозе чамусьці спыніўся, выхапіў з похвы шаблю і нібы апантаны кінуўся на маскву. Першым ударам сцяў ён галаву рудабародаму купцу, другім закалоў нейкага рабога схізматыка, а на трэцяй спробе папярхнуўся крывёю, асеў на зямлю і, спадзяюся, у тое ж імгненне выпусціў дух. Бо секлі яго на зямлі люта, рэзалі, рвалі на дробныя кавалкі… Так што мы, якія стаялі на сцяне, былі дужа напалоханыя. Ніколі наш народ не рабіў нічога падобнага. Гэтакай смерці не зычу я нават самаму горшаму з людзей. Барані мяне Божа ад падобнага лёсу!

На шчасце, шчыравалі маскалі не доўга… Хаця паспелі ўсё ж клятыя ерэтыкі і богапрадаўцы забіць не менш за сотню нашых. Палеглі Балабан, Горскі, малодшы Струсь — усе зацнай[1] крыві, старажытных клейнодаў, добрыя рыцары і каталікі. Вітай іх, Марыя! Ужо надвячоркам загадаў яснавяльможны пан Гансеўскі[2] выйсці чатыром панцырным харугвам з Крамля. Быццам вершнікі апакаліпсісу, праляцелі яны па Кітай-горадзе. Страшным, крывавым было іх жніво, секлі яны людзей, не зважаючы ні на ўзрост, ні на стан. Вешалі яны кабет на брамах іх дамоў, выразалі грудзі шляхетным паненкам, мужчын разрывалі на часткі коньмі, адсякалі схізматыкам ногі і рукі, пакідалі сцякаць крывёю ў брудзе на вуліцах. А колькі душ узляцела, пакінуўшы грэшнае цела на завостранай палі! Раніцай Кітай-горад нагадваў выпаленае, бязлюднае месца, па якім хадзілі, падціснуўшы хвасты, адно толькі агаломшаныя худыя сабакі.

Вартавыя, што стаялі на Іванавай вежы, казалі, нібыта на самым досвітку, калі ўжо справа была зробленая і нашы харугвы вярнуліся за сцены, з'явілася на крывавым небе камета. Мела тая камета дзіўны выгляд — была падобная да крыжа з распечанымі да чырвані бэлькамі. Ляцела тая камета ў бок нашай Рэчы Паспалітай, што было надзвычай дрэнным знакам…

**24 чэрвеня.** На Святога Яна ў Маскву вярнуліся Сапегавы харугвы, якія прывялі папаўненне і даставілі сякі-такі правіянт. Што зусім не было лішнім, бо мы ўжо з месяц харчаваліся толькі травой. Прыйшла да мяне дужа сумная навіна — памерла ў Нясвіжы мая дарагая маці, мастаўнічая пінская пані Барбара з Каліноўскіх. Пакінула яна па сабе невялічкі фальварак, які прыняла як мацярыстыя землі мая малодшая сятра Кацярына, жонка аршанскага пісара. Выпіў за спачын маці я ў кампаніі пана Карэцкага. Што праўда, перапіў яго, чым быў дужа задаволены.

---

[1] Зацнай (старапол.) — тут у значэнні «добрай».
[2] Маецца на ўвазе вяліжскі староста Аляксандр Корвін Гансеўскі.

З Варшавы прыйшла, насуперак чаканням, добрая навіна: на восеньскім сойме клятыя мярзотнікі і здраднікі Шуйскія пацалавалі руку нашага караля, прысягнулі яму ў вернасці. Хаця верыць тым маскалям не выпадае, усё ж з'явіўся такі-сякі, хісткі прывід надзеі на хуткае наша вяртанне ва ўлонне Радзімы. Бо ўжо набіла аскому Масква, надакучыла есці сухары і запіваць іх гнілой вадою. Але больш нясцерпным было суседства ляхаў, якія дужа назаляліся і межаў шляхецкай і хрысціянскай прыстойнасці не ведалі. З той прычыны павадзіўся я з ротмістрам Сакалінскім з Сандамірскага ваяводства. Доўга кпіў ён з мяне — папракаў нязграбнасцю, называў русінам і схізматыкам, што няпраўда, бо я шчыры католік і з дзядоў-прадзедаў — літвін. Калі ж той нахабны лях захацеў, каб я быў яшчэ і хамам, устаў я на ногі і сакавіта пляснуў яму між вушэй сваёй «галічаначкай». Той і паваліўся.

Як потым высветлілася — выпусціў палявода дух, за што я мусіў адказваць перад рыцарскім колам. Але дзякуючы заступніцтву і нястомнаму апекаванню нада мной святога Казіміра выйшаў сухім з вады. Яшчэ трэба распавесці пра тое, як Сапегавы харугвы ўваходзілі ў Крэмль і чым гэта ўсё завяршылася…

Перш чым казаць нешта далей, уяўляецца не лішнім згадаць адзін выпадак, які здарыўся ў Наваградку, куды мы разам з бацькам, нябожчыкам панам аршанскім каморнікам, ездзілі на павятовы соймік. Тады з немаведама якой прычыны дужа пасварыліся Радзівілы з Хадкевічамі, а вынікам той сваркі была бойка паміж намі. Падзеі адбываліся ў фарным касцёле. Варагуючыя партыі сталі па абодва бакі амбона і, не саромеючыся, здабылі з похваў шаблі. Ох, і секліся ж мы! Шкуматаў адзін брат шляхціц другога брата шляхціца так, што шматкі ад чубоў узляталі да самага даха касцёла, адкуль з прыкрасцю і агідаю глядзелі на ўсё гэта замяшанне анёлы і арханёлы.

Спынілася шляхта, толькі пачуўшы чароўную музыку, якая вылятала з сутарэнняў аргана. Мясцовы пробашч граў і спяваў на лаціне «Te Deum laudamus», і гэта было чароўна! Схілілі мы галовы і пападалі перад тымі анёльскімі гукамі на калені. Калі ўжо выплакалі мы ўсе слёзы, выцерпелі ўсе пакуты скрухі і як след наталіліся горыччу ад здзейсненага ў Божым доме блюзнерства, пачалі прыглядацца адзін да аднаго… І яшчэ раз пераканаліся ў надзвычайнай ласцы Пана да дзяцей сваіх! Як ні цяжка ў гэта паверыць, але пасля гэтакай тузаніны, гэтакага пекла ніхто з нас не пацярпеў і нават не быў паранены.

Разам узнеслі мы малітву падзякі да Езуса Хрыстуса і святых апосталаў, што стаяць каля пасада Божага і апякуюцца намі. Але зусім без крыві той дзень, што праўда, не завяршыўся… Соймікавы пісар, пан Пётр Савіцкі, схаваўся падчас бойкі пад сталом, дзе і сядзеў аж да таго моманту, пакуль хтосьці з прысутных у касцёле не стрэліў з рушніцы. Магчыма, тая рушніца стрэліла і сама… Наўрад ці хто прысягне на Святым пісанні, дзе тут праўда… Ісціна ж была ў тым, што пан пісар ляжаў пад сталом з прастрэленым жыватом і ціха канаў пад гукі чароўнага гімна. Чаму я згадаў гэты выпадак? Перадусім таму, што з прадзедаў жыве паміж людзей ісціна: не варта ўця-

каць ад свайго лёсу. Калі Бог пажадае, каб ты згінуў, — не схаваешся ад яго волі і на краі свету. А калі будзе яго вырак да цябе міласцівым — ні ў агні не згарыш, ні ў вадзе не патонеш. І ніякая куля, ніякая ліхаманка, ніякая трасца цябе не возьме…

Тым часам зноў я збочыў з бальшака. Зацяты наш вораг Ляпуноў[1] прыгнаў казакаў пад Маскву, забраў белыя муры і акружыў нас з усіх бакоў — так, што носа нельга было высунуць. Сядзелі мы прыцiснуўшы вушы, але час ад часу, каб не сумаваць, давалі ворагу поле. У той дзень, калі Сапегавы аддзелы наблізіліся да места, выйшлі мы з Мікульскай брамы і сталі недалёка ад муроў. Добра прывітаў маскавітаў пан Струсь, выкасіў іх левае крыло быццам касой. Пакуль вораг спрабаваў прыйсці да цямы, нашы і ўскочылі. Я таксама сваім у той дзень не шкодзіў — засек двух райтараў, яшчэ аднаго толькі пасвянціў, бо ён ад мяне палахлівым зайцам уцёк.

Вярнуліся мы ў муры і толькі зачыніліся, як вораг пачаў магутна штурмаваць Іванаву браму. Баранілі яе немцы — хаця і паганай лютэравай крыві, але дасканалыя ў вайсковай справе. Мы стаялі на мурах і толькі глядзелі, бо дапамагчы не было як. Немцаў тых было каля трох соцень. Трымаліся яны апошнім азартам. Пэўна б, і адбіліся, каб мелі пры сабе больш пораху. Узялі іх, крыўдна сказаць, голымі рукамі, або на абяцанку. А было так…

Папрасілі маскалі ў немцаў дазволу на «разгавор». З’явіўся перад вежай, як зараз памятаю, рабы даўгалыгі чорт на старой плюгавай кабыле дый давай гарлапаніць. Я па-маскоўску не дужа разумею, наша мова ад іх надта адрозная, але сёе-тое і я пачуў… Абяцаў маскаль немцам жыццё і «дарогу», што значыць дазвол на выхад з Крамля. Кляўся круцель усімі святымі і нават крыж цалаваў… Не першы раз цалаванне крыжа вораг на нішто пускаў, лішні прыклад чаму я пазней прывяду. Не захацелі немцы даверыць жыццё Богу, але даверылі шатану. Выйшлі яны з брамы і кінулі зброю пад ногі маскве. Шасцёра толькі адмовіліся злазіць з гарышча. Засталіся яны жывымі. Заўжды так бывае: той, хто гонар ставіць вышэй за жыццё, у выніку і гонар, і жыццё пры сабе пакідае.

Выкапалі маскалі насупраць нашых сцен глыбокую канаву. Стараліся вырадкі, каб мы ўсё тое бачылі і на вус маталі. Падводзілі немцаў аднаго за другім да шырокай калодкі, а кат небаракам галаву сцінаў. Так да вечара з добрую сотню безгаловых ляглі адзін на аднаго і так ляжалі да самай зімы, пакуль снегам іх не засыпала. Астатніх немцаў маскавіты ў сваёй гнілой рэчцы ўтапілі. Камень на шыю — і бывай. Кажу так, як ёсць! Не шкада нам было немцаў, бо самі ў сваёй смерці былі яны вінаватыя.

**24 жніўня.** На святога Барталамея прыцягнуўся пад маскоўскія муры яго міласць вялікі гетман пан Ян Караль Хадкевіч з невялікім аддзелам сваіх літвінаў. Мы спачатку былі дужа ўсцешаныя, шмат хто з нас плакаў ад радасці, а потым, калі высветлілася, што гетман прывёў усяго жменю райтараў,

---

[1] Маецца на ўвазе адзін з правадыроў маскоўскага апалчэння Пракоп Ляпуноў.

плакалі мы ўжо ад злосці. Бо становішча замкавай залогі было катастрафічным. Яшчэ на пачатку жніўня быў даедзены апошні сухар і выпіты апошні кубак віна. Як калісьці мы не ведалі межаў сваёй распусце і марнатраўству, так зараз мы марылі хаця б пра самыя простыя рэчы. У сярэдзіне жніўня мы вылавілі і з'елі ўсіх сабак, катоў, крумкачоў і нават шчуроў. Прыкра гэта згадваць, але ад таго часу пачалося самае страшнае, што можа здарыцца з чалавекам, — людажэрства. Mea maxima culpa[1], але і я навек запляміў сваё імя ўсім тым паскудствам, усёй той ганьбай. Адбылося ж наступнае.

Быў я чалавекам ужо немаладога веку… Меў за плячамі аж сорак гадочкаў. З іх 9 гадоў быў у шлюбе з удавой пана Кныскага, навагрудскага лоўчага. Ад таго шлюбу нарадзілася трое дзетак, а маёмасць мая аздобілася двума млынамі ды возерам, у якім плавала прыдатная да патэльні стронга. Усё б было добра ў маім жыцці, каб не адно «але», якое чорт мне на маю пагібель падкінуў. Быў я жахлівым, што ўжо тут хаваць, бабнікам… Не мінаў аніводнай спадніцы, нават калі апранутая яна была на старую сраку. Грэх гэты жонка мне некалькі разоў даравала, я ж, у сваю чаргу, некалькі разоў дараваў ёй. Неаднаразова заракаўся я бегаць за белагаловымі, нават колькі золата ахвяраваў айцам віленскім езуітам дзеля таго, каб яны мяне ад гэтай клятай пацягі пазбавілі. Але як высветлілася, золата тое лепей бы я ўтапіў у рэчцы…

Пачалося ўсё з таго, што на Пятра і Паўла адправіў мяне пан Збароўскі ў пад'езд разам з таварышам сваёй харугвы панам Юзафам Багаткевічам. Было разам з намі каля 20 лісоўчыкаў. Рушылі мы ноччу, нейкім дзіўным чынам праслізнулі між казакаў Ляпунова і з Божай дапамогай на досвітку апынуліся за рэчкай. Колькі часу блукалі па лесе і апоўдні напароліся на маскоўскі абоз. Ахоўвалі яго ўзброеныя рушніцамі данцы[2]. Вырашылі мы з панам Багаткевічам пажывіцца. Калі Бог сам здабычу ў рукі дае — грэх ад яе адмаўляцца. Зайшлі мы ворагу наперад і, звычаем лісоўчыкаў, ударылі на маскавітаў з засекі. Тыя, як потым высветлілася, ніяк не чакалі небяспекі гэтак далёка ад сталіцы і ехалі сабе нага за нагу. Спачатку мы сыпанулі па маскве кулямі, а потым тых, хто выжыў, пасеклі шаблямі. Усяго таго жніва было — адно імгненне. Праўда, тыя, што ехалі ззаду, паўцякалі. Але мы наўздагон не паляцелі, бо не было патрэбы. Ды і не знайшлі б мы тых басякоў у цёмным, непралазным лесе.

Абоз быў багаты, ды нам не дужа цікавы: дываны, посуд срэбраны, сукно кармазінавае ды бабровыя шкуры. Відно было, што належыць усё гэта чалавеку вяльможнаму. Але, як кажуць, што тая талерка залатая, калі ў яе няма чаго пакласці? Нават кавалка хлеба не знайшлі мы ў тым маскоўскім абозе. А голад сярод нас быў дужа люты. Хацелі ўжо плюнуць на тое багацце ды шукаць фартуны далей, як зачапілася маё вока за адзін воз. Ляжала на ім рознакаляровая жаночая вопратка. Быў той воз глыбокі і не раўняй большы

---

[1] Мая вялікая віна (лац.).
[2] Данскія казакі.

за астатнія. Скінуў я на зямлю сукні ды спадніцы і знайшоў на самым долу паненку. Ды гэтакай невыказальнай прыгажосці, што душа мая самлела.

Стаю, гляджу на яе і варухнуцца баюся. А дзяўчо ўскочыла на ногі ды пачала ўкленчваць. Відно было, што дужа нас баіцца. Кажу ёй: «Чаго ты, дурненькая?» А яна — плакаць. Я яе рукі ў свае рукі ўзяў і адчуў, што прападаю. Такая мілата на мяне накінулася, такі салодкі водар разліўся па маіх чэлесах, што здавалася — дзеля яе куды заўгодна: хоць у пекла, хоць чорту на рогі. Прыхінуў я тую яскулэчку да грудзі, пачаў яе суцяшаць ласкавымі словамі, шаптаў ёй пацеры і наогул, як расказваў мне потым пан Юзаф, паводзіў сябе, як шчанюк на першым спатканні. Але для мяне гэта ніякі не сорам.

Забраў я дзяўчо з сабой. Была яна танюткая, нібы травінка ў полі. Вочы ж у яе былі блакітныя-блакітныя, быццам влоскае неба, вусны чырвоныя, а галоўнае — доўгая, ледзь не да самай зямлі, пшанічнага колеру каса. Нават панскі анёл не меў гэтакага прывабнага выгляду.

Жыла яна разам са мной у белых мурах. Спачатку ўсё плакала ды ўцякала, але ласкавасцю ды міласэрнасцю я яе супакоіў, а потым і саграшыў. Mea maxima culpa! Але як салодка грашылася! Як спявала кожная драбінка майго цела, як шумела ў галаве ад хмелю кахання, якімі чароўнымі гукамі аддаваўся ў маёй душы кожны яе стогн. Грэх! Грэх… Грэх… І чорт з ім, са мной, з тым і з гэтым светам! Забыўся я на голад, на маскалёў і на самога сябе.

Былі ж тыя часы для нас дужа цяжкія. На рыцарскім коле было вырашана сканфедэравацца і даслаць да пана літоўскага рэферэнта паслоў. Былі гэта паны Міхал Крыцкі і Пётр Гарахоўскі. Прасілі яны аддаць ім двух палонных — тлустага купца і маладзенькага маскаліка, у якога яшчэ і вусоў не было. Пан рэферэнт даў загад варце. Цяжка пісаць пра тое, што было далей. Езусе, даруй нам, бо дайшлі мы да мяжы чалавечага трывання. Спачатку пан Крыцкі перарэзаў горла купцу, а потым успароў яму жывот, адкуль вываліліся кішкі. Тады гэта нікога не здзівіла, а між тым здзіўляцца было чаму, бо кішкі былі набітыя залатоўкамі, якія потым таварышы па-людску падзялілі. Купца ж таго грамада наша з’ела. Пра што сорамна зараз згадваць. Маладзён жа ўсё гэта бачыў і ад жудасці страціў розум. Мы яго нават адвязалі, хадзіў ён па пляцы, нібы толькі што народжанае цяля, бяздумнымі вачамі глядзеў на свет і па-вар’яцку ўсміхаўся. Шкада яго было забіваць. Але голад свайго дапяў.

Тым часам дайшлі да нас не дужа прыемныя чуткі. Рухаліся ў бок Масквы новыя палкі на чале з Пажарскім. У сталіцы ж на той час усё было дужа дарагім: за ялавічыну — 600 злотых, 3 — за вераб’я, 15 — за сароку або варону. Нарэшце дайшла справа да рокашу[1] — панове з Сандамірскага ваяводства ўзбунтаваліся і пастанавілі пакінуць Крэмль. Праўда, пану Збароўскаму[2] ўдалося іх пераканаць. Запрасіў ён ракашан на банкет і загадаў накрываць на стол. Гэтакімі стравамі частаваў: сухарамі заплеснелымі з хрэнам, квасам

[1] Тут — збройнае паўстанне.
[2] Аляксандр Збароўскі — адзін з кіраўнікоў гарнізона ў Крамлі.

або, хутчэй, вадой замест віна. Жаўнеры адзін з адным ціхусенька перамовіліся, з'елі крыху тых гасцінцаў і вярнуліся на муры. Там яго міласць пан літоўскі рэферэнт звярнуўся да іх з прамовай:

— Мосці панове, браты! Не загінула і ніколі не загіне вечная ваша слава. Бо забыўшыся на ўласнае жыццё, у імя караля яго міласці такую вялікую галечу вы церпіце.

Таксама і яго міласць пан Збароўскі сказаў:

— Чакаем мы караля, каб гэта месца сталічнае яму ў рукі аддаць.

На што рыцарства адказвала:

—Трымаліся так доўга — пратрымаемся і яшчэ крыху!

Але голад быў зусім ужо нязносны. Людзі паміралі як мухі. Елі тое, што здолелі дастаць: сабак, катоў, шчуроў, людзей. Аднойчы прыйшлі немцы да суддзі вайсковага пана Аляксандра Кавініцкага — у справах рыцарскіх і судовых дасведчанага, — скардзіліся на голад. Ён нічога не мог даць ім, апроч двух вязняў, потым яшчэ трох. Таксама калі каго заб'юць падчас бою, яго забіралі для харчавання. І я, калі б Бог папусціў злое, пэўна б, быў з'едзены маімі ўласнымі таварышамі.

А тым часам зноў даслаў мяне пан Збароўскі разам з лісоўчыкамі ў пад'езд. Паскудная, скажу я вам, была кампанія, агідна было выконваць свае абавязкі. Лісоўчыкі — людзі здрадлівыя, варварскія, схільныя да злачынстваў і ласыя да чужога. Камандаваў жа імі такі палівода і круцель, якіх свет не бачыў. Звалі яго панам Цыпрыянам Глінскім, аднекуль з Пінскага ваяводства. Пра такіх, як Глінскі, кажуць: лепей з разумным згубіць, чым з дурнем знайсці. Гэту мудрасць я спазнаў на ўласнай шкуры.

Удалося нам адбіць у маскалёў куфар з залатоўкамі. Ды неяк нечакана нам тое шчасце перапала. Знайшлі куфар пад амбонам у старым мужчынскім кляштары. Вырашыў я па старому рыцарскаму звычаю падзяліць тое золата паміж намі ўсімі. І толькі адкрыў куфар, каб пералічыць манеты, Глінскі кажа:

— Не спяшайся, ваша!

— Позна ўжо, — адказваю. — Ды і вораг навокал.

— Не лічы тое, васпане, што не тваё!

— Вось яно як! — кажу і сам адчуваю, што пачынаю шалець ад гневу. — Мо пан скажа чыё?

— Маё гэта золата! — з лютасцю выгукнуў Глінскі і выхапіў шаблю з похваў. Нейкім цудам мая галава засталася на плячах. У той момант, калі эксцэсант цэліў мне ў шыю, я ад нечаканасці паслізнуўся і бразнуўся на зямлю. Так што лязо толькі крыху прайшлося па макушцы. Усхапіўся я на ногі, жадаючы высекчы з гэтага чорта ўсе іскры, але сваю «галічаначку» здабыць не паспеў. Абступілі мяне лісоўчыкі з усіх бакоў, і адзін з іх — няхай яму на тым свеце д'ябал распечанымі вуглямі аддзячыць — ударыў мяне рушніцай па лбе, ды гэтак хвацка, што ледзь не выцягнуў я ногі.

Прыйшоў я да цямы ўначы. Ляжаў я на возе, без кунтуша, без пояса, без чамаркі і без шаблі, везла мяне па шляху насустрач поўні худая брыдкага

выгляду кабыла. Цела маё жахліва балела, з цяжкасцю расплюшчваў я вочы і не мог ні пра што думаць, бо кожная думка пякельна свідравала мае мазгі.

*На гэтым успаміны пана Яцка Завішы перарываюцца. У запісах, якія патрапілі мне ў рукі, было вырвана колькі старонак. Працягвае пан Яцак сваё апавяданне падзеямі, якія адбыліся пасля вяртання з Масквы. Шляхціц браў удзел у вайсковым рокашы, а таксама ўдзельнічаў у паходах супраць Буджакскай арды. Але пра гэта я паведамлю пазней, бо пакуль што не маю часу для перакладу.*

# ДЭБЮТ



## *Да 30-годдзя стварэння Таварыства беларускай мовы і яго Магілёўскай арганізацыі*

### Шкадоба стала любоўю… і каханнем

Яна нарадзілася ў Маскве. Але жыць там давялося мала. Пасляваенны лёс закінуў сям'ю ў Гомель. Бацька, фрэзероўшчык з залатымі рукамі, будаваў завод. А яна вучылася. У класе, дзе былі пераважна дзецi высокага гарадскога начальства i вайскоўцаў, усё падавалася на зразумелай для яе рускай мове. Але былі ўрокі не вельмі зразумелай беларускай мовы, урокі, нікому там не патрэбныя. Настаўніцу ніхто не слухаў. І дзяўчыне стала яе шкада. Яна сядзела на першай парце і слухала. Калі настаўніца задавала вывучыць верш — вывучвала ці не адзіная ў класе. Зусім не за тое, каб атрымаць «пяцёрку». Шкадавала настаўніцу. Калі тая задала вывучыць урывак з паэмы «Бандароўна», вывучыла ўсю паэму.

На ўступным іспыце ў інстытут замежных моваў у білеце было пытанне пра Янку Купалу. Выкладчык прапанаваў не распавядаць нейкіх тэорый, а прачытаць, што ведае з Купалы. Яна пачала «Бандароўну». Ён даслухаў да паловы, потым спыніў, паставіў «пяцёрку».

У інстытуце яе заўважыў цікавы беларускі хлопец. І яна закахалася. Ягоная мова стала для яе роднай, настолькі роднай, што яна стала пісаць беларускія вершы. Нікому іх не паказвала, акрамя мужа. Сёння яе першы выхад «на людзі».

Міхась Булавацкі

**В а л я н ц і н а   С а д о ў с к а я**

# ВЕРШЫ ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ ДЗЕТАК

## Сямейны альбом

Вечар. Лямпа ярка свеціць.
У гасцёўні за сталом
Разглядаем з дзедам Пецем
Мы сямейны наш альбом.
    Дзед цярпліва мне тлумачыць,
    Як каго мне называць.
    Трэба ўсіх мне ведаць, значыць,
    І, канешне, паважаць.
Тут — сястрыца Лізавета,
Гарадзейская радня.
— Як сястра? Дык цётка ж гэта,
Гаварыў ты мне штодня…
    Баба Лёля, дзядзька Чэська,
    Той, што з чорнай барадой.
    — І пры чым тут зяць Алеська,
    Калі гэта татка мой?
Гэты — з Слуцка, той — палескі,
Гэты — нейчы там айчым…
Хто тут зяць, а хто нявесткі, —
Я заблытаўся зусім.
    Тыя твары мне, паверце,
    Будуць сніцца па начах.
    Мне ад гэтай кругаверці
    Скачуць зорачкі ў вачах.
Сваякоў у нас багата!
Вось бы разам іх сабраць
Ды ад кожнага на свята
Падарунак атрымаць!

## Дзень народзінаў

Я прымаю падарункі,
Сёння ў мяне свята.
Кветкі, цацачкі, ласункі
Мне нясуць дзяўчаты

Сябра Ясь прынёс малюнак,
Ды скажу я шчыра:
Самы лепшы падарунак
Мама мне зрабіла.

Як? — не ведаю пакуль я,
Не чакаў такога:
Нарадзіла мне матуля
Браціка малога.

## Хто ён?

Ён такі адзіны ў свеце,
Мой любімы, дарагі.
І наўрад ці на планеце
Знойдзецца такі другі.

Ён будуе, рамантуе,
Адмысловы ён спявак,
Ежу смачную гатуе,
А малюе — як мастак!

Для мяне ён проста геній,
Проста казачны герой.
Вы, напэўна, зразумелі:
Гэты дзядзька — татка мой!

## Віншаванне да 8 Сакавіка

Слушна ў гэты дзень вясновы
Пра жанчын нам гаварыць.
І хачу я тыя словы
Любай маме прысвяціць.

Часам неслух я, задзіра,
Але гэта ўсё міне.
Я не стану рэкецірам,
Не хвалюйся за мяне.

Буду хлопцам паслухмяным,
Буду браціка любіць,
Каб цябе ніколі, мама,
У жыцці не засмуціць.

Кажуць, пойдзем мы ў Расію —
Ты не вер у гэты блеф.
Каб зрабіць цябе шчаслівай,
Запішуся ў БНФ.

## Янка захварэў

Захварэў маленькі Янка,
Не гуляе ён, не спіць,
Плача з вечара да ранку:
«У мяне жывот баліць!»
    «Вытры тварык, вось насоўка», —
    Доктар кажа хлапчуку,
    Гладзіць светлую галоўку,
    Лашчыць Янкаву руку.
Лёгка мацае жывоцік:
«Дзе баліць, не плач, скажы.
Разявай шырока роцік,
Язычок мне пакажы!»
    «Не! — праз слёзы шэпча Янка
    Па сакрэту, сам-насам, —
    Мне язык паказваць мамка
    Не дазволіць нават вам…»

## Дзе жывуць звяры

Мама, дзе жывуць звяры?
Ў цырку, — кажа мама, —
ў заапарку, у бары
і ў людзей таксама:
    Хамячок — у Стасіка,
    рыбкі — у Юрасіка,
    котка шэрая — у Дашы,
    птушка ў клетцы — у Наташы.
    А маленькі Грышка
    мае дома мышку,
    што без ежы і вады,
    ля камп’ютара заўжды.

Мышка мае ўласны нік —
«Маус-брауз-логін-клік».

# І ДЛЯ ДЗЕТАК СТАРЭЙШЫХ

## Я — беларус

Я — беларус, не бачыў я Парыжа.
Хоць пабываць там — гонар і прэстыж.
Мне клінам свет сышоўся на Нясвіжы,
І для мяне сапраўдны ён Парыж.
Я — беларус, не быў я на Канарах.
Тамтэйшых цудаў не спазнаў дасюль.
Вандрую я па свеце толькі ў марах.
Жыву я сціпла ў Полацку пакуль.
Тут Еўфрасінні дух вітае ў храме,
Спаткаць магу Скарыну сам-насам.
Нічога, што не быў я ў Амстэрдаме,
Мне Полацк — мой Парыж, мой Амстэрдам.
Я — беларус, мой лёс — тут нарадзіцца,
Паветрам дыхаць пушчаў ды лугоў,
З крыніц святых вадою наталіцца,
Да скону шанаваць сваіх багоў.
Хто там ідзе? — паэты нам гукаюць.
Я, беларус, я гонар маю свой.
Тут слуцкія ткачыхі мне ўплятаюць
Блакітны васілёк у модны строй.
Не забывайце мовы, каб не ўмёрлі, —
Мне Багушэвіч шле свой запавет.
Я — беларус, і нешта цісне ў горле:
Не здраджу я, спакойна спі, паэт.
Набатам зноў гучаць прарока словы,
Канае мова — гэта знак бяды.
Мы Быкаву паклясціся гатовы
Наш скарб адвечны бараніць заўжды…
Я адчуваю подых навальніцы,
Наваражыў нам Мележ новы час,
Калі за мову нашу будзем біцца,
Як за матулю, ўвесь астатні час.
Я — беларус, я сціплы і цярплівы,
Сваё, а не чужое трэба нам.
І мовы скарб, як гаспадар руплівы,
На згубу я нікому не аддам.

# Нашчадак Мацея Бурачка

21 сакавіка 2018 года, у Міжнародны дзень паэзіі, у цэнтры дзіцячай творчасці «Эверэст» прайшоў III гарадскі конкурс вакалу і мастацкага чытання «Магілёўскія зорачкі». І спевы, і вершы на гэтым конкурсе гучаць толькі на беларускай мове, таму гэты конкурс — унікальная з’ява дзіцячай творчасці Магілёва. Конкурс праводзіцца ў трох узроставых катэгорыях: 6–9 гадоў, 10–13 гадоў і 14–18 гадоў. Бываюць выключэнні: на пазамінулым конкурсе бурныя воплескі слухачоў і журы выклікала песенька «Цік-так, ходзікі, мне чатыры гадзікі…», якую выканала чатырохгадовая дзяўчынка.

Радуе, што конкурс набывае папулярнасць: на гэты раз у намінацыі «Мастацкае чытанне», дзе аўтар гэтых радкоў быў сярод чальцоў журы ад Таварыства беларускай мовы, удзельнічалі ажно 72 прэтэндэнты з розных навучальных устаноў горада. Варта адзначыць, што ўдзельнікі парадавалі не толькі сваёй колькасцю, але і выбарам твораў для чытання, і якасцю выканальніцкага майстэрства. Шасцёра з іх чыталі вершы ўласнай творчасці, што асабліва кранала журы. І невыпадкова Гран-пры ў гэтай намінацыі атрымала адна з гэтай шасцёркі — дзесяцікласніца школы № 40 Насця Мацюліна, якая пранікнёна выканала свой верш, прысвечаны Мацею Бурачку (Францішку Багушэвічу), «адвакату роднай мовы».

Насця пісала вершы і раней, але пісала на рускай мове. Гэты твор — першая спроба вершаскладання на роднай мове. І, не ведаючы яе ранейшых вершаў, магу ўпэўнена сказаць, што ён варты ўсіх ранейшых, разам узятых. Яна раптам адчула сябе нашчадкам Мацея Бурачка. Вельмі адказнае адчуванне.

Міхась Булавацкі

## Насця Мацюліна

### Наказ

> На ўсю Беларусь мільён пракурораў
> І толькі адзін, толькі ён адвакат.
> *Рыгор Семашкевіч*

Ён быў адвакатам не толькі
Сялянскаму простаму люду.
Ён быў адвакатам для мовы,
Для мовы сваёй беларускай:
*— Вы паслухайце, людзі добрыя,*
*Людзі добрыя, беларускія!*
*На судзе перад вамі і Богам я*
*За мову сваю заступлюся…*
*Ніякая яна не «мужыцкая»*
*Дый не горшая за французскую.*
*Мова наша напеўная, чыстая,*
*Мова наша такая ж людская!*
*Ну чаму ж мы такія бяздольныя?*
*Родных словаў чаму выракаемся?*
*І пісаць мы па-свойму не здольныя,*
*І з мовы свае насміхаемся…*
*Яна ж Богам навекі нам дадзена,*
*Каб душы нашай стаць адзежынай!*
*Яна продкамі ў генах закладзена,*
*Каб нашчадкам быць годна данесенай.*
*Шмат народаў, на мову забыўшы,*
*Адышлі з анямелым горлам.*
*Мову родную ў сэрцах стуліўшы,*
*Не пакіньце яе, каб не ўмёрлі!»*
…Да словаў Мацея мы зараз
Схіляемся ў думах і ў сэрцах.
Нам гэты наказ назаўсёды.
Як сцяг, тыя словы трымаем.
Жыццём той наказ мы пацвердзім,
Сынам перадаць сваім зможам.
Жыві, Беларуская Мова,
Бо ёсць у цябе адвакаты!

# ПЕРАКЛАДЫ



**Гіём Апалінэр**

*Да стагоддзя з дня смерці (9 лістапада 2018 г.)*

## З КНІГІ «БЕСТЫЯРЫЮМ, АБО КАРТЭЖ АРФЕЯ»

### Котка

Мне хочацца, каб у жытле маім
Была жанчына, быццам херувім.
Таксама каб жыла там котка,
Сябры былі — заўсёды рады ім,
Бо без сяброў мне так маркотна!

### Мыш

О дні мае — вы мышы часу,
Жыццё вы точыце патроху.
Я дваццаць восем назапасіў
Гадоў, але куды я крочу?..

---

**Гіём Апалінэр**
**(Уладзімір Кастравіцкі)**

Славуты французскі паэт Гіём Апалінэр (Вільгельм Альберт Уладзімір Аляксандр Апалінарый Вонж-Кастравіцкі; 1880–1918) паходзіў з беларускага шляхецкага роду Кастравіцкіх. Яго маці Анжаліка Кастравіцкая была дачкой штабс-капітана расійскага войска Міхала-Апалінарыя Кастравіцкага, які ўдзельнічаў у паўстанні 1863 года. Радавы маёнтак Кастравіцкіх Дарожкавічы (Дзісеншчына) быў канфіскаваны пасля паўстання расійскім урадам. Дзед Апалінэра з сям’ёй эміграваў у Італію. Там і нарадзіўся Апалінэр, там прайшло яго дзяцінства.

## Слон

Як біўні мае слон, я словы маю ў роце,
Яны — каштоўны скарб, аснова ўсіх асноў.
І мёртвы пурпур ваш і славу ў пазалоце
Купляю я за кошт маіх магічных слоў.

## Блыха

Блохі, сябры і любімыя нават
Жорсткія з намі і кроў п’юць трывала.
Толькі для іх і цячэ наша кроў,
Што ж тут паробіш — такая любоў!

## Саранча

Вось маленькія акрыды:
Ян Святы еў — не забудзем.
Ёсць у вершаў тыя ж віды —
Быць ласункам добрым людзям.

## Рак

О мой сумнеў, ты асалода,
З табой мы ходзім, бы атрад, —
Як ракі, — быццам бы так модна, —
Усё назад, усё назад…

# З КНІГІ «АЛКАГОЛІ»

## Ані

На ўзбярэжжы Тэхаса
Па дарозе з порта Мабіл на Галвестон
Ёсць вялікі сад які ўвесь у ружах
У ім схавалася віла кветкам у тон
Што й сама на ружу падобная дужа

Вельмі часта жанчыну адну
У гэтым садзе я бачу
І калі я міма іду
То сустрэцца з ёй поглядам мне
Гэта такая ўдача

А паколькі яна менанітка
Ані ў сэрцы яе ані ў адзенні
Без усялякай надзеі
Няма гузікаў менавіта
Два з іх згубіў невядома дзе я
Мы адзінай веры з вамі лэдзі

## Познацвет

Луг увосень атрутны падманна прыгожы
І атручвае статкі ягоная пожня
Толькі вось паглядзі заквітнеў познацвет
Сіні колер яго колер воч колер бед
У вачах тваіх фарбы квітнеюць так шчыра
І атручаны я тваімі вачыма

З крыкам шумам са школы бягуць шкаляры
Але сумна ім тут у гэтым двары
І збягаюць на луг дзе ірвуць познацветы
Той жа колер у іх як з мінулага лета

І расквечаны ім жа вочы твае

Ціха песню пастух спявае ў паўсне
І ў нябыт назаўсёды брыдзе статак новы
Праз мурог праз увесь луг атрутна-ліловы

## З КНІГІ «КАЛІГРАМЫ»

### Маленькі аўтамабіль

31 жніўня 1914 года
Я пакінуў Давіль незадоўга да поўначы
У невялікім аўтамабілі Рувэра
Разам з кіроўцам нас было трое

Мы сказалі да пабачэння цэлай эпосе
Лютыя волаты ўздымаліся над Еўропай
Арлы ў чаканні сонца пакідалі свае гнёзды
Пражэрлівыя рыбы падымаліся з бездані
Народы сцякаліся для апошніх ведаў пра сябе
Мёртвыя дрыжалі ад страху ў цёмных сваіх дамавінах

Сабакі брахалі ў той бок дзе межы былі
Я ад’язджаў і ўва мне ўсе гэтыя арміі ваявалі
Я адчуваў як яны падымаюцца і паўзуць па краінах
Былі ўва мне лясы і вёскі шчаслівыя Бельгіі
Франкаршам[1] Лё Руж[2] Пухон[3]
Рэгіён праз які заўсёды ідзе ўварванне
Чыгуначныя артэрыі дзе тыя хто ішоў паміраць
Яшчэ раз віталіся з гэтым жыццём што насычана яркімі фарбамі
Глыбокія акіяны дзе ў каркасах караблёў патанулых
Варушацца монстры
Неверагодныя вышыні дзе чалавек
Лунае вышэй чым арол
Дзе чалавек змагаецца супраць чалавека
І раптам падае ўніз нібыта зорка ўначы

Я адчуваў у сабе як новыя істоты поўныя спрыту
Праектавалі і затым будавалі новы сусвет
Неверагодна багаты гандляр вялікага росту
Размяшчаў свой тавар на незвычайнай вітрыне
І гіганцкія пастухі вялі
Вялікія нямыя статкі якія скублі словы
І на іх брахалі ўсе сабакі пры дарозе

---

[1] Франкаршам — бельгійская вёска, якая належыць муніцыпалітэту Stavelot, дзе Апалінэр жыў ва ўзросце 19 гадоў, працуючы хатнім настаўнікам. 8 жніўня 1914 года, у пачатку Першай сусветнай вайны, нямецкімі войскамі ў гэтай вёсцы былі расстраляны 14 мірных жыхароў і разбураны 25 дамоў.
[2] Лё Руж — бельгійская рака.
[3] Пухон — крыніца з мінеральнай вадой у бельгійскім горадзе Спа.

*Я ніколі не забуду гэтага начнога падарожжа*
*Падчас якога ніхто з нас не сказаў ні слова*
*О гэты ад’езд у цемру дзе паміралі нашыя тры фары*
*О пяшчота даваеннай ночы*
*О вёскі дзе куюць нянавісць*
*Тэрмінова выкліканыя кавалі*
*Якіх пазвалі паміж поўначчу і першай гадзінай*
*І мы несліся да сіняга Лізьё*[1]
*Й да залатога Версалю*
*І тройчы мы спыняліся каб замяніць шыну*
*Якая тройчы ўзрывалася*[2]

І калі правёўшы другую палову дня ў Фантэнбло[3]
Мы прыбылі ў Парыж
У той час як там ужо аб’яўлялі пра мабілізацыю
Мы зразумелі абодва мой сябар і я
Што гэты маленькі аўтамабіль прывёз нас у новую эпоху
І што будучы ўжо сталымі людзьмі
Насамрэч мы толькі што нарадзіліся

*Пераклаў з французскай Анатоль Санаценка.*
*Каментар Анатоля Санаценкі*

**Заўвага**. Да 100-годдзя з дня смерці Гіёма Апалінэра пісьменнік, перакладчык Анатоль Санаценка зладзіў двухмесячны літаратурны марафон — кожны дзень выкладваў у сваім блогу на партале «Бабруйскі кур’ер» па адным перакладзеным вершы паэта. http://babruysk.by/litaraturny-marafon-imya-giyoma-apalinera/

---

[1] Лізьё — камуна ў Нармандыі, на паўночным захадзе Францыі; знаходзіцца ў рэгіёне Ніжняя Нармандыя.
[2] Курсівам вылучаны той фрагмент верша, які ў Апалінэра прадстаўлены ў выглядзе каліграмы — графічнай выявы аўтамабіля.
[3] Фантэнбло — камуна, што размешчана ў дэпартаменце Сена і Марна ў рэгіёне Іль-дэ-Франс, на паўднёвы ўсход ад Парыжа.

## Юры Раманаў

* * *

У пакоі ўдваіх — я і Ленін —
Усяго тамоў пяцьдзясят, не болей.
Перад табою я б стаў на калені,
Я б дапоўз да цябе… Калі б здолеў.
Ўчора — свята. Цяпер — поле бою,
Над якім крычыць вараннё.
Я ж учора — за тваё здароўе! —
Падарваў здароўе сваё.
Падарваў, але выпіў да кроплі
(Кропель тых дастаткова было),
А потым з грацыёзнасцю чаплі
Ішоў да цябе. Усім вятрам на зло.
Прывітанне нёс, пажаданне здароўя,
Ўсіх дабротаў — на любы густ і смак,
Снег вясновы крывёю потым
Барваваў праз варожы кулак.
Вось не ўпэўнены я ў апошнім —
Свята. Мо шчэ трызню пры гэтым —
Такім вось нялёгкім коштам
Пацвярджаю званне Паэта.
Пацвярджаю Рыцара званне,
Каб за даму — сто грамаў. Ці ў бой.
Ты чамусьці пра развітанне?
Дык я ж учора захапляўся табой!
У пакоі ўдваіх — я і Ленін.
Ды ад свята — камяк стаў у горле.
Перад табою я б стаў на калені…
Я б папоўз да цябе… Калі б здолеў!

* * *

Дзесяць год на аскепках імперыі,
У абсалютны туман угледзеўшыся,
Як дзіця разгубленасць песціўшы,
З ізатэрыкі — у істэрыку.

Усе жаданні — у тэлевізары,
Усе магчымасці — алкагольныя,
Паміж палюсамі-ізмамі
Прадзіраўленай лодачкай кволай.

Як знайсціся, калі ўсе разгубленыя,
Толькі б цень ніяк не адкідваць…
Корпаюцца ў восеньскіх лужынах,
Просяць мёртвых багоў — выратаваць.

* * *

Што бацькі не даелі, мы даядзім,
Што маці не данасілі, мы даносім…
Марш свабоды.
Ідзі.
Адсюль.
Адзін.
З лета — у зіму. З вясны — у восень.

Нашто паплечнікі, калі яны прададуць?
Нашто сябры, у якіх — «дело»?
Міма калонаў ісусаў-іуд
У адзіноце нясці сваё цела.

* * *

Недзе на далёкім ускрайку неба,
Дзе ўсё — дагары нагамі,
Завалілася мая скібачка хлеба,
Зачапіўся за край мой акрайчык.

*Пераклаў з рускай Юры Несцярэнка*

**Яўген Лукін**

## Песенька пра варагаў

Кажуць, варагі былі таксама славяне:
Гібелі ў пазыках, няшчадна пілі;
Ад словаў, выпадкова імі сказаных,
Правісала ў цераме столь да зямлі.

Мы ведаць не ведалі, што за варагі.
Мы думалі: немцы, прыстойныя людзі.
Адвернуць ад бражкі, закрыюць біклажкі,
Ямы ля брамы засыпаны будуць.

Ад брудных пасадаў — дрэнны асадак.
Замест храма — дзясятак сукаватых пален.
Пражыві без варагаў, калі няма ладу
І пад кожным карчом — нецвярозы славен!

Варагі прыйшлі. Выглядалі выдатна —
За вярсту перагар ды мат-перамат!
І ад іхнага мату стала поле гарбатым,
Небяспечна пасунулася столь у церамах…

Кажуць, варагі былі таксама славяне.
Казалі тады і цяпер кажуць так.
Які тут парадак? Карчы па палянах,
І пад кожным карчом — нецвярозы вараг.

*Пераклаў з рускай Юры Несцярэнка*

# СПАДЧЫНА, УСПАМІНЫ, ДАКУМЕНТЫ



**Тамара Аўсяннікава**

## Аб падзеях 1968 года ў БДУ

Не ведаю, ці змагу я дадаць нешта новае да падзей пяцідзесяцігадовай даўнасці, сведкай якіх была, і выказала сваю згоду подпісам ліста ў абарону мовы (мой подпіс пад нумарам 14 у першым лісце). З часам падзеі міфалагізуюцца, ды і памяць можа даваць збоі.

Я не бачыла ў ініцыятыве аднакурснікаў Алеся Разанава, Віктара Яраца і Лёвы Барташа ніякіх супрацьзаконных дзеянняў. Аднак іх прапанову выкладаць у Беларускім дзяржаўным універсітэце на беларускай мове (заўважце, не на нямецкай, не на турэцкай ці якой іншай) палічылі амаль што злачынствам! Тое, што адбывалася, нагадвала сюррэалістычны абсурд.

Я не была ў эпіцэнтры падзей, успрыняла іх апасродкавана, як і многія студэнты трэцяга курса філалагічнага факультэта. Ды і з Алесем Разанавым за гады вучобы мы ніколі не размаўлялі. Я не належала да паэтычна-літаратурнага асяродка. Але гэтыя падзеі паўплывалі на маю свядомасць, спадзяюся, што не толькі на маю. Прозвішчы Разанаў, Ярац і Барташ былі непадзельныя. У размове з Алесем (не так даўно) высветлілася, што ў час збору подпісаў Лёвы Барташа не было.

Дык вось, у адзін восеньскі дзень, калі не памыляюся, пасля лекцыі Міхася Ларчанкі — цудоўнага, шчырага, з дзіцячай даверлівасцю і непасрэднасцю чалавека, улюбёнага ў паэзію, — выступіў Алесь Разанаў з прапановаю падпісаць ліст у абарону мовы. Мы падтрымалі яго і паставілі свае подпісы. Міхась Рыгоравіч таксама падтрымаў нас і, як мне думалася, падпісаў ліст, з-за чаго, гаварылі потым, у яго былі непрыемнасці на працы, як-ніяк загадчык кафедры беларускай літаратуры. На самай справе лісты былі ад імя студэнтаў. І добра, што яны захаваліся, таму сёння можна дакладна сказаць, хто падпісваў, а хто не.

Не магу сцвярджаць, што сваю згоду выказалі ўсе на нашым курсе. Хадзіла чутка, што Жэня Янішчыц не падпісала. І я амаль да сённяшняга дня думала, што гэта так. На самай справе яе подпіс — за нумарам 47 (у другім лісце). З Жэняю на гэтую тэму мы ніколі не гаварылі. Калі хваля сціхла, да нас у інтэрнацкі пакой на Паркавай завітаў зямляк Жэні, які вучыўся ў ВПШ (Вышэйшай партыйнай школе). Ён нам, як бы між іншым, і паведаміў аб некаторых тонкасцях ідэалагічнай працы і папярэдзіў, каб мы былі пільнымі, бо ў кожнай групе, на кожным курсе ёсць асобы, якія далі згоду на супрацоўніцтва з КДБ. Мы пасля імкнуліся вылічыць, хто б гэта мог быць. І ў размовах сталі больш стрыманымі і асцярожнымі.

Пачаўся палітычны землятрус. Ініцыятараў сталі цягаць па розных інстанцыях і кабінетах. Іх абвінавачвалі ў тым, што яны збіралі подпісы быццам бы ад імя ЦК (ці то камсамола, ці то партыі). Ідэалагічная машына набірала абароты. Сходы былі, але я ўжо не помню, як яны праходзілі. Патрабавалі аднаго — асуджэння. Пра сход, на якім Алесю Разанаву прапанавалі адкупную пасаду, не помню. Магчыма, я на ім па нейкай прычыне не прысутнічала. На зімовай сесіі на экзаменах сядзелі незнаёмыя нам людзі (студэнты шапталіся, што з КДБ).

Нашым змагарам за беларушчыну прыйшлося перажыць нялёгкія дні. Гэта я разумею сёння, бо на адлегласці падзеі 1968 года бачацца яскравей. У той час, на абывацельскае вока, усё скончылася без ахвяр: Разанаў працягнуў вучобу ў Брэсце, Ярац — у Гомелі, Барташ перавёўся на завочнае аддзяленне. Успомніла я пра іх у час падрыхтоўкі чатырохтомнага выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі». Алег Лойка ў артыкуле «Кладачка тоненька» не зусім добра адазваўся аб Жэні Янішчыц і Алене Руцкай у сувязі з гэтымі падзеямі. Дзяўчаты паведамілі яму аб паездцы хлопцаў да Ларысы Геніюш. Але, як гаварыла Алена Руцкая, да Алега Антонавіча яны ішлі як да чалавека, а не як да сакратара парткама. Ішлі параіцца, як ратаваць хлопцаў. І Алена, і Жэня адмовіліся ад паездкі да Ларысы Антонаўны, бо іх папярэдзілі з камітэта камсамола ўніверсітэта, што калі хочуць вучыцца, то няхай сядзяць ціха і не рыпаюцца.

Прайшло пяцьдзясят гадоў, а што змянілася? Сёння нават пісьменнікі падзяліліся (па-дзя-лі-лі!). Хочацца ўсклікнуць:

А чыя ж то родна мовачка
Знелюбелай стала,
А якім жа людцам добрым
Жыць перашкаджала?

А яна ж слухмяная,
А яна ж пявучая —
Перацялі горлейка
Ды скруцілі ручанькі.

Калі адысці ад лірыкі, то, безумоўна, многае змянілася. Беларуская мова стала элітарнай. Няхай і нешматлікая купка моладзі, якая выбірае для зносін

родную мову, але ж яна ёсць. У сувязі з гэтым некаторыя беларускія грамадзяне здзіўляюцца, лічаць гэта модай, а не волевыяўленнем.

Учынак Алеся Разанава, Віктара Яраца і Лёвы Барташа ў 1968 годзе ўскалыхнуў Мінск, Беларусь. Хваля падзеі вылілася за межы краіны (і сёння на слыху). Трэба было крочыць у нагу з усімі, а тут знайшліся тыя, хто парушыў роўныя шарэнгі. Як правіла, са строю выбіваліся творчыя людзі. Вось і ў 1974 годзе (15 верасня) маскоўскія мастакі-нонканфармісты арганізавалі выставу на ўскраіне Масквы, якую разганялі бульдозерамі, таму ў гісторыю яна ўвайшла як «бульдозерная выстава». Думаю, што тады, у 1968 годзе, і Алесь Разанаў, і Віктар Ярац, і Лёва Барташ адчулі, як трашчыць іх хрыбет, нібы пад коламі бульдозера.

І сёння, магчыма, недзе ў галовах некаторых студэнтаў таксама спее думка ўскалыхнуць свядомасць не толькі сваіх адгодкаў, для якіх родная мова стала няроднай, каб абудзіць іх этнічную памяць. Ды ведаем мы, што тут патрэбна і дзяржаўная падтрымка, бо родная мова ў краіне пакуль што на правах мачыхі, а не маці.

## Згадка пра Пысіна

Маё знаёмства з творчасцю паэта Аляксея Пысіна адбылося ў студэнцкія гады. Ужо выйшла некалькі яго кніг, у тым ліку «Твае далоні», за якую Аляксей Васільевіч атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы. Аб ім высока адзываўся наш выкладчык Ніл Гілевіч. Пысін успрымаўся намі не толькі як паэт-франтавік, але і як паэт-лірык:

> На схіле дня святла яшчэ даволі,
> Вільготны цень кладзе дубоў сям'я.
> О, як патрэбны мне твае далоні,
> Любоў мая.

А яго радкі «Я гляджу на даўняе курганне, / На траву, на рыжых мурашоў. / Ведайце: калі мяне не стане, / Я ў сваю дывізію пайшоў…» былі вядомы бадай што кожнаму філфакаўцу. Пысін уяўляўся мне мужным і рамантычным.

І вось у 1975 годзе мне пашчасціла ладзіць з ім сустрэчу ў інтэрнаце па вуліцы Касманаўтаў. На той час я працавала ў бібліятэцы Магілёўскага дзяржаўнага машынабудаўнічага інстытута.

Прыйшоў чалавек невысокага росту, закрыты, погляд скіраваны да зямлі, галава апушчаная, ад чаго здаваўся яшчэ ніжэйшым, чым быў на самай справе. Я падрыхтавала пытанні. Якія? Зараз не магу дакладна сказаць, але, мабыць, звычайныя: аб творчасці, аб вайне, аб вучобе на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, з просьбай пачытаць вершы. Ён адказваў з ахвотаю, але быццам бы толькі для сябе. Сядзеў за сталом паўбокам да аўдыторыі, гаварыў ціха, невыразна. І вершы свае чытаў ціха, манатонна. Да гэтага я чула,

як чытаюць свае вершы Максім Танк, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дубоўка, Сяргей Грахоўскі, Аляксей Бачыла і многія іншыя. Расчараванне маё было вялікім. Я не разумела, чаму паэт такога высокага ўзроўню не думае аб тым, як яго ўспрымаюць чытачы, не імкнецца данесці напісанае ім.

Прайшоў час. І цяпер, калі ўзгадваю гэтую сустрэчу, калі імкнуся ўсвядоміць Аляксея Пысіна як паэта і чалавека, мне здаецца, што ён быў вельмі сціплым, магчыма нават сарамлівым. Можа быць, што ён не лічыў патрэбным дэклараваць аб сабе гучна, а хто захоча, той пачуе яго і зразумее.

Была ў мяне і тэлефонная размова з Аляксеем Васільевічам у лютым 1976 года пасля аварыі, якая здарылася з Яўгеніяй Янішчыц у Магілёве. Жэня папрасіла яго паведаміць мне аб здарэнні, бо мы дамаўляліся з ёю сустрэцца. У слухаўцы гучаў зусім іншы голас — усхваляваны, эмацыянальна напружаны, разгублены і вінаваты. У голасе было столькі інтанацыйных фарбаў, мусіць, таму, што гэта адносілася да іншага чалавека, жыццё якога аказалася на валаску ад смерці. А пра сябе заяўляць гучна ён не мог і не лічыў патрэбным.

**Сяргей Чыгрын**

## Пісьменнікі з Магілёўшчыны прыгадваюць Сяргея Дарожнага



*Сяргей Дарожны*

Укрывавую хвалю сталінскага генацыду ў 1936 годзе трапіў і паэт са Слоніма Сяргей Дарожны[1] (Серада Сяргей Міхайлавіч). Ён быў арыштаваны ў канцы жніўня ў Мінску проста на кватэры, дзе пражываў на Першым Беларускім завулку, 3а. Праз год органы НКУС асудзілі паэта за тое, што ён быў «членам антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі», на 8 гадоў…

У пошуках матэрыялаў пра свайго земляка мне шмат дапамагалі беларускія пісьменнікі Васіль Хомчанка і Сяргей Грахоўскі, якія былі родам з Магілёўшчыны, а таксама Алесь Звонак, родная сястра паэта Надзея Міхайлаўна Юшкевіч і іншыя асобы, якія добра ведалі паэта пры жыцці. Але цяпер ужо няма ў жывых і іх. Засталіся толькі пісьмы да мяне, згадкі, успаміны, некаторыя здымкі. Васіль Хомчанка на сваёй кнізе «Стрэл у акно» (Мн., 1988) напісаў: «Сяргею Чыгрыну — земляку майго лагернага сябра Сяргея Дарожнага, на добры ўспамін. Жадаю Вам, Сяргей, самых добрых удач і спраў. Шчыра, па-сяброўску, Васіль Хомчанка. 10.05.1989 г.».

Паэта Сяргея Дарожнага не стала летам 1943 года ў Камсамольску-на-Амуры (Расія). Па хадайніцтву сястры Сяргея Надзеі Юшкевіч ён быў рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29 снежня 1957 года і ўзноўлены ў Саюзе пісьменнікаў.

На Слонімшчыне людзі кажуць: калі нарадзіўся няшчасным, то няшчасным і памрэш. Так было і з Сяргеем Дарожным. Нарадзіўся ён у Слоніме ў сям'і вайскоўца 25 лютага 1909 года. Калі пачалася Першая сусветная вайна, бацьку забралі на фронт, скуль ён ужо не вярнуўся. А маці Сяргея з чацвярымі дзецьмі была эвакуіравана аж у Варонеж. Дамоў вярнуліся толькі ў

[1] Сяргей Дарожны (1909–1943) — беларускі пісьменнік, загінуў у сталінскіх лагерах.



**Сяргей Чыгрын**

нарадзіўся 24 верасня 1958 г. у в. Хадзявічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Служыў у войску. Цяпер працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Выступае ў друку як паэт, перакладчык, краязнавец і даследчык беларускай літаратуры. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

1918 годзе. Але вярнуліся не ў Слонім, а ў вёску Ляскавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Маці было цяжка адной гадаваць дзяцей, таму Сяргея, Марыю і Надзею яна афарміла ў Мазырскі дзіцячы дом, а з малодшай дачкой засталася жыць у вёсцы.

У 1924 годзе Сяргей скончыў сямігодку і паступіў у Мінскі беларускі педтэхнікум, а з трэцяга курса перавёўся на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У адзін са шчаслівых дзён 1925 года Сяргей Серада прынёс у рэдакцыю газеты «Беларуская вёска» сшытак сваіх вершаў. Загадчыкам літаратурнага аддзела газеты быў тады Кузьма Чорны, які папрасіў юнака пачытаць яму свае радкі. І Сяргей пачаў:

Беларусь больш не стане крыжам
Пры дарозе, з Хрыстом распятым…

Калі гэтыя радкі пачуў Кузьма Чорны, то вельмі расчуліўся, бо дужа спадабаліся яны слыннаму пісьменніку. А самыя лепшыя паэтычныя творы маладога паэта ён хутка апублікаваў.

З той пары вершы Сяргея Дарожнага рэгулярна пачынаюць з'яўляцца ў перыядычным друку. У 1926 годзе ён становіцца сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», а потым — «Узвышша». Каля паэту споўнілася 17 гадоў, ён (у сааўтарстве з родным братам Змітрака Бядулі — Ізраілем Плаўнікам) адным з першых сярод аднакурснікаў выдае свой паэтычны зборнік «Звон вясны». Пасля былі асобныя паэтычныя зборнікі «Васільковы россып» (1929) і «Пракосы на памяць» (1932).


*Сяргей Грахоўскі*

Рыхтаваўся да друку і чацвёрты зборнік вершаў паэта са Слоніма, але выйсці не паспеў. Сяргей Дарожны назаўсёды застаўся 34-гадовым у далёкай расійскай глыбінцы, многа чаго не дагаварыўшы ў сваіх песнях. Яго асабовая справа № 9935-С знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі за сямю пячацямі.

**Ліст Сяргея Грахоўскага**

*22 чэрвеня 1988 года*

Паважаны таварыш Чыгрын!

Добра, што Вас хвалюе лёс Вашых землякоў, і ў прыватнасці Сяргея Дарожнага. Я з ім некаторы час быў на 6-м лагпункце Унжлага. Годзе ў 1938-м яго выклікалі на этап, і я больш нічога пра яго лёс не ведаў.

Пасля рэабілітацыі пісьменнік Васіль Хомчанка расказваў, што быў з Дарожным у Камсамольску-на-Амуры. Ён можа Вам паведаміць нешта больш дакладнае. Напішыце Васілю Фёдаравічу: 220123, г. Мінск, вул. Куйбышава, д. 61, к. 2, кв. 8.

Жадаю Вам поспехаў у высакароднай справе.

*Сяргей Грахоўскі.*

**Лісты Васіля Хомчанкі**

* * *

*8 ліпеня 1988 года*

Дарагі Сяргей!

Затрымаўся з адказам на Ваша пісьмо, адпачываў не ў горадзе. Прашу прабачэння.

Наконт Сяргея Дарожнага. Так, я яго сустрэў у 1940 годзе ў лагеры (Ніжне-Амурскі лагер). З ім разам быў у калоніі ці лагпункце да 5 красавіка 1941 года. Я вызваліўся, а ён застаўся. Сястра Дарожнага, якая жыве ў Мінску, сказала, што Сяргей памёр у 1943 годзе ў калоніі ад запалення лёгкіх — так ёй паведамілі. Але гэтаму я мала веру. Сяргей, відаць, памёр ад голаду і ад цяжкай працы.



*Васіль Хомчанка*

Падрабязны ўспамін пра Сяргея Дарожнага мной уключаны ў кнігу «Стрэл у акно»[1], якая павінна выйсці з друку ў гэтым годзе. Напомніце мне тады, я вышлю яе Вам.

З прывітаннем,

*Васіль Хомчанка.*

* * *

*4 мая 1989 года*

Паважаны Сяргей!

Я пісаў Вам, што пра Сяргея Дарожнага будуць змешчаны мае ўспаміны ў кнізе «Стрэл у акно». Кніга выйшла з друку, і калі Вам патрэбны гэтыя ўспаміны, я магу яе выслаць. Больш нічога дадаць пра Сяргея я не магу. Можна толькі ўспомніць нейкія дэталі. Калі яны спатрэбяцца, магу напісаць і пра

[1] Кніга выйшла ў 1988 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

гэта. Скажу толькі, што 1943 год, калі ён памёр, быў вельмі цяжкі час для зэкаў. З голаду паміралі тысячамі, касіла людзей дыстрафія, цынга і іншыя хваробы. Сяргей быў высокі, здаровы, і яму, вядома ж, трэба было і адпаведнае харчаванне. Але ж у лагеры быў голад, і паміралі самыя здаровыя.

Вось і ўсё. Бывайце здаровы. З прывітаннем,

*Васіль Хомчанка.*

* * *

*17 траўня 1989 года*

Паважаны Сяргей!

Высылаю табе кнігу, якую я абяцаў даўно выслаць. Кніг Сяргея Дарожнага, выдадзеных пры яго жыцці, у мяне няма. Зборнік Сяргея Дарожнага «Пракосы на памяць» ёсць у паэта Алеся Звонака[1]. Вось яго адрас: 220005, г. Мінск, Ленінскі праспект, д. 48, кв. 61.

Калі папрасіць ад імя бібліятэкі, то ён вышле.

Фотакартка з надпісам Сяргея Дарожнага ў мяне прапала. Тэкст верша на рускай мове «Долина Трёх ключей» Дарожнага, які быў надрукаваны ў газеце «Сталинский Комсомольск»[2] пад маім прозвішчам, у мяне ёсць. А ў Вас ёсць? Мне даў тэкст Сямён Точка[3].

У Мінску жыве сястра Сяргея Дарожнага. Ці ведаеце Вы пра яе?

Кніжка Сяргея Дарожнага ў мяне ёсць, выдадзеная пасля яго рэабілітацыі ў 1966 годзе.

З прывітаннем,

*Васіль Хомчанка.*

* * *

*20 чэрвеня 1989 года*

Паважаны Сяргей!

Паведамляю адрас сястры Сяргея Дарожнага: г. Мінск, вул. Някрасава, д. 19, кв. 12, Юшкевіч Надзея Міхайлаўна.

І яшчэ можна пісаць па адрасе: г. Мінск, вул. Нававіленская, д. 14, кв. 3.

Тэлефануйце: 37-03-56, 31-50-79.

Ці адказаў Алесь Звонак? У яго ж ёсць зборнік Сяргея Дарожнага «Пракосы на памяць».

З прывітаннем,

*Васіль Хомчанка.*

---

[1] Алесь Звонак (1907–1996) — беларускі пісьменнік.
[2] Газета гэта выдавалася ў Камсамольску-на-Амуры з 1932 года пад рознымі назвамі.
[3] Сямён Точка — былы журналіст.

**Ліст Алеся Звонака**

*12 чэрвеня 1989 года*

Паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Атрымаў Ваш ліст. Прабачце за спазненне з адказам. Мяне не было ў горадзе.

З прыемнасцю выканаў бы Вашу просьбу, але, на вялікі жаль, у мяне няма ніводнай кніжкі Сяргея Дарожнага. Не так проста было адшукаць нават уласныя пасля спусташальнай «дзейнасці» адпаведных чорных сіл 1937 года.

З даваенных выданняў у мяне ёсць па дадзенай тэме два экзэмпляры тагачаснага часопіса «Узвышша», у якіх змешчаны вершы Сяргея Дарожнага. Але гэтыя рэдкасныя кніжкі я не магу даслаць Вам. Самі разумееце. Гэта — «Узвышша» за 1927 год, дзе змешчаны верш С. Дарожнага «Веянь», датаваны лістападам 1926 года, а таксама «Узвышша» № 4 за 1928 год, дзе змешчаны вершы С. Дарожнага «Вячорныя песні» і «На прыстані», датаваныя 1927 і 1928 гадамі.

Раіў бы Вам сфатаграфаваць іх. Як журналіст, Вы ведаеце, як гэта зрабіць. Дзверы маёй хаты заўсёды шырока адчынены для тых, хто робіць пачэсную справу вяртання да жыцця творчых імён, незаслужана пакараных і яшчэ больш незаслужана забытых.

З павагаю,

*Алесь Звонак.*

**Ліст Надзеі Юшкевіч — роднай сястры Сяргея Дарожнага**

*17 ліпеня 1989 года*

Паважаны Сяргей Мікалаевіч!

Атрымала Ваш ліст. Я была рада, што яшчэ жывуць людзі добрыя, якія могуць разумець тую сітуацыю, якая адбылася.

Мой брат Сяргей Міхайлавіч Дарожны (Серада) нарадзіўся ў 1909 годзе ў Слоніме ў сям'і ваеннага. Калі пачалася Першая сусветная вайна, нас эвакуіравалі ў горад Варонеж у Расію, там мы жылі. Маці нас аддала ў дзіцячы дом. Калі скончылася вайна, маці нас прывезла ў Беларусь і адразу зноў аддала ў дзіцячы дом у горад Мазыр. Там мы і выхоўваліся. Сяргей у Мазыры скончыў 7 класаў і быў накіраваны ў Мінскі белпедтэхнікум. Маці яму не дапамагала, таму што ў яе нічога не было, яна хадзіла па людзях і парабкавала.

Сяргей пасля тэхнікума паступіў ва ўніверсітэт. Потым працаваў у часопісе «Работніца і сялянка Беларусі» стыль-рэдактарам. Пісаў вершы, перакладаў. Усё, што напісаў Сяргей Дарожны, я выпісала ў бібліятэках і аддала ў Саюз пісьменнікаў у аддзел прапаганды, але мне так і не аддалі. Сяргей Мікалаевіч, Вы можаце творы Дарожнага знайсці таксама ў літаратурным

музеі СШ № 7 г. Слоніма[1] ў педагога Мікалая Сідаровіча[2]. А таксама ў Саюзе пісьменнікаў у Точкі Сямёна Міканоравіча засталося шмат фотаздымкаў і тэкстаў, якія ён мне таксама не вярнуў. Калі я што знайду, дык Вам абавязкова прышлю.

Вось і ўсё, што хацела Вам напісаць.

З павагаю да Вас,

*Надзея Міхайлаўна Юшкевіч.*

[1] Музей гэты ўжо не існуе.
[2] Мікалай Сідаровіч (1928–2003) — слонімскі настаўнік.

## Валерый Васілеўскі

# Жыццё ў аперэце

Без музыкі жыццё было б памылкай.

*Ф. Ніцшэ*

Пра тое, што ў Глуску нарадзілася савецкая актрыса тэатра і кіно, артыстка Маскоўскага тэатра аперэты Зоя Аляксандраўна Белая, думаю, ведаюць нямногія. Калі і ведаюць, то ў некалькіх словах. Таму распавяду пра гэтага чалавека, як мага шырэй паказаўшы яе жыццё.



*Зоя Белая*

Сапраўды, Зоя Аляксандраўна Белая нарадзілася 18 мая 1924 года ў Глуску. Усё пачалося з таго, як піша Сяргей Грахоўскі ў дакументальнай аповесці «Мястэчка… Мястэчка…», што «з Масквы прыехаў жанаты з местачковай Марфай Грудзінскай бялявы, круглатвары і таўстагубы Аляксандр Іосіфавіч Белы. У школе ён выкладаў спевы, з вучняў усіх класаў зрабіў выдатны хор і сам у вялікія святы басам спяваў у Багаяўленскай царкве. Жылі яны з жонкай і сынам у доме бацькоў жонкі, якія, як і вялікая радня, паважалі Белага, як добрага спевака і настаўніка. Тут у іх і нарадзілася беленькая Зоя, якая, як толькі навучылася сядзець, адразу пачала спяваць, і спявала ўсё жыццё».

Музычная сям'я прышчапіла дзяўчынцы каханне да оперы, да сур'ёзнай сімфанічнай музыкі. І тады будучая актрыса яшчэ не ведала, што існуе такі від мастацтва, як аперэта, дзе гуляюць, спяваюць, як у оперы, танчаць, як у балеце. Але ў 1931 годзе сям'я пераехала ў Маскву, дзе Зоя трапляе ў Маскоўскі тэатр аперэты на спектакль «Сільва» з чароўна прыгожай Соф'яй Вермель у галоўнай ролі. Юная глядачка прымае рашэнне паступіць на вучобу ў студыю тэатра. З 600 заяў дапускаюць да іспытаў 300 і прымаюць на вучобу адзінаццаць чалавек.



**Валерый Васілеўскі**

нарадзіўся 14 кастрычніка 1949 г. у г. Сыктыўкар Комі АССР. У 1957 г. сям'я пераехала на радзіму бацькі — у Глускі раён. Працаваў майстрам на будоўлях. Аўтар кнігі «Споведзь чалавека ў інваліднай калясцы» (2010). Аповесць «Антонаўскія яблыкі» змешчана ў альманаху «Прыдняпроўе — край талентаў» (2014). Жыве ў Глуску.

Пасля заканчэння студыі Зоя Белая, ужо артыстка аперэты (лірыка-драматычнае сапрана), застаецца працаваць у Маскоўскім тэатры аперэты. Аб гадах вучобы ў студыі яна ўспамінала з цеплынёй і ўдзячнасцю, адзначаючы ў першую чаргу каласальную працу педагогаў — І. Рапапорта, М. Цівушына, М. Бравіна, Р. Лазаравай.

У пачатку кар'еры знакавым і знамянальным для яе стаў спектакль «Акуліна» І. Коўнера. Роля Лізы Мурамскай «напоўніла актрысу прыгажосцю пушкінскі твораў». З гэтага часу, што б Бялова ні іграла, кнігі, жывапіс будуць сталымі яе спадарожнікамі. Ствараючы вобраз Ксеніі ў «Дзявочым перапалоху» Ю. Мілюціна, яна гадзінамі знікала ў Траццякоўскай галерэі і ў Крамлі; працуючы над роляй Марышкі ў «Арліным пер'і» Ф. Фаркаша, учытвалася ў свабодалюбівыя вершы Шандара Пецёфі; Нікан з «Фіялкі Манмартра» І. Кальмана прымусіла яе перачытаць Эміля Заля, перагледзець карціны французскіх мастакоў і літаральна закахацца ў рэнуараўскую дзяўчыну з кафэ — так закахацца, што яна скапіравала сабе яе касцюм для першага акта…

За гады службы ў тэатры (1947–1973) Зоя Аляксандраўна сыграла мноства выдатных роляў: Стэла і Клеманціна («Вольны вецер»), Ірына («Сын блазна»), Ларыса («Белая акацыя») — усё І. І. Дунаеўскага, Маша, Ніна («Летуценнік» і «Севастопальскі вальс» К. Лістова), Дэніза («Мадэмуазэль Нітуш» Ф. Эрве), Ярынка («Вяселле ў Малінаўцы» Б. Аляксандрава), Стэла («Рамэа, мой сусед» Р. Гаджыева), Сцепаніда («Сто чарцей і адна дзяўчына» Ц. Хрэннікава). Шэраг вакальных партый у савецкіх аперэтах быў напісаны ў разліку на яе моцны, выразны голас. Але ўсё ж… Занадта рана яна перайшла на ўзроставыя ролі.

У яе работах ніколі не было вульгарнасці. Яна цуралася пагоні за апладысментамі. Хай нешта выходзіла крыху «бляклым», не так, як хацелася, але, пражываючы ролю ад спектакля да спектакля, Зоя Аляксандраўна заўсёды дамагалася таго, што глядач дрыгатліва адгукаўся на яе мастацтва. Яркі драматычны тэмперамент артысткі спалучаўся з высокай выканальніцкай культурай.

Яна здымалася ў кіно («Ранішні абыход», тэлефільмы «Дуэння» і «Скарбонка»). Выступала ў канцэртах і на радыё. Яе голас гучаў з грамплацінак. Было выпушчана шэсць альбомаў песень і арый з аперэт.

Артыстка Маскоўскага тэатра аперэты, заслужаная артыстка РСФСР (1964), наша зямлячка Зоя Аляксандраўна Белая памерла ва ўзросце 68 гадоў ад інфаркту 19 лістапада 1992 года. Паніхіда прайшла ў Тэатры аперэты, дзе прысутнічала каля 200 чалавек. Пахавана на Галавінскіх могілках. Памяць пра яе захаваецца ў сэрцах аматараў аперэты.

## Янка з сям'і каваля

Прыйшоў час, і дзякуючы інтэрнэту з'явілася магчымасць даведацца пра лёс тога ці іншага чалавека, чыё жыццё згубілася ў кругавароце часу, чыё імя амаль ужо забылася. Адным з такіх з'яўляецца глушчанін Янка (Іван Іванавіч) Бобрык. Але і інтэрнэт не дае звестак пра гэтага чалавека, чыё імя ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя было вядома ў Беларусі больш, чым якога-небудзь Нобелеўскага лаўрэата. Як паэт ён тады вылучаўся з вялікай пісьменніцкай масы. Бобрыка ведалі, ім цікавіліся, запрашалі ў клубы, на студэнцкія сходы, літаратурныя вечарыны. Каб стварыць поўную карціну ягонага жыцця і дзейнасці, прыйшлося звярнуцца да матэрыялаў паэта і празаіка, стрыечнага брата Бобрыка — Сяргея Іванавіча Грахоўскага.


*Янка Бобрык*

Янка Бобрык нарадзіўся 21 ліпеня 1905 года ў сям'і каваля. Кавалі спрадвеку лічыліся людзьмі асаблівымі, якія маюць справу з магіяй агню і металу. І Янку, здавалася б, нічога не заставалася рабіць, як рухацца па слядах бацькі — вядомага на ўсю воласць майстра кавальскіх спраў і казачніка: сам выдумляў казкі, распавядаў, верыў у іх, верылі і тыя, хто іх слухаў. Так і было: з дзяцінства Янка спасціг бацькава рамяство. Зімой вучыўся ў школе, а летам стаяў ля горна і кавадла. Акрамя гэтага, захапляўся маляваннем, граў у аматарскіх спектаклях, рабіў дэкарацыі, праз зроблены «чырвоны ліхтар» паказваў паштоўкі і малюнкі. Маленькая хатка Бобрыкаў была своеасаблівым мястэчковым клубам — з газетамі і кніжкамі. Вось што з гэтай нагоды ўспамінае С. Грахоўскі: «Хата Бобрыкаў была па вуліцы Луначарскага па правую руку, ідучы да былой глыбокай рэчкі, другой ад выгану, маленькая, але вельмі гасцінная і ўтульная. Маці была зусім непісьменная, бацька шмат чытаў і тры гады папрацаваў у Амерыцы».

У 1924 годзе Янка Бобрык паступіў у Беларускі ўніверсітэт і тады ж пачаў друкавацца ў «Маладняку», «Чырвонай змене», «Узвышшы», «Звяздзе» і «Беларускай ніве». Ён стаў першым філолагам з Глуска. Бацька доўгі час не мог зразумець, на каго вучыцца яго сын. А прыязджаючы дадому, Янка заўсёды прывозіў стосы маладнякоўскіх кніжак і раздаваў іх чытаць мясцовым аматарам літаратуры. Увечары ў хаце каваля збіралася моладзь: чыталі ўслых, смяяліся, перакідваліся слоўцамі мясцовай гаворкі. Тады ж юны Янка Бобрык стаў пісаць свае вершы, але гэта трымалася ў сакрэце.

У 1926 годзе сумесна з А. Звонакам і Я. Туміловічам выдаў зборнік вершаў «Пунсовае ранне» — і пра паэта загаварыла ўсё мястэчка. Друкаванае слова ў тыя гады мела нейкую чароўную сілу, многім не верылася, што гэта напісаў сын каваля. У кожным вершы імкнуліся спазнаць сваё, знаёмае. І ўбачылі ў вершы «Бацьку» каваля Івана Бобрыка — бацьку Янкі.

У 1929 годзе Я. Бобрык скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта БДУ і паехаў на Клімаўшчыну, у Мілаславіцкую сямігадовую школу, працаваць настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, дзе і адпрацаваў да 1931 года. Пачатак калектывізацыі заспеў яго ў вёсцы. Малады настаўнік і паэт выступаў на бурных калгасных сходах, арганізоўваў першыя калгасы і пісаў паэму «Галіна» (1930). Гераіня паэмы, маладая настаўніца, жыве тымі ж клопатамі, як і аўтар, агульнымі радасцямі з вяскоўцамі, якія ўпершыню выйшлі на агульнае поле.

У 1931 годзе наш зямляк паступіў у аспірантуру Ленінградскай дзяржаўнай акадэміі мастацтвазнаўства. Скончыўшы яе, працаваў навуковым супрацоўнікам сектара кіно акадэміі, потым перайшоў на студыю «Белдзяржкіно», якая тады знаходзілася ў Ленінградзе. Рэдагаваў сцэнарыі і фільмы, прымаў актыўны ўдзел у стварэнні фільма «Першы ўзвод», у якім здымаліся Б. Бабачкін і Л. Кміт.

У 1938 годзе яго запрасілі на працу галоўным рэдактарам упраўлення па справах мастацтва Ленінградскага гарадскога выканаўчага камітэта. У тым жа годзе Я. Бобрык ажаніўся з паэткай Наталляй Вішнеўскай. Пісаў нарысы па гісторыі кіно і па пытаннях развіцця беларускага кінематографа.

Па стане здароўя яго знялі з ваеннага ўліку, але ў жніўні 1941 года паэт дабіўся, каб яму дазволілі стаць добраахвотнікам народнага апалчэння. Бобрык капаў акопы, будаваў умацаванні, адбіваў атакі фашыстаў. Яму некалькі разоў прапаноўвалася эвакуацыя ў тыл, жонка ўгаворвала разам ехаць у Горкаўскую вобласць, але той пастаянна адказваў: «Я нікуды не паеду. Паміраць, дык у Ленінградзе».

У канцы ліпеня 1942 года зусім знясіленага Бобрыка падабралі санітары і адвезлі ў бальніцу імя Куйбышава. 25 жніўня ён памёр, пахаваны на Піскароўскіх могілках.

Калі жонка вярнулася ў Ленінград, іх кватэра была пустая: загінулі ўсе рукапісы і кнігі. Без сумневу можна казаць, што ў тых рукапісах было нямала сапраўднага і значнага, бо належалі яны пяру адукаванага, працавітага і патрабавальнага да сябе літаратара.

Сёння на плітах Піскароўскіх могілак не вянуць кветкі. Вечны агонь у гонар мужнасці ленінградцаў гарыць і на магіле нашага паэта Янкі Бобрыка. Ён не паспеў шмат чаго зрабіць і як паэт цалкам не раскрыўся, бо лёсам было адпушчана на жыццё толькі 37 гадоў. Але ён адбыўся і пакінуў пра сябе ўдзячную памяць. Пакінуў свой след і ў гісторыі беларускай літаратуры — можа, не такі аб'ёмны, але прыкметны. І мы, ягоныя землякі, павінны ведаць гэтую спадчыну.

**Уладзімір Ліўшыц**

## «...Ён быў надзвычай чэсным і сумленным чалавекам»


*Барыс Іофе. 1943 г.*

*23 лістапада 2018 года споўняецца 80 гадоў з дня нараджэння нашага земляка, літаратуразнаўцы Барыса Іофе.*

*Ён пражыў вельмі кароткае жыццё — 25 гадоў і загінуў на фронце. Будучы студэнтам, ён кароткі час займаўся літаратуразнаўчай працай і надрукаваў усяго чатыры артыкулы ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

*Але за гэты вельмі кароткі час ён зрабіў столькі, што імя яго па праву ўключана ў біябібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», энцыклапедычны даведнік «Янка Купала». Некалькі разоў ён згадваецца ў кнізе Г. Кісялёва «Пошукі імя». Аб яго жыцці наш матэрыял.*

### Нарадзіўся ў Горках

Барыс Іофе нарадзіўся 23 лістапада 1918 года ў сям'і Ісака Іофе, слесара Горацкага завода сельскагаспадарчых машын. У вялікай дружнай сям'і, душой якой была маці Рахіль, акрамя дзяцей (сыноў Барыса, Хацкеля, Яўгена, дачок Златы і Фаіны ) жылі яшчэ дзед І. Я. Любман і сястра маці Вера, якая працавала фельчарам раённай бальніцы.

Дзед памёр у 1940 годзе, а маці Рахіль разам з шаснаццацігадовай дачкой Фаінай, гадавалым сынам Яўгенам і сястрой Верай былі расстраляныя фашыстамі 7 кастрычніка 1941 года разам з усім яўрэйскім насельніцтвам горада Горкі. Яго бацька — Ісак Хацкелевіч — удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне і памёр у 1969 годзе ў Ленінградзе. Брат Барыса Іофе Хацкель, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, падпалкоўнік у адстаўцы, і сястра Злата жылі ў Санкт-Пецярбургу.




**Уладзімір Ліўшыц**

нарадзіўся 1 лютага 1946 г. у пас. Чырвоны Кут Энгельскага раёна Саратаўскай вобласці. Пісьменнік, літаратуразнаўца, публіцыст. Кандыдат філасофскіх навук, прафесар. Аўтар шэрагу кніг і брашур па філасофіі, паліталогіі, педагогіцы, гісторыі г. Горкі Магілёўскай вобласці. Заснавальнік і першы дырэктар Горацкага раённага гісторыка-этнаграфічнага музея. З 2007 г. жыве ў г. Нацэрэт-Ііт (Ізраіль). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Як успамінаюць родныя і аднакласнікі, Барыс меў добрыя здольнасці да навук і на працягу дзесяці гадоў вучыўся толькі на «выдатна» ў Горацкай беларускай сярэдняй школе.

«На фоне ўсяго гэтага, — успамінае яго брат Хацкель, — у яго было вельмі добрае сэрца, ён быў надзвычай чэсным і сумленным чалавекам, ніколі не адмаўляў у дапамозе сябрам і школьным таварышам. Ён карыстаўся ў горадзе аўтарытэтам у школьнікаў, бацькоў, педагогаў, кіраўнікоў грамадскіх арганізацый і нават кіраўнікоў горада Горкі».

З успамінаў родных і сяброў вядома, што Барыс быў вельмі добрым арганізатарам. Вакол яго заўсёды былі дзеці, а потым моладзь. «Па яго ініцыятыве, — успамінаў яго школьны сябра А. Гарфінкель, — праходзіў у Горках “Міжнародны кангрэс”: кожнае звяно нашай Горацкай беларускай школы рыхтавала матэрыял аб якой-небудзь краіне, афармляла альбом аб ёй, а затым мы выступалі ў нацыянальных касцюмах з адпаведнымі дакладамі ў вялікай зале Горацкага Дома прафсаюзаў (у цяперашні час Горацкі раённы цэнтр эстэтычнай творчасці). Барыс дапамагаў усім афармляць матэрыялы, бо вельмі добра маляваў».

Усе, хто памятае Барыса, успамінаюць, што на ўсіх вечарах і святах ён быў нязменным вядучым, а ў старэйшых класах быў піянерважатым у летніх лагерах. «Незабыўныя дні, — успамінаюць яго аднакласнікі Ф. І. Цырліна і Р. І. Барадоўская, што жывуць у Санкт-Пецярбургу, — якія мы праводзілі ў піянерскіх лагерах у вёсках Шышава і Чэрнеўка… Днём прагулкі па лесе, спартыўныя гульні, а вечарамі песні ля кастра. А душой усіх піянерскіх спраў быў Барыс, якога любілі ўсе піянеры Горак. Пры гэтым ён быў чалавекам сціплым, добрым і спагадлівым. У цяжкую хвіліну Барыс заўсёды прыходзіў нам на дапамогу».

«Вядома, што Барыс Іофе добра маляваў. Нацягваў на падрамнік палатно, — успамінае яго брат Хацкель, — і капіраваў з рэпрадукцый вядомых мастакоў. Барыс пастаянна афармляў школьную насценгазету акварэллю, асабліва маляўнічымі газеты ў яго атрымліваліся да свят 1 Мая і 7 Лістапада. Пэўны час ён выпускаў насценгазету аб нашай сям’і, дзе крытыкаваліся ўсе “няглездячы на асобу”, уключаючы і дзядулю».



*Барыс Іофе з сястрой Златай. 1940 г.*

У школьныя гады Барыс асабліва захапляўся напісаннем фельетонаў, апавяданняў, розных нататак. У пачатку яны друкаваліся ў насценнай газеце, а затым у раённай газеце «Ленінскі шлях», рэспубліканскай «Піянер Беларусі», саюзнай «Пионерская правда». У сваіх нататках ён пісаў аб жыцці школ горада, аб



*Збор звяна. 1936 г.*

вучобе і адпачынку, аб піянерскіх зборах і розных дзіцячых справах.

У студзені 1935 года ў Мінску збіраўся Першы з'езд юных карэспандэнтаў Беларусі, які быў прысвечаны пяцігадоваму юбілею дзіцячага друку БССР. На гэтым з'ездзе Барыс быў названы лепшым дзіцячым карэспандэнтам газеты «Піянер Беларусі», і яму быў аказаны гонар адкрыць пасяджэнне злёту 9 студзеня 1935 года.

«Хутка ў Горкі, — успамінае сястра Злата, — прыехала супрацоўніца газеты "Піянер Беларусі", каб павіншаваць Барыса з прэміяй, якой яго ўзнагародзіла газета. Гэта — патэфон з пласцінкамі, лыжы і пуцёўка ў піянерскі лагер "Артэк"».

**Лічыў, што паэма «Тарас на Парнасе» напісана ў Горках**

У 1937 годзе Барыс з адзнакай скончыў сярэднюю школу. Сумненняў у выбары жыццёвага шляху ў яго не было. Ён паступіў на філалагічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта без экзаменаў, паколькі з адзнакай скончыў сярэднюю школу.

Ва ўніверсітэце ён таксама вучыўся толькі на «выдатна». Актыўна займаўся і грамадскай працай, уваходзіў у шматлікія студэнцкія арганізацыі і гурткі.

Яго сястра Злата, якая на два гады пазней паступіла на хімічны факультэт Ленінградскага ўніверсітэта, успаміналa: «Да сённяшняга дня памятаю вечары-сустрэчы з Ю. Германам, В. Каверыным, А. Пракоф'евым, В. Інбер, якія Барыс разам з таварышамі арганізоўваў ва ўніверсітэце».

Барыса паважалі і любілі не толькі яго сябры, але і выкладчыкі. Так, прафесар У. Я. Максімаў прапанаваў Барысу карыстацца яго хатняй бібліятэкай, а прафесар Р. А. Гукоўскі, аўтар шматлікіх прац па рускай літаратуры XVIII і XIX стагоддзяў, таксама запрашаў Барыса дадому і яшчэ задоўга да сесіі паставіў яму адзнаку «выдатна».

Меркаваць аб поспехах Барыса ва ўніверсітэце можна і па тым, што два гады яго фотаздымак быў на Дошцы гонару ўніверсітэта, а пасля заканчэння вучобы яму прапанавалі вучыцца ў аспірантуры.

На трэцім курсе Барыс захапіўся гісторыяй беларускай літаратуры. А. Ш. Гарфінкель, яго школьны сябра, які паступіў на філалагічны факультэт на два гады пазней, успамінаў: «Першы год мы жылі ў розных інтэрнатах, аднак часта сустракаліся ў чытальнай зале публічнай бібліятэкі. У канцы 1939 года Барыс пачаў пісаць артыкул аб паэме "Тарас на Парнасе". На стале перад ім ляжаў вялікі стос усіх выданняў паэмы і літаратуры, якая была звязана з ёй. Пісаў ён з захапленнем.

Почырк у Барыса быў прыгожы. Наколькі я памятаю, свой артыкул ён паслаў у рукапісным выглядзе ў рэдакцыю часопіса "Полымя рэвалюцыі". Зараз часопіс "Полымя рэвалюцыі" мае назву "Полымя", і ўсе яго нумары знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Як лічыць вядомы даследчык гісторыі беларускай літаратуры Г. В. Кісялёў, "…рэдакцыя часопіса, магчыма, нават і не ведала, што аўтару гэтых сталых прац усяго 22 гады. Барыс Іофе быў родам з магілёўскіх Горак, ведаў як свае пяць пальцаў усе куткі і ўсе паданні роднага гарадка, адкуль, па сведчанні Раманава, выпырхнула цудоўная жар-птушка беларускай паэзіі — паэма "Тарас на Парнасе". З гэтага, відаць, і загарэлася ў юнака цікавасць да загадкавай паэмы"» (Г. Кісялёў. Пошукі імя. Мн.: 1978. С. 54).

Ужо згаданы намі А. Гарфінкель успамінаў: «Барыс вельмі добра дэкламаваў паэму "Тарас на Парнасе" і ведаў амаль усю яе на памяць. Ён быў перакананы, што яна была напісана менавіта ў Горках».

Барыс Іофе ў артыкуле робіць спробу тапаграфічна прывязаць паэму да Горак. «На тэрыторыі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута (так да 1948 года называлася Беларуская дзяржаўная сельскагаспадарчая акадэмія. — *У. Л.*), — пісаў ён, — паблізу ад фундаментальнай бібліятэкі ёсць узгорак, які студэнты з даўніх часоў называюць Парнас. Насупраць узгорка, як частка надзвычайна маляўнічага месца, уздымаецца так званая Пятрова горка. Тут зараз размешчаны леспрамгас, а даўней было лясніцтва. На той жа горцы, недалёка ад Парнаса былі і лазні. На тэрыторыі інстытута знаходзіцца невялічкае возера, яго, мусіць, і пільнаваў Тарас (?). Ці не гаворыць гэта аб напісанні паэмы ў Горках? Ва ўсякім выпадку, студэнты з любога вучэбнага будынка маглі бачыць усе памянёныя ў паэме месцы, размешчаныя ў парку інстытута ці блізка ад яго».

У артыкуле разглядаюцца і іншыя пытанні, звязаныя з паэмай. Так, малады даследчык у выніку аналізу і супастаўлення тэкстаў паэмы прыходзіць, як адзначае літаратуразнаўца І. Э. Багдановіч, да важнай высновы аб тым, што рэдакцыя твора, праведзеная М. Доўнар-Запольскім для абгрунтавання сваіх вывадаў (Доўнар-Запольскі прыпісваў аўтарства паэмы В. Дуніну-Марцінкевічу), аказваецца дрэнным варыянтам «Тараса» і ніяк не можа прэтэндаваць на аўтарскі тэкст (І. Э. Багдановіч. Іофе Барыс // Беларускія пісьменнікі. Біябібліяграфічны слоўнік. Мн., 1994. Т. 3. С. 18).

У гэтым артыкуле Б. Іофе разглядае і пытанне аб часе напісання паэмы. Ён лічыць, што, хутчэй за ўсе, яна была створана ў 1843 годзе.

Г. В. Кісялёў пісаў, што заслугай Б. Іофе было і тое, што ён «…прыцягнуў таксама канкрэтны матэрыял з гісторыі рускага літаратурнага жыцця 40-х гадоў мінулага стагоддзя, што дазволіла яшчэ раз падкрэсліць, наколькі тонка аўтар паэмы ведаў і адчуваў нюансы рускага Парнаса…» (Г. Кісялёў. Пошукі імя. С. 54).

Барыс Іофе падрабязна разглядае ў паэме вобразы, і ў першую чаргу вобраз Тараса, і робіць цікавы вывад аб тым, што «…паэма дала першы рэалістычны вобраз беларуса ў літаратуры і паведаміла аб тым, што Тарас з'яўляецца на Парнасе: з саракавых гадоў XIX ст. беларус як вобраз трывала ўвайшоў у літаратуру, развіваўся і мацнеў ад Тараса да Міхася з "Новай зямлі" Я. Коласа, да дзеда Талаша Я. Купалы».

Рукапіс гэтага артыкула зараз захоўваецца ў Горацкім гісторыка-этнаграфічным музеі. На ім ёсць шмат заўваг, дапаўненняў, разважанняў, напісаных іншай рукой. Хто мог рабіць такія запісы? Дакладна сказаць аб гэтым цяжка. Але, хутчэй за ўсё, гэта зроблена Ісакам Ляндрэсам, сябрам Барыса па ўніверсітэце, аўтарам чатырох артыкулаў аб творчасці Я. Купалы (яны былі надрукаваны ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» і «ЛіМе» ў 1940–1941 гадах).

Відаць, пад уплывам І. Ляндрэса ў Б. Іофе ўзнікла ідэя вывучаць творчасць Я. Купалы.

**Даследаваў творчасць Янкі Купалы і беларускую літаратуру 40-х гадоў XIX стагоддзя**

У лістападзе 1940 года ў «ЛіМе» Барыс Іофе пад рубрыкай «Да 35-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы» друкуе артыкул «Аб рамантызме Купалы». Адзначым, што ў якасці эпіграфа да артыкула аўтар бярэ словы М. Горкага аб тым, што «ў буйных мастакоў рэалізм і рамантызм заўсёды як бы спалучаны».

Таму, пачынаючы аналіз асноўнай тэмы, Б. Іофе адзначае, што яшчэ да Я. Купалы рэалістычны напрамак заняў у беларускай літаратуры вядучае месца. І ўжо першая яго кніга «Жалейка» падхапіла матывы паэзіі Багушэвіча. Б. Іофе робіць цікавы вынік аб тым, што істотным адрозненнем творчасці Я. Купалы ў параўнанні з яго папярэднікамі з'яўляецца пранікненне ў рэалізм рамантызму.

Далей ён піша аб тым, што «рамантызм уключаецца ў творчасць Я. Купалы двума шляхамі. Адзін шлях памечаны паэмай "Забытая скрыпка" і вершамі "Дыктатура працы", "Настане такая часіна" ды некаторымі іншымі». Б. Іофе лічыць, што ў гэтых творах Я. Купала паўстае як паэт мары аб лепшым жыцці народа.

«Другі шлях, — адзначае Б. Іофе, — праз які ў творчасць Купалы ўключаецца рамантызм, пазначаны паэмамі "Магіла льва", "Курган" і, часткова, "Адплата кахання". Усе яны з'яўляюцца рэалістычнымі паэмамі, але ў іх ёсць асобныя элементы рамантызму».

І далей Б. Іофе разглядае гэтыя элементы і іх функцыі ў вышэйназваных паэмах і робіць вынік аб тым, што «сінтэз рэалізму і рэвалюцыйнага раман-

тызму састаўляе адно з галоўных дасягненняў паэтычнай творчасці Купалы».


2 лістапада 1940 г., № 35 (491). ЛІТАРАТУРА

*Да 35-годдзя літаратурнай дзейнасці Я. Купалы*

**Аб рамантызме Купалы**

«У буйных мастакоў рэалізм і рамантызм заўсёды як-бы спалучаны».
М. ГОРКІ.

Б. Іоффе

Цікава, што ў снежні 1940 года з дакладам аб жыцці і творчасці Я. Купалы Барыс Іофе выступіў на пашыраным пасяджэнні студэнцкага навукова-даследчага гуртка, які працаваў пры кафедры руска-славянскай філалогіі Ленінградскага ўніверсітэта. Гэта пасяджэнне было прысвечана 35-годдзю літаратурнай дзейнасці паэта (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 268).

Тэму «Літаратурная творчасць Янкі Купалы» Барыс Іофе працягвае ў артыкуле «Лірычная паэма Купалы “Яна і я”», які быў надрукаваны ў дванаццатым нумары часопіса «Полымя рэвалюцыі» за 1940 год.

У пачатку артыкула Б. Іофе піша: «Янка Купала — ў пераважнасці лірык. Мы можам гэта сцвярджаць не толькі таму, што найбольшае месца ў яго творчасці займаюць лірычныя вершы, але і таму, што і эпічныя, і драматычныя творы Купалы пранізаны лірызмам».

Аўтар артыкула падкрэслівае, што меркай лірычнасці паэмы ці драмы лічыцца звычайная колькасць так званых «лірычных адступленняў». Але «з такім мярылам нельга падыходзіць да Купалы, — піша Б. Іофе. — У паэмах і драмах Купалы лірызм зусім не з’яўляецца “адступленнем”, а пранізвае ўвесь твор, арганічна ўваходзіць у яго тканіну».

І ён называе паэму Я. Купалы «Яна і я» лірычнай паэмай. Аднак Б. Іофе падкрэслівае, што тэма кахання ў Я. Купалы не новая, яна распрацоўвалася ў шэрагу іншых твораў. Асаблівасцю паэмы «Яна і я» Барыс Іофе лічыць тое, што Я. Купала ў ёй «цалкам аслабаняецца ад прыдуманых герояў, аслабаняецца ад неабходнасці паказу кахання ў пераламленні характару гэтых герояў і, такім чынам, мае магчымасць выразіць свае ўласныя думкі аб каханні не толькі ў мастацкім, але і ў філасофскім плане».

Затым Б. Іофе аналізуе праблемы «каханне і праца», «каханне і прырода», «чалавек і свабода», кампазіцыйныя асаблівасці паэмы, метады выкарыстання Янкам Купалам беларускіх фальклорных жанраў.

У заключэнні артыкула Б. Іофе піша, што «шырыня тэм, ахопленых Купалай, і арыгінальнасць іх вырашэння, багацце паэтычных сродкаў, шырокае выкарыстанне народнай творчасці робіць паэму “Яна і я” надзвычай цікавай і прыкметнай з’явай ва ўсёй творчасці Купалы».

У канцы 1940 года Б. Іофе рыхтуе вялікую працу (больш за два друкаваныя аркушы) «Беларуская літаратура ў 40-я гады XIX стагоддзя» (рукапіс гэ-

тай працы на рускай мове знаходзіцца ў фондах Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея, куды яго перадаў брат літаратуразнаўцы — Хацкель). Ён жа даслаў літаратуразнаўцу Г. В. Кісялёву варыянт гэтага артыкула пад назвай «У истоков белорусской литературы».

Відаць, Б. Іофе рыхтаваў яго да друку, але не паспеў гэтага зрабіць. З рукапісу бачна, што спачатку гэта быў даклад Барыса на семінарскіх занятках па руска-славянскай філалогіі. Дарэчы, на адным з лістоў напісана: «Не чытаць!» Відаць, потым гэты даклад дапаўняўся, перараблуўся і з яго атрымаўся артыкул (на лістах рукапісу шмат уставак, дапаўненняў).

Ва ўступе Б. Іофе разглядае сацыяльна-палітычную абстаноўку на Беларусі ў 40-х гадах XIX стагоддзя, піша аб паўстанні 1830 года і робіць цікавую выснову аб тым, што «пасля закрыцця Віленскага ўніверсітэта цэнтра, дзе стваралася беларуская культура, не было.

Вядомую ролю ў гэтых адносінах адыграла адчыненая ў 1840 годзе Горы-Горацкая земляробчая школа ў Магілёўскай губерніі» (Архіў Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея. КП 3465. Спр. 272. Арк. 3).

Потым Б. Іофе дае кароткую біяграфічную даведку аб Аляксандру Рыпінскім. Аналізуючы яго творчасць, ён піша аб тым, што яго імя не вельмі заслужана было паднята «на п’едэстал» беларускай літаратуры. На наш погляд, такая ацэнка вельмі суб’ектыўная. Відаць, у яго не было дастаткова матэрыялаў, каб зразумець ролю гэтага пісьменніка ў станаўленні беларускай літаратуры. З вялікай сімпатыяй піша Б. Іофе пра Яна Баршчэўскага, хаця таксама лічыць, што і ён «быў не па заслугах высока ацэнен». Ён аналізуе вершы Я. Баршчэўскага і нават прыводзіць цалкам тэкст верша «Ах, чым жа твая, дзевачка, галоўка занята?».

Значная частка артыкула прысвечана аналізу жыцця і творчасці Яна Чачота. Пасля яго кароткага жыццяпісу Б. Іофе выдзяляе асобныя раздзелы: літаратурная спадчына, літаратурныя пазіцыі, палітычныя погляды, сялянскія песенькі. Асобная частка — «Я. Чачот — заснавальнік беларускай лінгвістыкі».

Амаль 80 гадоў прайшло з таго часу, як быў напісаны гэты артыкул. На наш погляд, ён заслугоўвае быць надрукаваным, бо, нягледзячы на шэраг суб’ектыўных поглядаў аўтара, артыкул мае навуковую каштоўнасць ужо таму, што паказвае, як даваенныя літаратуразнаўцы ацэньвалі творчасць пісьменнікаў 40-х гадоў XIX стагоддзя.

**Абараняючы Радзіму**

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. У чэрвені 1941 года Барыс разам з сябрамі па ўніверсітэце будуе абарончыя збудаванні пад Ленінградам.

А ў ліпені 1941 года спецыяльнай пастановай Ленінградскага дзяржаўнага ўніверсітэта студэнтам, якія добра вучыліся, было дазволена здаць дзяржаўныя іспыты. Сярод іх быў і Барыс Іофе, які здаў усе іспыты на «выдатна» і атрымаў дыплом з адзнакай (першай ступені).

Па дзяржаўным размеркаванні яго накіравалі працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў г. Новасібірск. Аднак з-за таго, што Ленінград у гэты час быў ужо ў блакадзе фашысцкіх войск, Барыс пайшоў працаваць на абарончы завод. У лісце ад 4 лістапада 1941 года брату Хацкелю ён піша: «Ленінградцы тры месяцы стрымліваюць полчышчы немцаў, якія асаджаюць горад. Вось пайшоў ужо чацвёрты месяц абароны. Немцы акапаліся і зараз мёрзнуць каля гарадскіх сцен. Частая бамбёжка і артылерыйскі абстрэл не далі ім чаканых вынікаў. Рыхтуюцца новыя папаўненні на ленінградскі рубеж. Немцы зараз моцна рвануліся да Масквы. Яны могуць выйграць сто бітваў, але вайну ўсё роўна прайграюць. Добра было б застацца жыць і быць сведкам перамогі…»

З ліста бачна, што ён працуе на заводзе ў пажарнай ахове. «Гэта работа, — піша Барыс, — стала патрэбнай асабліва пасля таго, як нямецкія бамбардзіроўшчыкі пачалі кідаць запальныя бомбы… Учора захацелася наведаць Публічку (публічную бібліятэку. — *У. Л.*), глытнуць кніжны пыл, які ва ўніверсітэце стаў родным… Я зраблю ўсё, каб дапамагчы фронту, працуючы без стомы. Галоўнае — жыць нашай краіне, а потым — і нам у ёй…

…Я веру, што родная Беларусь і нашы Горкі будуць вызвалены. Мы яшчэ вернемся — паражыць бы толькі рашаючы час».

Прайшло яшчэ некалькі месяцаў вельмі цяжкага і галоднага жыцця ў Ленінградзе.

«У Барыса пачалася ўжо дыстрафія, — успамінала яго сястра Злата. — І раптам ён прапанаваў мне адзначыць мой дзень нараджэння. Затапілі “буржуйку”, сагрэлі трохі вады. Я думала, што гэтым абмяжуецца наша свята. Але Барыс дастаў з мяшочка загорнутыя ў паперу тры пернікі. Ён прыхаваў іх на гэты выпадак…»

У пачатку 1942 года Барыс разам з сястрой Златай па «дарозе жыцця» быў эвакуіраваны. Як гэта адбывалася, ён красамоўна напісаў у лісце ад 22 ліпеня 1942 года да брата Хацкеля: «Ужо студзень ішоў да канца. Голад і бамбёжка дапаўнялі адно аднаго. З лістапада няма лазні. Няма трамвая. Няма электрычнасці. Я і Злата спачатку апухлі, а потым схуднелі. Зусім нечакана 31 студзеня 1942 года мяне вызвалі ва ўніверсітэт, выдалі эвакаліст і сказалі: “Едзь”. 1 лютага пайшло на неабходныя даведкі і іншую мітусню. Дабіліся дазволу на выезд Златы. Ноччу мы збіраліся, але не было сіл сцягнуць вяроўку. 2 лютага раніцай я і Злата павезлі да Фінляндскага вакзала свае рэчы. Злата везла іх, я не мог везці, толькі дапамагаў. На паўдарозе я сустрэў Ісака Ляндрэса. Ён без рэчаў ішоў на вакзал, але не перанёс дарогі і памёр у мяне на руках. Ужо на вакзале памерлі мае аднакурснікі Ліпа Марголін і Коля Дракін».

Па прыбыцці ў Волагду эвакуіраваных накіравалі на папраўку ў вёску Вялікі Двор Сакальскага раёна Валагодскай вобласці. Яны жылі на хатах у калгаснікаў, якім на папраўку і аздараўленне эвакуіраваных выдавалі асобны паёк.

Некалькі месяцаў Б. Іофе лячыўся ад дыстрафіі, а затым добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Яго накіроўваюць у Свярдлоўскае пяхотнае вучылішча, дзе ён вучыцца на мінамётным аддзяленні.

Аб месяцах вучобы засталіся лісты Барыса да родных.

«24.05.1942 …Я знаходжуся ў Свярдлоўскім пяхотным вучылішчы на мінамётным аддзяленні. Мяне мацуе думка, што я рыхтуюся адпомсціць за Горкі, за маці, за Веру, Фаню і Жэню».

«20.06.1942 …Мне вельмі цяжка фізічна. Адчуваю, што не спраўляюся з вялікай фізічнай нагрузкай. Але наперадзе фронт і жаданне барацьбы з немцамі».

«04.08.1942 …Шмат чытаю. За час вучобы прачытаў 20–25 кніг, нягледзячы на тое, што часу не стае».

«08.01.1943 …Я жыву як і заўсёды. Адзіная мая мара — хутчэй быць на фронце, вельмі надакучыла быць у тыле ў той час, калі ідуць гарачыя і паспяховыя баі».

«09.02.1943 …Год таму назад мы з Златай, змёрзлыя і згаладалыя, прыехалі ў Вялікі Двор з Ленінграда. Галодны час у блакадным Ленінградзе для мяне як сон, як прачытаная кніга — журботная і да болю жорсткая… Усім нам радасныя перамогі нашай слаўнай арміі. Пад Сталінградам яна цуд стварыла, але паведамленне аб прарыве блакады Ленінграда сагрэла сэрца шчасцем — такім, як быццам яно адносіцца толькі да мяне і да нікога іншага…»

Барыс з адзнакай заканчвае курс вучылішча, і яго пакідаюць там камандзірам аддзялення новага набору, выбіраюць сакратаром камсамольскай арганізацыі. Аднак ён хоча ісці на фронт і падае некалькі рапартаў з просьбай адправіць яго непасрэдна змагацца з фашыстамі. І з лютага 1943 года Барыс — камандзір мінамётнага ўзвода 1105-га стралковага палка 328-й стралковай дывізіі.

Ён прымае ўдзел у баях за вызваленне Каўказа, Краснадарскага краю і Жытомірскай вобласці. Яго камандзір роты Павел Іванавіч Жайваронак у лісце да яго брата Хацкеля пісаў: «Іофе Барыс Ісакавіч прыбыў да мяне ў роту прыкладна ў лютым-сакавіку 1943 года непасрэдна на перадавую лінію, дзе мы вялі баі на Каўказе і ў раёне Краснадарскага краю за станіцу Крымская… З першых дзён ён паказаў сябе дысцыплінаваным, палітычна адукаваным, ведаючым сваю працу. Бору салдаты з першых дзён палюбілі, і ён сярод салдат карыстаўся вялікім аўтарытэтам…»

Захаваліся лісты, якія з фронту Барыс пісаў свайму брату:

«09.06.1943 …Знаходжуся непасрэдна на перадавой. У перапынку паміж агнявымі налётамі выпаўзаю глядзець на мудрагелістыя горы Каўказа, на знявечаную зямлю і спаленыя лясы».

«05.07.1943 …Жыву франтавым жыццём у 50 метрах ад праціўніка… Як тут скапана зямля сапёрнымі лапатамі, як перапахана артылерыяй!.. Відаць, дарагая ты, зямліца. Зараз больш чым калі хочацца, каб немцаў хутчэй разбіць, вярнуцца да сваіх родных, бачыць свабоднай сваю Беларусь, квітнеючы свой Ленінград».

«30.06.1943 …Да фронту прывык. Вяду сябе актыўна. Інтэнсіўна абстрэльваю фрыцаў і не даю ім падняць галавы… Што б ні здарылася, зараз не страшна: ёсць поўная ўпэўненасць, што фрыц прайграе вайну і наша Радзіма будзе свабоднай.

«09.10.1943 …Радасна, што вызвалілі людзей са звярынага засценка… Нашы войскі падышлі да нашых родных Горак, мяркуючы па зводках, там ідуць баі».

Гэта быў апошні ліст. Аб тым, што адбылося далей, можна даведацца з ліста згаданага намі П. І. Жайваронка. У ім ён апавядае, што 15 снежня 1943 года пад горадам Радомышль Жытомірскай вобласці фашысты пайшлі ў контрнаступленне. На яго батальён было кінута больш за 40 фашысцкіх танкаў. Воіны роты геране змагаліся з фашыстамі, падбілі некалькі танкаў. Аднак большасць асабовага саставу роты ў гэтым баі загінула, а ў жывых засталося ўсяго 7 чалавек. Яны пад покрывам ночы пайшлі на злучэнне са сваімі. Сярод іх быў і цяжка паранены П. І. Жайваронак, якому праз 6 дзён блуканняў удалося выйсці да сваіх войск.

У гэтым баі загінуў і Барыс Іофе. Да 1970 года лічылася, што ён прапаў без вестак, і толькі ў 1982 годзе родныя даведаліся, што ён пахаваны разам са сваімі аднапалчанамі ў брацкай магіле горада Радомышля Жытомірскай вобласці.

Пра Барыса Іофе памятаюць у Беларусі, аб чым сведчаць згаданыя намі энцыклапедычныя выданні. А ў 1997 годзе ў Горках Горацкім гісторыка-этнаграфічным музеем была выдадзена брашура пра яго жыццё і творчасць «Даследчык беларускай літаратуры».

**Міхась Булавацкі**

## Эпісталярыі працягваюцца…

Напрыканцы 2017 года выйшла мая кніга «Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць». У кнігі шмат аўтараў. Яе пісалі кіраўнікі банкаў, упраўленняў міністэрстваў унутраных спраў, адукацыі, транспарту, намеснікі міністраў, кіраўнікі раённых, гарадскіх і абласных выканкамаў, пракуроры, суддзі… Праўда, яны не ведалі, што пішуць кнігу. Яны проста адказвалі на мае лісты, адказвалі, як умелі, як дазваляла ім сумленне і пасада.

Я таксама не ведаў, што пішу кнігу. Я складваў тыя ліставанні ў тэчкі і забываў пра іх. Аднойчы пачаў корпацца ў сваіх архівах, каб ачысціць іх ад непатрэбных паперак. Прачытаў адно ліставанне, другое… І зразумеў, што выкідваць гэта не варта. Там выразныя дакументы эпохі, яскравыя сведчанні навейшай гісторыі нашай краіны, у прыватнасці Магілёва. Дакументы, якія іншаму начальніку хацелася б спаліць. Але «рукапісы не гараць». І тыя ліставанні будуць чытаць дзеці і ўнукі тых начальнікаў. Чытаць і па-свойму ацэньваць.

«Эпісталярыі» выдадзены. Але эпісталярыі працягваюцца. Значыць, у кнігі будзе працяг. Вось пара раздзелаў магчымай новай кнігі.

### Крывадушнасць пры ўладзе

> Наблізьцеся да Бога і Ён наблізіцца да вас; ачысціце рукі, грэшнікі, папраўце сэрцы, двудушныя…
> *Пасланне Якава, 4:8*

*У верасні 2017 года мастак Мікола Купава і грамадскі дзеяч Воршы Ігар Грышанаў кінулі кліч трывогі «SOS Скарына!» наконт памяці герояў, што загінулі на Крапівенскім полі, і наконт памяці пра Францішка Скарыну. На просьбу падтрымаць гэты кліч трывогі палічылі патрэбным адгукнуцца і некаторыя магілёўцы.*




**Міхась Булавацкі**

нарадзіўся 11 кастрычніка 1947 г. у в. Восы Глускага раёна Магілёўскай вобласці. Настаўнік, журналіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч. Друкаваўся ў беларускіх і расійскіх газетах і часопісах. Паспяхова ўдзельнічаў у літаратурных конкурсах радыё «Свабода». Выдаў кнігі перакладаў твораў Уладзіміра Высоцкага «Я не падману» (1999) і «Пра жыццё, пра волю, пра сябе…» (2015), «Беларус у Беларусі» (2017). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Магілёве.

**12.11.2017. Старшыні райвыканкама г. Воршы сп. Пазняку А. Р.**

Напярэдадні 8 верасня Крапівенскае поле, дзе беларускія войскі ў 1514 годзе здабылі самую пераканаўчую перамогу ў сваёй гісторыі, ізноў узаралі. Гэта робіцца кожны год! І не для таго, каб зерне пасеяць. А для таго, каб людзям было кепска прайсці да хрысціянскага крыжа і помнікаў, якія ўшаноўваюць вялікую перамогу…

А ў год 500-годдзя Беларускай Бібліі, якую пераклаў, падрыхтаваў для друку і выдаў Францыск Скарына ў 1517 годзе, неўзабаве пасля вялікай перамогі, тут, у Воршы, ліквідавалі назву вуліцы, якая насіла імя вялікага асветніка Скарыны. Праўда, яна звалася «улица Г. Скорины». Кажуць людзі, якія жывуць на гэтай вуліцы, што яе перайменавалі паводле настойлівай просьбы прыхаджанаў і святара Ільінскай царквы, якая стаіць на вуліцы Скарыны. І ўжо на некаторых дамах вісяць шыльды з назваю «Ильинская улица».

Варта ведаць гарадскім уладам і святарству царквы Маскоўскага патрыярхату, што Францыск Скарына ніколі не быў «Г.». Так пішуць тыя, каму Францыск Скарына не патрэбны. Але Скарына патрэбны нам, ён патрэбны Воршы, патрэбны Беларусі, як і ўсяму свету. Таму ЮНЕСКА і абʼявіла 2017 год годам памяці Францыска Скарыны. Гэта гаворыць пра тое, што наш вялікі асветнік прызнаны ва ўсім свеце. А ў Воршы ён ці прызнаны? Вывесці Скарыну з культурнага абсягу горада Воршы — гэта не поле ўзараць, гэта трэба разглядаць як чарговае нішчэнне культурнага поля Беларусі, імкненне затаптаць нашую гістарычную памяць.

Адзінай умовай, калі грамадскасць можа пагадзіцца з названым рашэннем райвыканкама, можна лічыць тое, што вуліца Ф. Скарыны знаходзіцца не ў цэнтры горада, а павінна быць вуліцай прадстаўнічай, а то і зусім цэнтральным праспектам горада, як таго заслугоўвае маштаб асобы Ф. Скарыны. Зыходзячы з гэтага прапануем райвыканкаму прыняць адзіна правільнае рашэнне: вуліцы Міру надаць імя Францыска Скарыны, а статус вуліцы падвысіць да ўзроўню праспекта і надалей яго называць праспектам імя Францыска Скарыны. Няхай гэта здарыцца як мага хутчэй — у час, калі Беларусь святкуе 500-гадовы юбілей пачатку выхаду з друку 23 кніг Беларускае Бібліі.

*Міхась Булавацкі, настаўнік, журналіст, пісьменнік*
*Васіль Камароў, мастак*

**21.12.2017. Аршанскі райвыканкам — М. Булавацкаму**

*(Усе адказы з Воршы падаюцца ў правапісе арыгінала, зроблены неістотныя скарачэнні.)*

Аршанскі райвыканкам на Ваш зварот… па пытаннях перайменавання вуліцы Францыска Скарыны ў вуліцу Ільінскую і перайменавання вуліцы Міру ў праспект імя Францыска Скарыны паведамляе.

У мэтах удакладнення і ўпарадкавання паштовых адрасоў, выключэння памылак і розначытанняў рашэннем Аршанскага гарвыканкама ад 20.05.2005 «Аб удакладанні паштовых адрасоў» прынята лічыць частку вул. Францыска Скарыны ад дома № 1 да дома № 27 уключна па няцотнаму боку і

ад дома № 2 да дома № 36/77 уключна па цотнаму боку вуліцай Ільінскай. Такім чынам частка вуліцы Францыска Скарыны засталася.

Аршанскі райвыканкам лічыць прыярытэтным прысваенне назваў вуліц у раёнах новай забудовы. Перайменаванне існуючых вуліц, у тым ліку і вуліцы Міру, немэтазгодна і пацягне нязручнасць для грамадзян і арганізацый.

Зямельны ўчастак, які прымыкае да «Крапівенскага поля» — памятнага месца бітвы 1514 года знаходзіцца ў карыстанні сельскагаспадарчага філіяла «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр "Задняпроўскі"» адкрытага акцыянернага таварыства «Аршанскі камбінат хлебапрадуктаў» для вядзення раслінаводства. Штогод пасля вызвалення ад культур праводзіцца лускання іржышча і ўзворвання. На гэтым зямельным участку прылада дарог для перамяшчэння грамадзян і аўтатранспарту не прадугледжана.

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь ад 18 ліпеня 2011 года «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Вы маеце права абскардзіць рашэнне, прынятае па Вашаму звароту, у Віцебскі абласны выканаучы камітэт.

*Намеснік старшыні А. В. Смірноўскі*

*«Перайменаванне існуючых вуліц… немэтазгодна і пацягне нязручнасць для грамадзян і арганізацый», – піша А. Смірноўскі. У той жа час перайменаванне вуліцы Ф. Скарыны здзяйсняецца, не зважаючы на нязручнасці для грамадзян і арганізацый. Як кажуць, правая рука не ведае, што робіць левая. Двухаблічнасць відавочная. Як можна ўдакладніць і ўпарадкаваць паштовыя адрасы, змяняючы назву часткі вуліцы?*

*І далей не лепш. Поле тое камбінату хлебапрадуктаў зусім не патрэбнае. І ніякіх хлебных раслін камбінат там не вырошчвае. Хутчэй за ўсё, камбінату перадалі, навязалі гэты ўчастак, каб такім чынам адбівацца ад грамадзян: маўляў, поле належыць камбінату, да яго і звяртайцеся; мы тут ні пры чым! Знайшлі чыноўнікі Аршанскага РВК такую, з іх погляду, хітрую, а з нашага погляду крывадушную «адмазку».*

**28.12.2017. М. Булавацкі — А. Смірноўскаму**

Паважаны Алег Валер'евіч!

Ваш адказ на наш з В. Камаровым зварот пакідае неўразумелымі шэраг пытанняў.

1) «Частка вуліцы Францыска Скарыны засталася», – пішаце Вы. Чаму толькі частка? У чыю галаву зазірнула думка падкараціць Скарыну? Няўжо ў галаву святара Ільінскай царквы? Дык калі гэты чалавек малаадукаваны, тады прадстаўнікі райвыканкама патлумачылі б яму, што размяшчэнне царквы на вуліцы імя чалавека, які падарыў беларусам Біблію, – вялікі гонар для царквы. Гонар і абавязак адпавядаць высокаму імені вуліцы. Можа, не адпавядаў?

Тым болей, што, як Вы пішаце, «перайменаванне існуючых вуліц… немэтазгодна і пацягне нязручнасць для грамадзян і арганізацый». Навошта вы ствараеце такія нязручнасці?

2) Вы паважліва памінаеце пра «Крапівенскае поле» як памятнае месца бітвы 1514 года. Такія месцы ўладным структурам варта шанаваць, ставіць помнікі, каб людзі ведалі і мелі магчымасць наведаць, памянуць гераічнае мінулае, пакланіцца праху выбітных продкаў. Я некалькі разоў быў на гэтым месцы і не помню, каб там вялося якое-небудзь раслінаводства. Больш за тое, я размаўляў з чалавекам, які касіў там траву для сваёй каровы, а зараз, як ён сказаў, трава там расце, але касіць яе няма магчымасці, бо поле сапсавана ямамі і калдобінамі.

Калі ж камбінат хлебапрадуктаў вырашыў скарыстоўваць тую зямлю для «селекцыйна-гібрыднай працы», то варта ўсё ж выраўняць зямлю збоку поля, каб людзі маглі падыходзіць да «памятнага месца», не рызыкуючы зламаць ногі. Ці, можа, кіраўнікі камбіната не ведаюць, што месца памятнае (як шмат у Воршы недаадукаваных людзей у кіраўніцтве!), дык падкажыце ім, калі ласка.

Думаю, варта кіраўніцтву райвыканкама распачаць гістарычны лікбез сярод жыхароў раёна, асабліва сярод кіраўнічых кадраў. Бо ёсць жа рэчы, пра якія павінен ведаць кожны чалавек.

З надзеяй на тое,
*Міхась Булавацкі.*

**17.01.2018. Аршанскі райвыканкам – М. Булавацкаму**

Дзякуем за Вашу пільную ўвагу да гісторыі Аршаншчыны.

Аршанскі край – самабытны і па-свойму непаўторны рэгіён Беларусі з багатай гістарычнай і культурнай спадчынай, працавітымі і гасціннымі людзьмі.

Аршанская зямля дала свету таленавітых пісьменнікаў і паэтаў, мастакоў і артыстаў, навукоўцаў і дзяржаўных дзеячаў.

Беражліва захоўваючы гісторыю, у Аршанскім рэгіёне шмат увагі надаецца духоўнаму, грамадзянска-патрыятычнаму выхаванню моладзі на ўзорах славутых землякоў і гераічнага мінулага сваёй малай Радзімы.

Вашы прапановы па захаванні традыцый для забеспячэння пераемнасці пакаленняў, фарміраванні пазітыўных адносін да гісторыі малай Радзімы і краіны ў цэлым, безумоўна, заслугоўваюць увагі і будуць улічаны ў далейшым.

Як паведамлялася Вам раней, зямельны ўчастак, які прымыкае да «Крапівенскага поля», знаходзіцца ў карыстанні сельскагаспадарчага філіяла «Селекцыйна-гібрыдны цэнтр "Задняпроўскі"» адкрытага акцыянернага таварыства «Аршанскі камбінат хлебапрадуктаў» для вядзення раслінаводства. Таму дарога для перамяшчэння грамадзян і аўтатранспарту не прадугледжана. [*Так і адчуваецца смехаёчак начальніка: ах, які я фінт прыдумаў! Ну вось цяпер кусай мяне, ды не ўкусіш!*]

У адпаведнасці з артыкулам 20 Закона Рэспублікі Беларусь… «Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб» Вы маеце права абскардзіць рашэнне, прынятае па Вашым звароце, у Віцебскі абласны выканаўчы камітэт.

*Намеснік старшыні А. В. Смірноўскі*

**22.01.2018. М. Булавацкі — А. Смірноўскаму**

Паважаны спадар Смірноўскі!

Розныя часткі Вашага ліста супярэчаць адна адной. Вы пішаце «Беражліва захоўваючы гісторыю… шмат увагі надаецца духоўнаму, грамадзянска-патрыятычнаму выхаванню моладзі на ўзорах славутых землякоў і гераічнага мінулага…» І ў той жа час робіце ўсё, каб аршанская моладзь не магла нават падступіцца да месца адной з самых славутых бітваў, дзе здабыта вельмі важная для існавання нашага народа перамога. «…дарога для перамяшчэння грамадзян і транспарту не прадугледжана». Дык прадугледзьце! Вы ж гаспадар у раёне. Ды нават не трэба дарогі. Дастаткова проста выраўняць частку поля, падзяўбаную нейкім неразумным трактарыстам (тут выбачаюся перад трактарыстам, бо вінаваты не ён, а той невук-начальнік, які даў яму такі загад).

А пра тое, каму стукнула ў галаву падкараціць вуліцу Францішка Скарыны, Вы ўвогуле не хочаце казаць.

Вы раіце мне пры нязгодзе звярнуцца ў Віцебскі аблвыканкам. Не, я туды звяртацца не буду.

Паведамлю Вам, што ў мінулым годзе выйшла мая кніга «Беларус у Беларусі. Эпісталярыі пра мову і маральнасць». Гэта зборнік маіх ліставанняў з рознымі інстанцыямі па самых розных пытаннях. Людзі пісалі глупствы, думаючы, што вось напісаў — і яно забудзецца. Не, не забудзецца, усё напісанае застанецца для той самай гісторыі, якую Вы «беражліва захоўваеце». Я — таксама. І выкладваю ў кнізе. Іншы начальнік дорага даў бы, каб яго лісты зніклі, забыліся. Бо чытаць гэта будуць яго дзеці, унукі.

Мяркую, што наша з Вамі перапіска ўвойдзе ў кнігу, якая стане працягам «Эпісталярыяў». Думайце аб тым, што Вашы лісты будуць чытаць Вашы ўнукі, унукі, якія будуць жыць у краіне, дзе перамога нашага народа ля Крапіўны будзе вывучацца ў курсе гісторыі, дзе палкаводцу Канстанціну Астрожскаму будзе стаяць помнік у Воршы, дзе іменем Францішка Скарыны будуць называцца біліятэкі і ўніверсітэты, не кажучы ўжо пра вуліцы. І як на гэтым фоне будуць выглядаць Вашы лісты? Як будзе ацэньвацца дзейнасць падначаленага Вам райвыканкама?

У спадзяваннях на паразуменне,

*Міхась Булавацкі.*

*Але спадзяванне на паразуменне з Алегам Смірноўскім марнае. Бо ён служыць высокаму начальніку, а яго апаненты — роднай краіне і яе людзям.*

*На апошні ліст адказу не было.*

**Давайце пазнаёмімся**

Сябрук прапанаваў: давай сябраваць у твітары. У твітары дык у твітары. Зарэгістраваўся, змясціў фота.

Выявілася, што твітар — гэта найперш служба знаёмстваў. Камусьці мая фізіяномія глянулася, пайшлі прапановы на знаёмства ад жанчын. Спачатку я ігнараваў гэтыя прапановы, потым стала цікава, як будуць рэагаваць на маю мову. Пачаў адгукацца.

Як і чакалася, рэакцыя была розная. Часцей мова, мабыць, пужала і ніякага адказу не было. На жаль, ні разу не было і так, каб мне адказалі нашай мовай. Але былі «дэмакраткі», гатовыя прымаць маю мову, хаця карысталіся сваёй. Былі некаторыя прыкметныя гісторыі, пра якія я распавядаў у прэсе. Вось чарговая. Назавем новую знаёмую Таісай.

*Здравствуйте! Посмотрите, пожалуйста, мой профиль — когда у Вас будет для этого достаточно свободного времени: возможно, что наши цели, ценности и убеждения совпадают.*

Магчыма, супадаюць. Прынамсі, хочацца, каб было так. А якія Вашы каштоўнасці і перакананні?

*Там опросник из бесчисленных вопросов, по которым вычисляется процент совпадений по отношению к жизни, если я вдруг на какие-то чрезвычайно для Вас важные вопросы не ответила, Вы можете попросить ответа на них, я постараюсь прокомментировать свои ответы.*

Мая каштоўнасць — Беларусь (хачу, каб яна стала вольнай, незалежнай дзяржавай, здольнай самастойна выбіраць, з кім сябраваць). Мая каштоўнасць — чалавек. Чалавек сумленны, разумны, свабодны ў поглядах. Мая каштоўнасць… Але, мяркую, пакуль хопіць і гэтых для пачатку.

*Да, этого вполне достаточно. Я имела возможность наблюдать «незалежную» Украину, в 2014 году переехала из Киева в Витебск и вижу всё те же самые фишки в запудривании мозгов незалежным беларусам. У меня волосья встают дыбом — ещё одной гражданской войны пережить моей жизни не хватит. Я Вам стопудово НЕ кумпания!*

Кожны чалавек імкнецца з бацькоўскай сям'і сысці, каб стварыць сваю сям'ю. Пры гэтым ваяваць з бацькамі ён не збіраецца. Так і з народамі. Кожны народ хоча мець сваю тэрыторыю і хоча сам распараджацца сваім лёсам. Каланіяльных народаў застаецца ўсе менш. І Украіна разабралася б сама са сваімі праблемамі без вайны. Але Расіі не хочацца губляць такую калонію…

*Да что Вы говорите! России не хочется терять колонию, особенно когда Штатам аж печёт как хочется «колонизировать» кастрюлеголовых недоумков — ВСЁ видно было изначально невооружённым глазом, даже для таких политчайников, как я. Все «цветные» типа революции играют якобы за демократию, незалежность и самостийность, а в результате — война и разруха по всему миру — от Руанды до Хохлянды. А Россию шельмовать куда как просто — это так модно стало нынче, аж тьфу!*

*Украина продалась за плюшки, обещанные фантомные преференции. Теперь, как турки, будут сорок лет дожидаться ассоциированного членства – сами распорядились своей судьбой. И не надо Россию в этом винить!*

Таіса, мілая, давайце не будзем зняважліва выказвацца ў адрас якога-небудзь народа, расійскага, украінскага ці любога іншага. Агульнае выказванне кшталту «каструлегаловых недавумкаў», па-першае, няправільнае, бо ў любым народзе людзі розныя, хапае і дурняў, і разумных, па-другое, непрыгожае, а жанчына павінна думаць пра «прыгожа–непрыгожа». Вам, жанчыне прыгожай, не варта прыпадабняцца да базарнай бабы.

Украіна, як краіна вольная, мае права сама выбіраць, каму прадавацца і за якія плюшкі. І тое, што яна пацягнулася на Захад, можна зразумець: у Еўропе навучыліся жыць крыху лепш, чым у Расіі — і ў матэрыяльным плане, што відавочна, і ў маральным, што менш відавочна. І Вы, з'язджаючы з Кіева, не паехалі ў Саратаў ці Томск, выбралі горад, крыху бліжэйшы да Еўропы. І грошы расійскія алігархі захоўваюць у еўрапейскіх банках, а не ў расійскіх, расійскім не давяраюць. І дзяцей сваіх ТАМ вучаць.

А што Расію шальмаваць стала модна толькі зараз — і гэта няпраўда. Яшчэ пры царызме Расію называлі жандарам Еўропы за яе спробы ўмешвацца ў палітыку іншых краін. Потым бальшавікі, перавярнуўшы сваю краіну, абвясцілі пра «экспарт рэвалюцыі» (маўляў, мы зробім рэвалюцыю па ўсім свеце), і іх сталі ва ўсім свеце асцерагацца. Таго ж Гітлера ЗША і Англія прыдушылі б адразу, не далі б разварнуцца, але вырашылі сутыкнуць ілбамі дзвюх пачвараў. А Расія, панабудаваўшы лагераў у сваёй краіне, потым стварыла лагер (сацыялістычны) і ў Еўропе, з якога то Венгрыя, то Чэхаславакія, то Польшча спрабавалі збегчы, і гэтыя спробы задушваліся расійскімі танкамі.

А вось Вам доказ таго, што Беларусь — калонія Расіі. Я — выкладчык універсітэта (матэматыка), цяпер можна дадаваць «былы», бо на пенсіі. У 1990 годзе нам, выкладчыкам, ДАЗВОЛІЛІ чытаць лекцыі па-беларуску. Я, беларус, у сваёй краіне не мог гаварыць са студэнтамі сваёй мовай. Вось, дачакаўся нарэшце. Зараз хачу дачакацца яшчэ большага.

P. S. Усё ж шкада, што Вы мне не «кумпанія».

*Спасибо за ликбез. Только ситуация несколько иная. Я бы с радостью уехала в Саратов или Нижний Новгород, но в Витебск мне пришлось возвращаться исключительно по квартирному вопросу – это родина моих детей. В 1990 году я работала в Витебском пединституте и помню эту кампанейщину по «разрешению» – за преподавание на бел. языке вводили надбавку, которую выплачивали за первую прочитанную 1 сентября лекцию, а дальше всё катилось по накатанным рельсам, поскольку адекватных переводов специальной терминологии ещё не было. И до сих пор многие грамматические нормы бел. языка нельзя считать устоявшимися. Но Вы можете позволить себе развлекаться лингвистическим экспериментаторством – воля Ваша.*

*А по поводу «революционного» демократизаторства не надо меня лечить – я всё видела СВОИМИ глазами. И даже дефективное бабское восприятие действи-*

*тельности не оставляет сомнений в том, что существуют всего лишь две категории участников имитационного «революционного» процесса: либо профессиональные негодяи (хотя в политике других и не водится!), либо обманутые простачки (= кастрюлеголовые недоумки), позарившиеся на западенские коштовности. Достаточно лишь сравнить уровень жизни и безопасности до переворотов и после. Прикиньте математически, как победа незалежности обескровила страну — не «Небесной сотней», но бегущими во все стороны — и в Россию, пожалуй, побольше, чем на Запад. Более четверти трудоспособного населения!*

Дарэмна Вы так. Для мяне родная мова — не «лингвистическое экспериментаторство», а жыццёвая неабходнасць. Матэматычная тэрміналогія ў нашай мове распрацавана даволі грунтоўна. Маецца нават «Матэматычная энцыклапедыя» на нашай мове. А калі ўзнікаюць якія праблемы з новымі паняткамі (а яны ўзнікаюць у любой мове), то з цягам часу спакойна вырашаюцца.

А што бягуць з Украіны, дык жа бягуць не з Кіева ці Львова, бягуць з Луганска і Данецка.

*Я устала сегодня и не хочу продолжать дебаты на очевидно неконгруэнтных фундаментальных ценностях наших мировоззренческих основ. Но и завтра я тоже не захочу этого. Я не соглашусь с Вашими аргументами, и Вы не захотите разделить мой болезненный горький опыт личного присутствия в эпицентре трагического разгула «демократических» игрищ. Давайте прекратим на этом пустые препирательства.*

Добрага Вам здароўя!

Ну вось, і тут не склалася. Яна, выкладчыца ўніверсітэта, выкладала, мяркуючы па яе лексіконе, нейкую грамадскую дысцыпліну. Напрыклад, марксісцка-ленінскую філасофію ў часы СССР, а потым — проста філасофію, якая ў яе і засталася марксісцка-ленінскай. Штампамі камуністычных поглядаў напоўнена і яе жыццё, і яе выкладанне.

Лёс закінуў жанчыну ў Кіеў. З цягам часу студэнты ўсё менш зважалі на яе сентэнцыі. Яе гэта гняло, але трымалася. Неяк жа трэба зарабляць на жыццё. Што ж яе выгнала з Кіева? Якую вайну яна там убачыла, што «волосья встают дыбом»?

Хутчэй за ўсё, універсітэт, дзе працавала, перайшоў на ўкраінамоўнае выкладанне. А ёй, пенсіянерцы, вывучаць мову, да якой і раней не вельмі паважліва ставілася, не захацелася. Вось і паехала да дзяцей. А злосць на Украіну засталася. І будзе штодзень псаваць жыццё і сабе, і сваім блізкім гэтай злосцю. Шкада іх, такіх…

# ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



**Іван Аношкін**

## Была вайна
*Фрагмент*

Падчас сустрэч моладзь, школьнікі часам пытаюцца: як яно было ў гады вайны. І хоць многае сёння перад вачамі, нібы гэта адбылося ўчора, успамінаць цяжка. Аднак што было, тое было. Пражытае і перажытае з жыцця не выкрасліць.

* * *

Той яснай нядзельнай раніцай адправіліся мы ў лес з суседскім Мішкам (Аўдулін Мішка, так клікалі яго ў нашай Антонаўцы, таму што яго бацька — Ускробаў Нічыпар Анісімавіч — загінуў на савецка-фінскай вайне, маці адна гадавала траіх дзяцей). Лес, які чамусьці называлі Камітэтам (можа, з часоў Грамадзянскай вайны, калі стваралiся камітэты беднаты, што распараджаліся раллёй і лесам), — гэта ў паўтара-двух кіламетрах ад вёскі. Патрэба да лесу была ў мяне: згрэбці ў мяшок кучу мурашніка і прывезці на калясцы дахаты. На лекі. Бацька толькі выпісаўся з бальніцы, дзе лячыў застарэлы рэў-



**Іван Аношкін**

нарадзіўся 21 студзеня 1928 г. у в. Антонаўка Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. У гады Вялікай Айчынай вайны падлеткам знаходзіўся ў канцлагеры смерці «Азарычы». Першыя яго творы з’явіліся ў друку ў 1946 г. Першы зборнік апавяданняў і гумарэсак «Лішні мінус» выйшаў у 1959 г., усяго ім выдадзена больш за 10 кніг розных жанраў. Працяглы час працаваў сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў. Памёр 3 лютага 2013 г.

матызм, і яму нараілі ці то ванну, ці то масаж з гэтым самым мурашнікам. Збіраліся ў лес з маці, але тут падвярнуўся Мішка: яму, аказваецца, таксама ў лес прыспічыла — вудзільнамі назапасіцца. Хоць рэчка Проня ад нас далекавата — кіламетры тры-чатыры паміж Загоранкай і Высокім, часам бегалі туды гаманкой чарадой парыбачыць. З тых уловаў наедак быў слабы, затое прыгод, уражанняў, успамінаў — да наступнай рыбалкі.

І тады разлічвалі: хуценька туды і назад, а потым — з вудамі на Проню. Аднак хуценька не атрымалася.

Лес сустрэў нас птушыным перасвістам, прахалодай. Трава пад нагамі яшчэ ад начной расы мокрая, у ёй як бы хаваюцца белыя галоўкі ландыша. Аднекуль збоку даносіцца гулкі дроб, што адбівае дзяцел. А вунь і сам, чорны з белымі крапінкамі, а на патыліцы — яркія чырвоныя пярынкі. Учэпіста трымаецца за ствол хвоі, дзяўбе і дзяўбе. Зязюля ўдалечыні адлічвае камусьці гады. Зашастаў леташняй лістотай вожык. Вось ужо сапраўды: пад хвоямі, пад ёлкамі бяжыць мяшок з іголкамі. «Лаві, лаві!..» — крычыць Мішка. А навошта нам вожык? Нам патрэбен мурашнік. Натаптаць хоць бы з гэтай кучы. Трымай мяшок. Складаней адшукаць падыходзячыя ляшчыны — роўныя, выносістыя. Яшчэ складаней сцізорыкам іх зразаць. Натрапілі на чырвоную ад суніц дзялянку. Ягады буйныя, сакавітыя, у роце так і растаюць. Мішка пашкадаваў, што не прыхапілі з сабой гарлачыкі. Толькі дарма шкадаваў — больш такіх шчодрых дзялянак не траплялася. Вясна была позняя, халодная, ягадная пара яшчэ не надышла. Так што тое ды сёе — вярнуліся дзесьці каля полудня.

Пераступіўшы парог сваёй хаты, адчуў штось няладнае. Маці нейкая ўстрывожаная. Што здарылася?

— Вайна, сынок!.. Немец уначы напаў… Молатаў па радыё сказаў…

Талеркі-рэпрадуктары былі ў кожнай хаце. Слухалі песні Русланавай, прагноз надвор’я, навіны… І вось якая навіна!

Вайна, вядома, дрэнна, падумалася. Вайна забрала Мішкавага бацьку. Але ж не мы напалі на немцаў. Ім жа перш за ўсё будзе і дрэнна. Нездарма ж спявалі: «Мы врага встречаем просто: били, бьём и будем бить…»

Маці на мае грозныя развагі толькі сумна пакруціла галавой. Пачала з печы даставаць чыгуны з капустай і кашай, паклікала ўсіх абедаць. Але тут у адкрытае акно мяне паклікаў Мішка.

— Гайда да трыбуны!.. Там мітынг!..

Трыбуна — на выгане. Яе збудавалі гады тры назад, калі калгасу ўручалі Акт на вечнае карыстанне зямлёй. Уручаць той Акт прыязджалі начальнікі з Чавус. Мне запомнілася рэдактар раённай газеты «За бальшавіцкія калгасы» (я і сам пасылаў ужо туды нататкі), немаладая, згорбленая жанчына, як пазней даведаўся — Чэрна Беньямінаўна Бярозаўская. Яна гучней за ўсіх казала, як добра зажывём, калі будзем старанна працаваць на ўручанай навечна зямлі. Выступала добра, але чамусьці неўзабаве яе арыштавалі як «ворага народа», трацкістку, польскую шпіёнку (яна родам з Гродна, якое ў той час было пад панскай Польшчай). У Антонаўцы наўрад ці хто паверыў, што

тая шчупла-галасістая жанчына — шпіёнка. Што можна ў Чавусах вышпіёніць? А яшчэ таму, што знайшлі кучу трацкістаў, ворагаў і ў нашай вёсцы. У іх ліку ўначы ўхапіў «чорны варанок» цётку, бацькаву сястру Пёклу, і яе мужа Рыгора Валавіковых. Цётка была добрая, ласкавая, калі ні зойдзеш, частавала блінамі са смятанай ці яшчэ якой-небудзь смакатой. Хадзіла ў Галавенчыцы ў царкву, але не прызнавала аўтарытэту суседкі Полькі — жонкі старшыні калгаса Цішкі (Ціхана Пархвенавіча Гарбачова). Тая, як знаны авечкавод, ездзіла на сельскагаспадарчую выставу ажно ў Маскву, цётка ж ведала яе зусім не такой стараннай. Дзядзька Грышка пра палітыку паняцця не меў, газету браў у рукі хіба каб адарваць жмутак для самакруткі. Відаць, камусьці хацелася выклікаць незадаволенасць савецкай уладай. Усе арыштаваныя, знішчаныя потым былі рэабілітаваны пасмяротна, а каму ўдалося выжыць — у старэчым узросце былі пасля вайны ўжо апраўданы.

Як бы там ні было, трывала збітая трыбуна засталася ўпрыгажэннем вёскі. З яе 1 Мая і на Кастрычніцкія святы гаварылі прамовы, сюды пад чырвоным сцягам, з песнямі прыходзілі калонай на чале з настаўнікамі школьнікі.

Калі мы з Мішкам прыбеглі на выган, да трыбуны, мітынг быў у разгары. Тут сабралася, мабыць, уся наша Антонаўка, ды і з суседніх вёсак — Залесся, Лапеняў, Загоранкі… Прыходзілі хто ў краму, хто да сваякоў у госці. А тут як гром сярод яснага неба — вайна!

Выступаў дырэктар нашай сямігодкі, ён жа сакратар калгаснай партыйнай ячэйкі Бабылёў Ціхан Захаравіч. «Смерць Гітлеру!.. Фашыстам!..»

— Гітлер… гэта ж сабака! — здзівіўся Мішка.

— Дзе сабака, а дзе… ну той самы фашыст, — спрабаваў я растлумачыць Мішку, хоць таксама не мог зразумець, хто ёсць хто. У нашу Антонаўку часам заходзіў са стрэльбай і паляўнічым сабакам, Гітлерам, герой Грамадзянскай вайны Абраменка. Мы, калі хадзілі ў галодныя вясновыя дні на поплаў да Проні па шчаўе, бачылі яго прыгожую хату над ракой. Казалі, што Абраменка з вайны мае нават ордэн, але я таго ордэна не бачыў, ды і хто гэта ходзіць на паляванне з ордэнам? Абраменка сябраваў з Мішкавым бацькам, таксама заўзятым паляўнічым. Бывала, пакуль яны абедалі, чокаліся і вялі шчырыя гутаркі, мы бавіліся з незлаславым, абыходлівым Гітлерам. І вось на табе: Гітлеры бываюць усякія…

А фашыст?.. Слова такое, здаецца, раней і не згадвалася. Немцаў жа ў школе настаўнікі нават хвалілі. Памятаю, сам Ціхан Захаравіч на ўроку (ён вучыў нас геаграфіі) з натхненнем распавядаў, як цяперашняй вясной немцы, дапамагаючы сваім саюзнікам італьянцам, размалацілі нягодных грэкаў…

Потым ужо, пасля вайны, вывучаючы гісторыю, я больш даведаўся пра тую перамогу. Італьянскі фашысцкі дучэ (правадыр) Мусаліні, разлічваючы на лёгкую перамогу, не параіўшыся са сваім саюзнікам Гітлерам, напаў на Грэцыю. Але падмануўся: грэкі сталі калашмаціць італьянцаў. Прыйшлося Гітлеру, прачытаўшы натацыю няўдачліваму саюзніку, павярнуць войскі, падрыхтаваныя на іншае, на грэкаў і югаславаў. Калі б не тая неспадзяваная затрымка, немцы напалі б на нас яшчэ ў маі. Тады і заняткі ў школе да лет-

ніх канікул не паспелі б скончыць. І не пачулі б лішні раз, якія добрыя ваякі немцы. Яны і нам, значыць, былі ці то сябрамі, ці то саюзнікамі?

А яны, аказваецца, вось якія сябры. Саюзнікі!.. Праклятыя фашысты!..

Потым выступалі трактарыст Фёдар Ягоравіч Казянкоў, загоранская звеннявая-льнаводка, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР Ульяна Іванаўна Махаленка, яшчэ хтосьці… Казалі: «Усе, як адзін, станем за Айчыну!..», «Біць вераломнага ворага на яго ж тэрыторыі!»

Мы, школьнікі, на трыбуну не лезлі, але таксама пагражалі таму нямецкаму Гітлеру і яго фашыстам. Вунь якія нашы самалёты: вышэй за ўсіх і далей за ўсіх, нават праз паўночны полюс у Амерыку лётаюць! А танкі, танкеткі! Мы іх бачылі, калі тут праходзілі ваенныя манеўры. А будзёнаўская кавалерыя? А яшчэ, як нас вучылі ў школе, калі буржуі адважацца напасці на нашу савецкую краіну працоўных, пралетарыі тых краін пачнуць рэвалюцыю, зрынуць сваіх правіцеляў…

* * *

Аднак вайна чамусьці пачалася зусім не так, як мы, дзеці, меркавалі. Рэпрадуктар трывожна паведамляў пра зацятыя баі не на чужой, а на нашай зямлі. Самалёты з чорнымі крыжамі на крылах часта гужам ляцелі на ўсход, а нашых у небе не відаць. Таму, казалі, што ў першую ж ноч вайны нашы аэрадромы з самалётамі разбамбілі немцы. Цяпер бамбяць Кіеў, Мінск… А ў Мінску ж наш Міцька. Скончыў ФЗВ сувязі і пакінуты там працаваць. А ў Беразіно (тады Магілёўскай вобласці) пасля барысаўскага медвучылішча ў бальніцы наша Сонька. Ці жывая?

Нашы антонаўцы, хто прыдатны да ваеннай службы, ужо сышлі ў райваенкамат — мой стрыечны брат Санёк (Аляксандр Міхайлавіч Аношкін), дзядзька Аўдулінага Мішкі Дзёмка (Дзям'ян Анісімавіч Ускробаў), Стафаненка Іван Паўлавіч… Дома пакуль Фёдар Казянкоў: яму заўтра з Чавускай МТС (машынна-трактарнай станцыі) гнаць тэхніку ў тыл. Як цяпер памятаю яго: нізкага росту, каржакаваты здаравяка. У той свой апошні ў вёсцы вечар ён з іншымі мужчынамі дымеў самакруткай у нашай хаце. Мужчыны і раней любілі збірацца ў нас, пагаварыць з бацькам, які лічыўся грамацеем (а як жа: яшчэ ў царскі час адзіны з усёй вёскі скончыў у Галавенчыцах царкоўнапрыходскую школу, выпісваў і чытаў не толькі раённую газету). Змрочна абмяркоўвалі цяперашнюю сітуацыю. Ну як гэта немец узяў верх? Праспалі напад? Так дзе наша разведка была? Не аказалася ў нас талковых камандзіраў?

— Тухачэўскага, Блюхера і вунь яшчэ колькіх самі ж пастралялі! А цяпер… — вырвалася ў Фёдара тое, пра што іншыя толькі баязліва думалі.

Раніцай Фёдар сышоў, і больш мы яго не бачылі.

Вёска жыла ў трывозе. Па гасцінцы ішлі і ехалі — хто як, хто на чым: на грузавіку-паўтаратонцы, на падводзе, на веласіпедзе, пешшу — уцекачы, якія ратаваліся ад фашыстаў. З нашых антонаўцаў таксама сёй-той з'язджаў.

Першым з сям'ёй Цішка (Ціхан Пархвенавіч Гарбачоў), былы наш калгасны старшыня. Таму былы, што перад вайной з антонаўскага «Чырвонага барацьбіта» яго перакінулі старшыняваць у лапенскі калгас імя Мархлеўскага. Да нас жа з Высокага — несамавітага Калістратава…

За Гарбачовым — сям'я дырэктара нашай сямігодкі Бабылёва, якая, можна сказаць, панесла першую ахвяру ад вайны. Ціхан Захаравіч быў да ўсяго хвацкім баяністам, на школьных вечарах акампанаваў юным спевакам, хору. А потым пачала са сцэны іграць на баяне і яго маленечкая, яшчэ дашкольніца Лілька. І раптам захварэла. У лепшы час яе ўрачы, бадай, выратавалі б, а пры такой сумятні… Пахаваўшы небараку, Бабылёвы з'ехалі. За імі, але без сям'і (жонка, дзеці малалетнія і цешча засталіся) — старшыня сельсавета, грузны, хваравіты Новікаў…

Паблізу ад будняцкага возера (каля дарогі на Старую Буду) пад кіраўніцтвам маладзенькага лейтэнанта сапёры капалі ці то акоп, ці то процітанкавы роў. Ім дапамагалі сельскія жыхары. Хтосьці прынёс свежую газету, а ў ёй верш Якуба Коласа «Шалёнага пса на ланцуг».

— Не на ланцуг, а на сухую асіну, — кідаючы з ямы зямлю, адклікнуўся сапёр-чырвонаармеец. — З ланцуга, таго і чакай, сарвецца…

Да бацькі прыйшлі з сельпо, просяць павартаваць уначы каля крамы.

— Дык ёсць жа вартаўнік!

— Быў… учора пайшоў у ваенкамат…

— А што там пільнаваць? — адгаворваецца бацька. — Усё, нават соль, размялі…

— Соль даставім, — абяцалі. — А без вартаўніка нельга… Установка…

І вось познім вечарам бацька, крэкчучы, збіраецца на тое начное дзяжурства да крамы. З ім за кампанію і я: усё адно не заснуць…

Крама — у былой хаце малодшага бацькавага брата Нічыпара. Ратуючыся ад калектывізацыі, той з'ехаў з сям'ёй у Ленінград, нядрэнна там уладкаваўся, дасылаў нават нам пасылкі — дэфіцытныя ленінградскай фабрыкі галёшы, канькі-снегуркі. Забягаючы наперад, скажу, што ўсе, за выключэннем старэйшай дачкі, загінулі ў час фашысцкай блакады.

А пакуль сядзім на прызбе. Падышоў сусед Павел Капусцін — таксама не спіцца. Кураць, занепакоена гамоняць. Няўжо не ўтрымаюць? Няўжо і да нас пусцяць?

Я адышоў у садок, прыклаў вуха да зямлі: чуваць, як далёка-далёка зямля дрыжыць. Далёка, ды не вельмі. Інакш не пачуць бы артылерыйскай канаднады.

Заракаталі маторы. Насупраць спынілася танкетка, два грузавікі з чырвонаармейцамі. Збянтэжаны камандзір, асвятліўшы ліхтарыкам карту ў планшэце, распытвае ў мужчын дарогу на Астрані: там, здаецца, фашысты скінулі дэсант.

Можа, скінулі, можа, не скінулі. Ды калі і скінулі, ці стануць чакаць, пакуль за імі прыбудуць на танкетцы і грузавіках?

— Будзьце пільныя, айцы, — дае наказ камандзір. — Учора схапілі дыверсантаў…

Танкетка і грузавікі звярнулі з гасцінца на прасёлак, пакацілі ў бок Залесся. А айцы заклапочана чухалі патыліцу: паспрабуй разбярыся, хто падазроны, хто дыверсант. Столькі народу праходзіць праз вёску!

Неяк Паўлюк (іншы Паўлюк, Стафаненка), прыгнаўшы з пашы на ранкі кароў, цярэбячы бараду, устрывожана распавёў, што каля дарогі на Брады бачыў нейкага падазронага. Ухапіўшы школьную дробнакаліберку, туды пабег сам дырэктар школы Бабылёў з брыгадзірам Пятром Баранавым, а ўслед мы пабеглі. Нікога не знайшлі, не злавілі. Можа, дзядзьку Паўлюку здалося?

Днём каля нашай студні спынілася машына з параненымі. Сярод параненых у фуражцы з зялёным аколышкам — пагранічнік.

— Пагранічнікам гарачэй за ўсіх прыйшлося, — кажа Мішка, сын майго хроснага бацькі Васіля. — Першымі сустрэлі ворагаў, першымі палеглі…

— А мой Грышутка яшчэ пярвей лёг, — уздыхнула, паднімаючы вядро з вадой, цётка Ганна.

— Дык то ж з белафінамі! — запярэчыў Мішка. — Хоць… Усё адно з буржуямі!..

Грышутка — гэта муж цёткі Ганны, Рыгор Шынкевіч. Як і бацька Аўдулінага Мішкі, ён загінуў на савецка-фінскай вайне. Зімовымі вечарамі цётка клікала мяне ў сваю хаціну, пры цьмяным святле газавай лямпы я пад яе дыктоўку пісаў жаласлівыя пісьмы. А калі сыходзіў, цётка, выціраючы слязу, пераадольваючы мой супраціў, совала ў кішэнь пакамечаны рублік. Потым прыйшла пахаванка, і лісты пісаць ужо не было каму. Засталася цётка Ганна з сіратой-хлапчуком. У яе было яшчэ двое дзяцей — дачка і сын, ад першага мужа. Яны мінулым летам прыязджалі з Ленінграда пагасцяваць. Зараз і за іх балела душа.

На Высочаншчыне — так называлася ўрочышча непадалёк ад суседняй вёскі Высокае — часта вухкалі зеніткі. Белыя шарыкі ўспыхвалі побач з варожымі самалётамі, але тыя скінулі бомбы на станцыю Чавусы, дзе якраз разміналіся два чыгуначныя саставы. Асколак жа аднойчы ледзь не злавіў я. Маці паслала мяне ў агарод, за дваром, сарваць зялёнай цыбулі, кропу, пятрушкі. Раптам штосьці пляснулася побач. Падняў — асколак снарада зенітки. А колькі іх будзе, калі пачнуць ірвацца фашысцкія снарады?

Далёкі гарматны гуд прымушаў падумаць пра хованку, хто меў склеп — наводзіў у ім парадак. А мы з Аркадзем пад кіраўніцтвам мамы выкапалі на сваёй сядзібе яму, зверху паклалі адно да аднаго бярвенцы з разабранага дзеля гэтага міжаконня, засыпалі зямлёй. Малым брацікам Жэню і Колю так спадабалася ў тым бліндажы, што замануліся жыць у ім і калі скончыцца вайна.

Мы перацягвалі ў свой бліндаж вузлы з хатнімі пажыткамі, калі з-за гумна паказалася жаночая постаць з авоськай у руцэ.

— Мама! — яшчэ здалёк крыкнула яна.

Ды гэта ж наша Соня!

Мама кінулася насустрач, абняліся, цалаваліся.

Соня суправаджала да Магілёва параненых чырвонаармейцаў. Здала ў шпіталь — і дахаты: што маладой нейкіх сорак кіламетраў!

— Добра, што знайшлася! — цешылася мама. — Будзем разам гора гараваць…

— Разам не атрымаецца, — запярэчыла Соня. — Я медсястра… Пераначую — і ў Чавусы… У райваенкамат…

* * *

Раніцай Соня стала збірацца ў ваенкамат. Маці, што яна звычайна рабіла толькі ў нядзелю і ў святочныя дні, напякла бліноў, прынесла з каморы міску са смятанай. За сняданкам Соня расказвала пра жахі ў дарозе ад Беразіно да Магілёва. Нямецкія самалёты скідалі бомбы, страчылі з кулямётаў. Усе беглі ад шасейкі ў поле, хаваліся ў канавах. Медсёстры, санітары не бегалі — параненых не кінеш…

— Каля Магілёва капаюць процітанкавыя равы чырвонаармейцы і гараджане…

— Можа, не пусцяць да Магілёва… і да нас, — спадзявалася мама.

— «Можа» надвое варожа, — сумняваўся бацька. — Усю Еўропу немец падмяў пад сябе. З усёй Еўропы сілу сабраў…

— Дык што — заваюе нас? — ледзь не падавіўся я блінам.

— Заваяваць не ўдасца, — тут ужо бацька быў упэўнены. — І ў Банапарта было войска з усёй Еўропы… Нават Маскву схітрыўся заняць. А потым бег без аглядкі. Але і ў Парыжы дасталі…

Прыйшла суседка — кума Таццяна. Ну, якая кума? Мужык яе Васіль Бондараў хрысціў усіх нас. Вось і называлі маці цётку Таццяну, а цётка Таццяна маці кумамі. Ну, быццам як радня. Таццяна лічылася мудрай жанчынай. Можа, таму яе за вочы клікалі Соркай. У калгасе яна была членам праўлення. Як ужо там у калгасе, а ў сваёй хаце яна сапраўды была галоўнай. І суседзямі, асабліва суседкамі, умела кіраваць, даваць парады.

Да нас зайшла не даваць парады — прынесла паўбохана пазычанага надоечы хлеба. У вёсцы гаспадыні пяклі хлеб не часцей чым раз на тыдзень. Здаралася, не ўкладваліся ў вызначаны час і тады пазычалі суседка ў суседкі. Так і сала, і яшчэ што. Каб не на вока, не пакрыўдзіць адна другую, мелі бязмен. Бязменная мера была тады фунт, пуд…

— Хадзіце да нас снедаць, — як прынята, запрасіла маці.

Гэта толькі ў Змітрака Бядулі, у яго апавяданні «Пяць лыжак заціркі», суседка не прымусіла сябе ўпрошваць, падсела да стала і спрытна ўхапіла лыжку. Тут жа ветлівасць на ветлівасць:

— Дзякуй, толькі ад свайго стала.

Пачуўшы, што Соня сабралася ў райваенкамат, цётка Таццяна пляснула рукамі:

— Ты што, дурная? Прыбілася да хаты, дык трымайся з сям'ёй… Што ўсім, то і табе…

Ды Соня не слухала разумнай парады. Медсястра — тая ж ваеннаабавязаная. Калі ўсе стануць так разважаць, хто будзе нашых параненых даглядаць?

І бацька Соню падтрымаў. А калі я напрасіўся яе праводзіць, сказаў, што нядрэнна было б і мне разам з Соняй там зачапіцца. Не заставацца ж пад немцам!

Пад вохканне цёткі Таццяны, плач маці выйшлі з хаты. І вось спяшаемся па сцяжынцы бліз абсаджанага бярозамі гасцінца. Да чыгуначнай станцыі пяць кіламетраў, і там крыху менш да Чавус. Вось паваротка на Лапені, далей ужо не антонаўскае — галачоўскае поле. У небе дрыжыць, звініць жаўрук. То высока-высока, то ўпадзе ў жыта. Жыта каля дарогі сцяной, вышэй майго росту. За ўсе гады ўрадзіла. Хто будзе прыбіраць? Ды і ці прыйдзецца прыбіраць — стопчуць, сатруць…

З гасцінца ў бок сцяжынкі вецер адносіць пыл. На гасцінцы, як і ўчора, заўчора, грузавікі, падводы. У бок Антонаўкі — ваенныя абозы, у бок Чавус — бежанцы.

— На Хватаўцы зойдзем па маю сяброўку, — сказала Соня. — Разам пойдзем у райваенкамат.

— Адкуль у цябе тут сяброўка? — здзівіўся я.

— З ёй суправаджалі параненых да Магілёва.

Хватаўка — гэта невялікае мястэчка перад станцыяй. Тут жывуць краўцы, шаўцы, шкляр Янкель, які са скрыняй шкла і алмазам ездзіць па вёсках. Але чаму такая назва?

— Мястэчка гэта даўняе-прадаўняе, — пачала тлумачыць Соня. — Чыгункі тут яшчэ не было, а Хватаўка ўжо была. Праз яе вяскоўцы з усяго гэтага боку ідуць і ідуць. Нясуць з вёсак на кірмаш хто пеўніка, хто ў кошыку яйкі, сыр, усё ўсякае. Тут іх пераймаюць жыхары мястэчка, таргуюцца, перахватваюць… Таму і Хватаўка…

І ў мяне мінулым летам перахапілі, успомніў я. Хадзіў я з дзецьмі ў лес па маліны. Не ў Камітэт — у Камітэце малінніку няма, а далей за Залессе, пад Астрані. Пастараўся, набраў бітончык. Маці параіла: аднёс бы на станцыю, да цягніка, — на сшыткі і алоўкі да школы будзе. Падручнікі ў школе выдавалі бясплатна — са зваротам у канцы навучальнага года. Мы іх акуратна абгортвалі газетай, каб зберагчы іншым. А сшыткі, алоўкі, іншую дробязь куплялі самі. А дома кожная капейка на ўліку.

Вось і перахапіла мяне ў гэтай Хватаўцы насатая гаспадыня з Іцкавага, самага прыкметнага каля дарогі дома. Калі яшчэ будзе той цягнік, кажа, ды і ці знойдуцца яшчэ там ахвотныя да малінаў пасажыры. Угаварыла, каб ёй прадаў. Завяла да сябе на кухню, патрэсла мой бітончык, ды так, што ўсе маліны змясціліся, праўда з коптарам, у адмераныя тры шклянкі. Выйшаў я з той хаты сам не ў сабе, пералічыў дробязь і выцер слёзы — нават рубля не набралася. Вось такі перахоп быў мне на гэтай самай Хватаўцы.

А Соня ўжо стукае ў дзверы таго самага Іцкавага дома. Дзверы адчыніла не насатая гаспадыня, а кірпатая чарнявая дзяўчына.

— Дабрыдзень, Розачка! — прывіталася Соня. — Ну, ты гатовая?

— Ведаеш, Соня, — збянтэжана сумелася Розачка. — Перадумала я…

— Як гэта перадумала? — не зразумела Соня.

— Не пайду я… Застануся…

— І табе не боязна? А калі і сюды немец?..

— Цётка Рыва кажа, што не так чорт страшны, як яго малююць…

— Як знаеш, — не стала Соня губляць час на ўгаворы. — Глядзі, каб потым не пашкадавала.

На станцыі таварны эшалон. Ці то разгружаецца, ці то дагружаецца. Можа, паравоз вадой папаўняецца. Можа, чакаюць сустрэчнага: пуць жа аднакалейны. Хоць бы не наляцелі з чорна-жоўтымі крыжамі… Станцыю ўжо бамбілі.

— Што застыў? Пайшлі, пайшлі, — прыспешвае Соня.

Подбегам выходзім на прамую, бы страла, шашу. Каля МТС ізноў міжволі замарудзілі крок. Звычайна з двара выязджалі машыны, даносіліся рокат матораў, галасы з прыгаворкамі і лаянкай трактарыстаў. А сёння ціха. Падобна, Фёдар Казянкоў з таварышамі трактары ўжо сагналі…

На ўскраіне Чавус — кірмашовая плошча. Сёння пятніца — кірмашовы дзень. У такія дні, бывала, тут не прапхнуцца. Зараз на пляцы амаль бязлюдна. Каля сталоў пад голым небам толькі некалькі старых з нейкімі цацкамі. Яно і зразумела: у гараджан і вяскоўцаў зусім іншыя клопаты. Распытваем у сустрэчных, дзе райваенкамат. Ды там, махае хлапчук рукой, за касцёлам.

Касцёл, высокі, чырвонацагляны, — найлепшы арыенцір. Але давялося яшчэ пахадзіць, паблукаць, пакуль знайшлі непрыкметны ваенкаматаўскі будынак.

Знайшлі, а што толку? Пуста, ні ўзяць ні ўцяць. Хаця не, у адным пакоіку хтосьці варушыцца. Пажылы мужчына, можа, які пісар, можа, вартаўнік. Выслухаўшы Соню, параіў:

— Ідзіце ў Дрануху… Туды ўсе з’ехалі…

— У Дрануху?.. А як туды?..

— Зарэчча… Па грэблі праз Басю… Міма аэрадрома… Там у лесе фарміровачны пункт…

У Дранусе, ведалі мы, быў яўрэйскі калгас. Можа, не зусім яўрэйскі, але большасцю ў ім былі мясцовыя яўрэйскія сем’і. І займаліся там не столькі полем-агародам, колькі рознымі промысламі.

Як бы не збіцца, не заблукаць, трывожылася Соня. Але вось, здаецца, аэрадром. Штосьці накшталт антонаўскага выгану, толькі без трыбуны. Пастаянных рэйсаў, усе ведалі, сюды не бывала. Зрэдку садзіліся санітарныя, паштовыя, яшчэ нейкія выпадковыя самалёты. А вось калі мы праходзілі міма, там стаяў, па ўсім відаць, баявы самалёт — двухкрылы з чырвонымі зоркамі. Каля яго завіхаўся лётчык у скураным шлеме. Хацелася падбегчы

бліжэй, разгледзець і самалёт, і лётчыка, ды няма калі. Раптам і за Дранухай нікога не заспеем?

За вёсачкай сінеў бор. Дзе шукаць той фарміровачны пункт?

Але шукаць не прыйшлося. Ледзь увайшлі ў лес, як нас аклікнуў паставы. Соня, збіваючыся ад хвалявання, стала тлумачыць, хто мы і навошта тут. Чырвонаармеец паклікаў кагосьці. З-за кустоў выйшаў яшчэ адзін чырвонаармеец, з трыкутнікамі ў пятліцах — камандзір, невялікі, меншы за лейтэнанта. Мне загадаў пачакаць, а Соню павёў да сваіх начальнікаў.

Усеўшыся пад елку, прачакаў Соню, можа, гадзіну, можа, дзве. Вярнулася ажыўленая. Пакідаюць! А мне давядзецца вяртацца дахаты. Інакш і яе не возьмуць. Крыўдна за сябе, але сястру як бы не падвесці.

Селі мы на лужку, падмацаваліся чым бог паслаў, а дакладней — што сабрала нам на дарогу мама. Соня пацалавала мяне на развітанне і пайшла, куды ёй было загадана ісці. А я нага за нагу паплёўся ў зваротны шлях. Самалёта на аэрадроме-выгане ўжо не было. У небе паўзла — цяпер ужо вяртаючыся на захад — чарада чужых самалётаў. Белыя аблачыны выбухаў успыхвалі то спераду, то ззаду. На гасцінцы было па-ранейшаму сумятліва, цесна. Хтосьці лаяўся, хтосьці плакаў.

Толькі к вечару, ледзь перастаўляючы ногі (як-ніяк больш як трыццаць кіламетраў без прывычкі пратупаў), прыбіўся да роднай хаты. Бацька не ўзрадаваўся, журботна цярабіў бараду. Маці, распытваючы, як там Соня, паведаміла, што днём пагналі ў тыл калгасны статак. Але я чуў і не чуў, зваліўся на ложак і праспаў да заўтрашняй позняй раніцы.

* * *

Раніцай успомніў: маці штосьці казала пра калгасны статак. Пагналі ў тыл? Калі б учора быў дома, мог бы пайсці разам з паганятымі. Калі я бедаваў аб гэтым, зазірнуў да нас брыгадзір Пётр Баранаў — з нейкім даручэннем да бацькі. Гэты Баранаў не быў карэнным антонаўцам, як лічылі ў нас, — прышлым. Быў прысланы загадваць сепаратарным пунктам, дзе з усіх навакольных вёсак прымалі, апрацоўвалі малако, пастаўлялі ў Чавусы на малаказавод. Ці то яго потым звольнілі, ці то сам расчараваўся ў пасадзе, стаў калгасным брыгадзірам. Да ваеннай службы аказаўся чамусьці непрыгодным. Пачуўшы мае жальбы, умяшаўся:

— Дык у чым рэч? Садзіся на Орліка і даганяй! Якраз Бондару пакет трэба перадаць.

Бондар — гэта наш сусед, мой хросны бацька Бондараў Васіль Дзянісавіч. Ён там за галоўнага. А Орлік — шустры малады канёк, на ім звычайна аб'язджаў палі сам брыгадзір.

— А як жа вы без Орліка? — не паверыў я, што ён давярае мне коніка.

— Баюся, што ён мне больш не спатрэбіцца, — сумна ўсміхнуўся брыгадзір. — А так заадно выратуеш ад супастатаў…

— А як знайду нашых?

— Знойдзеш. Тэлефанаваў Бондар: пад Асінаўкай яны. Ад Чавус прамая дарога. Нездарма кажуць: хто пытае, той не блукае…

Зборы былі нядоўгімі. Прымацаваў за плячамі клунак — прыгатаваны мамай «сухі паёк», а ў ім і брыгадзіраў пакет — і на Орліка. Кажуць, лепш дрэнна ехаць, чым добра ісці. Імчацца ж наўскач на шустрым Орліку зусім не дрэнна. Не заўважыў, як апынуўся ў Чавусах. Добрыя людзі паказалі дарогу на Асінаўку. У Асінаўцы стаў распытваць пра наш антонаўскі статак. Але кароў і іншае быдла зганялі не толькі антонаўцы.

— За старшага ў іх такі вусаты? — удакладніла нейкая бабуся.

— Так, як у Будзённага, вусішчы! — узрадаваўся я.

— Пагналі на Рабяткі, — паказала бабуся прасёлак.

Рабяткі — за некалькі кіламетраў ад Асінаўкі. Вёска як вёска. Наш статак аказаўся ў загоне, дзе раней трымалі быдла мясцовага калгаса.

Тыя пагналі ўжо далей у тыл.

— Людзі пагналі, а мы топчамся! — папраўляючы на галаве выцвілую блін-кепку, абураўся Макар Капусцін. — І што ён думае?!

Ён — гэта Васіль Бондараў, здагадаўся я. Жылі яны амаль насупраць, праз дарогу. Я не чуў, каб калі-небудзь па-суседску лаяліся. А тут заўсёднага гаваруна, вясёлага, жаданага на вяселлях, сельскіх гулянках гарманіста дзядзьку Макара было не пазнаць. З ім і дачушка — мая аднагодка Ліда зрывістым голасам падтрымлівае бацьку.

Падбег, абняў мяне Мішка Рэзік:

— Малайчына, што да нас!..

Рэзік — гэта не прозвішча. Мішкава прозвішча Стафаненка. Паўлюкоў Мішка. А Рэзік — вулічная мянушка. Што яна азначала, ні сам Мішка, ні хто іншы, відаць, не ведалі. У вёсцы ў кожнага, акрамя імя, мянушка. Вось і ў мяне: дома Іванька, у класным журнале — Іван, а на вуліцы — Аса. Можа, што калючы. У школе неяк на Кастрычніцкае свята ўручылі мне прэміроўку — чаравікі. Дзякаваць бы дабрадзеям, а я, па дурасці, падпусціў нейкую шпільку. Засмучаны Ціхан Захаравіч толькі рукой махнуў: як ваўка ні кармі, усё ў лес цягне… То хай ужо Аса, чым Ваўчанё!

Мішка на год старэйшы за мяне, але вучыўся так сабе, часам заставаўся і на другі год. Я канчаў сёмы клас, а ён да яго толькі набліжаўся. Мы пасябравалі з ім, калі мая маці і яго сястра Манька даглядалі калгасных цялят, а мы з Мішкам па чарзе, часта падмяняючы адзін аднаго, пасвілі той маладняк.

Вячэралі проста на траве. Суп з баранінай. Запівалі сырадоем.

— Нішто сабе жыруеце! — з'едліва сказаў я.

— Не заўсёды ж так, — быццам апраўдваючыся, адказаў Мішка. — Калі гналі быдла, нават не абедалі…

На начлег уладкаваліся на разасланай дзяружцы пад калёсамі. У небе гуў самалёт, хутчэй за ўсё наш: немцы паасобку не лёталі. Ад далёкай кананады, калі прыслухацца, дрыжала зямля. Праўду кажа дзядзька Макар: трэба спяшацца.

— Як думаеш: спыняць нашы немца?

— Павінны б, — няпэўна адказаў Мішка. — Давай спаць: заўтра зранку рушым далей.

Аднак раніцай выйшла не так, як мы з Мішкам меркавалі. Дзядзька да вяртання Бондарава загадаў пасвіць статак на канюшынішчы, што непадалёк. Вось ужо і сонца прыпякло. Каровы, адмахваючыся хвастамі ад сляпнёў, жуюць жованку. А яго ўсё няма і няма.

— Пакуль суд ды справа, гайда купацца! — вырашыў Мішка. — Калі што, Ліда клікне…

Мішка завёў ужо сяброўства з мясцовымі хлопцамі, тыя і павялі нас да рачулкі. Хваліліся мы сваёй, яны сваёй вёскай. У нас вунь якія сады, такіх у Рабятках і заваду няма. А яшчэ ў нас пабудавалі клуб, вялікі, прасторны. Затое ў нас, хваліліся тыя, у рэчцы ра́кі! А яшчэ ў нас свой паэт — Андрэй Ушакоў.

Я такога нават не чуў. Чытаў Янку Купалу, Аркадзя Куляшова, Ізі Харыка чытаў, а пра Андрэя Ушакова нават не чуў. Сапраўдны паэт, запэўнівалі нас, нават кніжкі абяцалі паказаць.

Але кніжкі Андрэя Ушакова я прачытаў толькі пасля вайны. У той час, калі ўспаміналі пра яго ў Рабятках, ён быў у войску. І там складаў вершы. У адным, «Начлег», перад вайной пісаў:

…трэба ўмець забыць пра сон,
Хоць шлях ляжыць далёкі,
І быць заўжды, як на вайне,
А не ў страю парадным.
Хто знае, можа, заўтра мне
Ісці ў паход сапраўдны…

А неўзабаве, ужо не ў вершы, не пашкадаваў жыцця. Абараняючы родную зямлю ад карычневай чумы. Загінуў у першыя дні вайны, а яго вершы, кнігі і сёння з намі.

Дзядзька Васіль вярнуўся, калі сонца хілілася ўжо да вечара. Прывёз, як ён сказаў, маршрут. Далёка — праз Сож. Але моста няма, а не ведаючы броду не суньхя ў воду. За Сожам — Смаленшчына, а там і Тула — канцавы пункт нашага маршруту.

А яшчэ ён прывёз грошы. Выдаў кожнаму па 300 рублёў, а нам з Лідай па 200, Мішку — 250. Я ніколі не толькі не трымаў у руках, але і не бачыў гэтулькі грошай. І куды мне іх? Кашалька ў мяне зроду не было, ды і кішэнь дзіравая. Тае бяды, усклікнуў мой хросны, хай пакуль захоўваюцца ў абшчаку — у нашай грамадскай касе.

Раніцай разам з узыходам сонца абудзіла каманда «Пад’ём!..».

Мы не першымі гналі быдла гэтымі прасёлкамі, таму ўсё вакол было абгрызена, выдратавана. Галодныя каровы мукалі, бадаліся. Хтосьці падказаў, што каля лесу ёсць лужок, — павярнулі туды. Пакуль каровы, авечкі пасвіліся, і мы падмацаваліся. Падышлі стомленыя чырвонаармейцы. Лейтэнанту спадабаўся Орлік — бяры, калі ласка. Дзесьці, не так ужо далёка, бахалі вы-

бухі. Над намі, скаланаючы натужлівым гудзеннем паветра, паўзлі ўдалечыні бамбардзіроўшчыкі.

Праз Сож перабірацца будзем заўтра. Кароў неяк перагонім, складаней з авечкамі, ніякі брод не дапаможа. Але тут нам пашанцавала. Калі спыніліся на начлег каля вёсачкі, што прытулілася да лесу, пад'ехалі запыленыя грузавікі. Да нас падышоў лейтэнант — па два кубікі ў пятліцах.

— Хто тут старшы?

— Я, а што такое? — адазваўся дзядзька Васіль.

— Нялёгка вам, — паспагадаў лейтэнант. — Мабыць, выручым: забяром авечак. На харчаванне войску.

Дзядзька Васіль не стаў спрачацца: баба з возу — каню лягчэй. Але запатрабаваў распіску: ці мала што і як потым.

— Дакумент выдадзім па ўсёй форме: на тое інтэнданцкая служба.

За хвойнікам заляскалі стрэлы, забляялі авечкі…

Раніцай выбіліся на гасцінец. На абочыне, у канаве, — газета. Не, не газета — вялікая ўлётка. Але чаму на нямецкай мове? У школе, не сказаць што старанна, вучылі нямецкую. Пачалі сяк-так чытаць. Ды гэта ж прамова Сталіна, якую ён па радыё казаў. Хто і навошта тут кінуў? Ветрам занесла?

Раптам з-за паваротвкі вырваўся матацыкл, другі, трэці… Нейкія дзіўныя матацыклісты, у шэра-зялёнай форме, з аўтаматамі на шыях. «Цурюк да хауз!.. Цурюк да хауз!..» Немцы! Камандуюць паварочваць дадому!

А на дарозе паказаліся грузавікі, паласатыя фургоны. Яшчэ матацыклісты. Немцы на веласіпедах, высокія, белабрысыя, з падкасанымі рукавамі. За плячамі боўтаюцца бляшаныя скрыначкі — у іх, як потым даведаліся, процівагазы.

Дзядзька Макар, не выбіраючы слоў, папракаў майго хроснага: трэба было спяшацца, спяшацца! Можа, ён і мае рацыю. А пазней я падумаў: калі б мы паспяшаліся, калі б праявіў большую паваротлівасць Бондар, па-іншаму склаўся б і яго лёс. Высокі, дужы, вытрываў бы ў нашым тыле — ці то ў тамтэйшым калгасе, ці то на заводзе. Фашысты пагналі капаць акопы, там і згінуў.

Немцы гергечуць, нам крычаць: «Гут!.. Зэр гут!..» Добра, значыць, вельмі добра. Ім добра — наш статак ім дастанецца. Не мінула б гадаў куля!

Куля варажнечу і не мінае. Каля дарогі, тут і там, — бярозавыя крыжы. Шкада бярозак, але ворагам на крыжы — хай!.. А вось і падбіты нямецкі танк.

Так, зноў жа ў дарожным пыле, цяпер ужо ад варожых машын, праз дзень давалакліся да Чавус. У райцэнтры страцілі частку свайго статка, праўда, не ад немцаў — ад гараджан. Накінулі на рогі вяроўкі і адвялі. Сярод іх і двое маіх знаёмых — Ізя і Фіма. Мінулым летам разам адпачывалі ў піянерскім лагеры — у вёсцы Сушчы.

Нашай Антонаўскай сямігодцы дасталіся дзве бясплатныя заахвочвальныя пуцёўкі. Можа, лепшых не аказалася, можа, проста шанцаванне, але тыя пуцёўкі атрымалі я і Лена Валавікова з Залесся.

У піянерскім лагеры я тады набіраўся сіл у першы і апошні раз у сваім жыцці. Кожнае лета ў піянерскі лагер ездзілі толькі мая аднакласніца Рая і яе малодшы брат Жэня — дзеці дырэктара школы. Калі пачаўся навучальны год, мяне вырашылі абраць старшынёй савета піянерскага атрада. Рая пачала крычаць, што я дрэнна паводзіў сябе ў піянерскім лагеры. Старшынёй савета атрада абралі кагосьці іншага. А мяне, відаць у якасці маральнай кампенсацыі, абралі, як і Раю, членам вучкама (вучнёўскага камітэта). Дзеля нечага былі такія ў школах. У вучкам таксама абіралі лепшых. Рая была лепшай ужо таму, што была дачкой дырэктара школы. Ну, а я, відаць, як некіруемы… Як такі вось некіруемы, я сутыкнуўся ў піянерскім лагеры з Ізем і Фімам. Яны любілі кіраваць, а я ім не саступаў. За бойкі на піянерскай лінейцы чамусьці часцей адчытвалі мяне, а не іх.

Зараз кароў для іх я не шкадаваў, як і іншым гараджанам: лепш ім, чым фашыстам.

Ужо вечарэла, калі даклыпалі да сваёй Антонаўкі. Наша хата крайняя справа, калі ісці з Чавус па гасцінцы (на тым месцы цяпер цагляны будынак сярэдняй школы). За статкам не пайшоў: далей клопат Васіля Бондарава, Макара Капусціна, яшчэ кагосьці. А я, ледзь жывы, пераступіў родны парог. Маці ўзрадавалася: дзякуй богу, жывы! Бацька хутчэй засмуціўся: жывы-то жывы, але ці радавацца вяртанню — і майму, і калгаснага статка?

* * *

Пацягнуліся змрочныя, цяжкія дні. Па гасцінцы праз нашу Антонаўку пылілі калоны грузавікоў, паласатых фургонаў з шэра-зялёнай салдатнёй. Матацыклы, веласіпедысты з аўтаматамі на шыі. Часам у вёсцы рабілі прывал. У дварах крык, гам… Матка, млеко!.. матка, яйка!..

І лезлі ў камору, у куфар, у шафу, цягнулі ўсё ніштаватае, што трапляла пад руку. З суседскага Мішкі (сына майго хроснага бацькі) гіцаль злупіў упадабаную светла-жоўтую святочную кашулю — дзеля чаго дзівак прыбраўся, каб Макаравай Лідзе спадабацца?

З двароў цягнулі да вогнішча курэй і парасят, якія кудахталі, віскаталі. Самыя ўніклівыя поўзалі па гародах, прамацвалі жалезнымі прутамі зямлю — шукалі прыхаваныя вяскоўцамі пажыткі.

Мне часам думаецца: а памяталі тыя з іх, каму ўдалося да канца вайны ацалець, што дзеялі яны ў 41-м і пазней? Памяталі пра тое, калі наша армія штурмавала Берлін?

Не толькі рабавалі — катавалі, забівалі. Адной з першых ахвяр аказалася Ульяна Іванаўна Маханенка — знакамітая звеннявая загоранскага калгаса «Новае жыццё», дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі.

Добра памятаю Ульяну Іванаўну. Мая маці, Пёкла Верамееўна (да замужжа Галіноўская), таксама была звеннявой па льну ў нашым антонаўскім калгасе «Чырвоны барацьбіт». Тады мінеральныя ўдабрэнні былі рэдкасцю, хіба што завозілася вапна — ужывалася супраць акіслення глебы. То ўзімку разам

з мамай ездзілі з бочкай ад хаты да хаты, збіралі драўняны попел, што выкарыстоўваўся затым як удабрэнне і сродак супраць шкоднай блошкі. І ўлетку хапала клопатаў — праполка, церабленне лёну… Затое колькі было радасці, калі мама з раённага сходу перадавікоў сельскай гаспадаркі вярталася з падарункамі, гасцінцамі! На тых сходах яна пазнаёмілася з Ульянай Іванаўнай. Тая неяк, быўшы ў сельсавеце, заходзіла да нас, пра нешта гаманілі з мамай. Стаўшы дэпутатам, заставалася такой жа простай, сціплай. Пра яе нават песню склалі, выконвалі не толькі нашы самадзейныя артысты, але і па радыё.

Ой, палола Ульяніца лянок,
Ой, палола Іванаўна лянок…

Па даносе нейкага нелюдзя фашысты схапілі і расстралялі гэту добрую, спагадную жанчыну.

Расстрэл стаў звычайнай справай. Сагнаўшы ўсіх чавускіх яўрэяў у Дрануху, перастралялі іх там. Сам я таго, вядома, не бачыў, але зямля чуткамі поўнілася. Нешта незразумелае адбылося тады і з былым настаўнікам нашай Антонаўскай сямігодкі — Казловым (як яго звалі, не памятаю: калі ён настаўнічаў у нашай школе, я быў яшчэ ў пачатковых класах, а ён выкладаў у 5–7-х). Запомніўся мне — высокі, худы, таму што ў школу хадзіў міма нашай хаты, з-за Проні, здаецца, з вёскі Глушэц. А яшчэ таму, што неяк у вясновую паводку ледзь не патануў у Проні. У светлавой газеце (была такая ў нашай школе, накшталт самаробнага кіно) потым з гумарам паказвалі, як ён скача з крыгі на крыгу. Хоць, здавалася б, смешнага ў тым нічога не было, хутчэй трагічнае. Добра, бог мілаваў, не загінуў чалавек.

Дык вось гэты самы Казлоў стаў, даведаліся мы, начальнікам раённай паліцыі. Хто яго ведае, як служыў фашыстам. Раптам той жа восенню пачулі — павесілі немцы Казлова. Ужо быўшы журналістам я спрабаваў у архівах абласнога ўпраўлення КДБ знайсці разгадку таго пакарання смерцю. Знайшоў шмат фактаў, эпізодаў пра магілёўскіх падпольшчыкаў, пра чавускага ж Казлова — нічога. Можа, архівы загінулі, можа, калі-небудзь штосьці яшчэ праясніцца.

З начальнікамі Чавускай раённай паліцыі не шанцавала фашыстам. Пасля Казлова на гэтай пасадзе быў нейкі Букаценка, не мясцовы. Не доўга быў. Куды падзеўся — ведалі, відаць, толькі самі немцы. Трэцім стаў Шкураценка, які праявіў сябе вялікай стараннасцю. Гэтага ў вёсцы Гарбавічы — кіламетраў за 20 ад Чавус — застрэліў былы магілёўскі чэкіст, выхадзец з вёскі Благавічы, Міхаіл Барысенка.

На Барысенку тады пачалося паляванне, за яго галаву фашысты абяцалі ўзнагароду. Восеньскай ноччу Міхаіл употай прыйшоў у вёску Раманавічы (гэта Магілёўскі раён, на мяжы з Чавускім): тут у родных знайшла прыстанак яго жонка Франя. Староста Мацей Койда высачыў, кінуўся ў Сухары, дзе знаходзіўся нямецка-паліцэйскі гарнізон. Раніцай Міхаіл вырашыў да ночы перачакаць, адпачыць, каб затым працягнуць свой маршрут. Сямейнікі сышлі капаць бульбу, ён застаўся адзін. І тут наляцелі немцы і бобікі (так

насельніцтва называла паліцаяў). Міхаіл заўважыў небяспеку, калі хата была акружана. Адстрэльваўся, але ворагі падпалілі хату. Калі, пачуўшы стральбу, з поля прыбегла Франя з бацькамі, агорнуты агнём дах ужо абрынуўся. Старасту Мацея Койду партызаны неўзабаве пакаралі смерцю. А апошняга чавускага начальніка паліцыі, нейкага Фёдарава, які ўцякаў з акупантамі, вылавілі і прысудзілі да вышэйшай меры пакарання. Прозвішча Барысенкі Міхаіла Якаўлевіча я прачытаў у фае абласнога ўпраўлення КДБ у ліку іншых мясцовых чэкістаў, якія не вярнуліся з Вялікай Айчыннай вайны.

Фашысты стваралі сваю адміністрацыю не толькі ў раённым маштабе, але і ў кожным сяле, у кожнай вёсцы. Сельсавет пераназвалі ў воласць, на чале якой паставілі бургамістра. У Антонаўцы ім аказаўся наш былы калгасны брыгадзір Пётр Баранаў. Усе здзівіліся: у войска не прыдатны, а тут самы раз? Баранаў раптам стаў важным, начапіў на рэмень у велізарнай кабуры наган. Не ведаю, чым займаўся ў іншых падведамасных яму вёсках, а ў Антонаўцы, памятаецца, хіба толькі з гасцямі-бобікамі п'янстваваў. Ні ён, ні бобікі, што гулялі з ім, не кранулі сям'ю былога старшыні сельсавета Новікава, якой дала прытулак у сваёй хаце ўдава бацькавага брата Андрэя. Што і казаць, нясоладка прыходзілася тым і іншым, але з дапамогай суседзяў перабіваліся, не галадалі. Дзесьці ў канцы 1943 года Баранава гаспадары чамусьці некім змянілі, я таго ні разу не бачыў. Ён потым збег разам з адступаючымі немцамі. А Баранава, калі фашыстаў прагналі, арыштавалі. Але праз дзеньдругі ён, жывы і цэлы, вярнуўся да сваёй сям'і. Відаць, служыў ён не толькі немцам, а дакладней — не столькі немцам… Неўзабаве ён з'ехаў з Антонаўкі. Можа, у родныя мясціны пацягнула, а можа, непрыемна было сустракацца тут з людзьмі: кожнаму не растлумачыш, што і як…

У кожнай вёсцы прызначаўся стараста. Як і ўсюды, у нашай Антонаўцы ўсе рукамі і нагамі адбіваліся ад такога гонару. Мой бацька, Архіп Пятровіч, ці не самы пісьменны сярод пажылых мужчын (а маладзейшых у вёсцы і не засталося), як след яшчэ не адышоў пасля бальніцы. Васіля Бондарава раптам таксама звалiла нейкая хворасць. Макара Капусціна з-за яго заўсёднай мітуслівасці неяк сур'ёзна і не ўспрымалі. Свет клінам сышоўся на Мікіту (Мікіту Міхайлавічу Валавіковым) — малодшым браце мужа маёй цёткі Пёклы, вывезеных злашчаснай ноччу «чорным варанком». Галоўная вартасць Мікіты — веданне нямецкай мовы. У Першую сусветную вайну Мікіта патрапіў да немцаў у палон. Навучыўся па-іхняму гутарыць. У выпадку, спадзяваліся, замовіць перад супастатамі слова. А як замовіць? Калі адводзілі кароў — перш калгасных, а потым і прыватных — у кагосьці пыталі?

Старастам Мікіта Міхайлавіч прабыў нядоўга. Можна толькі здагадвацца, як атрымалася адкруціцца ад халуйскай пасады. Старастам прызначылі нашага суседа Абрамовіча Івана Іосіфавіча. Ад астатніх антонаўцаў ён адрозніваўся толькі тым, што лічыўся не праваслаўным, а каталіком. І яшчэ тым, што ці не самым апошнім уступаў у калгас. Ездзіў нават у Мінск, да самога Галадзеда. Прасіў, даказваў, што нашай вёсачцы лепш будзе без ка-

лгаса. З'ехаў у Ленінград, уладкаваўся. Ды цягнула родная зямля. Вярнуўся, змірыўся, стаў жыць і працаваць, як усе. Гэта быў ціхі, добры сусед. Калі ў нас знікла карова, ён нават узімку прыходзіў з гарлачом малака (радасць дзецям!), заседжваўся дапазна: пяклі ў грубе бульбачку, слухалі яго былі і небыліцы (расказваць быў майстар!).

Мне цяжка меркаваць, як выконваў наш сусед абавязкі старасты. Памятаю толькі, што і яго потым чамусьці замянілі. Аднак гэта пасада яму дарма не прайшла. Дурная баба-адзіночка (стаўшая неўзабаве, што ў вёсцы было рэдкасцю, алкагалічкай), якой сям'я Абрамовіча і да, і пад час вайны зрабіла нямала добрага, на дазнанні паказала (можа, сп'яну), што Іван Абрамовіч, быўшы старастам, ці то яе лаяў, ці то нават пабіў, чаму ніхто ў вёсцы не верыў… Адмералі небараку дзесяць гадоў. Калі вызваліўся, не было куды галаву прыхінуць. Жонка, Вікця, не дачакалася, аддала богу душу. На сына, Уладзіміра, прыйшла пахаванка: памёр у шпіталі ад атрыманых на фронце ран. З братам Міхаілам ён і раней агульнай мовы не знаходзіў. Сноўдаўся ў суседніх Лапенях каля сям'і памерлай жонкі. Сканаў, можна сказаць, пад плотам…

Памятаю, быў яшчэ старастам, пасля Абрамовіча, Васька (Васіль Пархвенавіч Гарбачоў) — брат былога калгаснага старшыні Цішкі (Ціхана). Можа, і яго ўпяклі б на Салаўкі, ды лёс абышоўся з ім па-свойму: вярнуўшыся з уцёкаў на роднае папялішча, як і многія аднавяскоўцы, падарваўся на міне, якімі ўсё вакол было нашпігавана.

Успамінаецца яшчэ адзін антонаўскі службіст таго злашчаснага часу — Аркадзь Зоўмер. Скажам, не зусім антонаўскі. Калі яго загоранскіх бацькоў раскулачвалі, яго цётка, ужо знаёмая нам Тацццяна Бондарава, пашкадаваўшы пляменніка, узяла яго ў сваю сям'ю. Рос, як родны, разам з Мішкам. Гады на два быў старэйшы, але драбнейшы. Пасля сямігодкі паступіў у Магілёве ў дашкольнае педвучылішча (хутчэй за ўсё, не таму што марыў выхоўваць дзетак, а куды атрымалася). З прыходам жа фашыстаў падаўся да іх пісарчуком у раённую паліцыю. Праўда, у сваёй вёсцы мы яго не бачылі ні з нарукаўнай белай павязкай, ні са стрэльбай. Але ад гэтага павагі да яго не дадавалася.

Нечаканасцю стаў арышт Аркадзя. Праседзеўшы некалькі месяцаў у магілёўскай турме, пасля вызвалення паспяшаўся не ў Чавусы, да месца былой службы, а ў лес да партызанаў. На што разлічваў? Можа, што ў партызанскім атрадзе былі антонаўцы — яго стрыечны брат Міхаіл Бондараў, былы аднакласнік мой брат Зміцер… Але сустрэлі Аркадзя не па-сяброўску, не па-зямляцку, не па-роднаснаму. Паставілі да хвоі і расстралялі. Пагарачыліся?

Многія магілёўцы памятаюць, як былы партызанскі камандзір Рыгор Паўлаў, разгладжваючы шырокую бараду, распавядаў: разграміўшы варожы гарнізон, паланілі маладога паліцая Валодзю Дайнеку, зрабілі партызанам… Пасля вайны Уладзімір Дайнека скончыў у Горках сельгасакадэмію, вырас там да сакратара парткама. Потым мы ведалі Уладзіміра Аляксеевіча загадчыкам аддзела абкама партыі, намеснікам старшыні аблвыканкама…

Аркадзь Зоўмер быў тых жа гадоў, а можа, нават і маладзейшым за Дайнеку. У палон яго не бралі — сам прыбег да партызанаў. Дык можа… Зрэшты, не мне судзіць. Таму што я ведаў Аркадзя толькі па Антонаўцы. А партызаны ведалі шырэй, больш. Таму што разбойніцкая дзейнасць паліцэйскай зграі распаўсюджвалася на ўвесь раён, ды і не толькі раён…

* * *

Над вёскай быццам згусціўся змрок. Бадай з кожнага двара хто-небудзь у Чырвоным войску. Дзе яны, што з імі? Ці жывыя?

Неяк гарачым днём пад рэдзенькім канвоем фашысцкіх салдатаў праз вёску з боку Чавус прагналі калону палонных чырвонаармейцаў.

Ішлі тыя змучаныя, унурыўшы галовы. Немцы глядзелі пераможцамі, пакрыквалі на палонных. Адзін спыніўся каля студні, прагіркатаў цётцы Аўдулі (тая якраз прыйшла з вёдрамі па ваду, асалавела, глядзела на працэсію): «Матка, вассэр!..»

Спалоханая цётка не магла зразумець, што патрабуе немец. А ён патрабаваў вады. Нахіліўся, проста з вядра зпатоліў смагу. Падышлі яшчэ, не спяшаючыся пілі, напаўнялі вадой біклажкі. Што за словы на спражках іх рамянёў — «Gott mit uns». А-а, «З намі Бог». Курчаць з сябе набожных. Але калі б і быў на свеце Бог, няўжо быў бы заадно з гэтымі разбойнікамі? Хутчэй чорт рагаты з гнілога балота ім радня.

Палонных да студні не падпусцілі. Цётку Вікцю, жонку Івана Абрамовіча, якая вынесла небаракам хлеба, са здзеклівым гіканнем прагналі сілком.

Калона паплялася далей, у людзей, якія глядзелі ўслед, на душы было горка. Шкада палонных чырвонаармейцаў. І нейкае неўразуменне. Як жа яны ваявалі, што апынуліся ў палоне? Не можа быць, каб яшчэ ў школе не чыталі, не дэкламавалі вершы Маякоўскага:

…Когда
Война-метелица
Придёт опять —
Должны уметь мы целиться,
Уметь стрелять…

Бо ў кожнай школе, хай сабе з дробнакаліберкі, вучылі страляць, здавалі нормы на варашылаўскіх стралкоў. Ды і ў арміі іх нечаму вучылі ж! Калі б кожны, нават гінучы, уклаў хоць бы па адным немцу, вунь колькі б знішчылі фашыстаў!

І тут успомнілася. Калі немец ад нас быў яшчэ далёка, у вёсцы спынілася ваенная часць, якая накіроўвалася насустрач ворагу. Адпачывалі, падмацоўваліся. Адзін бравы лейтэнант заняўся туалетам: па ўказанні свайго камандзіра чырвонаармеец знёс з яго галавы заліхвацкі чуб. Што раптам прыспічыла? Стрыжанаму спадручней ваяваць? І вось зараз дайшло: ужо тады той лейтэнант не выключаў магчымасці свайго паланення. Ахвяраваў

валасамі, ратуючы галаву. Маўляў, немцы не пазнаюць у ім камандзіра: радавыя не носяць прычосак, стрыжаны былі пад нулёўку. Дык, можа, у калоне, якую немцы гналі па нашай вуліцы, быў і той прадбачлівы лейтэнант?

Аднойчы раніцай бацька сказаў, што ўначы чуў за ваколіцай пабразгванне ці то кацялкоў, ці то паходных лапатак. Дзеці пабеглі туды і натрапілі на пратаптаную праз пасевы не сцяжынку — ладную дарожку. Значыць, уначы тут прайшло цэлае войска акружэнцаў.

Акружэнцы асцярожна заходзілі ў вёску малымі групамі і па адзіночцы. Хто з вінтоўкай, а хто ўжо без. Кармілі іх, давалі штосьці ў дарогу. І тыя пакідалі сваё абмундзіраванне, пераапраналіся ў наша, вясковае. Распытвалі, як лепш прабрацца цераз Проню, цераз Сож. Ратуючыся ад палону, прабіраліся да сваіх, каб працягнуць біцца з фашыстамі.

Фронт прасунуўся далёка за Сож. Немцы цяпер радзей з'яўляліся ў вёсцы. Тыя ж, якія наязджалі, больш цікавіліся каровамі, свіннямі, іншай сялянскай жыўнасцю. Нездарма мудрэц заўважыў: не хочаш карміць сваё войска — будзеш карміць чужое. Хаця карміць чужое войска давялося не толькі таму, што ў літаральным сэнсе слова дрэнна кармілі сваё. Разумеецца гэта шырэй, глыбей.

Той раз немцы грунтоўна аселі каля калгаснага клуба, варылі, смажылі, не забываючы запаўняць кузавы сваіх грузавікоў. Шнарылі па дварах, хлявах. «Каб вас куля не мінула, ірады», — карыстаючыся, што ірады па-нашаму не разумеюць, у роспачы лаялі іх маці і цётка Таццяна. «Ком, ком!» — ківам пальца паклікаў іх бялявы высокі немец. А калі падышлі, з загадкавай усмешкай па-руску спытаў: «Не боитесь, матки, что вам отрежут языки? А может, и головы?» Божа літасцівы, памлелі маткі, не знасіць цяпер галоў… Але немец толькі ўхмыльнуўся. Відаць, што не закаранелы фашыст. Відаць, хацеў папярэдзіць. Выходзіць, і немцы розныя бываюць.

Пры ўваходзе ў прасторны дом, збудаваны літарай Г перад самай вайной (у адным крыле месціліся старшыня сельсавета са сваёй канторай і паштовае аддзяленне, у другім — клуб і бібліятэка, а зараз раскашавала валасная ўправа), з'явіўся вялікі партрэт панурага мужыка.

Подпіс: фюрар… мудры… Закабаленаму жыда-камуністамі народу свабоду, новы парадак…

— Быў бы мудры, не сунуўся б на Расію, — заўважыў дзядзька Макар.

— Яшчэ ніводная Карла-Марла не выносіла ногі па дабру па здарову.

— А, глядзі, глядзі, які касмыль! — здзівіўся Аўдулін Мішка. — Проста на вочы!.. Як у бандыта!..

— Дык бандыт і ёсць, — падышоў Мішка Бондараў. — З вялікай дарогі…

Побач з фашысцкім фюрарам — ці то карціна, ці тое велізарнае фота: украінскія жанчыны хлебам-соллю сустракаюць немцаў-вызваліцеляў. Знайшліся ж дзесьці такія. А хутчэй за ўсё, пад рулямі аўтаматаў — у кожнай сям'я, дзеці…

Тут жа, на сцяне, фашысцкія загады. Хто не здасць зброю — расстрэл. Хто схавае ці пакорміць незнаёмца (разумей — акружэнца, партызана) — расстрэл. У каго знойдуць радыёпрыёмнік — расстрэл…

У сваёй газеце — на рускай мове — немцы хваліліся, што вось-вось возьмуць Маскву, ужо глядзяць на яе ў бінокль. Хочацца, ды не даскочыцца? Зусім як у крылоўскай лісіцы з вінаградам, разважалі дзяды. Стукнулі маразы, якіх даўно не было. Абагрэцца б у Маскве, а яны, дрыжучы ад холаду, глядзяць у біноклі. Разлічваючы на лёгкую перамогу, не назапасіліся зімовым абмундзіраваннем. Цяпер мерзнуць у летніх шынялях на чужой зямлі. Шныпараць па сельскіх хатах, адбіраюць у людзей шубы і кажушкі, валёнкі і рукавіцы, іншыя цёплыя рэчы. І зноў жа загад: хто ўтоіць, не аддасць — расстрэл.

Цёмнай халоднай ноччу высока-высока ў небе — светлячок-самалёт. Наш! Куды і навошта самотны ляціць?

Пасля Новага года загадала мне раніцай мама прынесці вядро вады, а там на громаадводзе каля студні штосьці бялееецца. Улётка — пра тое, што пад Масквой немцаў пабілі! У паніцы адыходзяць! Гоняць паганцаў з нашай зямлі!

Але да нас хваля таго наступлення тады не дакацілася. Хоць надзею ўзмацніла. Улётка ж, відаць, скінутая з самалёта, падабраная добрым чалавекам, доўга яшчэ свяцілася на громаадводзе, яе чыталі і антонаўцы, і мінакі…

* * *

Тужліва, цяжка было дарослым. Яшчэ тужлівей, цяжэй дзецям. Школа з пабітымі вокнамі на ўзгорку не чакала іх. Праўда, брат жонкі былога дырэктара сямігодкі Бабылёва спрабаваў наладзіць хоць якую вучобу дзятвы, але гэта ў яго не атрымалася.

Сельскія дзеці заўсёды дапамагаюць бацькам — дома па гаспадарцы і на калгасным полі. Я і мой малодшы брат Аркадзь хадзілі з маці палоць лён, дапамагалі церабіць, абмалочваць. Я, акрамя таго, быў падручным у Васіля Бондарава на жніве: ён на сядушцы кіраваў жаткай, а я верхам на першым вядучым кані сачыў, каб не збіўся хоць крыху ўбок, не дапусціў агрэхаў (камбайны на калгасных палях былі тады рэдкасцю). Але гэта ў бытнасць калгаса. Зараз часу на забавы стала больш. І забавы знаходзілі не дзіцячыя.

У Камітэце, у лесе, нашы пры адступленні пакінулі скрыні са снарадамі, гранатамі, патронамі. Хлапчукі кацілі на ўзлесак снарад, абкладвалі галлём, падпальвалі і ўцякалі далей, чакалі аглушальнага выбуху. А колькі было захаплення, калі знайшлі скрыні з ракетамі. Шкадавалі, што не было ракетніцы. Вось бы пастралялі! Але і без ракетніцы адшукалі знаходцы ўжыванне: падпальвалі ракеты і шпурлялі адно ў аднаго. Такая забава дабром не скончылася. Патрапілі падпаленай ракетай у Мішку Рагаўцова, а ў таго і за пазухай поўна ракет, успыхнулі. Спрабавалі абпаленага выратаваць, ды дзе там. З плачам, з галашэннямі пахавалі Мішку.

Не абышла бяда і нас з Аўдуліным Мішкам. Тым восеньскім днём выгналі ў поле па радоўцы кароў. Прыблукалі са статкам на Высачаншчыну. Там, калі наступалі немцы, былі замаскіраваны ў кустах нашы зеніткі. Чырвона-

армейцы стралялі па варожых самалётах. Варожыя лётчыкі кідалі на чырвонаармейцаў бомбы. Адна чамусьці не ўзарвалася. Трапілася на вочы нам з Мішкам. Абысці б яе лесам-полем. Але ж як магнітам цягнула. Крутанулі крылцы. Засіпела праклятая, ірванула. Мішка загінуў, мяне зрашэціла.

Вечарэла. Сонца садзілася ўжо на вёску, што віднелася ўдалечыні. Каровы нема раўлі. Спрабаваў паўзці, аднак не атрымлівалася. Да шчасця, на прасёлку ад гасцінца на Лапені паказаўся веласіпедыст. Пачаў крычаць, клікаць на дапамогу. Пачуў, спыніўся, павярнуў да мяне. Журботна пакруціў галавой, спытаўся: хто? адкуль? Паспяшаўся да гасцінца, да Антонаўкі…

Першую медыцынскую дапамогу ў тую ноч мне аказвала маладая фельчарка Аня. Працавала ў Заходняй Беларусі, прабіралася да сваіх. З акружэнцамі затрымалася ў нашай вёсцы.

Забягаючы наперад, заўважу, што праз год ёй прыйшлося аказваць медыцынскую дапамогу і майму старэйшаму брату Змітру, калі іх партызанскі атрад атакаваў фашысцкі гарнізон. Зміцер быў паранены разрыўной куляй. Як расказваў ацалелы ў тым баі Міхаіл Бондараў, яго пераправілі на чоўне праз Сож, але выратаваць не змаглі. Неўзабаве ад варожай кулі загінула і Аня…

Але гэта праз год, наступнай восенню. А тады раніцай маці везла мяне на каламажцы ў Чавусы: там, казалі, засталася якая-ніякая бальніца. З хаты праз вуліцу даносіўся плач Мішкавай маці, і было мне ад гэтага балючэй, чым ад забінтаваных Аняй ран.

Было балюча і сорамна, што я вось пакуль жывы, а Мішкі ўжо няма. Хай бы і я на той Высачаншчыне загінуў!

Конь нехаця трухаў, тузаў каламажку, якая патанала ў лужынах, калдобінах пабітай грузавікамі і цягачамі дарогі. Маці ўстрывожана папраўляла на мне коўдру: ці жывы? Высока ў небе з тужлівым курлыканнем цягнулі на поўдзень жураўлі. Як было не пазайздросціць вольным птушкам?..

У раённую бальніцу ў мінулым годзе, яшчэ да вайны, я бегаў не раз. Наведваў бацьку, які лячыўся ў ёй. Вось і альтанка ля кустоў бэзу, дзе мы, бывала, сядзелі. Але дах на ёй скасабочаны, каля агароджы калдобіны, нейкае ламачча.

На кліч маці выйшла жанчына ў цыраваным халаце. «Вось і яшчэ кагосьці прывезлі! — выклікнула. — А класці няма дзе…» Але пайшла шукаць урача.

Паказаўся на ганку ўрач, высокі, з сівізной. Распытаўшы, што і як, пачухаў патыліцу: куды ж яго? Падказала тая жанчына, як потым высветлілася, нянечка-санітарка, Мацвееўна: «Давайце ў кладоўку… Лішняе прыбяру… Выбітыя шыбы заткну…»

Давялося чакаць, пакуль у тым пакоі-кладоўцы наводзілі парадак. На насілках унеслі, паклалі на засланую нашай дзяружкай жалезную койку.

Агледзеўшы мяне, урач сказаў: давядзецца нагу ампутаваць.

— Як гэта — путаваць? — не зразумела маці.

— Адразаць — вось як, — растлумачыла дзяўчына ў белым халаце, як пасля я даведаўся, медсястра Маруся. Маці *завойкала*, я запратэставаў: не дам адразаць! Лепш памру!

— Ну што ж, памірай! — холадна адказаў лекар.

Яму, бачыце, усё адно: быць мне з нагой ці без яе, застануся жыць ці памру. Аднак лекар толькі здаўся мне такім суровым, абыякавым. Масквіч Надзеждзін, ужо немалады, быў вайсковым урачом, патрапіў у акружэнне. Зачапіўся за разбураную вайной бальніцу, як мог, ратаваў кінутых на волю лёсу людзей.

Трываў страшны боль, пакуль урач з медсястрой варажылі нада мной. Нарэшце забінтавалі, пакінулі ў супакоі.

Маці паехала, а я застаўся. Баяўся: раптам усыпяць і адрэжуць нагу. Але, відаць, не было чым усыпляць. А можа, не было чым рэзаць. Лячыў мяне ўрач без ампутавання. А як лячыць, калі ні лекаў, ні бінтоў? На бінты рэзалі дома абрусы, прасціны, потым Мацвееўна мыла, кіпяціла іх. Праз нейкі час урач сказаў, каб радня прынесла бутэльку самагонкі-першаку. Я выпіваў кожны дзень 20–30 грамаў, як растлумачыў урач, для ачышчэння крыві ці яшчэ чагосьці. Можа, гэта і дапамагло ў нечым. Але і цяпер дзіўлюся, як я ў тым узросце не стаў юным алкаголікам. Мабыць, таму, што прымаў тыя грамы як горкае-прагоркае зелле.

У адзіноце ў той кладоўцы-палаце я заставаўся толькі тую першую ноч. Назаўтра ўвалаклі яшчэ адзін жалезны ложак, змясцілі на яго такога ж, як я, шалапутнага хлапчука. А потым падсялілі дзеда з хворым сэрцам, яшчэ кагосьці. Кармілі раз на дзень — рэдзенькім супам. Хоць і дома не раскашавалі, але такая поліўка ў горла не ішла. Успомнілася, як наведваў у бальніцы бацьку, прыносіў штосьці дамашняе. «Нічога не прынось, — адмаўляўся бацька. — Хіба зелені з агароду, што даюць, не з'ядаю». І частаваў мяне французскай булачкай (пякліся, вядома, не ў Францыі, а ў нашых чавускіх пякарнях, толькі называлі так, іх поўна было ў прадмагах). Перадаваў нашым малым гасцінец — кавалачкі цукру. Што было, тое было. Ды ўжо дарма: ежа — праблема і не праблема. Кожнаму прыносілі штосьці з дому. А да ўсяго маці дамовілася са сваёй чавускай добрай знаёмай, і тая праз дзень у абгорнутай хусткай (каб не астыў) каструльцы прыносіла мне хатняга супу ці баршчу, яшчэ што-небудзь смачнае.

Аднойчы прынесеныя ёю пернікі аказаліся абгорнутымі ў газету «Голас вёскі». Я такую раней і не бачыў. У ёй узахлёб распавядалася, што немец выйшаў да Волгі, амаль ужо заняў увесь Сталінград…

— Амаль не лічыцца, — разважыў дзед з хворым з сэрцам. — Яны і Маскву амаль занялі… А потым пабеглі… Ды і ці можна верыць гэтакім «Галасам»?.. Гэтакім пісакам? Вунь у Магілёве, швагер расказваў, быў рэдактарам нашай, савецкай раёнкі, а цяпер той прадажнік выпускае яе для немца…

Я не паверыў дзеду: мала чаго нагаворыць з хворым сэрцам, з хворай галавой. Пасля вайны пераканаўся: так яно і было. Прахвостам аказаўся нейкі Сянкевіч. Партызаны яго не расстралялі — адправілі, як вялікага пана, самалётам у Маскву: там разбяруцца. Як разбіраліся, не ведаю, толькі здагадваюся. Ды і ці мала было падобных Сянкевічаў!

У бальніцу падвозілі і падвозілі хворых, зноў жа дурняў-самастрэлаў. З суседняй Старой Буды, нашага ж Антонаўскага сельсавета, прывезлі мальца

з завязанымі вачамі: адзін бог ведае, ці будзе бачыць. Даставілі здаравякабамбізу: пайшоў гранатай рыбу глушыць у Проні, ды пакуль рыбу — сябе аглушыў… Дык вось прывозілі, прывозілі з розных вёсак. Некаторыя тут і скончылі свае дні. А я ляжаў і ляжаў, на баку з'явіліся пролежні.

Урачу дапамагалі дзве медсястры, змяняючы адна адну. Так і дзве нянечкі-санітаркі. Мацвееўна мяне суцяшала: пакуль жаніцца — усё загаіцца, ну застанешся кульгавым… вунь у нас Хвядоська кульгавы, а рахункаводам, павага ад людзей і не галадае…

Жыццё так склалася, што рахункаводам я не стаў, нават, да сораму свайго, табліцу множання не здужаў. Кожнаму сваё. У той бальніцы пакрысе стаў папраўляцца. Хтосьці падарыў мне мыліцу, якая аказалася яму не патрэбнай, дабраўся да акна, зірнуў на заснежаны падворак. А ў канцы зімы маці на санях-развалюхах разам з падоранай мне мыліцай прывезла мяне дахаты.

* * *

Раненька, пакуль было яшчэ цёмна і бязлюдна, я выпаўзаў на вуліцу, абапіраючыся на мыліцу, клыпаў па заснежанай дарозе да студні і назад, да студні і назад. А днём прыходзілі хлапчукі і дзяўчаткі, паведамлялі навіны.

Галоўная была навіна, што ў Антонаўку і суседнія вёскі прыбылі бежанцы. Са Смаленскай вобласці. Іх выселілі з прыфрантавой паласы, каб не заміналі немцам трымаць абарону. Значыць, немцы ўжо не наступаюць на Маскву, а самі абараняюцца ў суседняй Смаленскай вобласці. Бежанец Аркаша (хоць які ён бежанец: ні ад каго не збягаў, яго выгналі з роднай хаты), які прыходзіў да мяне з маімі сябрукамі, а потым і са мной пасябраваў, расказваў, што яны там, у сваёй вёсцы, ужо чулі гарматную стральбу, думалі — вось-вось прыйдуць нашы. Ды тут фашысты сталі выганяць іх з вёскі — так апынуліся ў нашым Чавускім раёне.

Такіх бежанцаў прыгналі да нас не толькі са Смаленшчыны — з Клічаўскага раёна нашай Магілёўскай вобласці. Там таксама сапраўдная вайна. Партызаны занялі нават райцэнтр. Дзяўчынка Насця бажылася, што трымала ў руках газету «Голас партызана». А выселілі — гэта, лічы, яшчэ пашанцавала. Там забітых не злічыць. У Любонічах, каля лясніцтва, у яму — з многіх вёсак…

І ў нас, расказвалі мае аднагодкі, там машыну з немцамі падарвалі, там разагналі нямецка-паліцэйскі гарнізон…

Хоць наша Антонаўка ў нейкіх пяці кіламетрах ад чыгуначнай станцыі, дзе кучаваліся немцы, паліцаі і проста ахоўнікі, неяк уначы партызаны зайшлі ў адну, другую хаты, размаўлялі з жыхарамі, штосьці расказвалі, пра нешта распытвалі. А затым, ясным вясновым днём, калі ўжо сышоў снег, узброеная група коннікаў спынілася каля нашай крайняй хаты, у бінокль глядзелі ў бок чыгуначнай станцыі, пра штосьці паміж сабой перагаворваліся. Вылучаўся адзін, барадаты, па ўсім відаць, галоўны сярод іх. Калі паскакалі,

бацька, звяртаючыся да суседа Івана Абрамовіча, выказаў здагадку: а ці не сам гэта Панамарэнка? На што дзядзька Іван адказаў:

— Панамарэнка, пэўна, без барады…

— А доўга ў лесе адгадаваць бараду?.. Там жа цырульні няма…

Аднекуль, хутчэй за ўсё ад партызан, у вёсцы ведалі, што ўсімі партызанамі камандуе Панамарэнка. Многія ўяўлялі, што ён на хвацкім кані, як у кіно Чапаеў, размахваючы шабляй, ваюе з ворагам.

А неўзабаве, дзесьці ў сярэдзіне мая, вёску сярод ночы абудзілі страшныя выбухі, стральба, якія даносіліся ад чыгуначнай станцыі. Там ішоў бой, бушавала полымя. Раніцай даведаліся, што на станцыю нечакана напалі партызаны, разагналі і перабілі ахову, спалілі склады і будынак вакзала, падарвалі воданапорную вежу і нафтабазу, пакурочылі стрэлкі і ўсё, што змаглі. Са спазненнем прыспяшалася да немцаў падмога. Увесь дзень грукалі з гармат па навакольных лясах, ад чаго партызанам было ні цёпла ні холадна. А вось многія жыхары пацярпелі: фашысты палілі ва ўсякага, хто здаваўся падазроным. Так патрапіў пад гарачую руку залескі Іван Аўдзеевіч Іванчыкаў, якога я ведаў яшчэ вучнем нашай антонаўскай сямігодкі.

Я таму, нягледзячы на яго падлеткавы ўзрост, назваў і па бацьку, што ў той час у школе вучыліся тры залескія Іваны Іванчыкавы — Ануфрыевіч, Максімавіч і гэты самы Аўдзеевіч. Іван Ануфрыевіч здолеў патрапіць на фронт, дэмабілізаваўся з ордэнам і медалямі. Іван Максімавіч пазней, у 1944 годзе, склаў на вайне галаву. Іван жа Аўдзеевіч загінуў вось так, ні за нюх табакі… Якое ліха прынесла яго ў тую раніцу пад злосна-няўцешны агонь фашысцкіх аўтаматаў?

Ды ці толькі там і так гінулі людзі? Бяда, калі затрымалі дзесьці без аўсвайса — так называлася папера-пашпарт, якая выдавалася акупантамі тубыльцам. Наколькі памятаю, фота ў тым дакуменце не было (адкуль узяцца фатографу), затое, акрамя прозвішча і іншых дадзеных, указваўся рост, колер валасоў, вачэй і яшчэ нейкія прыкметы. Ды і гэта папера наўрад ці ратавала, асабліва калі немцы і паліцаі вярталіся пасля няўдалай вылазкі супраць партызан. Паліцаі шчыравалі нават больш за немцаў, імкнуліся выслужыцца перад гаспадарамі. Да таго ж яны былі больш спрактыкаваныя, лепш ведалі становішча, падмануць іх было амаль немагчыма. У лепшым выпадку ад іх можна было адкупіцца — самагонкай, яшчэ чымсьці. Асабліва калі канфіскоўвалі кароў ці іншую жыўнасць для фашысцкіх катлоў. Здолелі бабка ці дзедка адкупіцца — іх кароўка пакуль застанецца ў двары, плакаць прыйдзецца суседскім дзеткам-малалеткам. Стараючыся для немцаў, не забывалі пра ўласны інтэрас, адводзілі, цягнулі на свой падворак не ўлічаную цялушку, свінчо, авечку, гусака… Але, вось так жыруючы, усё больш і больш тузаліся, нерваваліся. Раней крычалі, што Чырвоную Армію не ўбачыць як уласных вушэй. А пасля таго, як немцаў пабілі ў Сталінградзе (а раз пра гэта ведалі мы — ад партызан, то ведалі і яны), пачалі аглядацца неяк прыгнечана, трывожна.

Усё часцей выбухалі цягнікі з тэхнікай і фашыстамі, выводзіўся са строю чыгуначны пуць. Не па сваёй волі мы са смаленскім Аркашам аказаліся сведкамі партызанскай аперацыі.

Аркаша ўгаварыў мяне пайсці ў Камітэт у грыбы. «Кажуць, у лесе іх хоць касу закладай… Паціхеньку, далёка не пойдзем… Табе не сядзець седзьма — расходжвацца трэба…»

Расходжвацца дык расходжвацца. Прыхапілі кашы, і я пакульгаў услед за шустрым Аркашам. Грыбоў у лесе аказалася не так шмат, як думалася майму сябру, і мы цягнуліся ўсё далей і далей у хвойныя нетры. Раптам нас спыніў чалавек са стрэльбай. Нават не са стрэльбай — з вінтоўкай. Пацікавіўся нашым грыбным поспехам, распытаў, хто мы і адкуль. Аднак не пажадаў разысціся з намі ў розныя бакі, сказаў крочыць за ім. Мы выйшлі на вузкі прагал, дзе, замаскіраваўшыся, сядзелі і ляжалі партызаны. «Не нудзіцеся, дзеткі, — сказаў іх вусаты камандзір, — прыйдзецца падзяліць з намі кампанію…»

Прабылі з імі да вечара. Вячэралі сваімі няхітрымі запасамі і нас пачаставалі. А калі зусім сцямнела, рушылі ў бок Брадоў, Валожанкі. Уначы падышлі да чыгункі. Ахоўнікі адкрылі сустрэчны агонь, але збаяліся, разбегліся. Партызаны і мы з Аркашам у іх гурце занялі дарогу, развінчвалі, узломвалі рэйкі і выносілі іх падалей. Шпалы складалі крыж-накрыж, падпальвалі. І так на вялікай адлегласці.

Сыходзілі перад світанкам. Зваротны іх шлях ляжаў праз нашу Антонаўку. Мы з Аркашам прытаміліся, але кошыкі з баравікамі і падасінавікамі не згубілі. Хатнія былі ўстрывожаны, што мы зніклі. Рады былі, што знайшліся.

— І навошта мы ім спатрэбіліся? — здзіўляўся назаўтра Аркаша.

— Затым, каб не рассакрэцілі, — растлумачыў мой бацька. — Не прагаварыліся каму не трэба… Раптоўнасць — аснова поспеху…

— Дык мы спачатку толькі аднаго партызана і бачылі!

— А хто вас ведае… На лбе не напісана… Можа, вас знарок падаслалі. Сцеражонага бог сцеражэ!

У адзін перадвосеньскі дзень таго ж 43-га на гасцінцы ад Чавус паказалася нямецкая калона. Афіцэр спыніў заўважанага Паўлюковага Мішку (таго самага Мішку Стафаненку, які разам са мной спрабаваў загнаць у савецкі тыл калгасны статак), загадаў весці іх да Петухоўкі. Гэта нашага сельсавета вёска, ідуць у рад на правым беразе Проні Загоранка, Высокае, Петухоўка і далей Кузьмінічы — гэта ўжо Дужаўскага сельсавета. Але ж на Петухоўку ад Чавус і ад чыгуначнай станцыі ёсць больш простыя дарогі. Хто ім падказаў такі вакольны шлях? Мішку збянтэжыла не гэта. Куды дзенешся — павядзеш. Але, як потым прызнаўся, і сам добра не ведаў тую дарогу, усяго раз яшчэ да вайны вазілі з бацькам на петухоўскі млын збожжа на памол. Як бы не аказацца Сусаніным, не атрымаць бы кулю! Спрабаваў адмовіцца, але: «Цурюк… шнэль, шнэль!» Пайшлі, дайшлі. Адпусцілі жывым-здаровым, нават папяросай надарылі.

Як даведаліся хутка, гэта сапёрны батальён прыбыў для ўзвядзення на Проні ўмацаванняў. Ужо на нашай Проні?!

Мінуў яшчэ тыдзень — і нашу Антонаўку запаланілі зялёныя мундзіры. Размясціліся па хатах. Занялі і нашу, праўда, нас на вуліцу не выкінулі. Мы ў пярэдняй палове, ворагі — у другой, святліцы. І былі неяк гэтыя немцы не падобныя на тых, якія ішлі пераможцамі ў 41-м. Малады салдацік, яго клікалі Ося, нават імкнуўся пасябраваць з намі, мальцамі, асабліва з маім малодшым братам Аркадзем. Абед немцы атрымлівалі са сваёй паходнай кухні, якая стаяла каля так званай валаснай управы. Дык гэты Ося звычайна нёс поўны запасны кацялок, які аддаваў Аркадзю — для кіндараў, Жэні і Колі. Жылі мы ў той час больш чым надгаладзь, перабіваліся з хлеба на квас — бо ўсё, што было, выгарнулі, вымелі з каморы і клеці яшчэ да прыходу гэтых няпрошаных гасцей. Ося ўжо ўмеў сяк-так гаварыць па-нашаму, штосьці ў мяне засталося ад нямецкай пасля школы. Вось і завязаліся душашчыпальныя гутаркі. Разумець было лёгка, калі Ося гарачыўся, дэманструючы жэстамі кулачны бой, выкрыкваючы: «Сталін-Гітлер!.. Самі б!.. Ілбамі!..» Відаць было, што гэты Ося на вайну не прасіўся. Зрэшты, калі б ён быў гады на два старэйшым і ішоў па нашай зямлі ў 41-м, можа, як і тыя «пераможцы», па-іншаму паводзіў сябе і размаўляў…

Каля Балота (пішу з вялікай літары, таму што гэта мясцовасць так і называлася, за кіламетр ад вёскі, там гнездаваліся качкі, вадзілася розная дзічына, у сажалцы мы купаліся, лавілі нават рыбу; мы з маці ў мяшках насілі адтуль зялёныя парасткі, як звала іх мама, «пеўнічкі» — найлепшы ласунак для свінняў. Сёння пра тое балота, знішчанае ў часы Машэрава бесталковымі меліяратарамі, толькі сумны ўспамін. Асабліва пасля таго, як нават у студнях стала дэфіцытам вада)… Дык вось, каля Балота немцы замаскіравалі гарматы і сталі грукатаць… У каго стралялі — можна было не пытаць. Не па сваіх жа. Калі гэтыя гарматы нават самыя-самыя дальнабойныя, фронт дзесьці не так ужо далёка. Чакалася, што павінны б і з таго боку стукнуць па нямецкай батарэі каля Балота, але зваротнага агню пакуль не было. Не ведалі, дзе размешчана батарэя? Ці ў нашых артылерыстаў, лётчыкаў былі пакуль больш надзённыя мэты?

І раптам не толькі артылерыйская, але і кулямётная стральба данеслася. Яе чулі бацька, сусед Іван Абрамовіч, аднак не з усходняга боку, не з боку Чавус, а з паўднёвага боку, з боку Лапеняў. Бацька сцвярджаў, што нават чуў далёкае нашанскае «ўра!».

—Не сёння заўтра будуць тут!.. — казаў бацька.

А назаўтра…

* * *

Назаўтра стральбы не было чуваць. Назаўтра немцы загадалі нам збірацца. Куды? А хто яго ведае куды…

На зборы было дадзена не дзень, не гадзіна — некалькі хвілін. Пашанцавала, што пасля расцягвання калгаса ў нас у двары апынуліся калёсы. Хоць немцы пакуль не збіраліся разганяць калгасы, нават загад пра гэта быў

вывешаны на сцяне клуба: ім было б спадручней забіраць ураджай з аднаго грамадскага засека. Не ведаю, як дзе, а ў нашым сельсавеце, ці, па-цяперашняму, воласці, ні ў адной вёсцы калгасы не захаваліся. З-за нядбайнасці (а можа, наадварот?) бургамістра і стараст.

— Бяжы па каня! — закамандаваў бацька.

Зноў жа пашчасціла, што кабылка пасвілася побач з нашым агародам. Іначай хіба сталі б немцы чакаць, пакуль прывядзём з далёкай пашы. Я, спяшаючыся, закілзаў яе, бацька паставіў у аглоблі. Маці штосьці кідала ў калёсы, пасадзіла на вузлы Жэню і Колю. Немец падганяў: «Шнэль, шнэль!» Калёсы заляскаталі па калюжынах вуліцы. За выганам далучыліся да астатніх цяпер ужо бежанцаў — хто на калёсах, хто ўсяго толькі з клункам за плячамі. Вось ужо і апошняя, Маціевічава хата засталася ззаду. Вось Будняцкае возера (сюды ўлетку бегалі купацца). Будняцкае таму, што ў тым баку Старая Буда. За возерам гасцінец раз’ядноўваўся: левая дарога — на Старую Буду, правая — на Галавенчыцы. Па якой жа нас пагоняць?

Нас павярнулі на Галавенчыцы — гэта кіламетраў за шэсць ад Антонаўкі. У суправаджэнні канваіраў — адзін наперадзе, другі ззаду, трэці, відаць не радавы, можа, як некалі Гітлер, яфрэйтар, — дзе яму заманецца, калона паўзла міма царквы. Мяне ў гэтай царкве хрысцілі. А яшчэ ўспомнілася, як мы, антонаўскія хлапчукі, апынуліся тут у нейкае свята. У царкве ішло набажэнства. А мы знайшлі ход-лесвіцу і палезлі на званіцу. Нас заўважыў і не па-боску панадаваў кухталёў, прагнаў вартаўнік, а можа, царкоўны стараста (была такая пасада). Зараз каля царквы апантана хрысціліся нейкія бабулькі, але дзверы былі на засове.

Было ўжо далёка за поўдзень, калі ў суседніх Навасёлках дазволілі перадышку. Маці на цяпельцы проста каля дарогі зварыла нейкую поліўку. Але галоўная праблема — пакарміць коніка. Мы з Аркадзем кінуліся на пошукі сена, травы. Не паспелі адпачыць — пад’ём. Рухаліся і далей павольна, не спяшаючыся. Канваіры і не прыспешвалі. Здаецца, ім гэта нечаканая прагулка была няцяжкая, ва ўсякім разе прывольней, чым у бліндажы ці акопе.

Начавалі ў нейкай вёсцы, мы ў абсалютна пустой хаце. Ці то жыхароў кудысьці сагналі, ці то самі пахаваліся ў лесе. Бацька разважаў: можа, і нам неяк увільнуць? Выйшлі на шашу Магілёў–Гомель. Павярнуць у бок Магілёва ў Канстанцінаўку, дзе жылі па матчынай лініі сваякі? Хаця, як знаць, можа, і іх вось так кудысьці гоняць. І ці можна рызыкаваць дзецьмі? У канваіраў не для забавы аўтаматы…

Наступны начлег — у Доўску. Проста пад голым небам, табарам. Доўск — гэта ўжо Гомельская вобласць. Вузел шашэйных дарог: Брэст–Масква, Ленінград–Адэса. Куды пагоняць далей?

Але гнаць не спяшаліся. Падобна, узгаднялі з кімсьці маршрут. Аднак вось прыбег немец, які, напэўна, яфрэйтар, замахаў рукамі, штосьці загадаў салдатам. Канваіры замітусіліся: «Шнэль!.. Шнэль!..» Табар ажыў, стаў выцягвацца ў калону. Наступны невялікі прывал дазволілі ў вёсцы Гадзілавічы — папіць каля калодзежа халоднай вадзіцы, даць хоць маленькую пера-

дышку старым і дзецям. Немцы сваіх падканвойных асабліва не турбавалі, а вось мясцовых жыхароў, якія закідвалі нас пытаннямі і роспытамі, адганялі. На іх пытанні, нават калі б немцы нашай гутарцы не заміналі, як было адказаць? Куды нас гоняць? Хіба мы ведалі куды? Аркадзь аджартоўваўся: «У Берлін…» Гадзілавіцкі дзед засумняваўся: «На сваім каняку і да Рагачова ці дацягнеш?»

Да Рагачова дацягнулі. Акуратныя хаты, зеляніна і аж дзве ракі! Вось чаму назва горада: пры ўпадзенні Друці ў Днепр утвараецца кут, проста-такі рог. Ад гэтага рога — Рагачоў. Аднак не выпадала любавацца прыгажосцямі рэк і горада: нас без прыпынку гналі і гналі. Спыніліся толькі ў Ціхінічах. Тут быў саўгас. Вакол густа немцаў, няйначай абсталяваўся гарнізон. Частку бежанцаў адлучылі, пакінулі тут. У іх ліку наша сваячка (удава бацькавага брата) Таццяна з дзецьмі, сям'я Таццянінага брата Паўла Капусціна… Астатніх пагналі ў суседнія Навасёлкі.

У Навасёлках распараджаўся мясцовы стараста — пануры стары. Нашу сям'ю ўладзіў да Адама і Марыны Бычковых: іх у хаце чацвёра — самі і дзве дзяўчынкі. Пакой адзін, але даволі прасторны. Гаспадары ветлівыя: у цеснаце, ды не ў крыўдзе.

І ўсе жыхары тых рагачоўскіх Навасёлак да нас ставіліся спагадліва: хто ведае, што саміх чакае заўтра. Суседка Амельчыха (так яе там называлі) тут жа прынесла каструлю малочнай крупені — якраз дарэчы падкарміць здарожаных дзяцей.

Спагада спагадай, але і самі навасяльчане не ведалі, як канцы сточваць. Усё, што змаглі, фашысты ў іх забралі. І рады памагчы нам, ды ў саміх пуста ў каморы.

— Навярніцеся ў Талочкава, — параіла тая ж Амельчыха. — Агароды, як людзей, немец не спаліў…

Талочкава — суседняя вёска. Была вёска. Цяпер папялішчы і абгарэлыя коміны печаў. Перад нашым сюды прыбыццём фашысты спалілі яе з людзьмі. Ацалеў толькі той, хто выпадкова апынуўся ў адлучцы. Акружылі на досвітку — і ўсіх агулам. За сувязь з партызанамі. Як мы з Аркадзем пайшлі туды, жахнуліся. І падумалася: калі была сувязь з партызанамі, чаму ж партызаны не прыйшлі на выручку? Уступіўшы з ворагамі ў бой, выратавалі б хоць частку жыхароў.

У гародах знішчаных талочкаўцаў мы знаходзілі бульбачку, бурак, яшчэ сёе-тое.

Як распраўляліся за сувязь з партызанамі, што не заўсёды і была, мы назіралі ў Навасёлках. Паліцаі, ці бобікі, як іх празвалі, на конях гналі перад сабой ужо немаладога кульгавага мужчыну, збіваючы палкамі. Небарака абараняў галаву рукамі, а ўдары сыпаліся і сыпаліся. А ўся прычына, расказаў дзядзька Адам, у тым, што гэты ўдавец прывёў у хату маладзіцу, потым не зладзілі, і тая данесла, што да ўчарашняга яе чалавека прыходзілі ўначы партызаны. Гэта нялюдскасць і сёння ў мяне перад вачамі. Здавалася і здаец-

ца нейкім суцяшэннем, што каты-паліцаі не ўцяклі ад кары, ды і маладзіца-даносчыца, пэўна, атрымала па заслугах.

Неўзабаве ў Навасёлкі наехала немцаў. Хутчэй за ўсё, на адпачынак пасля фронту. Суседнюю хату (а там далей — і яшчэ, і яшчэ) ачысцілі ад жыхароў, збудавалі ў два паверхі нары (гэта бачыў Аркадзь, якога прымусілі скіпаць і цягаць у хату-казарму дровы). У канцы вёскі, ад Ціхініч, іх харчаблок. Адтуль зялёныя шынялі сунуліся з поўнымі кацялкамі, а ў вечках кацялкоў — бульбачка ў мундзірах, якую потым смажылі, даводзілі на свой густ кожны ў сваёй нары.

Па вёсцы, не спяшаючыся, паходжваў пажылы немец з бляхай на шыі — палявы жандар, як мне растлумачылі. Не ведаю, чым гэты фашысцкі жандар займаўся, але аднойчы ён мяне нават выратаваў. Калі паліцаі пачалі мяне збіваць — можа, дзеля пацехі, можа, адчуваючы хуткую расправу над імі. Жандар ужо раней пераканаўся (нават прымусіў на снезе зняць з нагі валёнак), што я пасля ранення наўрад ці магу быць небяспечным для Трэцяга рэйху. Заўважыўшы ярасць бобікаў, ён загыркаў, замахнуўся кіем, можа, і плеснануў каторага, які трапіўся пад руку (для яго бобікі былі такімі ж славянскімі тубыльцамі, недачалавекамі, як і я). Тыя збянтэжыліся, разбегліся і больш мяне не чапалі.

А неўзабаве я быў сведкам, як салдаты збівалі старых, жанчын і дзяцей у хаце Адама Бычкова: тут зрэдку збіраліся браты і сёстры ў Хрысце (баптысты), маліліся, спявалі псалмы. Раптам уварваліся немцы: іх, відаць, пужала, што людзі цягнуцца адно да аднаго. Асабліва дасталася іх прэсвітару — высокаму худому дзеду, які спрабаваў штосьці ім растлумачыць.

Немцы і бобікі гойсалі па вёсцы: каго б яшчэ адлавіць на капанне акопаў? Аднойчы пры такой аблаве трапіўся і мой бацька. Ужо не спадзяваўся, што вырвецца. Але неяк неўзаметку выслізнуў у брамку, схаваўся за варотамі, цудам ацалеў.

У той час прыйшлося быць сведкам і ўцешнага відовішча. Калі нямецкія самалёты ледзь не зрывалі дахі вясковых хат. Уцякалі, ратаваліся ад чырваназорных знішчальнікаў. Гэта ім не 41-ы год!

Чакалі, калі і сюды наблізіцца фронт. Чакалі-пачакалі, але…

* * *

Ранкам цішыню парушыў рокат матораў цяжкіх грузавікоў. Сонная вёска была ўжо ачэплена немцамі, а цяпер зялёныя шынялі замітусіліся ад хаты да хаты, зганялі жыхароў да грузавікоў. Хтосьці паспеў што-небудзь захапіць з прадуктаў, рэчаў, хтосьці нічога не паспеў. Тых, хто супраціўляўся залазіць у кузаў, білі палкамі, прыкладамі. Крыкі, шум, плач. У адзін кузаў утапталі і нас з сям’ёй Бычковых. Наўрад ці каму з вяскоўцаў удалося дзе-небудзь схавацца. Грузавікі са старымі і дзецьмі папаўзлі з вёскі. Куды вязуць?

Доўга ці коратка — прывезлі нас да абгароджанага калючым дротам лагера з такімі, як мы, гаротнікамі побліз чыгуначнай станцыі Цялуша. Я ніколі

не чуў пра гэту станцыю, бацька ж успомніў, што калісьці быў у вёсцы Цялуша, гэта Бабруйскі раён. Значыць, прывезлі нас сюды, за калючую агароджу.

Аднак не, грузавікі павярнулі да таварнага складу на станцыі. Проста з кузава людзей пераганялі ў вагоны. І з-за калючай агароджы гналі ў вагоны людзей. Хто марудзіў, аглядаўся, атрымліваў бізуном па спіне і галаве.

Калі вагон быў біткам набіты, шырокія дзверы з грукатам зачыніліся. Цёмна, зверху з вузкага закратаванага акенца прасочваецца цьмянае святло. Падцягнуўся я, вызірнуў: унізе топчуцца немцы, у суседнія вагоны гоняць, пхаюць людзей.

Той састаў, які запаўняўся старымі і дзецьмі (у вагоне не павярнуцца), стаяў гадзіну, дзве, цяжка нават сказаць, колькі часу. Відаць, фашысты звозілі ў яго, ды, напэўна, і не толькі ў яго, жыхароў блізкіх і далёкіх вёсак і сёл. Ужо звечарэла, калі вагон здрыгануўся, тузануўся і з рыпеннем пакаціўся па рэйках. Ніхто не ведаў, куды вязуць. Ні ежы, ні вады. Плакалі дзеці, маліліся старыя…

Старыя, молячыся, прасілі Божачку злітавацца, пашкадаваць хоць бы дзяцей. А каго Богу слухаць? І немцы лічаць, што Бог павінен дапамагаць ім, нездарма ж нават са спражак рамянёў крычаць, што Бог з імі. З імі заганяе людзей у гэтыя вагоны?

Цягнік то ішоў, то спыняўся. Падобна, працягвалася дагрузка вагонаў. Пахмурнай раніцай зноў спыніліся, здаецца, проста ў полі. Дзверы вагона з рыпеннем адчыніліся. «Здаецца, Рудобелка?» — спрабаваў хтосьці зарыентавацца, куды нас прывезлі.

«Аўсштайген!.. Шнэль, шнэль!..»

Загадваюць выходзіць з вагона, хутка, хутка…

Насупраць жаўцеў катлаван: адгэтуль раней вазілі ці то пясок, ці то жвір. Каля катлавана гергеталі немцы ў зялёных шынялях, у чорных плашчах, двое з аўчаркамі.

«Тут і будзе наша магіла», — перахрысцілася бабулька.

Мы чвякаліся на мокры брудны снег. Немцы прыспешвалі выспяткамі, зганялі ўсіх у калону. Цяпер павядуць да ямы, затрашчаць аўтаматы…

Але павярнулі не да ямы — да растоўчанай дарогі, якая вядзе да лесу. Незразумела: тут жа, у катлаване, перастраляць спадручней, прысыпаць пяском… Ці там, у лесе, яшчэ глыбейшая яма?

Толькі ж нас гналі і гналі, многія ледзь клыгалі. Нейкі дзядуля выбіўся з духу, прысеў ля дарогі на пянёк. Немец ударыў яго палкай, потым яшчэ. Стары зваліўся, спрабаваў падняцца, але немец стрэліў яму ў галаву. І далей: хто адставаў — прыстрэльвалі. Жанчына несла на руках дзяўчо, прытамілася. Немец выбіў з яе рук малую, сekануў з аўтамата. «Гут, гут… Ецт, матка, ляйхт гейт!.. Шнэль!..» Яшчэ здзекуецца, свалачуга: маўляў, добра будзе зараз, лёгка… Дай, божа, каб праклятага наша бомба разарвала!

Небяспека застацца тут жа, на абочыне, пагражала кожнаму з нас. Мне ўскладняла шлях параненая нага. Да таго ж штораз даводзілася падмяняць прытомленую маці, якая несла на руках зусім саслабелага Колю. Губляючы

то аднаго, то другога, калона да самага вечара цягнулася па гразкай дарозе. Увечары загналі за калючы дрот проста ў лесе, дзе кешкаліся такія ж, як мы, змардаваныя людзі.

— Мы з Падасінніка — тут непадалёчку наша вёска, — абціраючы слёзы і прыціскаючы да сябе дваіх дзетак, распавядала жанчына. — Усіх нас сюды… Чым правінаваціліся?

— Наша віна перад немцамі, што мы яшчэ жывыя, — адказвала ёй маці.

Немцы, бразгаючы зброяй, соўгаліся туды і сюды, вышуквалі сярод вязняў больш-менш моцных, пхалі іх у асобную групу. Узялі Мішку Рэзіка, яго стрыечнага брата Стахвана (Стэфана), яшчэ кагосьці. (Потым ад іх, цудам ацалелых, даведаўся, што іх пагналі на капанне акопаў, якія не выратавалі ворагаў.) Я з браткамі, якія не трымаліся ўжо на нагах, упалі на сырую зямлю пад сасной.

Назаўтра павялі далей той жа дарогай. І прывялі да адной калючай агароджы, з кулямётамі на вышках-вежках. Усіх заганялі ў адкрытыя перад папаўненнем вароты. Тут быў не проста лес — балота. Людзі таўкліся паміж кустоў і хвоек, напаўжывыя сядзелі на пнях і купінах.

«Вось дзе наша пагібель!» — адной рукой хрысцячыся, другой абапіраючыся на кульбу, уздыхнула маці Мікіты Валавікова — першага антонаўскага старасты. Мікіту таксама ўхапілі на капанне акопаў, а сямейка яго згубілася дзесьці ў вагонах, балотах. З бабулькай засталася толькі яе дачка Ганна.

Для нас бабуля была не проста бабуля, а менавіта бабулька, ад слова «бабіць». Акушэраў у вёсках тады не было, іх замянялі такія вось бабулькі, прымалі дзяцей пры родах. Для нашай сям’і яна была як родная, на Вялікдзень прыносіла ўнукам, якімі лічыла нас, чырвоныя яйкі. «Ісус уваскрэс!» — вітала яшчэ з парога. «Ваісціну ўваскрэс!» — сустракала маці, частавала шаноўную госцю. І вось дзе звяла нас доля!

Надвор’е стаяла шэрае, ішоў мокры снег, халодны дождж. Уначы ўдарыў мароз. Раніцай — што такое? — не адарвацца ад зямлі. Папрымярзалі і я, і астатнія. Давялося адшпільваць гузікі, вылузвацца з адзежы, асцярожна, каб не пашматаць, вызваляць яе з ледзяшоў. У тую раніцу многія, асабліва дзеці, так і не прачнуліся. А колькі яшчэ наперадзе такіх дзён і начэй!

Холад і голад касілі людзей. Хтосьці здолеў прыхапіць пры выгнанні нейкія сухары, у кагосьці выбілі ўсё з рук фашысты, хтосьці з самага пачатку выкінуты з хаты ў чым быў.

Неяк прывезлі на машыне хлеб-эрзац (у немцаў усё эрзацы, штучнае — хлеб, мыла, валёнкі…). Шпурлялі праз калючую загарадзь чэрствыя, як камень, буханкі. Хто трымаўся яшчэ на нагах, імкнуўся ўхапіць варожы падарунак. Спрабаваў і я, але мяне збілі з ног, утапталі ў багну. Ледзь жывога прыцягнуў мяне да сваіх Аркадзь. Для немцаў было гледзішча, як галодныя недачалавекі топчуць адзін аднаго. Іржалі, гагаталі. (Паглядзець бы, як загагочуць, калі нашы будуць уваходзіць у іх гарады.)

Аднойчы Аркадзю пашчасціла ўхапіць конскую костку, кінутую праз агароджу замест мяса. Агонь разводзіць забаранялася, да таго ж ні дроў, ні запа-

лак. Зрэшты, запалкі ў бацькі, заўзятага курца, знайшліся. Тытунь скончыўся, а некалькі запалачак засталося. Назбіралі галля, насілу развялі за кустамі цяпельца, у нейкай бляшанцы варылі запраўлены карой і каранямі дармовы далікатэс. Пена з булькаючага варыва так і біла. «Вельмі ўжо стары быў рабацяга», — пашкадаваў бацька.

Часам немцы проста так, для постраху, пастрэльвалі са сваіх вартаўнічых вышак: можа, прыцэльна, можа, куды патрапіць. Забілі каго ці не забілі — як ведаць: і без таго тут і там трупы. Пахаваць бы роднага ці знаёмага, дык галаруч нават на хлюпкай багне не вырыць яму. Тут жа трупы, тут жа вада, каб здаволіць смагу.

Я са сваёй балотнай купіны не мог азірнуць увесь абгароджаны калючым дротам абсяг. У мітуслівым выжыванні антонаўцы неяк зніклі, згубіліся ў агульнай людской масе. Да майго здзіўлення, побач апынуліся не толькі магілёўцы, гамяльчане, але і небаракі з Браншчыны, Смаленшчыны і нават далёкай Калужскай вобласці. Яны, як і я, бачылі толькі тое, што вакол, побач. Больш даведаўся, калі выбраўся з таго балотнага пекла…

Пераклаў з рускай мовы Сяргей Украінка

# КРЫТЫКА. ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



**Я р а с л а ў  К л і м у ц ь**

## Спасцігаючы сутнасць літаратуры

*Крытычная і навуковая творчасць М. А. Тычыны*

Упакаленні, народжанага ў першай палове 40-х гадоў XX стагоддзя, былі свае жыццёвыя шляхі, не ўсыпаныя ружамі, але ўжо і даваўшыя нейкі спосаб рэалізацыі сваіх магчымасцяў. Ці ўсе скарысталіся такімі магчымасцямі — статыстыцы невядома, але многія пазбаўленыя ад атрымання даведкі ад калгаснага феадала маглі паехаць вучыцца і выкарысталі свой шанц. У некаторых праблема ўзнікала яшчэ і звонку. У сацыяльна-дзяржаўнай сістэме многія былі пад падазрэннем. Такім быў і Міхась Аляксандравіч Тычына, якому лёс падкінуў ніштавата выпрабаванняў.

Міхась Аляксандравіч Тычына нарадзіўся 10 лютага 1943 года ў пасёлку Ленінскі Алданскага раёна Якуціі. Там яго бацькі, дзеці раскулачаных беларускіх сялян Аляксандр Мітрафанавіч і Кацярына



**Яраслаў Клімуць**

нарадзіўся 1 кастрычніка 1940 г. у в. Вострава Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Літаратуразнаўца, пісьменнік, выкладчык вышэйшай школы. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры англійскай, агульнага і славянскага мовазнаўства Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. А. Куляшова. З 1989 па 2001 г. быў дэканам філалагічнага факультэта. Аўтар манаграфіі «Жыццёвасць традыцый: Якуб Колас і руская савецкая паэзія» (Мінск, 1985) і больш чым 140 літаратурна-крытычных артыкулаў. Узнагароджаны ганаровымі граматамі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Саюза беларускіх пісьменнікаў, Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сцяпанаўна, сустрэліся, каб далей разам ісці па жыцці. У 1947 годзе выгнанцам дазволілі вярнуцца на радзіму, яны прыехалі на спадчынныя землі ў вёску Завалючыцы Глускага раёна Магілёўскай вобласці, якія былі ўжо даўно саўгасныя. У Завалючыцах М. Тычына скончыў сямігодку, а працягваў вучобу ў мястэчку Глуша Бабруйскага раёна, жыў у сям'і Адамовічаў, паколькі маці будучага знакамітага пісьменніка Алеся Адамовіча была роднай сястрой яго бацькі. У 1959 годзе Міхась паступіў на філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, дзе яму пашчасціла вучыцца ў будучага вядомага беларускага літаратуразнаўцы У. Калесніка, менавіта ён пазней успамінаў, што М. Тычына быў студэнтам дапытлівым, нічога не ўспрымаў на веру, даймаў выкладчыкаў рознымі пытаннямі.

Пасля заканчэння вучобы М. Тычына ў 1963 годзе быў накіраваны на працу ў Пінскі раён, але неўзабаве быў прызваны ў армію, у 1965 годзе дэмабілізаваўся і вярнуўся на Піншчыну, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Хойнаўскай сярэдняй школе, у 1967 годзе паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, а пасля заканчэння вучобы стаў там працаваць: прайшоў шлях ад малодшага навуковага супрацоўніка да вядучага спецыяліста ў галіне тэорыі літаратуры. У 1971 годзе ён абараніў кандыдацкую дысертацыю па тэме «Мастацкае мысленне Кузьмы Чорнага-раманіста як творчы працэс», а ў 2001-м — доктарскую дысертацыю па тэме «Якуб Колас і руская літаратура першай паловы XIX стагоддзя».

Асноўная сфера яго навуковых зацікаўленасцяў палягае ў рэчышчы тэорыі і гісторыі літаратуры, аднак ён актыўна рэагаваў і на праявы бягучага літаратурнага жыцця.

Творчасць кожнага прыхільніка мастацкага слова пачыналася з паэзіі. Гэта было ўласціва і М. Тычыне. Першыя вершы ён надрукаваў у Брэсцкай абласной газеце, а потым пачаў друкавацца і ў рэспубліканскіх выданнях. У 1964 годзе ў часопісе «Маладосць» была апублікавана падборка вершаў. Гэта быў ужо ўзровень, але Міхась неўзабаве перайшоў на прозу. У апавяданнях і аповесці «Дажынкі» ён выявіў светаадчуванне, жыццёвую пазіцыю сваіх аднагодкаў. А вось кніга «Вяртанне: Аповесць пра Кузьму Чорнага» (у часопісным варыянце «Аперацыя») — вынік навуковых асэнсаванняў творчасці класіка беларускай літаратуры і жыццятворнае жаданне паказаць творчую асобу ў мастацка-вобразным успрыманні. У аповесці-біяграфіі М. Тычына паказаў станаўленне асобы пісьменніка, яго адносіны да жыцця, уменне ў вандроўных паходах (будаваў разам з бацькам хаты людзям) запамінаць не толькі дэталі сялянскага жыцця, але і яго станоўчыя і адмоўныя бакі. Усё ж асноўным заняткам М. Тычыны стала літаратурная крытыка і літаратуразнаўства.

Як літаратурны крытык Міхась Тычына дэбютаваў у 1969 годзе таксама ў часопісе «Маладосць». У артыкулах і рэцэнзіях, разглядаючы розныя канкрэтныя аспекты літаратурнага працэсу, асаблівасцей таленту кожнага пісьменніка, што трапляў у яго поле зроку, імкнуўся выявіць дасягнутае ім і перспектывы на будучыню, пры гэтым жадаў бачыць усё ў кантэксце нацы-

янальнай літаратуры. Гэта характэрна і для яго рэцэнзіі «На мяжы імгнення і вечнасці» на першую кнігу празаіка В. Гігевіча «Спелыя яблыкі». Рэцэнзент падкрэслівае, што ў літаратурным працэсе ўсё ўзаемазвязана, ні адна з'ява не ўзнікае сама па сабе. Вось і ў творчасці В. Гігевіча ён бачыць сувязь з папярэднікамі, якую не адвяргае і сам пісьменнік, імкнецца вызначыць асноўныя рысы яго творчасці, уласны стыль і жыццёвыя зацікаўленні. Разгледзеўшы апавяданні зборніка, крытык робіць выснову, што «*ў лепшых апавяданнях зборніка паказ знешняга і ўнутранага свету выяўляе іх складаную дыялектыку ўзаемапранікнення, сродкі эпічнага, аб'ектыўнага ўзнаўлення рэчаіснасці арганічна спалучаюцца з лірызмам і ствараюць разам непаўторную атмасферу прыўзнятага настрою, раздумнасці, драматычнай напружанасці пачуццяў і думак*»[1]. У апавяданнях «Дома», «Спелыя яблыкі», «Два дні на схіле зімы» і інш. крытык убачыў найбольш значныя індывідуальныя рысы апавядальніка: уменне заўважаць у паўсядзённасці глыбінныя працэсы, у якіх гартуюцца характары людзей, а значыць, у гэтым выяўляецца «*і творчы воблік самога пісьменніка, характар яго светаўспрымання і мастацкага мыслення*»[2], што, на думку крытыка, дае падставы чакаць ад празаіка новых дасягненняў у выяўленні чалавека ў прасторы і часе. І калі ў поглядзе на творчасць Гігевіча яго ў першую чаргу цікавіць перспектыва развіцця пісьменніцкага таленту, то ў рэцэнзіі на кнігу Я. Сіпакова «Спадзяванне на радасць», ужо слыннага аўтара, рэцэнзента цікавіла, наколькі ўзнятыя праблемы ў мастацкім афармленні ўплываюць на грамадскае жыццё. Ці, можа, і так: якая будучыня ў чалавека, пакаленне якога будзе жыць і дзейнічаць у наступным стагоддзі, як вызначаецца адказнасць чалавека за ўсё, што адбываецца ў яго прысутнасці? На погляд крытыка, пісьменнік не дае адказу, не піша нейкіх рэкамендацый. Аднак у сярэдзіне 80-х гадоў заставалася актуальнай думка пра адказнасць чалавека за лёс Зямлі, існаванне чалавецтва. І ўсё гэта, падкрэслівае крытык, паказваецца праз лёсы людзей, праз іх стаўленне да ўсяго існага. Але небяспека для чалавека можа выяўляцца не толькі ў магчымасці вайны, хоць яна заўсёды была пагражальным фактарам (тайныя войны Савецкага Саюза, якія маглі вырасці ў глабальныя). Па неразумным гаспадаранні прападаюць вёскі — працэс, які становіцца неабарачальным, што крытык і ўбачыў у апавяданні Я. Сіпакова «Бывайце, Вясёлыя Скакухі». Гэта ўжо была спроба крытыка спрагназаваць і рэчаіснасць будучыні, што чакае чалавека ў перыяд глабалізацыі.

У кожнай літаратурнай з'яве М. Тычына імкнецца ўбачыць пэўныя заканамернасці, якія даюць падставы для прагназавання. Гэта характэрна і для яго рэцэнзій на раманы В. Адамчыка «Чужая Бацькаўшчына» і «Год нулявы», час напісання якіх раздзяляе пяць гадоў. Тут вельмі важна ўбачыць, што з футуралагічных высноў у першай рэцэнзіі пацвердзілася ў наступнай, якія новыя вызначэнні робяцца на аснове ранейшых назіранняў, але

[1] Тычына, М. На мяжы імгнення і вечнасці / М. Тычына // Маладосць. — 1976. — № 11. — С. 185.
[2] Тамсама. — С. 186.

ўжо на матэрыяле другога рамана. У рэцэнзіі «З думкаю пра народ» крытык паспрабаваў паглядзець на раман В. Адамчыка праз прызму зробленага ў гэтым жанры папярэднікамі. Яго перш за ўсё цікавіць, што новага ўнёс пісьменнік да ўжо адкрытага Коласам, Чорным, Мележам. Ён зазначае, што праз адзінкавае ў «*"Чужой Бацькаўшчыне" пісьменнік паказвае агульнае, бо раман напісаны з думкай пра беларускі народ, пра яго дужа складаны, часам трагічны лёс*»[1]. У рэцэнзіі на раман «Год нулявы», зноў згадваючы напісанае пра вёску, у тым ліку ўсходнебеларускую, падкрэсліць, што В. Адамчык не паўтарае і не аспрэчвае творчы вопыт папярэднікаў. Ён проста апавядае пра тое, «*што сам на свае вочы ўбачыў, што пеpажыў і запомніў*», але і прызнае, што «*прачытанае ў кнігах іншых пісьменнікаў, якія так ці інакш закранулі ў сваёй творчасці заходнебеларускую тэму, прыдалося, нешта прымалася, нешта адмаўлялася, аднак толькі ў той ступені, у якой дапамагала стварэнню ўласнага Свету*»[2]. Прытым і вызначыў, што раманы з'яўляюцца свайго роду часткамі ад незавершанага твора (гэта ў далейшым пацвердзілася з'яўленнем новых кніг).

М. Тычына паказаў, што раман «Чужая Бацькаўшчына» вызначаецца цыклічнасцю, уключэннем чалавека ў змену пораў года, з'яднанасцю людзей з прыродай, бо пейзажы пераважна перадаюцца праз успрыманне верасаўцаў. Ён вызначыў і катэгорыі людзей, якіх паказвае пісьменнік: адны ідуць у плыні жыцця, даўно звыкліся са станам рэчаў, іншыя ўжо спрабуюць асэнсаваць сябе ў гэтым свеце і вызначыць свой шлях, у нейкай ступені цалкам канкрэтна, як Міця Корсак, Чэся Доўнар, ці інтуітыўна, як МарцінВаўчок, Імполь Верамей, Алеся Мондрая, Хрысця, ды і старэйшае пакаленне. Крытык засяроджвае ўвагу на тым, што нават у часы, здавалася б, некаторай улагоджанасці над усімі вітае прадчуванне трагічнасці лёсу герояў. І яшчэ вельмі важны аспект: у рэцэнзіях і артыкулах М. Тычыны 70-х — першай паловы 80-х гадоў XX стагоддзя адчуваецца клопат пра лёс рамана і яго будучыню.

Лёс рамана асабліва цікавіць крытыка, што праяўлялася ў рэцэнзіях і артыкулах, непасрэдна прысвечаных гэтай тэме. Роздум над раманам І. Чыгрынава «Свае і чужынцы» дазваляе М. Тычыну паказаць агульную тэндэнцыю, уласцівую ўсёй савецкай літаратуры: «*Паказальная пераклічка твораў сучасных савецкіх пісьменнікаў, якая сведчыць, што творчы поспех ідзе ў адным кірунку — да ўсё больш шырокага асэнсавання праблемы "народ і вайна"*»[3]. Як і ў папярэдніх творах І. Чыгрынава, галоўнымі героямі з'яўляюцца Зазыба і Чубар, але пры гэтым крытык заўважае змены ў іх дзейнасці: раздумлівасць першага пераходзіць ужо ў замаруджанасць, а ў другога заўважаецца набліжэнне да пазіцыі Зазыбы ў разуменні жыцця на акупаванай тэрыторыі і змагання з ворагам, ён прызнае ў некаторай ступені памылковасць сваёй крыху бяздумнай падтрымкі тэорыі «выпаленай тэрыторыі». М. Тычына лічыць адной з асаблівасцей рамана яго шматлюднасць (і гэта ў пісьменніка

---

[1] Тычына, М. З думкаю пра народ / М. Тычына // Маладосць. — 1979. — № 4. — С. 174.
[2] Тычына, М. На парозе будучыні / М. Тычына // Полымя. — 1984. — № 12. — С. 201.
[3] Тычына, М. Працяг — будзе / М. Тычына // Полымя. — 1984. — № 8. — С. 214.

момант канцэптуальны ў выяўленні народнага змагання), і ў сувязі з гэтым адзначае, што кожны твор поўнасцю завершаны, што нагадвае традыцыю Кузьмы Чорнага. Больш таго, крытык спрабуе стварыць свайго роду жанравую класіфікацыю ўжо выдадзеных чыгрынаўскіх раманаў: першы — эмацыянальны, другі — інтэлектуальны, роздумны, трэці — дзейны. У нейкай ступені з гэтым можна пагадзіцца, хоць варта было б і дабавіць, што з апошняга па напісанні да таго часу пачынаецца і паказ бесчалавечнасці вайны, наяўнасць неабгрунтаванай жорсткасці з абодвух бакоў змагання. Характэрная асаблівасць аператыўных водгукаў крытыка праяўляецца ў значнасці першасных ацэнак твора і вызначэнні яго месца ў творчай сістэме пісьменніка і ў кантэксце жанру, а яшчэ яе каштоўнасць і ў спрагназаванні будучыні літаратурнага працэсу. У гэтым сэнсе ў адносінах да Чыгрынава крытык не памыліўся ў сваіх меркаваннях, ён бярэ пад сумненне заяву пісьменніка, што гэта апошні раман з задуманага цыкла. Прааналізаваўшы напрамак развіцця характараў, вострых сутыкненняў непрымірымых сілаў, «*як моцна закручана спружына сюжэта і як марудна, з затрымкай, рытмічна яна разгортваецца, колькі перапрацавана пісьменнікам жыццёвага матэрыялу*», ён зрабіў і адпаведную выснову: «*Так што працяг — будзе*»[1]. І не памыліўся. Зрэшты, што гэты паказ драматызму часу вайны выльецца ў працяглы цыкл, выказаў М. Тычына яшчэ ў 1981 годзе ў артыкуле «Апраўданне чалавека: Штрыхі да партрэта», вызначыўшы галоўныя рысы Чыгрынава-празаіка як абаронцы чалавека, калі зазначыў, «*што ў новыя творы прыйдуць ужо вядомыя і невядомыя героі: літаратура не можа існаваць без новых герояў, без пошукаў адказаў на балючыя праблемы народнага жыцця*»[2].

Магчымасці рамана і яго будучы лёс спрабаваў вызначыць М. Тычына ў рэцэнзіі на твор У. Караткевіча з пакутным лёсам «Нельга забыць», дзе ў адзінае сплецена мінулае, сучаснае і будучае, і спроба дваццацігадовага замоўчвання толькі сцвердзіла магчымасці жанру ў выяўленні высокай рамантыкі, грамадзянскай пазіцыі героя, што асабліва паказальным было ў вобразе Андрэя Грынкевіча з яго высокім адчуваннем нацыянальнай годнасці. Літаратурны працэс наступных дзесяцігоддзяў пацвердзіў такое назіранне крытыка.

Вызначэнне творчай індывідуальнасці пісьменніка, значнасці ўкладу кожнага ў літаратурны працэс характэрна і для разгорнутага артыкула М. Тычыны «Свет — наш дом», у якім у агульных рысах разглядаецца пяцітомны Збор твораў Я. Брыля. Некалькімі радкамі крытык акрэслівае жанравую разнастайнасць творчасці гэтага слыннага пісьменніка, звярнуўшы ўвагу на структуру выдання: Збор твораў «*пабудаваны так, што чытач праходзіць творчы шлях пісьменніка як бы пяць разоў: у жанры апавядання (1-ы том), аповесці (2-і), рамана (3-і), дарожных нататак і артыкулаў (4-ы), лірычных запісаў*

---

[1] Тычына, М. Працяг — будзе. — С. 217.
[2] Тычына, М. Апраўданне чалавека: Штрыхі да партрэта / М. Тычына // Маладосць. — 1981. — № 10. — С. 170.

*і мініяцюр (5-ы)*»[1]. А пасля сцісла растлумачыў прынцып такога размяшчэння: «*У кожнага жанру свае магчымасці ахопу рэчаіснасці, свая глыбіня вобразнага асэнсавання часу, свае перавагі і свае недахопы. Празаік часам нібы выпрабоўвае адзін і той жа матэрыял, як ён кладзецца ў розных жанрах*»[2]. Крытык паказвае, што творчасць Янкі Брыля выяўляе беларуса сярод народаў свету, але найперш крыніцай для радасці з'яўляецца роднае месца, радзіма, дзе свой дом — гэта і ўвесь свет. Праўда, у гэтым яго доме беларусу не заўсёды пачувалася ўтульна. Крытык разам з тым сцвярджае, што праз успрыняцце свету пісьменнік выяўляе сваё, адметнае, чыста нацыянальна-беларускае. І тут М. Тычына дастаткова акцэнтуе ўвагу на жанравай разнастайнасці творчасці Я. Брыля, і са сказанага можна рабіць вывад, што раман «Птушкі і гнёзды» — пра беларуса і Беларусь на вялікай мапе свету, але сваё існаванне гэтаму свету яшчэ трэба паўсядзённа даказваць, так што можна разумець: гэта і раман-споведзь, і раман — даследаванне душы чалавека.

М. Тычыну цікавіць таксама і тое, як беларуса свету прадстаўляе і літаратурная крытыка, ці хоць бы якія праблемы яе цікавяць ва ўласным доме. Гэта істотна вынікае з яго рэцэнзій на зборнікі крытычных матэрыялаў «На арбіце часу» (1974) і «На стрыжні часу» (1978). Увагу яго прыцягнулі кнігі і тым, што гэта ў нейкай ступені падвядзенне вынікаў працы пасля гучнай пастановы камуністычнай партыі. Але тут М. Тычыну больш цікавіла, як сябе выяўляе гэты спецыфічны жанр літаратуры ў адведзеных яму абмежаваных рамках існавання. Рэцэнзент апраўдана вылучае ў зборніках артыкулы метадалагічнага характару як крытыкаў-прафесіяналаў, так і саміх пісьменнікаў. Так, у артыкуле Р. Бярозкіна «Купала, Багдановіч, руская паэзія» М. Тычына вызначыў галоўную рысу — асвятленне праблемы адзінства і разнастайнасці асноўнага творчага метаду. Адзначыўшы навізну і грунтоўнасць новых назіранняў, рэцэнзент звярнуў увагу на паўтор даўняга недахопу ў поглядзе Р. Бярозкіна на творчасць М. Багдановіча, быццам бы ён з'яўляецца больш халодным рацыяналістам у параўнанні з эмацыянальным Янкам Купалам. У другім зборніку вылучае артыкул І. Мележа «Гаварыць ад імя народа», сцвярджаючы, што глыбокая народнасць уласціва творам і самога пісьменніка. Аддаў даніну часу рэцэнзент, вылучышы артыкулы У. Гніламёдава і У. Юрэвіча пра важнасць адлюстравання ідэй Кастрычніка ў паэзіі і вызначальную сілу партыйнасці, класавасці і народнасці ў літаратуры. Ды ўсё ж галоўнае ўбачыў у артыкулах таго ж У. Гніламёдава «Каб перамагла гармонія» пра выяўленне разнастайнасці свету рознымі пакаленнямі паэтаў і В. Каваленкі «Пазіцыя пісьменніка і духоўны воблік героя» і «Чуйма пакліч маладосці», у якіх пафасна і эмацыянальна раскрываюцца праблемы прозы другой паловы ХХ стагоддзя. Значным паказчыкам крытыкі ён лічыць і артыкулы Д. Бугаёва пра сучасную прозу і раман М. Лобана «Гарадок Устронь» і Л. Кароткай пра творчасць І. Навуменкі. У гэтым жа рэчышчы мож-

[1] Тычына, М. Свет — наш дом / М. Тычына // Полымя. — 1983. — № 12. — С. 205.
[2] Тамсама.

на разглядаць і рэцэнзію на кнігу Максіма Лужаніна «Вачыма часу: Роздумы. Водгукі. Накіды партрэтаў» (1978). Рэцэнзент падкрэсліў каштоўнасць пісьменніцкай крытыкі, своеасаблівае вобразнае асвятленне гісторыі літаратуры і сучаснага літаратурнага працэсу. На думку М. Тычыны, старэйшы беларускі паэт і празаік шмат цікавага сказаў пра сваіх калегаў па творчасці 20–30-х гадоў, стварыў «*абагульнены партрэт пакалення, у якім заўважае і добрае шчыраванне ў абавязках, і маладую прасталінейнасць, і часам безразважнасць да рашучага дзеяння, і цэласнасць натуры, настойлівасць характару*»[1]. Адзначыўшы хораша выражаныя якасці, каштоўныя парады, М. Тычына зазначае, што не з усімі можна пагадзіцца (напрыклад, са сцверджаннем у артыкуле «Асцярожна, класіка»), на яго думку, шмат што патрабуе ўдакладнення і больш шырокага і глыбокага абмеркавання, але ў цэлым кніга каштоўная, бо яна ў шэрагу іншых выданняў такога роду беларускіх пісьменнікаў шмат чаго дадае да асвятлення літаратурнага працэсу прафесійнай крытыкай і літаратурнай навукай.

Свайго роду падвядзеннем вынікаў даволі важнага перыяду літаратурна-крытычнай дзейнасці М. Тычыны можна лічыць яго артыкулы «Пад знакам абнаўлення» (1987), у якім дадзены погляд на важныя этапы беларускага літаратурнага працэсу, і «Пад сцягам народнасці» (1987), у якім раскрываюцца значныя тэарэтычныя праблемы ў адпаведнасці з часам чарговага абнаўлення. Натуральна, што і ў гэтых артыкулах, як і ў ранейшых, у тым ліку і рэцэнзіях, істотна адчуваецца абмежаванасць магчымасцяў, недасказанасць у поглядах на творчасць і Я. Брыля, і В. Адамчыка, і І. Чыгрынава, наяўнасць традыцыйных ідэалагічных клішэ. Але гэта была бяда ўсіх даследчыкаў, таму перасцярогі зразумелыя: нікому не хацелася трапіць у савецкую псіхушку. Але і гэта было сведчаннем часу, жорсткіх умоў, у якіх даводзілася працаваць усёй творчай супольнасці Беларусі.

Новы час якраз і падаваў надзеі на сапраўднае адраджэнне нацыянальнай культуры, але паступова пачаў расчароўваць у магчымасцях здзяйсненняў. Гэта найбольш яскрава адбілася ў крытычным жанры. Дэфіцыт грашовых сродкаў прыводзіў да скарачэння выдавецкіх плошчаў, дзе беларускамоўныя выданні і тады мелі мізэрны наклад. Усё гэта не спрыяла нармальнаму развіццю крытыкі, хоць і не магло спыніць сам працэс. Паменшылася і рэцэнзенцкая актыўнасць М. Тычыны, што засведчыла і публікацыя толькі некаторых яго водгукаў на выдадзеныя творы. Разглядаючы зборнік вершаў В. Аксак «Капліца» (1994), ён прыходзіць да высновы, што лірычная гераіня паэтэсы знаходзіцца ў пошуку духоўнай гармоніі, прагне вяртання боскага пачуцця ў душы людзей, растрачанага за гады ваяўнічага атэізму, у гэтым аспекце ўзгадвае яе папярэдні зборнік «Цвінтар», што дае яму права гаварыць пра якасныя змены ў светаўспрыманні паэтэсы і грамадства ў цэлым. На думку рэцэнзента, В. Аксак творыць сваю паэтычную мадэль свету, пасля часоў нявер'я ёй прыходзіцца пачынаць з нуля, як і ўсім, хто хоча сапраўд-

---

[1] Тычына, М. Вачыма часу / М. Тычына // Полымя. — 1979. — № 10. — С. 244.

нага аднаўлення. На жаль, рэчаіснасць такой магчымасці Беларусі не дала. Што ж, трагедыя часу — яна і трагедыя чалавека. Беларускае насельніцтва, здаецца, заслужыла тое, што мае. Як ні цяжка прызнаваць, але за трыста апошніх гадоў Беларусь так абяднела на сапраўдных патрыётаў, атрымаўшы замест іх засланцаў з розных бакоў, ад чаго ў выніку Беларусь перастала ўяўляцца нацыяй для многіх. Але народу карэннаму і ў гэтых умовах трэба было выжыць і сваёй цярплівасцю перамагчы, каб і зараз змагацца з агрэсіяй «русского мира». Праўда, да такіх высноў тады крытык яшчэ не прыходзіў.

Спасціжэнне часу і чалавека ў ім характэрна і для артыкулаў М. Тычыны пачатку 90-х гадоў «Новае жыццё жанру» і «Васіль Быкаў і мы». Першы ў нейкай ступені перагукваецца з ранейшым артыкулам «Вялікія клопаты малой прозы» (1979), у якім было заяўлена, што «*апавяданне павінна выявіць адну сваю ці не самую галоўную якасць — хутка адгукнуцца на змены ў жыцці, даваць дакладную эстэтычную ацэнку, выяўляць духоўна-маральны змест гэтых змен. Аператыўнасць і навізна — бадай, асноўныя жанравыя прыкметы апавядання*»[1]. Там ён таксама зазначаў, што пры высокай «тэхналагічнай» падрыхтаванасці апавядальнікам вельмі часта не хапае чалавеказнаўчай культуры, таго, што так ярка праявілася ў мініяцюрах, кароткіх апавяданнях, абразках Я. Брыля, А. Карпюка, Ф. Янкоўскага. Заўважыў ён і некаторага роду цыклічнасць, схільнасць да трыпціхаў, што характэрна для творчасці Я. Сіпакова, Г. Далідовіча, а таксама зварот да жанру прытчы ў таго ж Я. Сіпакова, А. Кудраўца, строгая рэалістычная эпічнасць у творах В. Казько, А. Жука і іншых. Праўда, крытык засяроджвае ўвагу на творах аўтараў, даўно сябе сцвердзіўшых у мастацкай літаратуры, а таксама дастаткова вядомых, а вось творы зусім маладых у яго поле зроку не трапілі. Тым не менш ён зрабіў выснову, што апавяданне «*вызначае формы часу і ідэі часу, самую эстэтыку сучаснай прозы*»[2], хоць канкрэтна і не гаворыць, у чым гэта выражаецца. Таму з’яўляецца істотным, а што ж змянілася ў гэтым жанры за наступнае дзесяцігоддзе, надзвычай важнае ў жыцці грамадства.

М. Тычына адзначае, што і ў гэты час вялікіх перамен у нейкай ступені захаваліся ранейшыя тэндэнцыі, стваралася ўражанне, што многія апавяданні быццам напісаныя ў канцы 70-х. Назіранне актуальнае, што пацвярджала тагачасную выдавецкую практыку, калі маладыя павінны былі гадамі чакаць сваёй чаргі надрукавання ў часопісе. Але заўважыў і тое, што многія вядомыя з’явы з жыцця вёскі пісьменнікі асвятляюць ужо з новых пазіцый, што характэрна было для апавяданняў В. Адамчыка, І. Навуменкі, у якіх, як і раней, праяўляецца празмерная дэталізацыя. Крытык адзначае, што імкненне маладых да перагляду творчых пазіцый насцярожыла некаторых ветэранаў, выклікала незадаволенасць. «*Водгалас гэтых спрэчак чуецца не толькі ў палеміцы крытыкаў, якія прадстаўлялі супрацьлеглыя лагеры, але і ў апавяданнях А. Глобуса, А. Федарэнкі, У. Арлова, С. Дубаўца, дзе сутыкаюцца аўтар і рэдак-*

---

[1] Тычына, М. Вялікія клопаты малой прозы / М. Тычына // Полымя. — 1979. — № 6. — С. 211.
[2] Тамсама.

*тар, пісьменнік і цэнзар, каб высветліць свае адносіны да жыцця і літаратуры*»[1]. Аналізуючы творы малога жанру, крытык выказаў меркаванне, што «*на змену традыцыйнаму рэалізму прыйдзе літаратура "кавалкаў жыцця" на заходні манер або "чорны раман"*» і што «*эстэтыка абсурду заваёўвае ў нашай рэалістычнай і традыцыйнай прозе ўсё большае месца*», ды разам з тым «*нацыянальная ідэя ў сучасным беларускім апавяданні — як агонь, што бяжыць па сухой траве, то ярка разгараецца, а то сціхае*»[2]. Многія прагнозы крытыка спраўдзіліся: усё больш стала ў перыядычным друку публікацый, якія вызначаліся проста як тэксты, часам без унутранай сюжэтнай сувязі, як, на жаль, і ўзмацнілася варожасць і нянавісць у грамадстве, у тым ліку і ў літаратурным асяроддзі, і, галоўнае, такое процістаянне стварыла ўлада, якая сітуацыю і кантралюе: як і ў савецкія часы, можа быць надрукавана толькі дазволенае, а кім — невядома, бо афіцыйна ў нас цэнзуры няма.

Галоўная мэта літаратуразнаўчай дзейнасці М. Тычыны — паказаць узаемадачыненне створанага пісьменнікамі для грамадства і кожнага канкрэтнага чалавека ў ім. Гэта ўласціва ўжо згаданаму артыкулу «Васіль Быкаў і мы», прысвечанаму юбілею пісьменніка, у якім крытык уздымае вельмі важныя пытанні нашага грамадскага існавання. На думку крытыка, В. Быкаў, уключаючы сваіх герояў у экстрэмальныя сітуацыі, даваў падставы чытачу прымерыць сваю пазіцыю да сённяшняга няпростага грамадскага стану, калі кожны, таксама пастаўлены перад праблемай выбару, павінен шукаць выйсце ў няпростых жыццёвых варунках толькі сумленным шляхам. Тады, у першай палове дзевяностых гадоў, М. Тычына меў падставы сцвярджаць, што «*ў апошнія гады ў голасе Васіля Быкава з'явіліся светлыя ноткі і скупая надзея, што час духоўнага абнаўлення нарэшце вылучыць з асяроддзя беларускіх людзей, якія возьмуць на сябе нялёгкую ношу вялікай адказнасці за будучыню маладой суверэннай дзяржавы. Асобныя праявы абнаўлення навідавоку. Ды і тое сказаць трэба, што адступаць нам сёння няма куды: ззаду — галеча, змрок, бяспамяцтва, сталінскі таталітарызм. А наперадзе свеціць зорка нашага лёсу*»[3]. Праз больш чым два дзесяцігоддзі можна сказаць, што сапраўды супакойвацца рана.

Большасць артыкулаў М. Тычыны, асабліва надрукаваных у навуковых ведамасных выданнях, неабходна ўспрымаць як распрацоўку ім пытанняў тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры, вывучэнне беларускага прыгожага пісьменства ў кантэксце сусветнага літаратурнага працэсу. Першая заяўка М. Тычынам была зроблена манаграфіяй «Кузьма Чорны: Эвалюцыя мастацкага мыслення» (1973). Вядома, як і ва ўсім тагачасным літаратуразнаўстве, у ёй тлумачылася эвалюцыя пісьменніцкага светапогляду ў 20–30-я гады выключна перамогамі сацыялістычнага будаўніцтва. Ды ўсё ж галоўным у даследаванні была пастаноўка тэарэтычных праблемаў: ператварэнне фактаў жыцця ў мастацкую рэальнасць, фарміраванне творчай індывідуальнасці

---

[1] Тычына, М. Новае жыццё жанру / М. Тычына // Полымя. — 1992. — № 2. — С. 230.
[2] Тамсама. — С. 248.
[3] Тамсама.

пісьменніка, акрэсленне ім на апошнім этапе творчасці новых арыенціраў для празаікаў. На жаль, гэтыя запаветы былі творча ўспрынятыя толькі шасцідзясятнікамі, бо гэтаму спрыялі і грамадскія абставіны.

Сямідзясятыя–васьмідзясятыя гады, няпростыя ў нашай гісторыі, былі тым не менш часам актыўнага самасцвярджэння беларускай навукі, што праявілася ў выхадзе колькасці даследчых і крытычных кніг па літаратуры, хоць насамрэч колькасць не з'яўляецца паказчыкам якасці. Тым не менш кожнае выступленне з навуковым артыкулам у друку заўсёды было і ў пэўнай ступені разведкай, і прамежкавым сцверджаннем уласных ідэй даследчыка. Гэта пацвердзіла і публікацыя манаграфічнага артыкула ў «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (на рускай мове, 1977), у якім М. Тычына, разглядаючы творчасць Кузьмы Чорнага, засяродзіў увагу на праявах гістарызму ў мастацкай прозе. Увогуле пытанні тэорыі, творчай лабараторыі кожнага пісьменніка асабліва цікавяць даследчыка. У сумеснай працы з В. П. Жураўлёвым «Магчымасці рэалізму: Прычыннасць і гістарызм» (1982) М. Тычына даследуе вельмі важную праблему — сутнасць гістарызму ў беларускай літаратуры, абазначыўшы сферу гаворкі тэмай «Паглыбленне гістарызму ў сучаснай беларускай прозе». Паказальна, што погляд на сучасную рэалістычную літаратуру М. Тычына падсвечвае традыцыяй пачынальнікаў: Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, а таксама іх прадаўжальнікаў часу адраджэння ў пачатку ХХ стагоддзя, якія, па сутнасці, засведчылі актуалізацыю самога гістарычнага часу. Адной з важных прыкмет рэалізму ў беларускай літаратуры, і ў прозе ў прыватнасці, ён бачыць у вялікім гуманістычным пафасе твораў пісьменнікаў 20–30-х гадоў Кузьмы Чорнага, Міхася Зарэцкага, якія праз многа гадоў знайшлі працяг у творчасці пісьменнікаў пасляваеннага пакалення — І. Мележа, І. Шамякіна, а таксама ў прозе новага пакалення, пачынаючы з А. Адамовіча. Аднак негатыўнае ўспрыняцце ім праяў экзістэнцыяналізму ў сучаснай прозе як сутнасці праяўлення крайняга індывідуалізму часам не пацвердзілася, што пазней прызнаў і сам даследчык.

М. Тычыну, як ужо адзначалася, найбольш цікавяць тэарэтычныя праблемы ў развіцці гісторыі беларускай літаратуры. Ён вызначае рысы народнасці яе, зыходзячы з асэнсавання дасягненняў агульначалавечага літаратурнага працэсу. Усё ж засяроджвае ўвагу на асобных творах, пераважна на раманах В. Адамчыка, І. Чыгрынава і А. Адамовіча, а таксама згадваючы кнігу народнай памяці «Я — з вогненнай вёскі», створаную А. Адамовічам, Я. Брылём і У. Калеснікам. Паколькі ўсё даследаванне вядзецца ў святле вучэння камуністычнай дагматычнай партыйнасці і класавасці літаратуры, многае ў манаграфіі застаецца недагавораным або нават і крыху скажоным. Калі ў ваеннай прозе народнасць, на думку даследчыка, праяўляецца ў шчымлівай праўдзе паказу гераізму і трагедыі як чалавека ў партызанска-франтавой рэчаіснасці, так і проста жыхароў многіх вёсак на акупаванай тэрыторыі, то літаратура другой паловы ХХ стагоддзя пра жыццё ў краіне сацыялізму выпадае з поля зроку. Ці не таму, што даследчык тады не бачыў магчымасці паказу такой жорсткай праўды. Таму і агульны вывад у значнай ступені ака-

заўся неперакананальным: «*Паняцце народнасці ўключае актыўны параўнальна-ацэначны момант, з'яўляючыся вышэйшай прыкметай праўдзівасці ў мастацкай літаратуры. Яно дапускае не эпічна-лагічную абыякавасць, калі ўсё ўжо дасягнута і далей няма куды рухацца, а востра крытычную глыбока палемічную накіраванасць на вобразнае асэнсаванне новых фактаў і з'яў нацыянальнай рэчаіснасці*»[1]. Падобна, пацвярджэння ўласнага тэзіса даследчык у сучаснай беларускай літаратуры не знайшоў.

У нейкай ступені пытанні народнасці, але ўжо ў іншым аспекце, закрануў М. Тычына ў даследаванні «Карані і крона: Фальклор і літаратура» (1991, 2-е выд. 2012). З самага пачатку ён акрэслівае шэраг пытанняў, якія павінны быць асветлены ў працэсе вывучэння вызначанай праблемы. Натуральна, яму спачатку давялося зрабіць агляд ранейшых даследаванняў на гэтую тэму, каб ясна зразумець, што ўжо сказана пра сувязь беларускай літаратуры з фальклорам, вызначыць перспектыўныя творчыя тэндэнцыі, нешта ўдакладніць, а на многія з'явы паглядзець па-новаму. У выніку ён робіць выснову, што «*менавіта слабасць сістэматычнай агульнаэстэтычнай арыентацыі, недастатковасць пастаяннай і пільнай агляцкі на іншыя віды мастацтва прыводзіць літаратурную навуку да страты цэласнага бачання прадмета даследавання — самой літаратуры як гістарычна пэўнай і нацыянальна асаблівай з'явы*»[2].

У першым раздзеле працы, акрэсліваючы дачыненні літаратуры з фальклорам, М. Тычына аспрэчвае некаторыя выказванні папярэднікаў і сучаснікаў пра названую праблему. Ён даказвае, што А. Яскевіч не зусім слушна сцвярджае пра перарастанне казкі ў мастацкае апавяданне ў літаратуры пачынальнікаў, выказвае сумненне ў слушнасці заявы А. Фядосіка пра казку як аснову будучай прозы, убачыў супярэчнасць у некаторых выказваннях У. Калесніка і Н. Гілевіча, разам з тым сцвярджаючы шмат слушнага ў іх поглядах на даўнюю навуковую праблему. Гэта для М. Тычыны служыць як бы адпраўным пунктам для далейшага даследавання ўзаемадачынення мастацкай літаратуры і вуснай народнай творчасці. Ён справядліва лічыць, што каталіцкае і праваслаўнае хрысціянства варожа ставілася да язычніцтва, таму шмат што знішчылася альбо прыстасоўвалася да новай веры. Гэтую акалічнасць ён мае на ўвазе пры далейшым разглядзе ўзаемасувязей літаратуры з фальклорам. Абапіраючыся на розныя папярэднія даследаванні, М. Тычына паказвае, што народны светапогляд, уласцівы язычніцкаму веравызнанню, лёгка пранікаў у свецкую, а таксама ў царкоўна-дыдактычную літаратуру. Асабліва гэта было характэрна для «вясковых летапісцаў» («Хроніка Быхаўца», «Баркулабаўскі летапіс»), бо эстэтычныя ідэалы іх вельмі блізкія да ідэалаў баянаў і скамарохаў і г. д. Так ужо гістарычна склалася, лічыць даследчык, што ў XVIII стагоддзі захавальнікамі мовы і народнай

---

[1] Тычына, М. А. Праблемы народнасці ў сучаснай беларускай прозе / М. А. Тычына // Ідэйна-тэарэтычныя пытанні сучаснага літаратурнага працэсу / рэд. У. Гніламёдаў. — Мн. : Навука і тэхн., 1987. — С. 76.
[2] Тычына, М. А. Карані і крона: Фальклор і літаратура / М. А. Тычына — Мн. : Беларус. навука, 2002. — С. 11.

культуры сталася вёска. Пачынальнікі новай літаратуры Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, Я. Баршчэўскі, звяртаючыся да фальклору, ужо вырашалі задачы эстэтычнага асэнсавання спадчыны, хоць праз фальклор яны прадаўжалі ўкараняць асветніцкія ідэі, што найбольш характэрна было для В. Дуніна-Марцінкевіча. А вось Я. Баршчэўскі «*ўжо добра разумеў, што сістэма фальклорных жанраў не здольна служыць для вобразнага выяўлення творчай задумы, якая ўзнікла ў працэсе вывучэння рэчаіснасці і была эстэтычным рэхам на запатрабаванне часу*»[1]. XIX стагоддзе — гэта ўжо абуджэнне нацыянальнай свядомасці, што асабліва выразна праявілася ў творчасці Ф. Багушэвіча, дзе яго герой яшчэ традыцыйна прыкідваецца «дурной варонай», але ў народнай традыцыі як бы і падсмейваючыся над тымі самімі панамі. А проза Ф. Багушэвіча, сцвярджае даследчык, яскравы паказчык пераходу ад фальклорнай традыцыі («Палясоўшчык») да чыста літаратурнай («Тралялёначка»). Так Ф. Багушэвіч разам са сваімі сучаснікамі на аснове народнай традыцыі закладваў падмуркі для паскоранага развіцця літаратуры ў наступным перыядзе.

На пачатку XX стагоддзя «*працэсы, якія адбываліся ў беларускай літаратуры, абумоўліваліся шэрагам фактараў — і літаратурнага, і агульнакультурнага парадку*»[2], у тым ліку цесныя кантакты з культурным жыццём Еўропы, што, у сваю чаргу, вымагала больш поўнага нацыянальна-выразнага асэнсавання надзвычай важных ідэй і плыняў, нацыянальных запатрабаванняў і нават нацыянальных амбіцый. Гэта ўсё найбольш яскрава праяўлялася ў паэзіі, а проза, на думку даследчыка, маючы іншыя формы арганізацыі мастацкага маўлення, «*яшчэ толькі складвалася і была ў адпаведнай залежнасці ад паэзіі. Тут найбольш поўна выдзяляўся Янка Купала*», адзначае даследчык, «*у яго з'яўляецца новы герой, які ўвасабляе сабой індывідуальна-нацыянальнае "я" з агульначалавецкім "мы" — з аднаго боку "я мужык", "дурны мужык", "пан сахі і касы", з другога — "увесь свет", "як ёсць гэты свет вялік", "усе людцы"*»[3].

На гэтым этапе фальклорызм успрымаўся ўжо як важны фактар у развіцці нацыянальнай культуры, таму літаратуразнаўца ў творчасці вядучых беларускіх пісьменнікаў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, Ядвігіна Ш. зварот да фальклору бачыць як найбольш выразны спосаб выявіць народны дух. Паэты і празаікі, звяртаючыся да міфаў і паданняў, значна трансфармуюць іх змест у адпаведнасці са сваімі творчымі задачамі. Стылізацыя, напрыклад, у Ядвігіна Ш. ужо таксама істотна адрознівалася ад таго ж у папярэднікаў, бо тут у кожным творы моцна адчувалася прысутнасць аўтара, які быў выразнікам народнага погляду на свет, бытавыя і грамадскія з'явы. А вось «*Купала і Колас і іх вялікія сучаснікі творча выкарыстоўвалі вобразныя сродкі народнай творчасці і адмаўлялі стылізацыю і перайманне, таму што бачылі іх няплённасць*»[4]. Яны імкнуліся паказаць бедствы народа, заклікалі да

[1] Тычына, М. А. Карані і крона. — С. 35.
[2] Тамсама. — С. 65.
[3] Тамсама. — С. 67.
[4] Тамсама. — С. 79.

намаганняў змяніць становішча. Аднак засяроджанасць толькі на бядоццях, развівае думку літаратуразнаўца, большасць творцаў ужо не задавальняла, таму што за дзесяцігоддзе літаратура паспяхова прайшла падрыхтоўчы клас паскоранага развіцця. Першым адчуў гэта М. Багдановіч, выказаўшы думку, што ў паэзіі ўжо недастаткова толькі выяўлення бядотнага стану, а патрэбна выяўляць і красу прыроды, і высокія пачуцці. Гэта, як адзначае даследчык, пацвердзіла і вядомая нашаніўская дыскусія пра шляхі развіцця беларускай літаратуры. Праўда, ён чамусьці засяродзіў увагу толькі на артыкуле Я. Купалы «Чаму плача песня наша?». Гэта хутчэй за ўсё водгалас старых ідэалагічных установак, таму ў яго і негатыўнае стаўленне да артыкула Ю. Верашчакі, хоць ён і прызнае, што акцэнтацыя толькі на бядотным стане беларуса ўжо трывожыла найбольш чуйных прадстаўнікоў мастацкага слова: «*Нагнятанне з'яў трагічнага гучання ў вершах Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі, Гартнага такое, што часам пачынае супраціўляцца пачуццё меры. Іменна гэта рэакцыя і выклікала ў Ю. Верашчакі і яго прыхільнікаў імкненне раз'яднаць у іх творчасці нацыянальны і рэвалюцыйна-дэмакратычны пачатак, спустошыць змест паняцця "беларускае адраджэнне", пазбавіць яго сацыяльнага і інтэрнацыянальнага пафасу*»[1]. Не згадвае М. Тычына, што пад такім псеўданімам друкаваўся В. Ластоўскі, а прыхільнікі — гэта Уласаў, браты Луцкевічы. Такую асцярожнасць можна патлумачыць толькі тым, што даследаванне пісалася ў сярэдзіне 80-х гадоў, а ў час перавыдання манаграфіі творчасць гэтых пісьменнікаў канчаткова не была рэабілітаваная, як, дарэчы, і М. Гарэцкага. Гэтым, мусіць, тлумачыцца традыцыйны падзел творчасці беларускіх класікаў на дарэвалюцыйны і савецкі перыяды.

Новыя адносіны да фальклору даследчык заўважае ў творчасці пісьменнікаў 20-х гадоў, і перш за ўсё ў прозе К. Чорнага. Разгледзеўшы апавяданні, аповесці, раманы той пары, М. Тычына прыйшоў да вываду: «*Чорны шукаў у вуснай народнай творчасці выяўленне духоўных якасцей беларусаў, цаніў мастацкую дасканаласць народных песень і казак. Фальклор як стыхійнае адлюстраванне сапраўды беларускага ў беларускім народзе прысутнічае ў творчасці пісьменніка не ў вонкавым ўжыванні трапных выразаў і мудрых думак, а ў знятым выглядзе нацыянальна-спецыфічных, сацыяльна-беларускіх, духоўна-маральных адносін да свету*», і падкрэслівае, што гэты пошук Чорным «*дэмакратычных, гістарычна-прагрэсіўных тэндэнцый у народным жыцці знайшоў працяг і развіццё ў творах сучасных беларускіх пісьменнікаў*»[2].

Разгледзеўшы ў цэлым літаратурны працэс Беларусі другой паловы XX стагоддзя ў кантэксце еўрапейскім і сусветным, М. Тычына спыняецца на дэталёвым разглядзе «Палескай хронікі» І. Мележа, як твора, найбольш паказальнага ў выражэнні народнага духу, раскрыцці праблемаў, якімі жыў народ у нялёгкі час непрадказальнай ломкі спрадвечных устояў, прызнаўшы, што для другой паловы XX стагоддзя жанр хронікі стаў найбольш

---

[1] Тычына, М. А. Карані і крона. — С. 81.
[2] Тамсама. — С. 169.

прыдатным для выяўлення глыбінных пластоў народнага жыцця. А працяг зnітавання сучаснага чалавечага жыцця з міфалагічным светаадчуваннем найбольш выразна акрэсліўся ў прозе шасцідзясятнікаў, у прыватнасці ў творах В. Адамчыка. Праўда, чамусьці даследчык не закрануў праявы міфалогіі ў паэзіі і драматургіі.

У манаграфіі «Народ і вайна» (1985) М. Тычына ўпершыню ў беларускай навуцы пра літаратуру паспрабаваў паглядзець на праблему з філасофскіх пазіцый, вызначыць менавіта народны погляд на гэту ўсёзнішчальную з’яву. З-за абмежавання выдавецкай плошчы гэтая манаграфія дэталёва не разглядаецца, паколькі пра тое, пра што немагчыма было сказаць у сярэдзіне 80-х (а праца пісалася яшчэ раней), у больш шырокім аб’ёме выказана ў манаграфіі «Народ і вайна» (2015). Што гэта не проста дапоўненае перавыданне, даследчык сказаў ва ўступным слове «Ад аўтара». Даволі значнае месца ў манаграфіі ён адводзіць асвятленню тэарэтычных паняццяў нацыянальнага характару як эстэтычнай катэгорыі, погляду на гэту праблему ў розныя часы, пачынаючы ад сярэднявечча да Рэнесансу. Літаратуразнаўца выкарыстоўвае вялікі фактычны матэрыял, вывучае думкі замежных і айчынных вучоных, сцвярджае, што спрэчкі пра гэта сталі асабліва актуальнымі на пачатку XX стагоддзя, калі беларусы адкрыта заявілі пра свой выхад да сусветнай супольнасці, акрэслівае, што агульнага і адрознага ёсць ва ўсходнеславянскіх народаў. М. Тычына спасылаецца на выказванні В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, асабліва многа ўвагі ўдзяляе меркаванням пісьменнікаў-адраджэнцаў нашаніўскага часу, прытым не толькі класікаў — Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, але і тых, каму доля дазволіла пакінуць толькі невялічкую творчую спадчыну. «*Параўноўваючы сябе з іншымі народамі, беларусы выяўлялі не толькі агульнае, але і нацыянальна-спецыфічнае, асабліва прыкметнае на агульным фоне. Празаік, крытык і публіцыст Л. Гмырак, разглядаючы беларускую літаратуру на фоне рускай, польскай, украінскай, адзначыў, напрыклад, такую рысу, як “шчыры і шырокі дэмакратызм, які вырастае зазвычай на здаровай і плоднай народнай глебе”*»[1]. У новым даследаванні М. Тычына пацвярджае некаторыя свае выказванні з ранейшых прац, многае ўдакладняе і пашырае, але, ведучы гаворку пра пачатак новага адраджэння ў больш мяккай форме, зноў заяўляе, што кагорта выдаўцоў «Нашай Нівы» спрабавала збіць нашу літаратуру з дэмакратычных пазіцый, што не зусім адпавядала праўдзе, бо справа ў тым, што і А. Луцкевіч, і В. Ластоўскі не прымалі формы барацьбы, заяўленай бальшавікамі. Грунтоўна і аргументавана ў манаграфіі паказаны суадносіны «беларусы і свет».

Глыбока разгледзеўшы праблему псіхалагізму, народнасці ў літаратуры, навуковец шмат увагі ўдзяляе менавіта акрэсленай праблеме даследавання, перш за ўсё вывучэнню феномену «народ-партызан». Адчуванне свабоды, непрымірымасці чалавека з любой несвабодай ён у асноўным разглядае на мастацкіх творах Кузьмы Чорнага, яго раманах «Пошукі будучыні», «Млеч-

---

[1] Тычына, М. А. Народ і вайна / М. А. Тычына — Мн. : Беларус. навука, 2015. — С. 90.

ны шлях», «Вялікі дзень», менавіта там сфармулявана пісьменнікам паняцце Вялікага Злодзея, які войнамі крадзе дзяцінства, нішчыць будучыню. У далейшым гэту праблему, падкрэслівае навуковец, па-мастацку распрацоўвала пакаленне пісьменнікаў, паэтаў, якія прыйшлі з франтоў Другой сусветнай вайны, партызанскіх злучэнняў, і далей — дзяцей вайны, у якіх трагічныя падзеі ўрэзаліся назаўсёды ў памяць. Балючая праўда пра вайну, на яго думку, паказана ў прозе А. Адамовіча і В. Быкава, а таксама ў Я. Брыля, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, І. Пташнікава, Б. Сачанкі і інш. Безабароннасць чалавека асабліва адчувальнай была на акупаванай тэрыторыі. На жаль, усёй праўды пра тую барацьбу не гаворыць і М. Тычына. Ён у асноўным разглядае творы, у якіх партызаны — самыя патрыятычныя барацьбіты, а тыя творы, у якіх расказваецца пра бесчалавечнасць некаторых партызанскіх кіраўнікоў і асобных шараговых партызанаў, нават не згадвае. А ўжо ж былі аповесць П. Місько «Кожны чацвёрты», апавяданне А. Кудраўца «Зязюля закукуе заўтра», урэшце, згадкі Я. Брыля пра эпізоды спаленых вёсак на Брэстчыне, калі гэту жахлівую акцыю правялі партызаны, бо мужчыны адмовіліся стаць у іх рады. Варта згадаць і ўспаміны партызанаў і сведкаў, пераважна дзяцей вайны. Многія сцвярджаюць, што помсцілі перш за ўсё настаўнікам. Ішла гэтая помста адразу з трох бакоў: ад савецкіх партызанаў — усім, хто працаваў у школе, ад акаўцаў — тым, хто вучыў па-беларуску, ад акупантаў — таксама ўсім, хто быў западозраны ў сувязях з партызанамі. Без уліку ўсяго гэтага поўную праўду пра вайну сказаць цяжка.

Адгукнуўся на запатрабаванні часу М. А. Тычына і манаграфіяй «Філасофія літаратуры: Беларускі варыянт» (2014). Яе можна ўспрымаць і як першую спробу абагульнення напрацовак літаратуразнаўства Беларусі за XX стагоддзе, бо ў Заходняй Еўропе такая праблема актуалізавана ўжо даўно. Няхай сабе і запознена, але неабходная кніга з'явілася. Як і належыць першапраходцу, даследчык напачатку зрабіў агляд розных філасофскіх плыняў і вызначэнне самога паняцця «веды», дасягненняў беларускіх вучоных у распрацоўцы пытанняў тэорыі літаратуры ў першай палове XX стагоддзя, пачынаючы ад вядомай нашаніўскай дыскусіі і напрацовак М. Багдановіча. Зараз літаратуразнаўца без агаворак прызнае значнасць укладу кожнага з аўтараў дыскусіі ў пытанні распрацоўкі эстэтычных катэгорый навейшай беларускай літаратуры. На сучасным этапе, на яго меркаванне, важна ўлічваць сувязі літаратуразнаўства з іншымі галінамі навукі, і не толькі з гуманітарнымі. Грунтоўна разгледжаны з філасофскага пункту погляду працэс станаўлення і развіцця мовы беларускай мастацкай літаратуры, характэрныя праявы ў мове мастацкай літаратуры на сучасным этапе. На аснове новых архіўных росшукаў, увядзення ў літаратурны працэс раней недаацэненых твораў М. А. Тычына пераканаўча паказаў, што не было ніякай перарванасці ў развіцці нашай мастацкай пісьменнасці, а проста на розных гістарычных этапах яна набывала спецыфічныя рысы. Вартая ўвагі і выснова даследчыка, што літаратурная навука «*павінна разглядаць у адзінстве ўнутраныя заканамернасці моўнага развіцця і функцыянавання і экстралінгвістычныя, у*

*першую чаргу сацыяльныя і эстэтычныя, фактары, без якіх немагчымы прагрэс у мове*»[1].

У манаграфіі даследчык змог акрэсліць асноўныя тэндэнцыі развіцця літаратуразнаўства на сучасным этапе, сфармуляваць некаторыя яго неадкладныя задачы, паказаць абавязковую сувязь з дакладнымі і прыродазнаўчымі навукамі. А ў паняцці «філасофія літаратуры» ён бачыць тэорыю літаратуры з яе шматлікімі пазнавальна-адкрывальнымі і тлумачальнымі функцыямі. На яго думку, першым філосафам літаратуры ў Беларусі быў М. Багдановіч, які вызначыў паскораны шлях беларускага літаратурнага працэсу, яго гіпотэзу, падкрэслівае даследчык, падхапілі яго сучаснікі; а філасофію бязмежнасці жыцця выявіў у паэмах «Новая зямля» і «Сымон-музыка» Якуб Колас. Састаўныя часткі літаратуразнаўства, у першую чаргу літаратурная крытыка, на погляд М. Тычыны, набылі надзвычай самастойны статус, ды ўсё ж цесна ўзаемадзейнічалі з іншымі гуманітарнымі навукамі, а «*тэорыя літаратуры засяродзілася на вывучэнні філасофскіх праблем мастацкай літаратуры, і ў цэнтры ўвагі знаходзіцца найперш аналіз мастацкага твора як цэласнасць, калі ён разглядаецца як упарадкаванае сістэмнае адзінства вобразна-мастацкіх сэнсаў і матэрыяльна-знакавых утварэнняў, уземасувязь і ўзаемазалежнасць частак і цэлага*»[2]. Можна зрабіць вывад, што гэтай манаграфіяй М. А. Тычына адкрывае шлях для новага ўспрыняцця літаратурнага працэсу, пошуку напрамкаў далейшага вывучэння феномена літаратуры як філасофскай катэгорыі, а таксама засведчыў высокі ўзровень айчыннага літаратуразнаўства. Узнікненне такой манаграфіі ў творчасці М. А. Тычыны бачыцца заканамерным, калі ўлічыць створанае ім папярэдне, у тым ліку і манаграфію «Беларуская літаратура і свет: Ад эпохі рамантызму да нашых дзён» (2006), напісаную сумесна з Л. Баршчэўскім і П. Васючэнкам.

М. А. Тычына працуе з шырокім захопам абсягаў літаратурнай навукі. Раўназначны яго ўклад ва ўсе галіны літаратуразнаўства: крытыку, тэорыю і гісторыю літаратуры. У канцы ХХ стагоддзя, калі канчаткова былі рэабілітаваныя многія пісьменнікі і іх творы, а ў школе беларускую літаратуру па значнасці зраўнялі з іншымі нацыянальнымі літаратурамі і яна пачала вывучацца ў кантэксце сусветнай, з'явілася тэрміновая патрэба перагледзець многія ранейшыя ацэнкі літаратурнага працэсу, запоўніць прагалы ў гісторыі слоўнага мастацтва, утвораныя з палітычных матываў, а таксама неабходнасць паглядзець на творчасць асобных пісьменнікаў з пазіцый новага часу. Пра гэта і цыкл артыкулаў даследчыка ў навуковых перыядычных выданнях. Але і ў артыкулах заўважаецца адзінства ў поглядзе на літаратурны працэс. Мастакі-адраджэнцы пачатку ХХ стагоддзя і іх прадаўжальнікі — такі абсяг зацікаўленасці даследчыка. У гэты час прадметам даследавання многіх літаратуразнаўцаў стала творчасць М. Гарэцкага. Свой погляд выка-

---

[1] Тычына, М. А. Філасофія літаратуры: Беларускі варыянт / М. А. Тычына — Мн. : Беларуская. навука, 2014. — С. 139.
[2] Тамсама. — С. 307.

заў і М. Тычына. У артыкулах «На выспе Патмас» (у Гарэцкага — Патмос) і «Максім Гарэцкі і праблема “другога” ў яго творах» ён вызначае падобнае і адметнае ў празаіка ў кантэксце літаратуры таго перыяду. Літаратуразнаўца паказвае імкненне пісьменніка адлюстраваць «таёмнае» ў характары беларуса, прычыны яго пасіўнасці, магчымасці ўвайсці на роўных у кагорту еўрапейскіх народаў. Нацыянальны нігілізм многіх інтэлігентаў абураў пісьменніка, але і ў часы нацыянальнага заняпаду ён бачыў людзей, якія не мірыліся з адведзенай некалі ім роляй у жыцці. Таму, на думку даследчыка, пісьменнік і ў самыя змрочныя часы заставаўся аптымістам (у вызначэнні літаратуразнаўцы «песімістычны аптыміст»), у выгнанні верыў, што настане справядлівасць і беларусы адгукнуцца на страсны заклік да абуджэння. Таму і Гарэцкі, як звычайны чалавек, але вылучаны эпохай, верыць у магчымасці паглядзець на свет і паказаць сябе ўсяму свету. «*Пісьменнік значна апярэдзіў свой час, увёўшы ў нацыянальную літаратуру вобраз інтэлігента, які жыве ў атмасферы найноўшых ідэй эпохі, сцвердзіўшы эстэтычныя магчымасці аўтабіяграфічнай і дакументальнай прозы, адкрыўшы перспектыву “іншай“ і “новай” літаратуры, прадэманстраваўшы многія перавагі і хібы сучаснага мыслення, што прадугледжвае ў якасці абавязковай нормы варыяцыйнасць, шматзначнасць, супярэчлівасць чалавечых паводзін у свеце*»[1]. У нарысе «Усё чалавечае» М. Тычына вызначыў асноўныя рысы творчасці І. Шамякіна — уменне ствараць «*цікавы, займальны сюжэт*», у якім праяўлялася «*інтрыга, складаная сістэма мастацкіх вобразаў*»[2]. А ў нарысе «Назваць усё сваімі імёнамі» выявіў асобу Алеся Адамовіча, празаіка, публіцыста, літаратуразнаўцы, які паслядоўна ў творах перайшоў ад паказу гераічнага да аб’яўлення «вайны вайне» як з’явы антычалавечнай. Мастацкія творы яго, сцвярджае М. Тычына, не былі ілюстрацыяй да тэарэтычных вывадаў, а значна дапаўнялі і ўдакладнялі пазіцыю пісьменніка. Асабліва выразна гэта праявілася ў аповесці «Нямко», у якім героі (немец Франц і беларуска Паліна) «*змаглі захаваць сваё каханне, адолець шматлікія перашкоды, абсурднасць сітуацый і выйсці з выпрабаванняў маральнымі пераможцамі над шматаблічным злом*»[3]. Гэта як сцверджанне шляху ўзаемаразумення і даравання. І ў артыкуле пра В. Адамчыка даследчык вызначыў яго як мастацкага летапісца Заходняй Беларусі, які ў сваіх творах «*выказаў кволую надзею на павольнае вяртанне беларусаў ва ўлонне сучаснай еўрапейскай цывілізацыі*»[4].

Гісторыя літаратуры не існуе без агульных аглядавых артыкулаў, якія акрэсліваюць асноўныя напрамкі даследавання і даюць арыенціры для ўспрыняцця літаратурнага працэсу на канкрэтных вызначальных яго этапах. А ў дадзеным канкрэтным выпадку, змешчаныя ў перыёдыцы, яны істотна пад-

---

[1] Тычына, М. Максім Гарэцкі і праблема другога ў яго творчасці / М. Тычына // Роднае слова. — 2003. — № 2. — С. 9.
[2] Тычына, М. Усё чалавечае / М. Тычына // Роднае слова. — 2001. — № 1. — С. 10.
[3] Тычына, М. Назваць усё сваімі імёнамі / М. Тычына // Роднае слова. — 2002. — № 10. — С. 14.
[4] Тычына, М. Развітанне з сялянскай Антлатыдай / М. Тычына // Роднае слова. — 2005. — № 8. — С. 7.

трымлівалі выкладчыкаў рознага ўзроўню ўстаноў адукацыі. Гэтай справе служылі артыкулы «Песні Арфея: Агляд сучаснай беларускай літаратуры» (1994) і «Лекі ад амнезіі: Сучасная тэматыка ў сучаснай літаратуры», змешчаныя ў часопісе «Роднае слова». У першым літаратуразнаўца спыняе ўвагу на значных творах беларускай прозы канца 80-х — пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. У полі яго зроку — творы на гістарычную тэматыку У. Арлова, Л. Дайнекі, В. Чаропкі, В. Іпатавай. Гэта дае падставы даследчыку заключыць, што праз мастацкія творы «*паступова адбываецца адкрыццё не толькі малавядомых старонак мінулага, але і адкрыццё самога народа, які паўстае перад намі ва ўсёй сваёй сапраўднай велічы і душэўнай прыгажосці*»[1]. Здабыткі паэзіі і прозы гэтага ж перыяду, але на сучасную тэматыку, асабліва вострае ўспрыманне чарнобыльскай трагедыі літаратуразнаўца ўбачыў у вершах Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, В. Зуёнка Я. Сіпакова і інш., а таксама ў апавяданнях і аповесцях І. Пташнікава, В. Казько, В. Карамазава, У. Рубанава і інш., у якіх паказана народная трагедыя і бяздумнасць чыноўнікаў, а яшчэ надзвычай важнай, на яго думку, была тэма новага адраджэння, што асабліва выявілася ў паэзіі Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, Л. Рублеўскай. Даследчык прыходзіць да вываду, што мастацкая літаратура актыўна шукае Беларускі Шлях як паратунак ад страшнай хваробы чалавецтва — бяспамяцтва, што асабліва выразна праявілася ў значнай частцы грамадства. Новы погляд на літаратурны працэс характэрны і для аглядавага артыкула «На павароце: Беларуская літаратура канца XX стагоддзя».

Непасрэдны ўдзел у стварэнні даследавання па гісторыі беларускай літаратуры М. Тычына прыняў яшчэ ў сярэдзіне 70-х («Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», 1977, на рускай мове), для якой ён напісаў грунтоўны артыкул пра творчасць Кузьмы Чорнага, праўда, у ім, як і ва ўсім зборніку, істотна адчуваўся дух часу. Светапогляд даследчыка, вядома, трансфармуецца ў адпаведнасці з пераўтварэннямі ў грамадстве, але, галоўнае, змяніліся абставіны: зніклі адкрытыя забароны, жорсткая цэнзура. Зараз тое, што раней выводзілася ў падтэкст, можна было гаварыць адкрыта. Пераасэнсаванне літаратурнага працэсу, новы погляд на творчасць пісьменнікаў, пра якіх М. Тычына пісаў раней, найбольш яскрава праявіліся і ў матэрыялах, напісаных ім для «Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя» ў 4 т., 6 кн. У агульным аглядзе прозы 20–30-х гадоў М. Тычыну ўдалося, у адрозненне ад папярэдніх даследаванняў, паказаць усю складанасць нараджэння новай прозы: яна развівалася паступова, пачынаючы традыцыйна з апавядання ва ўсёй яго разнастайнасці — ад фіксацыі бытавой з'явы ці лірычнага ўспрыняцця рэчаіснасці да псіхалагічнага і эстэтычнага яе асэнсавання. Ён заўважыў і жывое імкненне да абнаўлення формы малога літаратурнага жанру, што асабліва праявілася ў найбольш таленавітых празаікаў, аднак і ў іх спачатку ўсё рабілася дужа павярхоўна, за што, як адзначае даследчык, іх па-

---

[1] Тычына, М. Песні Арфея: Агляд сучаснай беларускай літаратуры / М. Тычына // Роднае слова. — 1994. — № 1. — С. 94.

настаўніцку мудра ўшчуваў Якуб Колас у апавяданнях-памфлетах. Акрэсліў літаратуразнаўца і паглыбленне псіхалагізму ў апавяданнях, у якіх паказваецца чалавек у паўсядзённасці і ў складаных грамадскіх сітуацыях, ад чаго яны напаўняліся гуманістычным пафасам. Высока ацэньвае М. Тычына мастацкія вартасці апавяданняў Я. Коласа, З. Бядулі, Ц. Гартнага, якія аказалі істотны ўплыў на паглыбленне псіхалагізму ў творах гэтага жанру маладых празаікаў другой паловы 20-х гадоў. Гэтыя ж гады, зазначае даследчык, былі і станаўленнем аповесці і рамана, дзе пачынальнікамі зноў жа былі Колас і Гартны, а ў далейшым гэты жанр істотна развілі Кузьма Чорны і Міхась Зарэцкі, а таксама іншыя маладнякоўцы, якія прыўнеслі ў прозу прыгодніцка-авантурны жанр. Усё ж замацаванне дасягненняў у гэтым жанры было ў творчасці Кузьмы Чорнага, Міхася Зарэцкага, Андрэя Мрыя. Звярнуў увагу М. Тычына і на негатыўныя тэндэнцыі, калі маладыя празаікі сваё разуменне зямлі і чалавека на ёй проціпастаўлялі выяўленаму Коласам і Чорным.

Літаратуразнаўца, скрупулёзна прааналізаваўшы ўсе празаічныя жанры 30-х гадоў, прыходзіць да вываду, што пад уздзеяннем замацаванага таталітарызму пісьменнікі паступова пачыналі адыходзіць ад заваяваных эстэтычных пазіцый на папярэднім этапе, сталі больш паддавацца патрабаванням ваяўнічага вульгарнага сацыялагізму. Гэта яскрава праявілася і ў апавяданнях Кузьмы Чорнага, і М. Лынькова, асабліва ў Р. Мурашкі і Э. Самуйлёнка, нават у Змітрака Бядулі. Пэўны адыход ад заваяваных пазіцый, адзначае даследчык, заўважаецца і ў жанры аповесці і рамана. Калі яшчэ на пачатку калектывізацыі (канец 20-х — пачатак 30-х) у аповесцях Чорнага «Вясна» і Баранавых «Межы» адчувалася памяркоўнасць у вызначэнні класавай прыналежнасці, то ў далейшым пад націскам жорсткай палітыкі па ўзмацненні класавай барацьбы істотна змяняецца і пабудова канфлікту ў аповесцях і раманах, дзе на першы план выходзіць сацыялагічная схема. Гэта характэрна ў значнай меры аповесцям Коласа «Адшчапенец», Баранавых «Новая дарога», Галавача «Спалох на загонах», раманам таго часу. Гэтыя адмоўныя якасці праявіліся і ў прозе канца 30-х гадоў, хоць там ужо і заўважалася спроба пераадолець ранейшы схематызм («Люба Лук'янская» Чорнага, «Будучыня» Самуйлёнка, «Салаўі святога Палікара» Мурашкі і інш.).

У артыкулах-персаналіях М. Тычына вызначаў характэрныя рысы творчасці кожнага героя. Гэта назіраецца ў працы пра Якуба Коласа, у якой літаратуразнаўца змог у новых умовах па-новаму паглядзець не толькі на літаратурны шлях пісьменніка, але і на яго ролю ў далейшым развіцці айчыннай літаратуры. Разглядаючы яго творчасць ад першых практыкаванняў у вершаскладанні і да вяршынных твораў, навуковец змог выявіць шырыню і глыбіннасць таленту Якуба Коласа ў паэзіі, прозе і драматургіі. У адрозненне ад матэрыялаў у папярэдніх гісторыях, ён разглядае творчасць Якуба Коласа ў кантэксце еўрапейскай літаратуры, вызначае яго несумненную ўплывовасць на ўвесь наступны літаратурны працэс. Творчасць Коласа, як таго патрабуе і гісторыя, разглядаецца ў храналагічным парадку: родная зямля — выгнанне — вяртанне. Гэта абумоўлена традыцыйным поглядам на творчасць Ко-

ласа. Прынамсі, даследчык строга прытрымліваецца гэтай храналогіі. Яму ўдалося ў невялікім нарысе паказаць велічнасць асобы Якуба Коласа — паэта, празаіка, публіцыста. Новы вобраз Беларусі ўбачыў даследчык у паэме «Новая зямля», а ў «Сымоне-музыку» — магутнейшыя таленты зямлі роднай, якія даказвалі вялікія магчымасці выхаду народа да еўрапейскага і сусветнага супольніцтва. Па-новаму паглядзеў даследчык і на трылогію Якуба Коласа «На ростанях», адзначыў, што нават у такіх неспрыяльных умовах, калі дапісвалася трылогія, Якуб Колас змог паказаць усе важныя пераломы гісторыі, «*узнавіць думкі, пазіцыі, погляды, якія мелі важнае значэнне ў жыцці народа, стварыць вобразы і характары людзей, якія ў той час жылі, пакутавалі, шукалі, змагаліся, сцвярджалі новае і адвяргалі старое*», але час паўплываў на канчатковае вырашэнне, бо «*спрошчаны падыход да падзей, які культываваўся ў савецкім грамадстве, адмоўна адбіўся на мастацкім узроўні заключнай аповесці*»[1]. Праўда, нешта і не ўдалося даследчыку, бо ў паэме «На шляхах волі» няма нічога пра Грамадзянскую вайну ў Беларусі, таму што яе тут, па сутнасці, і не было, проста праходзілі чарговыя акупацыі: нямецкая, польская, бальшавіцкая. Вядома, у такім невялікім па аб'ёме артыкуле М. Тычына і не мог паказаць усе грані творчасці Якуба Коласа.

У персаналіях надзвычай значны артыкул пра творчасць Кузьмы Чорнага, пісьменніка, які цікавіў даследчыка ад пачатку яго навуковай працы. Тут ён адзначае, што, захоплены ідэяй паказу нарастання адраджэнскага духу ў нацыі, пісьменнік задумваў цыклы раманаў, але палітычныя рэпрэсіі, узмацненне аўтарытарызму ў дзяржаве не дазволілі працаваць над задумай. Напачатку, адзначае даследчык, празаік верыў, што рэвалюцыя адкрывае новыя магчымасці для чалавека, таму і лічыў, што ахвяры рэвалюцыйнай барацьбы апраўданыя. Гэты аптымізм лёгка прасочваецца ў творах Кузьмы Чорнага 20-х гадоў. Аднак першыя арышты інтэлігенцыі істотна змянілі яго погляд на жыццё, вымушаючы адступіць ад першапачатковых задум, з'явілася неабходнасць карэкціроўкі падыходаў у адпаведнасці з жорсткімі патрабаваннямі новага часу. Таму і праблемы, узнятыя ў апавяданнях і раманах 20-х гадоў: рэвалюцыя і гуманізм, рэвалюцыя і нацыянальны шлях — вымушаны змяніцца на прызнанне прынцыпаў класавай барацьбы часу пабудовы сацыялізму. Усё ж пісьменнік не адмаўляецца, падкрэслівае літаратуразнаўца, ад задумы паказаць гісторыю беларускага народа ад перыяду прыгону да сучаснасці. Таму кожны твор яго, як частка цыклу, існуе асобна. Так і раман «Трэцяе пакаленне» павінен успрымацца ў гэтым ракурсе, але пісьменніку не ўсё ўдалося. «*Захоплены пафасам адмаўлення і выкрыцця, аўтар рамана "Трэцяе пакаленне" не заўважае адваротнага боку гэтай складанай з'явы і, па сутнасці, не спаўняе адвечнай задачы сапраўднага мастака слова, для якога самае важнае — бачыць свет у цэлым, з усіх бакоў, як жывое адзінства. А гэтага можна дасягнуць у адным выпадку, калі на падзеі ён будзе глядзець праз павелічальнае шкло*

---

[1] Тычына, М. А. Якуб Колас / М. А. Тычына // Гісторыя беларускай літаратуры ХХ ст. : у 4 т. — Мн. : Беларус. навука, 2001. — Т. 1. — С. 227.

*чалавечай душы*»[1]. Ды, лічыць даследчык, у рамане Міхал Тварыцкі паказаны як жывы чалавек, які шукае шляхоў забеспячэння жыцця трэцяму пакаленню, няхай і памыляецца, а Назарэўскаму і Зосі гэта не ўласціва, таму «*яны ў сваім гнеўным асуджэнні "старога свету" і ў пафасе ўслаўлення "новага свету" вельмі аднабаковыя і павярхоўныя*»[2]. Можна дадаць: і вельмі небяспечныя.

Натуральна, вяршыняй творчасці Кузьмы Чорнага даследчык лічыць напісанае ім у час вайны, асабліва ў вялікім празаічным жанры. Яго раманы «Пошукі будучыні», «Вялікі дзень», «Млечны шлях», аповесці «Заўтрашні дзень», «Скіп'ёўскі лес» (незакончаная) выводзяць чалавека ў сусветную супольнасць. Сапраўды, «*на "Вялікім скрыжаванні" Захаду і Усходу, на беларускай зямлі, зноў, як не раз за гісторыю, сышліся ў бязлітаснай бойцы два светы*»[3], у гэтым змаганні знайшлося месца для выяўлення нацыянальнага і рэлігійнага момантаў, і ўсё гэта паказана праз гераічны і драматчны лёс беларуса. І пераканальна зроблены вывад: «*Творы пісьменніка ўражваюць праніклівым паказам беларускага селяніна і беларускага інтэлігента, па іх можна ўстанавіць яркі і дакладны партрэт беларуса XX ст. Кузьма Чорны вёў нацыянальную прозу да маштабных адкрыццяў, якія былі зробленыя пісьменнікамі Заходняй Еўропы. Ён мог быць беларускім Дастаеўскім, Камю, Фолкнерам. Можна толькі ўяўляць, якой была б наша нацыянальная літаратура, каб тое сталася*»[4]. І ўслед за М. Тычынай можам толькі пашкадаваць, што яно не адбылося.

З такою ж грунтоўнасцю напісаны і артыкулы пра творчасць Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, пісьменнікаў, якія таксама па-мастацку адлюстравалі трагедыю чалавека на вайне. М. Тычына паказвае фарміраванне В. Быкава як асобы ад першых апавяданняў, напісаных яшчэ на Курылах, да асуджэння вайны як з'явы ў аповесцях 60–80-х гадоў, а таксама засяродзіўся на выяўленні драмы чалавека ў несправядлівым грамадстве, якое будавалася як сонечнае заўтра чалавецтва. Гэта пачынаецца, згадвае даследчык, з аповесці «Знак бяды» і прадоўжылася ў «Аблаве» і апавяданнях «На Чорных Лядах» і «Перад канцом», у якіх паказваецца, як бяздумны рэжым нішчыў людзей у мірны час, урэшце прывёўшы да татальнага вынішчэння на палях вайны, якой не маглі пазбегнуць з-за бяздарнай ідэі ўсясветнага панавання камуністычнай сістэмы. Звярнуў увагу даследчык і на ўвасабленне сучаснасці і прадбачанне будучыні чалавека-беларуса ў апавяданнях В. Быкава «Сцяна», «Пахаджане», «Музыка» і інш. Артыкул пра творчасць В. Быкава пісаўся на мяжы тысячагоддзяў, таму аўтар меў права заявіць: «*Героі апавяданняў Быкава знаходзяцца ў стане пошукаў адказаў на шматлікія пытанні, якія ставіць перад імі эпоха, а сам аўтар мае магчымасць прапанаваць варыянты далейшага развіцця беларускага грамадства*»[5].

---

[1] Тычына, М. А. Кузьма Чорны // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. : у 4 т. — Т. 2. — С. 355.
[2] Тамсама. — С. 363.
[3] Тамсама. — С. 369.
[4] Тамсама.
[5] Тычына, М. А. Васіль Быкаў / М. А. Тычына // Гісторыя беларускай літаратуры XX ст. — Т. 3. — С. 688.

Пра А. Адамовіча літаратуразнаўца зазначае, што на першым этапе ён адчайна кінуўся ў крытыку, разумеючы, што менавіта ў гэтым жанры можна істотна паўплываць на літаратурны працэс, вывесці літаратуру са стану лакіроўкі, сродку ілюстрацыі ідэалагічнай сістэмы. Але, акцэнтуе ўвагу даследчык, ішло і ў яго самога асэнсаванне рэчаіснасці. Перш за ўсё нядаўняй вайны, якая моцна стукала ў сэрца. Таму і яго раманы «Вайна пад стрэхамі» і «Сыны ідуць у бой» сталі аднымі з першых як бы паўторнага прачытання гераізму і трагедыі народа. Так і ішлі ў яго, фіксуе М. Тычына, гэтыя два жанры, часта перакрыжоўваючыся і дапаўняючы адзін аднаго, яшчэ і з выхадамі ў публіцыстыку.

З аналізу творчасці А. Адамовіча, зробленага М. Тычынам, вынікае, што «Хатынская аповесць» і раман «Карнікі» завяршаюць паказ гераізму і трагедыі беларускага народа ў той спусташальнай вайне. «*У аповесцях “Венера” і “Нямко” (1993) навідавоку рух творчай эвалюцыі празаіка, які аддае належнае апісанню звычайнага побыту звычайных вяскоўцаў, ва ўсіх яго не дужа вясёлых падрабязнасцях*», а ў апошняй («Нямко») пісьменнік узнаўляе «*адзін з эпізодаў мінулай вайны, на якія яна багатая, каб наглядна прадэманстраваць сутнасць чалавеканенавісніцкай філасофіі, якая дэфармуе людскія душы і калечыць людскія лёсы*»[1]. Заканамерна М. Тычына лічыць аповесці А. Адамовіча «Vixi» («Пражыта») і «Падарожжы з Мінска ў Маскву і назад» падвядзеннем творчых вынікаў пісьменнікам.

У пакуль што выдадзеных тамах «Гісторыі» завяршальным стаў артыкул пра творчасць Юрася Свіркі, аднаго з яркіх прадстаўнікоў «філалагічнага пакалення». Характэрнай адметнасцю лірыкі паэта даследчык лічыць стварэнне паэтычнага вобраза бацькоў, а вобраз маці праходзіць праз усю паэзію, разам з тым у ёй істотна адбілася і трагедыя народа, у тым ліку аднавяскоўцаў, якім суджана было лёсам апынуцца ў самым пякельным месцы Бягомльска-Лепельскай партызанскай зоны. Характэрна для паэзіі Ю. Свіркі, на думку даследчыка, і адчуванне перамен у грамадстве, вернасць народным ідэалам.

Напрацоўкі М. А. Тычыны ў літаратуразнаўстве і крытыцы важкія, патрабуюць спецыяльнага манаграфічнага даследавання.

---

[1] Тычына, М. А. Алесь Адамовіч. — С. 341.

# ЗМЕСТ

## ПЕРАКЛАДЫ



## СПАДЧЫНА, УСПАМІНЫ, ДАКУМЕНТЫ

## ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ



## КРЫТЫКА. ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

Як даслаць тэкст у «Браму»?

У альманах прымаюцца адпаведна падрыхтаваныя тэксты. Загалоўкі і абзацы павінны быць набраны праз адзін інтэрвал і выраўнаны па левым краі ў праграме Microsoft Word у фармаце doc альбо docx. Шрыфт: Times New Roman, памер 14. Не трэба рабіць водступ, каб пазначыць абзац, і самастойна размяшчаць у тэксце шрыфты. Не вычытаныя і створаныя ў іншых праграмах тэксты абцяжарваюць рэдакцыйную раду чарнавой працай. Памятайце: нядбайнасць аўтараў ускладняе тэхнічную падрыхтоўку альманаха, яго вёрстку.

Ахвотныя надрукавацца абавязаны даслаць свой здымак у фармаце JPEG памерам не менш за 1000 кб (1 Мгб), сціслую біяграфічную даведку са звесткамі, якія датычаць літаратурнай творчасці. Узор даведкі — у альманаху.

Матэрыялы трэба дасылаць у электронным выглядзе на адрас:
nikvon22@mail.ru

16+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Брама**

*Літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. 2018*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактары *Алесь Пашкевіч, Андрэй Федарэнка*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*
Вокладка *Базыля Камарова, Аляксея Кандакова*

Падпісана да друку 29.12.2018. Фармат 70х100 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 9,9. Ум. друк. арк. 14,75.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 116.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.